Tatsiana Astrouskaya.
Cultural Dissent in Soviet Belarus (1968–1988).

**Астроўская, Т.**

Культура і супраціў. Інтэлігенцыя, іншадумства і самвыдат у савецкай Беларусі (1968–1988) / Таццяна Астроўская ; рэдактар Алесь Бяляцкі ; пераклад з англ. Алега Жлуткі.

Кніга ўяўляе сабой беларускі варыянт перапрацаванай і часткова дапоўненай для публікацыі навуковай манаграфіі даследчыцы Таццяны Астроўскай «Cultural Dissent in Soviet Belarus (1968–1988). Intelligentsia, Samizdat and Nonconformist Discourses», абароненай ва Ўніверсітэце Грайфсвальда, Германія. Аўтар ахоплівае шырокі спектр інтэлектуальных тыпаў і дыскурсаў, акцэнтуючы ўвагу на «нонканфармізме», або «культурным іншадумстве», у адрозненне ад «палітычнага іншадумства». Тэма надзвычай важная і актуальная для разумення гістарычных працэсаў і тэндэнцый, якія праектуюцца і на сучасны этап развіцця незалежнай Беларусі.

Навукова-папулярнае выданне для шырокага кола чытачоў.

У афармленні вокладкі выкарыстаны фрагмент карціны Язэпа Драздовіча «Сустрэча вясны на Сатурне» (1932).

ISBN: 978-83-962816-9-2



**Таццяна Астроўская**

# Культура і супраціў

## Інтэлігенцыя, іншадумства і самвыдат у савецкай Беларусі (1968–1988)

Беласток
2022

***Беларускае выданне гэтай кнігі я прысвячаю Людміле Астроўскай — маёй дарагой матулі і вялікай патрыётцы Беларусі,***
***а таксама ўсім мінулым і сучасным змагаркам і змагарам за Вольную Беларусь.***

**ЗМЕСТ**

## СКАРОТЫ

| | |
|---|---|
| АН БССР | Акадэмія навук Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі |
| АЭС | Атамная электрастанцыя |
| БДАМЛМ | Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва |
| БДУ | Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт |
| БІНіМ | Беларускі інстытут навукі і мастацтва (Нью-Ёрк) |
| БНФ | Беларускі Народны Фронт |
| БНР | Беларуская Народная Рэспубліка |
| БССР | Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка |
| Главлит | Главное управление по охране государственных тайн в печати |
| КДБ | Камітэт дзяржаўнай бяспекі |
| КПБ | Камуністычная партыя Беларусі (1952–1991) |
| КПЗБ | Камуністычная партыя Заходняй Беларусі (1923–1938) |
| КПСС | Камуністычная партыя Савецкага Саюза (1952–1991) |
| ЛіМ | «Літаратура і мастацтва» (штотыднёвік, Мінск) |
| РСФСР | Расійская Савецкая Федэратыўная Сацыялістычная Рэспубліка |
| СБП | Саюз беларускіх пісьменнікаў (1934 — дасюль) |
| СПБ | Саюз пісьменнікаў Беларусі (2005 — дасюль) |
| ВКП(б) | Усесаюзная камуністычная партыя (бальшавікоў) (рус. Всесоюзная коммунистическая партия (большевиков)) (1925–1952) |
| ХТС | «Хроника текущих событий» (1968–1983) |
| FSO | Forschungsstelle Osteuropa (Цэнтр даследаванняў Усходняй Еўропы, Брэмен) |
| MHA | Modern History Archive (Архіў сучаснай гісторыі, анлайн-архіў, на vytoki.net) |
| OSA | Open Society Archives (Архівы адкрытага грамадства, Будапешт) |
| RFE/RL | Radio Free Europe / Radio Liberty (Радыё «Свабодная Еўропа» / Радыё «Свабода») |

Беларускае выданне гэтай кнігі асабліва цешыць мяне. Я ўзялася за працу над ёй, каб звярнуць увагу заходняга чытача на іншадумства, што мела месца ў савецкай Беларусі, каб патлумачыць (і адначасова разабрацца самой), чаму беларускі самвыдат і беларуская інтэлігенцыя, якая яго стварала, не былі пачутыя ні ў Савецкім Саюзе, ні тым больш за яго межамі і дагэтуль не сталі часткай гісторыі ўсходнееўрапейскага дысідэнцтва.

Мяркую, што такія «бакавыя» гісторыі культурнага супраціву камуністычнай сістэме, як беларуская, не менш, а можа быць, нават і больш важныя для разумення таго, якім чынам сістэма стваралася, падтрымлівалася і затым разбурылася.

Не ўсе прыведзеныя ў кнізе факты будуць новымі для беларускага чытача, але я ўсё ж спадзяюся, што яна ці ён знойдуць тут для сябе цікавыя гісторыі ці нечаканыя параўнанні, вартыя ўвагі роздумы ці трапныя высновы.

Зразумела, што гэтая першая спроба напісаць гісторыю культурнай нязгоды ў савецкай Беларусі не магла быць поўнай. Некаторыя гісторыі і імёны па розных прычынах засталіся па-за ўвагай гэтага даследавання. Гэта зусім не азначае, што яны менш цікавыя ці менш вартыя ўвагі. Я таксама не ставіла сваёй задачай нейкім чынам ацэньваць ступень нонканфармізму таго ці іншага героя маёй кнігі, як і не імкнулася падзяліць беларускую савецкую інтэлігенцыя на тых, хто супраціўляўся савецкай сістэме, і тых, хто на яе працаваў. Пытанне, якое мяне займала, гэта не «хто» — ці «каго» трэба занесці ў спіс нязгодных, а каго нельга, але «як» — альбо якім чынам быў магчымы культурны супраціў у савецкай Беларусі.

Гэтая кніга — вынік навуковай працы, таму ў тэксце вялікая колькасць спасылак і ўдакладненняў, але я імкнулася, каб тэкст быў выкладзены зразумела, і таму вельмі спадзяюся, што кніга будзе цікавай і для шырокага чытача.

Беларускае выданне адбылося дзякуючы шчырай зацікаўленасці і падтрымцы вялікай колькасці людзей, якія аддалі шмат сілаў і часу, каб перакласці, адрэдагаваць і выдаць гэтую працу. Найперш я вельмі ўдзячная Алесю Бяляцкаму за яго ініцыятыву, шчыры ўдзел у працы, заўвагі і матывацыю, за гадзіны размоў паміж Марбургам і Менскам.

Гэта неймавернае задавальненне і адначасова здзіўленне — бачыць, як праца, якая пісалася па-англійску, але пра Беларусь і дзеля Беларусі, раптам пачынае перастварацца ў беларускай мове. За гэта вялікі дзякуй выдатнаму перакладчыку, зацікаўленаму субяседніку і дарадцу Алегу Жлутку, працаваць разам з ім было лёгка і вельмі цікава.

Аляксей Канстанцінавіч Каўка падзяліўся сваімі ўспамінамі і каштоўнымі фактамі. Я ўдзячная за тое, што мела магчымасць з ім пазнаёміцца, і за яго ўдзел у гэтай працы.

Алена Маркава, Сайман Льюіс, Фэлікс Акерман і Алена Гапава ласкава згадзіліся паўдзельнічаць у прэзентацыях англамоўнай версіі гэтага выдання, я ўдзячная ім за шэраг каштоўных заўвагаў, што дапамаглі ў працы над беларускім выданнем.

Уладзімір Валодзін праявіў вялікую зацікаўленасць у гэтай працы, дапамагаў і раіў, звярнуў увагу на шэраг важных фактаў і крыніц.

Я дзякую таксама Антону Лявіцкаму за ўдакладненні і заўвагі.

Выдавецтва «Харасавіц» (Harrassowitz) у Вісбадэне, якое надрукавала англамоўную версію гэтай кнігі, ласкава дазволіла яе беларускае выданне і адмовілася ад ганарару за ліцэнзію. За гэта я вельмі ўдзячная дырэктару выдавецтва доктарцы Барбары Краўс (Dr. Barbara Krauß) і асістэнтцы дырэктара Андрэі Ёхары (Andrea Johari).

І апошняе, але вельмі істотнае. Мая дарагая матуля Людміла Астроўская першай абудзіла і падтрымала маё зацікаўленне беларускай мінуўшчынай, я бясконца ўдзячная ёй за яе любоў і клопат і ёй прысвячаю гэтае выданне.

**Падзякі**

Гэтая кніга — удасканаленая версія дысертацыі, абароненай мною ў 2018 годзе ў Грайфсвальдскім універсітэце, адным з найстарэйшых універсітэтаў Германіі. У часе маёй работы над дысертацыяй і пазнейшага афармлення яе ў кнігу мяне акружала жывою цікавасцю, навуковай падтрымкай і заахвочваннем мноства выдатных і таленавітых людзей.

Ад самага пачатку і да завяршэння праекта кіраванне маёю работай з до-

бразычлівай падтрымкай, вялікім цярпеннем і высокай кампетэнтнасцю ажыццяўляў прафесар Мацяс Ніендорф, загадчык кафедры гісторыі Усходняй Еўропы Грайфсвальдскага ўніверсітэта. Прафесар Ніендорф стаў і назаўсёды застанецца для мяне ўзорам адданага гісторыка Усходняй Еўропы, які я імкнуся наследаваць. Мой другі навуковы кіраўнік, дацэнт Бо Ізенберг з кафедры сацыялогіі Лундскага ўніверсітэта, дапамог перагледзець тэарэтычныя і канцэптуальныя рамкі гэтага даследавання; яго заўвагі былі ўважлівымі, абнадзейлівымі і заўсёды дарэчнымі.

Мне пашчасціла стаць дактаранткай міжнароднай навукова-даследчай групы «Baltic Borderlands: Shifting the Boundaries of Mind and Culture and the Borderlands of the Baltic Sea Region» («Балтыйскае памежжа: зрушваючы межы мыслення і культуры на памежжы Балтыйскага рэгіёна»). Час у Грайфсвальдзе быў шчаслівым, павучальным і сапраўды карысным дзякуючы прадуктыўнай і адначасна таварыскай атмасферы, што панавала ў нашай групе. Усё гэта — заслуга кіраўніка групы, прафесара Міхаэля Норта, і каардынатара групы, доктара Аляксандра Дроста. Я таксама ўдзячная за іх па-сямейнаму добразычлівае стаўленне да мяне цягам чатырох гадоў у Грайфсвальдзе.

Для мяне было вялікім гонарам выдаць гэтае даследаванне ў серыі «Historische Belarus-Studien» выдавецтва Harrassowitz[1]. За гэтую магчымасць я ўдзячная заснавальніку і каардынатару серыі — прафесару Томасу Бону з Гісенскага ўніверсітэта імя Юстаса Лібіга, энтузіясту беларускіх гістарычных даследаванняў у Германіі, а таксама выпускаючаму рэдактару выдавецтва Harrassowitz Майклу Фрэліху за яго цярпенне і падтрымку.

Гэтая работа была ажыццёўленая дзякуючы шчодраму фінансаванню Deutsche Forschungsgemeinschaft. Дадаткова грантавая падтрымка была аказаная Фондам «Адкрытае грамадства». У апошнія паўгода дактарантуры я атрымлівала стыпендыю STIBET, спансаваную DAAD. Я таксама атрымала вялікую карысць ад наведвання Архіва адкрытага грамадства імя Веры і Дональда Блінкенаў у Будапешце, падтрыманага Вышаградскім фондам. Я хацела б распаўсюдзіць сваю шчырую падзяку на гэтыя ўстановы.

Маю работу натхнялі дзейнасць і жыццё ўсіх згаданых у кнізе таленавітых жанчын і мужчын, якія імкнуліся думаць і дзейнічаць насуперак любым нечаканкам гісторыі. Іх думкі і творы ёсць перадумовай самога гэтага даследавання. Найперш я хацела б згадаць вядомага беларускага інтэлектуала Ігара Бабкова, які кіраваў маім дыпломным праектам у Беларускім дзяржаў-

[1] Astrouskaya T. Cultural Dissent in Soviet Belarus (1968–1988). Intelligentsia, Samizdat and Nonconformist Discourses (Wiesbaden: Harrassowitz, 2019). Беларускае выданне было перапрацанава і часткова дапоўнена для публікацыі. Адначасова, у яго не ўвайшлі дзве ўводныя часткі з англамоўнага выдання, прысвечаныя гісторыі беларускай інтэлігенцыі і пазацэнзурнага друку ў 1860–1960-х гадах.

ным універсітэце ў 2005 годзе і заахвочваў маю першапачатковую цікавасць да інтэлектуальнай гісторыі Беларусі. Доктар Алег Дзярновіч падзяліўся са мною сваімі думкамі пра нонканфармізм і беларускую інтэлігенцыю падчас візіту ў Грайфсвальдскі ўніверсітэт летам 2015 года. Уладзімір Арлоў, Сяргей Астраўцоў і Сяргей Дубавец ласкава знайшлі час, каб адказаць на мае пытанні па электроннай пошце, і дазволілі перадрукаваць свае самвыдацкія матэрыялы.

У значнай меры я абапіралася на крыніцы, даступныя ў электронных зборах кніг, часопісаў і газет. У час, калі па ўсёй Еўропе грымяць спрэчкі аб неабходнасці адкрытага доступу да архіваў і вынікаў навуковай працы, большасць беларускіх інтэлектуалаў шчодра робяць сваю працу даступнай без якіх-небудзь абмежаванняў. Нават калі дзяржава абмяжоўвае свабоду выказвання, заўсёды знойдуцца тыя, хто процістаіць гэтаму. Беларускае гістарычнае таварыства ў Беластоку сабрала вялікую колькасць беларускамоўных выданняў, даступную на сайце www.kamunikat.org. Падобным чынам, істотнымі крыніцамі майго даследавання былі самвыдацкія і пазацэнзурныя выданні, сабраныя ў сеціўным архіве www.vytoki.net — супольным праекце Дыярыюша, ПЦ «Вясна», Асамблеі няўрадавых дэмакратычных арганізацый і Цэнтра даследаванняў грамадзянскай супольнасці Беларусі. Я карысталася таксама з эмігранцкіх выданняў, алічбаваных Беларускай бібліятэкай імя Францішка Скарыны ў Лондане.

Марыя Класэн аказвала мне вялікую падтрымку і давала карысныя парады падчас маіх даследчых візітаў у архіў Forschungsstelle Osteuropa ў Брэмене. Мае даследаванні ў архівах Адкрытага грамадства ў Будапешце былі захапляючымі і плённымі дзякуючы Каталіне Гадорас, Аксане Саркісавай, Ганне Мазанік і Роберту Парніцу. Ксёндз Беларускай каталіцкай місіі айцец Сяргей Стасевіч дапамагаў мне збіраць звесткі пра беларускія выданні ў Вялікабрытаніі. Супрацоўнікі Музея старабеларускай культуры ў Мінску Мікалай Мельнікаў і Надзея Дзямідава ласкава дапамаглі мне атрымаць выяву для тытульнай старонкі кнігі.

Я ўдзячная прафесарцы Ірыне Какандэс і доктарцы Юліі Камскай з Дартмуцкага каледжа, і асабліва — маёй дарагой сяброўцы і каляжанцы доктарцы Вікторыі Хармс, дацэнтцы ўніверсітэта імя Джона Хопкінса, за іх грунтоўныя каментары і карэктуру. Ранейшая версія падраздзелаў 2.7 і 3.5.2 гэтай кнігі публікавалася ў якасці часткі кнігі ў «Eastern Europe Unmapped: Beyond Borders and Peripheries» (2018). Я хачу выказаць падзяку выдавецтву Berghahn books за наданне мне права на яе перадрук.

Я ўдзячная сваім сябрам і калегам за разнастайную падтрымку. Аліна Баравікайтэ, Віталь Быль, Інге Крыстэнсэн, Вольга Дзімідавава, Марта Гжэчнік, Сайман Льюіс, Матыяс Мюлер, Вікторыя Осіпчык, Вольга Сасункевіч, Селена і Марка Смілянічы, Юлія Штромаер, Тыльман Плат, Крысціян Вустраў — вось

толькі некаторыя з імёнаў. Я абавязаная сваім новым калегам з Інстытута гістарычных даследаванняў Усходняй і Цэнтральнай Еўропы імя І. Г. Гердэра ў Марбургу — доктару Крысціяну Лоцу, Марку Фрыду і Шарлоце Гор — за работу над апублікаванай у гэтай кнізе картай. Крысціна Гароль пазнаёміла мяне са зборамі фота- і візуальнага архіва Інстытута імя Гердэра. Доктар Ян Ліпіньскі ласкава падзяліўся сваімі ведамі па зборах самвыдату.

Найцёплая падзяка за любоў і дабрыню належыць маім дарагім сямейнікам — Людміле і Наталлі Астроўскім, Марыне і Уладзіміру Сідарэнкам, Вадзіму і Веры Матусевічам, Яўгеніі і Мікалаю Астроўскім, маім цудоўным цёткам Зоі Малатоўнік, Галіне Ажэль, Людміле Шымко. Я хачу захаваць памяць пра маіх дарагога бацьку Уладзіміра Астроўскага і любячую бабулю Яўгенію Гуйда, найдабрэйшага з усіх вядомых мне людзей. Пішучы, я часта згадвала пра свайго дзеда, Серафіма Гуйду, з якім у дашкольным веку штодзень перасякала жалезную заслону, слухаючы перадачы Deutsche Welle на кароткіх хвалях. Толькі значна пазней я зразумела, што азначала слуханне сцішаных галасоў, якія прамаўлялі з радыёпрымача, і што за навязлівы шум суправаджаў іх.

Мой муж Алег кожны дзень дзяліў са мною складанасці і поспехі ў рабоце над гэтым даследаваннем, падтрымліваючы мяне сваёю любоўю, нязменным энтузіязмам і няспыннай цікавасцю. Я бясконца ўдзячная яму, а таксама нашым дзеткам — Сафіі, Стэфаніі, Давіду і Рафаэлю, якія прыносяць радасць і натхненне ў нашае жыццё.

*Таццяна Астроўская,*
*Марбург, жнівень 2019 года*




*Ілюстрацыя 1. Карта Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі ў 1960–1980-я гады.*

# 1. УВОДЗІНЫ

## 1.1. ТЭМА І ПЫТАННІ ДАСЛЕДАВАННЯ

Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка «лічылася рэспублікай, у якой нацыянальныя настроі былі слабымі, а русіфікацыя дасягнула найбольшых поспехаў», — адзначаў адзін з аглядальнікаў Радыё «Свабодная Еўропа» / Радыё «Свабода» ў 1987 годзе[2]. Таму зусім не дзіўна, што даследванню яе інтэлектуальнага і культурнага развіцця, не кажучы ўжо пра альтэрнатыўныя ідэі і праявы нязгоды, надавалася толькі абмежаваная ўвага. Гэта яшчэ болей датычыць такое з'явы, як пазацэнзурныя выданні, так званы «самвыдат», што надзвычай рэдка асацыяваўся з савецкай Беларуссю.

Постсавецкае палітычнае развіццё краіны і яе эканамічная няўстойлівасць часта засцяць ранейшыя дэмакратычныя амбіцыі ды інтэлектуальныя дасягненні. Папулісцкі аўтарытарны рэжым, усталяваны ў 1994 годзе, нярэдка разглядаўся як вынік слабых нацыянальных настрояў і адсутнасці дэмакратычных памкненняў у грамадстве[3]. Падобным чынам, кароткі паварот беларускага грамадства да шляху дэмакратыі і несавецкага мінулага падчас і адразу пасля распаду Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік часта тлумачыўся наступствам знешняга ціску, а не ўнутранай патрэбы[4].

Інтэлектуальная апазіцыя і культурнае іншадумства займалі і працягваюць

[2] Nahaylo B. Political Demonstration in Minsk Attests to Belorussian National Assertiveness / RFE/RL. 1987. 26 nov. // OSA 300–85–12: 72/31.

[3] Гл., напрыклад, Ioffe G. Understanding Belarus: Economy and Political Landscape // Europe — Asia Studies. 2004. Vol. 56, nr. 1. P. 112. Рышард Радзік разглядае беларускі нацыянальны рух канца 1980-х — пачатку 1990-х гадоў як спробу скапіяваць стары еўрапейскі ўзор нацыянальнай мабілізацыі. (Радзік Р. Беларусы на фоне нацыятворчых працэсаў у грамадствах Цэнтральнай і Усходняй Еўропы // Беларускі гістарычны агляд. 2011. Т. 18, № 1–2. С. 121.)

[4] Rudling P. A. The Rise and Fall of Belarusian Nationalism 1906–1931. Pittsburgh: Pittsburgh University Press, 2015. P. 2, 31.

займаць важнае месца ў гісторыі краінаў Цэнтральнай і Усходняй Еўропы. Такая гісторыя патрэбная і Беларусі. Пераасэнсаванне практыкаў культурнага супрацiву ў савецкі час, якое неабходна само па сабе, можа палепшыць і нашае разуменне палітычнага і культурнага развіцця краіны ў постсацыялістычны перыяд[5].

Вядома, да 1987–1988 гадоў акцыі пратэсту ў колах беларускай інтэлігенцыі адбываліся толькі зрэдзьчас, а колькасць сам- і «тамвыдацкіх» (выдадзеных па-за межамі СССР) матэрыялаў была даволі малою ў параўнанні з савецкай Расіяй, Польскай Народнай Рэспублікай ці Чэхаславакіяй. Аднак пасляваенная савецкая Беларусь была домам такіх дзеячоў, як праніклівы ваенны празаік Васіль Быкаў (1924–2003), пісьменнік, крытык, і палымяны антываенны і антыядзерны актывіст Алесь Адамовіч (1927–1994) або радыкальна антысавецкі мысляр Зянон Пазьняк (нар. у 1944), які адстойваў незалежнасць Беларусі яшчэ ў 1974 годзе. Нават у шырокім і разнастайным кантэксце нонканфармізму Усходняй і Цэнтральнай Еўропы ўсе гэтыя інтэлектуальныя намаганні ўяўляюць выключныя выпадкі і таму вартыя разгляду.

Напэўна, у выпадку Беларусі падзяліць інтэлігенцыю на два суперніцкія лагеры — нонканфармістаў і калабарантаў, змагароў і прыстасаванцаў, функцыянераў камуністычнай партыі і апанентаў партыйнай манаполіі, прыхільнікаў русіфікацыі і «нацыянальна свядомых» — куды складаней, чым у любым іншым. Наадварот, гэтыя, здавалася б, процілеглыя ролі суіснавалі ў адным часе і прасторы, даючы прыклады разнастайных варыяцый, прадстаўленых у невялікай групе нонканфармісцкай інтэлігенцыі дзесяцімільённага ўсходнееўрапейска-

[5] У апошні час і грамадская думка, і экспертная супольнасць пачалі выступаць супраць распаўсюджанага раней меркавання, што незалежнасць і дэмакратычныя змены пачатку 1990-х проста «ўпалі беларусам з неба». Гл., напрыклад, аднайменны дакументальны фільм, зняты інфармацыйным агенцтвам БелаПАН: Мартынаў Д. (рэж.) Независимость Беларуси. Подарок с неба. Naviny.by. URL: http://naviny.by/article/20160825/1472108314-dokumentalnyy-film-nezavisimost-belarusi-podarok-s-neba (дата звароту: 16.10.2016). У 2016 годзе да дваццаціпяцігоддзя распаду Савецкага Саюза Радыё «Свабода» прымеркавала шэраг інтэрв'ю з відавочцамі і непасрэднымі ўдзельнікамі тых падзей. Сярод іншага ў іх пыталіся, ці імкнуўся беларускі народ да незалежнасці або яна была абвешчаная выпадкова, супраць яго волі. Гл. «Пасля СССР. 25 гадоў незалежнасці», на Радыё «Свабода» // URL: http://www.svaboda.org/z/20252.html (дата звароту: 30.11.2016). У канцы 1990-х — пачатку 2000-х, калі А. Лукашэнка нацэліўся на інтэграцыю з Расійскай Федэрацыяй, здабыццё Беларуссю незалежнасці ацэньвалася куды песімістычней. Параўнайце з артыкулам Яўгена Мірановіча «Спробы ажыццяўлення ідэі Беларускай нацыянальнай дзяржаўнасці ў XX ст.» у зборніку «Гісторыя, культуралогія, мастацтвазнаўства: матэрыялы III міжнароднага кангрэса беларусістаў» пад рэд. Віталя Скалабана ды інш. (Мінск: Беларускі кнігазбор, 2001. С. 145). Па іроніі лёсу, пабочным вынікам Лукашэнкавых намаганняў застацца ва ўладзе стала большая выразнасць калектыўнай ідэнтычнасці беларусаў у другім дзесяцігоддзі XXI стагоддзя.

га народа. Таленавіты паэт і дзеяч Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі Максім Танк стаў высокапастаўленым партыйным функцыянерам. Разам з тым ён трымаўся высокіх маральных стандартаў і, сярод іншых, падтрымліваў сваю найбольш паслядоўна антысавецкую каляжанку Ларысу Геніюш (1910–1983). Яшчэ адзін паэт, таксама камуніст і чыноўнік, Ніл Гілевіч (1931–2016), быў адным з самых апантаных абаронцаў беларускай мовы ў пасляваенны час. У 1970-х ён напісаў смелую самвыдацкую паэму, у якой высмейваў узаемаадносіны дзяржавы і інтэлігенцыі. Падобным чынам, у сам- і тамвыдацкіх тэкстах маглі быць заклікі не толькі да свабоды і дэмакратычных змен, але і да вяртання да ленінскіх ідэй, а таксама абвінавачванні ў бок расійскіх дэмакратаў і праявы антысемітызму.

Шматлікія прыклады вагання паміж супрацай і супрацівам, якое падаецца характэрным для беларускай інтэлігенцыі, можна знайсці і па ўсім сацыялістычным блоку[6]. Іх разгляд дазваляе па-новаму зірнуць на іншадумства, якое трэба разумець не толькі як комплекс пратэставых дзей, але і як сам працэс перамоў і прыняцця рашэнняў, убудаваных у сістэму ўзаемаадносін паміж інтэлігенцыяй і ўладай, а таксама паміж прадстаўнікамі розных груп інтэлігенцыі. Да таго ж для разумення феномена культурнага супраціву істотны таксама ўнікальны жыццёвы досвед, комплекс ідэй і ўяўленняў кожнага асобнага інтэлектуала.

1964–1984 гады — перыяд позняга сацыялізму, што атрымаў назву брэжнеўскага застою і міжуладдзя пасля смерці Брэжнева, часта лічыцца фазай адноснага эканамічнага росту і палітычнай устойлівасці ў савецкай Беларусі[7]. У 1965–1980 гадах за стырном КПБ стаяў народны лідар — герой-партызан Пётр Машэраў (1918–1980). У 1980–1983 і 1983–1987 гадах на гэтай пасадзе яго па чарзе змянілі менш харызматычныя Ціхан Кісялёў (1917–1983) і Мікалай Слюнькоў (нар. у 1929)[8].

У 1985–1987 гадах Генеральны сакратар Цэнтральнага камітэта Камуністычнай партыі Савецкага Саюза Міхаіл Гарбачоў распачаў новую палітыку перабудовы і галоснасці. Перабудова, задуманая як адказ на буйны эканамічны крызіс, які скалануў краіну, прынесла савецкаму грамадству не-

[6] Як адзначаюць Т. Бон, Р. Эйнакс і М. Абесер, у апошнія дзесяцігоддзі прыдатнасць такое дыхатаміі, як «іншадумства» і «прыхільнасць» да СССР, ставіцца пад сумнеў: Bohn T. M., Einax R., Abeßer M. From Stalinist Terror to Collective Constraints. ‘Homo Soveticus’ and the ‘Soviet People’ after Stalin // De-Stalinisation Reconsidered. Persistence and Change in the Soviet Union / Bohn et al., eds. Frankfurt ; New York: Campus Verlag, 2014. P. 14.

[7] Кароткі прамежак паміж 12 лістапада 1982 года і 10 сакавіка 1985 года, калі генеральнымі сакратарамі ЦК КПСС былі Юрый Андропаў (1914–1984) і Канстанцін Чарненка (1911–1985), часам характарызуецца як «міжуладдзе».

[8] Падрабязней пра кіраўніцтва КПБ гл.: Иоффе Э. От Мясникова до Малофеева: кто руководил БССР. Минск: Беларусь, 2008.

зваротныя змены. Іншай значнай падзеяй стала аварыя на Чарнобыльскай АЭС імя Уладзіміра Леніна, што адбылася 26 красавіка 1986 года. Спрычыненыя ёю экалагічнае бедства і катастрофа грамадскай сістэмы аховы здароўя наймацней закранулі БССР і яе насельніцтва[9]. І эканамічны крызіс, і некантраляваныя наступствы выбуху ў Чарнобылі вы́клікалі незадавальненне кіраваннем камуністычнай партыі сярод шырокіх слаёў грамадства. Лета 1988 года, калі адбылася XIX Партыйная канферэнцыя ЦК КПСС, надало чарговы штуршок перабудове і галоснасці. Ідэі перабудовы знайшлі шырокую падтрымку ў інтэлігенцыі, тады як мясцовыя палітычныя эліты рэагавалі вельмі стрымана. Гэта ўзмацніла сацыяльную напружанасць і дало новы штуршок грамадскім дыскусіям, якія павольна набіралі абароты з сярэдзіны 1980-х гадоў. Незадаволенасць вылілася ў шырокую падтрымку Беларускага Народнага Фронту[10] і масавыя пратэсты. Гэта прывяло і да аб'яднання палітычнага руху, у першую чаргу на аснове патрабаванняў набыцця (ці аднаўлення) беларусамі нацыянальнай ідэнтычнасці. 19 кастрычніка 1988 года быў абраны арганізацыйны камітэт першай няўрадавай палітычнай арганізацыі — БНФ. У той жа дзень была створаная першая грамадская і праваабарончая арганізацыя «Мартыралог Беларусі». У наступным годзе, 24–25 чэрвеня 1989 года, у Вільні адбыўся ўстаноўчы сход Партыі БНФ[11]. У абедзвюх гэтых арганізацыях кіраўніцтва і большасць сяброў належалі да інтэлігенцыі.

У гэтай кнізе асноўная ўвага надаецца інтэлігенцыі, якая разумела сябе як нацыянальную, пісала і выдавалася пераважна па-беларуску і ўспрымала сябе як глыбока ўкаранёную ў беларускіх традыцыях. Нацыянальная палітыка ў СССР у пэўнай ступені стымулявала развіццё нацыянальных культур, але ў канчатковым выніку падаўляла нацыянальную спецыфіку — што балюча

[9] Першапачаткова некаторыя кансерватыўныя колы ўспрымалі выбух на Чарнобыльскай АЭС як падзею, якая яшчэ мацней прывязала Беларусь да СССР. Некаторыя, напрыклад часопіс «Коммунист Беларуси», сцвярджалі, што ў рэспубліцы не было рэсурсаў, неабходных для барацьбы з катастрофай. Гл.: Zaprudnik J. Belarus: at a Crossroads in History. Boulder: Westview Press, 1993. P. 182–183. Увогуле, эканамічная залежнасць Беларусі была частым аргументам на карысць захавання СССР, а пазней — саюза з Расійскай Федэрацыяй.

[10] Пачынаючы з жорстка разагнанага ўладамі мітынгу 30 кастрычніка 1988 года. Пазней кастрычніцкія падзеі стануць сімвалам рэакцыі камуністычнай партыі не толькі ў БССР, але і па-за межамі рэспублікі. 30 верасня 1989 года, як вядома, адбыўся першы Чарнобыльскі шлях. Пратэсты рабочых у Беларусі былі асабліва частымі і буйнымі ў красавіку 1991 года, пасля славутай «грашовай рэформы Паўлава» ў СССР у студзені–красавіку 1991 года, калі «ўся краіна прачнулася збяднелай». Каб атрымаць уяўленне пра тое, як выглядалі пратэсты ў Мінску, паглядзіце фота Уладзіміра Сапагова «Масавыя пратэсты рабочых. Красавік 1991 года». Мінск, Грамадскі сеціўны архіў «Вытокі». URL: http://vytoki.net/?photo=00021842 (дата звароту: 11.06.2017).

[11] Marples D. Belarus: A Denationalized Nation. Amsterdam: Harwood Academic Publishers, 1999. P. 47–48.

ўспрымалася інтэлігенцыяй[12]. Такая перспектыва панавала (або паўтаралася) у многіх постсацыялістычных краінах.

У найноўшай гісторыі нацыяналізм разглядаецца як магутная сіла, якая паскарала барацьбу краін Усходняй і Цэнтральнай Еўропы за незалежнасць падчас і пасля перыяду перабудовы. Адначасна памкненні да нацыянальнага самавызначэння застаюцца недаацэненымі ў якасці крытычнай кропкі нязгоды паміж інтэлігенцыяй і ўладамі на працягу ўсёй савецкай гісторыі. Разам з тым к сярэдзіне 1980-х гадоў засяроджанне на нацыянальным і рэактуалізацыя сувязяў унутры грамадства, якое напачатку вызначалася праз этнічную прыналежнасць, умацавалі і яго самаўсведамленне ў якасці палітычнай супольнасці[13].

Падобным чынам, застаюцца недаацэненымі і спробы інтэлектуальных эліт у савецкіх рэспубліках захаваць пераемнасць з дасавецкай гісторыяй, што ўзнікаюць у паслясталінскі час. Для радыкальна новага грамадства, якое, як дэкларавалася, узнікала ў савецкай дзяржаве, гэтая пераемнасць падавалася непатрэбнай і нават шкоднай. Намаганні гісторыкаў і літаратараў працягнуць гісторыю свайго народу за межы акрэсленага афіцыйнай гістарыяграфіяй прымушалі апошнюю да дыскусіі і перагляду гэтых межаў.

Разам з неканвенцыйнымі, «несавецкімі» ідэямі, якія пранікалі ў афіцыйную літаратуру, у гэтай кнізе разглядаюцца выдаваныя беларускай інтэлігенцыяй перыядычныя і неперыядычныя сам- і тамвыдаты, дакладны змест якіх дагэтуль у значнай меры заставаўся па-за ўвагай даследчыкаў.

Вядомы літаратуразнаўца Леў Анінскі даводзіў, што словы «самвыдат» ды «інтэлігент» трэба перакладаць на іншыя мовы з рускай, быццам бы траекторыя распаўсюджвання самвыдату ўзнікла і назаўсёды засяроджаная ў рускай мове і культуры[14]. Хаця досвед і выдавецкая дзейнасць расійскіх дысідэнтаў застаюцца безумоўна вартымі ўвагі і прызнання, усё ж яны і дагэтуль захіляюць сабою іншадумства ў іншых савецкіх рэспубліках.

У процівагу, прадметам гэтага даследавання ёсць ускраінны дысідэнцкі рух і нонканфармісцкія ідэі ў савецкай Беларусі. Хоць і даволі сціплы па колькасці,

---

[12] Першая частка майго дапушчэння ў гэтым сказе датычыць добра вядомай тэзы пра савецкую дзяржаву як пра фактычную «калыску нацый», што, вядома ж, ёсць правамерным, але не ўсеахопным сцвярджэннем. У якасці аргумента гл.: Slezkine Y. The USSR as a Communal Apartment, or How a Socialist State Promoted Ethnic Particularism // Slavic Review. 1994. Vol. 53, № 2. P. 414–452.

[13] На прыкладзе польскага і чэхаславацкага самвыдату гісторык Грэгар Файнд даводзіць, што нацыяналізм меў вырашальнае значэнне для многіх інтэлектуалаў Усходняй і Цэнтральнай Еўропы. Яго варта разглядаць не як перашкоду фармаванню грамадзянскай дэмакратычнай супольнасці, а як адзін з магчымых шляхоў да апошняй. Feindt G. Auf der Suche nach politischer Gemeinschaft. Oppositionelles Denken zur Nation im Ostmitteleuropäischem Samizdat 1976–1992. Berlin: De Gruyter, 2015. S. 132–139.

[14] Аннинский Л. Светлая тайнопись чумного барака (Введение) // Самиздат века / под ред. А. Стреляного и др. Минск; Москва: Полифакт, 1997. С. 5.

мясцовы самвыдат уздымае шырокі абсяг пытанняў: ад экалагічнага і сацыяльнага становішча ў БССР да крытыкі савецкага антысіянізму[15].

Мой намер у гэтым даследаванні — паказаць, што і самвыдат, і дысідэнцкія ідэі не распаўсюджваліся толькі ў адным напрамку, ад цэнтра да ўскраін. Замест гэтага я хачу зрабіць націск на «шматвектарнасць культурных адносін», калі выкарыстоўваць выраз Міхі Перы і Рэбекі Вос[16]. Я намераная ісці больш складанымі сцежкамі, што былі пракладзеныя пазацэнзурнымі ідэямі на Усходзе і Захадзе, у цэнтры і на ўскраінах, у мінулым і цяперашнім, у афіцыйнай і нелегальнай літаратуры.

Я засяроджваюся на выказваннях нязгоды, якія склаліся ў асяроддзі беларускай інтэлігенцыі, пытаючыся — як, у якой ступені і каму яны прызначаліся. Мяне цікавіць пытанне, ці маглі яны паўплываць, і калі так, то якім чынам, на такі ўскраінны і кансерватыўны культурны ландшафт, характэрны і для савецкай Беларусі. Помнячы, што нацыянальная салідарнасць была адною з найважнейшых асноў антыкамуністычнай апазіцыі ва Усходняй і Цэнтральнай Еўропе, я пытаюся, як і пры якіх умовах культурнае іншадумства магло з'явіцца і развівацца сярод інтэлігенцыі ў становішчы, якое вызначалася пераважнай прыхільнасцю грамадзян БССР да савецкай улады.

Яшчэ адно важнае пытанне, на якое я спрабую адказаць гэтым даследаваннем, датычыць паходжання ідэяў, якія з'яўляліся ў самвыдаце. Ці былі парадыгматычнымі для беларускага нонканфармізму дысідэнцкія рухі ў суседніх краінах і па ўсім сацыялістычным блоку, ці, наадварот, у яго аснове ляжалі беларуская сацыялістычная рэальнасць, русіфікацыя і мясцовыя праблемы? У 1977 годзе вядомы расійскі літаратурны крытык і самвыдацкі аўтар Георгій Памеранц са смуткам адзначыў:

> Борьба с местными нелепостями провинциализировала наш дух...[17]

Ці быў уплыў такое барацьбы, якая была засяроджана на, здавалася б, лакальных праблемах нацыянальнага самавызначэння і трымалася ўбаку ад больш універсальных пытанняў, яшчэ больш лёсавызначальным на савецкіх ускраінах? Якім чынам інтэлігенцыя абмяркоўвала і ўзгадняла межы дазволенага і недазволенага, ухвальнага і няўхвальнага ў пазацэнзурных і афіцыйных выданнях? І нарэшце — як інтэлігенцыя (выконваючы ці не выконваючы сваю функцыю прадстаўніка грамадства, абаронцы не-

[15] Гл. табліцы 2, 3 і 4.

[16] Perry M. J., Voß R. Approaching Shared Heroes: Cultural Transfer and Transnational Jewish History // Jewish History. 2016. Vol. 30. P. 4.

[17] Померанц Г. Человек ниоткуда // Самиздат века. С. 100. Упершыню апублікавана ў «Грани 77» (кастрычнік 1970).

прадстаўленых) рэагавала на тыя ці іншыя выклікі жыцця і мыслення ў сацыялістычнай сістэме?[18]

Як сцвярджаюць Ф. Кінд-Ковач і Дж. Лабаў, ідэі, якія ўзніклі ў непадцэнзурнай літаратуры і самвыдаце, не маюць разглядацца толькі як перажытак гераічнай эпохі палітычнай апазіцыі і пратэставых рухаў[19]. Адным з праблемных бакоў дэмакратычнага і нацыянальнага руху ёсць яго адносіны да савецкай палітыкі антысіянізму і антысемітызму[20]. Добра вядома, што ў сітуацыі няўпэўненасці і крызісу абвастраецца варожасць да чужынцаў (ці тых, хто імі лічыцца). Нават цяпер для большасці былых савецкіх рэспублік антысемітызм яшчэ не стаў справай мінулага і нярэдка выкарыстоўваецца як інструмент палітычнага і ідэалагічнага супрацьстаяння. Антысеміцкія стэрэатыпы і клішэ па-ранейшаму пранізваюць грамадства, уключаючы асяроддзе інтэлектуалаў, і таму не маглі быць пакінутыя без увагі ў гэтай працы.

Яшчэ адно пытанне, пакрытае тайнай у першыя гады перабудовы, — Чарнобыль. Аварыя здарылася ў красавіку 1986 года, аднак у выніку таго, што пашырэнне праўдзівай інфармацыі ў той час было ўсё яшчэ вельмі абмежаваным, занепакоенасць грамадства пачала праяўляцца толькі з лета 1988 года[21]. Хаця некаторыя звесткі і пранікалі праз дзяржаўныя і пазацэнзурныя выданні, збольшага рэакцыя не адпавядала маштабу катастрофы. Як паведамлялася пазней, семдзесят адсоткаў усіх радыеактыўных ападкаў выпалі ў Беларусі; да трыццаці адсоткаў земляў рэспублікі атрымалі розныя ўзроўні забруджвання. Я падрабязна разглядаю спробу прарвацца праз гэтую сцяну маўчання, зробленую пісьменнікам і прафесарам філалогіі Алесем Адамовічам.

Досвед інтэлігенцыі ў савецкай Беларусі меў свае спецыфічныя рысы, але ён таксама мае шмат агульнага з досведам інтэлектуальных асяродкаў па ўсім СССР і ў краінах народнай дэмакратыі наагул. Таму, распавядаючы пра гісторыю культурнага супраціву ў асяроддзі беларускай інтэлігенцыі часоў позняга СССР, я звяртаюся да шырэйшай перспектывы — напрыклад, прасочваючы сувязі з расійскай і ўкраінскай інтэлігенцыяй і беларускай эміграцкай супольнасцю

---

[18] Аб ідэі інтэлектуалаў як «прадстаўнікоў непрадстаўленых» гл.: Said E. W. Representations of the Intellectual. The 1993 Reith Lectures. New York: Vintage Books, 1994. P. 3–23.

[19] Kind-Kovács F., Labov J. Samizdat and Tamizdat: Entangled Phenomena? // Samizdat, Tamizdat, and Beyond: Transnational Media During and After Socialism / Kind-Kovács F., Labov J., eds. New York; Oxford: Berghahn Books, 2013. P. 2.

[20] У гэтай працы тэрмін «антысемітызм» паўсюль ужываецца ў сэнсе варожага стаўлення да габрэяў і, у адрозненне ад тэрміналагічнай пáры «сіянізм — антысіянізм», не мае такога сэнсавага антоніма, як «семітызм». (Заўв. пер.)

[21] Dalhouski A. Die Belorussische Sozialistische Sowjetrepublik nach Tschernobyl. Schriftliche Protest und materieller Kompromiss // Politik und Gesellschaft nach Tschernobyl. (Ost-) Europäische Perspektiven / Hg. Melanie Arndt. Berlin: Ch. Links Verlag, 2016. S. 213–224.

насцю. І хаця цалком спыніць палітычную ізаляцыю краіны было немагчыма і культурнае ўзаемадзеянне не перапынялася, яго шляхі былі складанымі і заблытанымі.

Як паказваюць апошнія даследаванні халоднай вайны, жалезная заслона не толькі падзяліла свет на дзве ізаляваныя часткі; яна таксама стварыла магчымасці для нечаканага і своеасаблівага культурнага абмену, які існаваў па-над і насуперак гэтаму падзелу[22]. Ф. Кінд-Ковач і Дж. Лабаў прапанавалі лічыць сістэму абароту самвыдату/тамвыдату нечым большым, чым адзіная плынь матэрыялаў, перапраўляных з Усходу на Захад ці з Захаду на Усход; гэта была сетка перадачы і распаўсюду, перакладу і рэтрансляцыі, узмацнення і скажэння, і нарэшце — збору і архівавання[23].

Заслугоўвае ўвагі й ідэйная барацьба савецкай дзяржавы за прыхільнасць інтэлігенцыі, на якую, сярод першых, звярталі ўвагу Чэславаў Мілаш і Надзея Мандэльштам[24]. Зрэшты, гісторыя інтэлігенцыі пры савецкай уладзе збольшага была гісторыяй *канфармізму*. Камуністычная партыя прымушала інтэлектуалаў служыць сабе, удаючыся да тэрору, а таксама спакушала іх абяцанкамі прэстыжу і выгодаў. Тое, што адбывалася ў савецкіх рэспубліках у канцы 1920-х і ў 1930-х гадах, паўтарылася, хаця і ў менш заўважным выглядзе, на навадалучаных землях (у тым ліку на частках Украіны і Беларусі) у 1939–1941 гадах і ў пасляваенны час. Паходзячы з малазабяспечаных, часта збяднелых сялянскіх сем'яў, новая беларуская інтэлігенцыя высока цаніла асвету і матэрыяльныя выгоды, якімі яе надзяліла савецкая ўлада. Мяне займала пытанне, як судачыняліся нонканфармізм і канфармізм? Якім чынам нехта ўрэшце выходзіў з кола канфармізму? Бо нонканфармізм, як вядома з мноства сведчанняў і ўспамінаў, рэдка бываў спадчыннай рысай. Наадварот, зазвычай ён патрабаваў доўгага шляху, поўнага расчараванняў і разважанняў, узлётаў і падзенняў[25].

У адрозненне ад украінскага, а тым болей польскага ці чэшскага выпадкаў, беларуская дыяспара на Захадзе не ўплывала істотна на фармаванне альтэрнатыўных ідэй у беларускай савецкай культуры. Адначасова, эміграцкія

[22] Across the Blocs: Cold War Cultural and Social History / Major P., Mitter R, eds. London: Frank Cass, 2004; Popa I. Translation channels. A primer on politicized literary transfer. Target 18. 2006. Vol. 2. P. 205–228; Perforating the Iron Curtain: European Détente, Transatlantic Relations and the Cold War, 1965–1985 / Villaume P., Wastad O. A., eds. Copenhagen, 2010; Winter Kept Us Warm: Cold War Interactions Reconsidered, Sari Autio-Sarasmi and Brendan Humphreys, eds., Helsinki: Aleksanteri Cold War Series, 2010.

[23] Kind-Kovács F., Labov J. Samizdat and Tamizdat. P. 9.

[24] Miłosz Cz. Zniewolony umysł. Paryż: Instytut Literacki, 1953; Мандельштам Н. Воспоминания. Нью-Йорк: Изд-во им. Чехова, 1970. С. 51.

[25] Пра шлях ад шчырай захопленасці савецкім ладам да поўнай нязгоды з ім гл. у: Алексеева Л., Голдберг П. Поколение Оттепели. Москва: Захаров, 2006. З беларускіх аўтараў пра гэта пісаў Валянцін Та́рас. Гл.: Та́рас В. На выспе ўспамінаў. Вільня: Інстытут беларусістыкі, 2007.

дакументы і мемуарыстыка паказваюць, што да падзей у савецкай Беларусі была пастаянная цікавасць, якая магла задавольвацца дзякуючы наяўнасці беларускіх выданняў у заходніх бібліятэках. Вырашальную ролю ў гэтым ігралі Інстытут вывучэння СССР у Мюнхене і навукова-даследчы аддзел Радыё «Свабодная Еўропа» / Радыё «Свабода», з якімі ў той ці іншы час былі звязаныя такія інтэлектуалы-эмігранты, як Ян Запруднік, Антон Адамовіч, Уладзімір Глыбінны (Сядура) і Станіслаў Станкевіч[26]. Тым не менш параўнальна малая колькасць эмігрантаў, палітычныя рознагалоссі ў іх грамадзе, а таксама нізкая зацікаўленасць Захаду ў «беларускіх пытаннях», якая заставалася на адным узроўні аж да ўздыму нацыянальнага руху ў 1987–1988 гадах, крайне абмяжоўвалі палітычную волю і агульныя магчымасці ўмяшання[27].

У даследаваннях такога кшталту заўсёды ёсць і спакуса пераацаніць уплыў і распаўсюджанасць дыскурсаў і практыкаў нязгоды і супраціву. Аляксей Юрчак звярнуў увагу на той факт, што з пачатку перабудовы многія інтэлектуалы лічылі неабходным падкрэсліваць або нават выпрацоўваць міфы пра сваё іншадумства[28]. У новых абставінах некаторыя прыпісвалі сабе большыя гераізм і смеласць учынкаў, перабольшваючы ўплыў сваіх папярэдніх дзеянняў і заяў[29]. Гэтая логіка трывае ў многіх нацыянальных пантэонах антысавецкага супраціву, у тым ліку і ў Беларусі. Больш таго, у сучаснай Беларусі досведы дысідэнцтва могуць сунакладацца, а то і перакрываць адзін аднаго ў становішчы пастаяннага супраціву ўладнаму рэжыму Аляксандра Лукашэнкі.

[26] Больш падрабязныя звесткі гл., напрыклад, у: Станкевіч С. Беларуская падсавецкая літаратура першай палавіны 60-х гадоў. Нью-Ёрк; Мюнхен: БІНіМ, 1967.

[27] Пра ролю міжнародных сродкаў масавай інфармацыі ў падтрымцы (і, магчыма, у некаторай ступені ў фармаванні) гурткоў дысідэнтаў у Маскве гл. таксама: Metger J. Writing the Papers: How Western Correspondents Reported the First Dissident Trials in Moscow, 1965–1972 // Entangled Protest. Transnational Approaches to the History of Dissent in Eastern Europe and the Soviet Union / Brier R., ed. Osnabrück: Fibre, 2013. P. 87–108.

[28] Yurchak A. Everything Was Forever, Until It Was No More. Princeton: Princeton University Press, 2005. P. 7.

[29] А. Дзярновіч сцвярджае, што большасць успамінаў пра савецкія часы пачалі з’яўляцца ў канцы 1990-х, калі вяртанне да аўтарытарызму ў Беларусі стала відавочным для інтэлігенцыі (Нонканфармізм у Беларусі: 1953–1985 / пад рэд. А. Дзярновіча. Мінск: Athenaeum, 2004). Філосафка Вольга Шпарага перасцерагае ад шырокага ўжывання ў беларускіх сродках масавай інфармацыі паняцця «дысідэнт» у дачыненні да інтэлектуалаў, якія цяпер процістаяць рэжыму А. Лукашэнкі; такое ўжыванне задзейнічае мадэлі адносін паміж інтэлігенцыяй і ўладай у савецкім грамадстве. Падобныя асінхронныя параўнанні ідуць на карысць рэжыму, зноўку маргіналізуючы і адвяргаючы крытычных інтэлектуалаў-нонканфармістаў. Гл.: Шпарага О. К наброску интеллектуальной топографии Беларуси // Усманова А. Белорусский формат: невидимая реальность. Вильнюс: ЕГУ, 2008. С. 71–86.

Асноўны фокус гэтай працы — пісьменніцкая супольнасць і іншадумства ў яе асяроддзі — абумоўлены спецыфічнай пазіцыяй пісьменніка ў грамадстве. Дзякуючы выразнай савецкай культуры друку і чытання пісьменнікі мелі куды большую аўдыторыю, чым хто-небудзь яшчэ. Больш таго, у пэўныя перыяды пісьменнікі мелі магчымасць дамаўляцца пра межы дазволенага ў літаратуры і публіцыстыцы; таксама яны выступалі ў якасці прадстаўнікоў маўклівых і слаба прадстаўленых груп[30]. Для беларускага савецкага пісьменніка сярод гэтых сапраўдных і метафарычных непрадстаўленых былі беларускія вяскоўцы, радавы́я салдаты ці беларуская мова і культура.

Вацлаваў Гавел вызначаў дысідэнтаў як асоб, «якія схіляюцца да інтэлектуальных заняткаў», або людзей «пішучых» — тых «для якіх напісанае слова з’яўляецца галоўным — і часта адзіным — палітычным сродкам, якім яны валодаюць»[31]. Атаясамленне інтэлектуалаў з пісьменнікамі было звычайным і для заходняй інтэлектуальнай думкі[32].

Саюз пісьменнікаў БССР быў створаны 1 чэрвеня 1934 года і кіраваўся партыйнымі функцыянерамі, аднак у паслясталінскі перыяд яго аўтаномія значна пашырылася, хоць роля яго і была дваістай[33]. З аднаго боку, ён абмяжоўваў свабоду творчай інтэлігенцыі. З іншага — гарантаваў сваім чальцам пэўныя выгоды ў грамадстве, забяспечваў маральны аўтарытэт і ў рэшце рэшт стымуляваў літаратурную творчасць.

---

[30] Падобную ролю пісьменніцкая супольнасць мела і ў іншых савецкіх рэспубліках. Як прыклад — становішча ў Літве, апісанае ў: Davoliūte V. The Sovietization of Lithuania after WORLD WAR II: modernization, transculturation, and the lettered city // The Journal of Baltic Studies. 2016. 47. P. 59, etc.

[31] Havel V. The Power of the Powerless // International Journal of Politics. Armonk, NY: M.E. Sharpe, 1985. Vol. 15, no. 3–4. P. 57.

[32] Гл., напрыклад: Sartre J.-P. What is Literature? London: Methuen and Co. Ltd, 1950.

[33] Узорнай ілюстрацыяй згаданай неадназначнасці (на саюзным узроўні) ёсць справа расійскага пісьменніка Аляксандра Салжаніцына. У вядомым лісце да чацвёртага з’езда Саюза савецкіх пісьменнікаў 16 траўня 1967 года Салжаніцын пісаў, што кіраўніцтва Саюза стала першым «сярод пераследнікаў» такіх «спрэчных» пісьменнікаў, як Ганна Ахматава, Андрэй Платонаў і Васілій Гросман. У адказ у 1969 годзе Салжаніцына выключылі з Саюза пісьменнікаў. Гл:. Солженицын А. Письмо IV Всесоюзному съезду Союза советских писателей // Антология самиздата / Игрунов В., Барбакадзе М. URL: http://antology.igrunov.ru/authors/solzh/letter-to-wrighters.html (дата звароту: 15.06.2017). З іншага боку, Салжаніцын меў падтрымку ад Саюза пісьменнікаў, хаця той і не мог спыніць яго пераследу. Адказ глядзіце ў: Владимов Г. Президиум V всесоюзного съезда советских писателей [26 мая 1967 года] // Антология самиздата / Игрунов В., Барбакадзе М. Некаторыя ўспаміны пра салідарнасць і «міжнароднае сяброўства» сярод савецкіх пісьменнікаў гл. у: Бураўкін Г. Як многа ў гэтым гуку / Скарыніч. 2011. № 10. С. 122–124.

> Мне падабаецца наша літаратурнае асяроддзе, бо ў ім ва ўсе часы, як я памятаю, хапала ўнутранай свабоды, часам смеласці, на горшы ж канец гумару, каб, дапускаючы кампрамісы, ведаць, што гэта паскудная справа[34], —

каментаваў гэтую дваякасць яшчэ ў 1988 годзе пісьменнік і крытык Уладзімір Калеснік.

Саюз быў месцам, дзе маглі адбывацца вострыя спрэчкі, а яго сябры часам праяўлялі пэўную салідарнасць. Сучасны недзяржаўны Саюз беларускіх пісьменнікаў невыпадкова лічыць сябе пераемнікам Саюза пісьменнікаў БССР[35].

## 1.2. ПАНЯЦЦІ І ПАДЫХОД

Слова «самвыдат», упершыню, як лічыцца, прапанаванае паэтам Мікалаем Глазковым і актыўна ўжыванае пасляваеннай савецкай інтэлігенцыяй, абазначала старую і часткова зніклую з'яву[36]. Цягам XIX стагоддзя і перад расійскай рэвалюцыяй 1905 года (а таксама і пасля яе) беларуская інтэлігенцыя, як і многія іншыя рэвалюцыйныя групы і нацыянальныя аб'яднанні, часта друкавала, правозіла і распаўсюджвала недазволеную ці забароненую літаратуру.

Пішучы аб іншадумцах і вытворцах самвыдату ў савецкай Беларусі, я звычайна ўжываю паняцці «інтэлігенцыя» ды «інтэлектуал» як узаемазамяняльныя. Слова «інтэлектуал» ужываецца для абазначэння асобнага прадстаўніка інтэлігенцыі[37]. Аднак там, дзе гэта магчыма, я аддаю перавагу тэрмінам «інтэ-

[34] Калеснік У. Тут можна жыць. Казусы правінцыі // Калеснік У. Усё чалавечае. Літаратурныя партрэты, артыкулы, нарысы. Мінск: Мастацкая літаратура, 1993. С. 343.

[35] «Гісторыя грамадскага аб'яднання "Саюз беларускіх пісьменнікаў". URL: http://lit-bel.org/by/about/history.html (дата звароту: 27.10.2016). Зараз Саюз прадстаўляе сябе як добраахвотнае недзяржаўнае грамадскае аб'яднанне пісьменнікаў, якое прымае актыўны ўдзел у грамадскім жыцці Беларусі і прапагандуе беларускія мову і культуру. Калі пасля 1994 года аўтаномія Саюза пісьменнікаў стала праблемай для беларускай унутранай палітыкі, улады пачалі яе абмяжоўваць. У 2002 годзе яго перыядычныя выданні, напрыклад «ЛіМ» і «Полымя», якія былі незалежным форумам для інтэлігенцыі, былі рэарганізаваныя ў дзяржаўны холдынг «Літаратура і мастацтва» (з 2012 года — «Звязда»), кантраляваны беларускім Міністэрствам інфармацыі. Пісьменнікі адказалі заснаваннем перыядычнага выдання «Дзеяслоў». Іншы, падтрымліваны дзяржавай Саюз пісьменнікаў Беларусі (СПБ) быў створаны ў 2005 годзе. Асноўныя функцыі СПБ — супраца з дзяржаўнымі структурамі, падтрымка беларускага ўрада і прэзідэнта, а таксама духовае і патрыятычнае выхаванне моладзі. Гл: I съезд СПБ. URL: http://old.oo-spb.by/ru/about/1s.html (дата звароту: 27.10.2016).

[36] Глазкоў выкарыстоўваў таксама іншую назву: «самсебя издат». (Лосев Л. Крёстный отец самиздата / Континент. 1980. № 23. С. 381.)

[37] Раней гэта было зроблена ў даследаваннях усходнееўрапейскай інтэлігенцыі. Гл., напрыклад: Konrad G., Szelényi I. Intellectuals on the Road to Class Power. New York; London: Harcourt Brace Jovanovich, 1979. P. 4, 9 etc.

лігенцыя» і «творчыя работнікі», якія адэкватней адлюстроўваюць спецыфіку вывучáнага перыяду, беручы пад увагу ўплыў расійскай інтэлектуальнай спадчыны XIX стагоддзя. Што датычыцца ўплыву, то не менш важнымі былі й ідэі беларускага нацыянальнага руху (або «адраджэння») пачатку XX стагоддзя, сувязь з іншымі нацыянальнымі культурамі (у прыватнасці, з украінскай), традыцыйная сялянская мараль і досвед многіх войнаў і акупацый.

У 1980-х, калі аслабла цэнзура і атрымалі шырэйшы распаўсюд заходнія ідэалы, змянілася і самапрадстаўленне інтэлігенцыі. Прывабленая большай адкрытасцю да заходняй інтэлектуальнай культуры, інтэлігенцыя ў нацыянальных рэспубліках імкнулася адмежавацца ад уплыву расійскай культуры і стала аддаваць перавагу тэрміну «інтэлектуал»[38].

Сяргей Ушакін вывучаў пераўтварэнні позняй савецкай і постсавецкай інтэлігенцыі, карыстаючыся ідэяй Антоніа Грамшы аб наяўнасці ў грамадстве двух тыпаў інтэлектуалаў — «традыцыйных» і «арганічных»[39]. Ушакін сцвярджаў, што савецкая інтэлігенцыя ўяўляла сабою спалучэнне абодвух тыпаў[40]. Яна заставалася адданай традыцыйным каштоўнасцям, адначасна будучы арганічнай часткай сучаснага ёй грамадства, выступаючы ў якасці пасрэдніка паміж уладай і народам:

> Створаная сацыялістычнай дзяржавай — ці то як яе актыўная падтрымка, ці то як падпольная апазіцыя, сацыялістычная інтэлігенцыя своеасаблівым чынам аб’ядноўвала традыцыйныя каштоўнасці і нормы з асаблівай арганічнай адчувальнасцю, што дапамагло ёй напоўніць формы мінулага сучасным зместам[41].

[38] Параўнайце з Gapova E. Post-Soviet Academia and Class Power: Belarusian Controversy over Symbolic Markets // Studies in East-European Thought. 2009. Vol. 61. P. 276–284.

[39] У сваіх «Турэмных сшытках» (Quaderni del carcere, 1948–1951) А. Грамшы сцвярджаў, што ўсе людзі ёсць інтэлектуаламі (іт. intellettuali), але не ўсе бяруць на сябе ролю інтэлектуалаў у грамадстве. Грамшы вылучаў два тыпы інтэлектуалаў: традыцыйныя (intellettuali tradizionali) — у асноўным настаўнікі і святары, якія выконвалі нязменную ролю з пакалення ў пакаленне, і арганічныя (intellettuali organici), якія змяняліся, калі змянялася грамадства. Паводле Грамшы, у кожным грамадстве дамінуючы клас спараджаў уласную «арганічную інтэлігенцыю», якая, у сваю чаргу, стварала неабходныя веды і ідэалогію ў падтрымку кіруючай эліты (Gramsci A. The Prison Notebooks: Selections / transl. Hoare Q., Smith G. N. London: Lawrence and Wishart, 1971. Упершыню з’явілася як Quaderni del carcere. T. I–III. Torino: F. Platone, 1948–1950). Варта адзначыць, што ў перакладах твораў Грамшы на рускую мову тэрмін «інтэлектуалы» (у арыгінале — intellettuali) быў заменены на «інтэлігенцыя». Гл.: Грамши А. Формирование интеллигенции // Грамши А. Тюремные тетради: в 3 ч. Ч. 1. Москва: Политиздат, 1991. С. 327–345.

[40] Oushakine S. Introduction: Wither the Intelligentsia: The End of the Moral Elite in Eastern Europe // Studies in East European Thought. 2009. Vol. 61. P. 61.

[41] Там жа. P. 244.

Здаецца, аднак, што вырашальным для нонканфармісцкай інтэлігенцыі ў СССР было не спалучэнне, а хутчэй напружанне паміж арганіцызмам і традыцыяй. Нягледзячы на змену палітычных абставін, устойлівай рысай інтэлігенцыі у XIX–XX стагоддзях была апора на маральны аўтарытэт. Пошук маральных арыенціраў адметны для расійскай літаратуры, што асабліва ярка прадэманстравана Талстым і Дастаеўскім. Савецкая інтэлігенцыя ўспадкавала традыцыі расійскай дэмакратычнай думкі і расійскай культуры XIX стагоддзя, а таксама імкненне да праўды і справядлівасці. У той жа час яна ўяўляла сабою прадукт сацыялістычнай сістэмы, распрацаваны для падтрымкі стабільнасці апошняй. Гэта спарадзіла невырашальны ўнутраны канфлікт, які штурхаў да разрыву з сістэмай.

У выпадку беларускай, а магчыма, і іншых нацыянальных інтэлігенцый істотнай была таксама і традыцыйная сялянская мараль. У 1975 годзе чэшскі філосаф Ян Паточка напісаў, што «жыццё ў праўдзе» ёсць асновай як палітычнага, так і паўсядзённага жыцця[42]. Пад уплывам Паточкі Вацлаў Гавэл настойваў на «život v pravdě» («жыцці ў праўдзе») як стратэгіі мірнага супраціву, які заўсёды застаецца ў распараджэнні тых, хто, здавалася б, не мае ніякай улады[43]. У Савецкім Саюзе заклік Аляксандра Салжаніцына «жить не по лжи» проціпастаўляў праўдзівае жыццё амаральнасці камуністычнага рэжыму[44]. Падобны пошук праўды быў вядучым прынцыпам і для такіх беларускіх інтэлектуалаў, як Васіль Быкаў і Алесь Адамовіч, якія лічылі праўдзівы расповед галоўнай мэтай літаратуры, нават калі напісанае мела выдавацца афіцыйна.

Гісторык Алег Дзярновіч адаптаваў панятак нонканфармізму да беларускага савецкага кантэксту, ахапіўшы разнастайныя спосабы выказвання незадаволенасці. Як тлумачыць Дзярновіч:

> Няма патрэбы ствараць міф пра шырокі антытаталітарны рух у савецкай Беларусі 1953–1985 гадоў, але такімі ж неадэкватнымі з'яўляюцца ўяўленні пра суцэльную апатыю беларускага грамадства і, адпаведна, пра адсутнасць унутраных ментальных рэсурсаў для самаразвіцця[45].

---

[42] Patočka J. Ketzerische Essais zur Philosophie der Geschichte und ergänzende Schriften / Hrg. Klaus Nellen. Stuttgart: Klett-Cotta, 1988. Гл. таксама: Feindt G. Auf der Suche nach politischer Gemeinschaft. S. 87–90.

[43] Havel V. The Power of the Powerless. P. 39 etc. Гл. таксама пераклады Гаўла на беларускую: Гавел В. Жыццё ў праўдзе: эсэ і прамовы. Вільня: Логвінаў, 2014.

[44] Солженицын А. Жить не по лжи // Солженицын А. Публицистика: в 3 т. Ярославль: Верхняя Волга, 1995. Т. I. С. 187–194.

[45] Дзярновіч А. Зноў пра маштаб. Замест прадмовы да даведніка «Нонканфармізм у Беларусі: 1953–1985 // Нонканфармізм у Беларусі: 1953–1985 / пад рэд. А. Дзярновіча. URL: http://kamunikat.org/usie_knihi.html?pubid=9487 (дата звароту: 22.07.2017).

У гэтым святле тэрміны «іншадумства» і «культурны супраціў», якія не абавязкова цягнуць за сабою адкрытую палітычную барацьбу, як і прыметнік «нонканфармісцкі», здаюцца прыдатнымі для ахопу і апісання разнастайных практык інтэлектуальнага супраціву ў савецкай Беларусі. Такія выпадкі нонканфармізму нярэдка заставаліся ў ценю адкрытага палітычнага супраціву ці дысідэнцтва. Аднак першыя з'яўляюцца не менш, а можа, нават больш характэрнай з'явай савецкага грамадства, чым другія. Літаратурныя крытыкі Аляксандр Геніс і Пётр Вайль сцвярджаюць, што «культурнае іншадумства» папярэднічала ўсім іншым формам іншадумства і было найбольш эфектыўнай формай апошняга[46].

У гэтай працы мяне цікавяць здзяйсняльнікі культурнага іншадумства, тыя прадстаўнікі інтэлігенцыі, якія адкрыта ці падпольна выражалі сябе ў літаратуры (ці іншай творчай дзейнасці) і так ці іначай супярэчылі афіцыйнаму пункту гледжання. Яны часта былі ўплывовымі ў сваёй прафесійнай сферы і намагаліся данесці свае ідэі шырокай аўдыторыі. Яны так ці інакш аспрэчвалі ці ставілі пад пытанне афіцыйную пазіцыю сваімі антытаталітарнымі, дэмакратычнымі памкненнямі, патрабаваннямі свабоды слова, друку, сходаў і рэлігіі ці, напрыклад, заклікамі да свабоднага развіцця нацыянальных моў і культур.

Карыстаючыся тэрмінам, узятым з посткаланіяльнай тэорыі Хомі Бхабхі, «трэцяя прастора», або прастора паміж, паказальная і для існавання беларускай інтэлігенцыі ў савецкай сістэме[47]. Інтэлігенцыя вагалася паміж іншадумствам і канфармізмам, паміж самвыдатам і дзяржаўнымі выдавецтвамі. Часам межы дазволенага і недазволенага ставалі размытымі.

Дзве звычайныя характарыстыкі беларускай нацыі ў XX стагоддзі — «тутэйшыя» і «партызаны» — аднолькава пераканаўча апісваюць асаблівасці беларускай культурнай сітуацыі[48]. Мастак і пісьменнік Артур Клінаў ахарак-

[46] Генис А., Вайль П. 60-е. Мир советского человека. Москва: Новое литературное обозрение, 1998. С. 177.

[47] Rutherford J. The Third Space. Interview with Homi Bhabha // Identity: Community, Culture, Difference / ed. J. Rutherford. London: Lawrence and Wishart, 1990. P. 207–221.

[48] Сярод крыніц пра «Тутэйшых» —Trepte H.-Ch. Das Problem der «Hiesigen» (tutejsi) im polnisch-weißrussischen Grenzraum // Annus Albaruthenicus. 2004. № 5. S. 67–88; Чернявская Ю. От «тутэйшых» к нации. Минск: FUAinform, 2010; Латышонак А. Міф «тутэйшых» // Палітычная сфера. 2012. № 18–19. С. 220–229; Radzik R. Tutejsi — między oportunizmem a godnością // Radzik R. Białorusini między Wschodem a Zachodem. Lublin: Wydawnictwo UMCS, 2012. S. 91–112. Аб значэнні партызанаў у беларускіх мастацтве і культуры гл.: Ситникова Д. Партизан: Приключения одного концепта в стране большевиков // Белорусский формат: невидимая реальность / под ред. А. Усмановой. Вильнюс: ЕГУ, 2008. С. 397–433. Альтэрнатыва савецкай гераічнай канцэпцыі партызанаў з'явілася ў постсавецкай Беларусі. Тут трэба згадаць мастака і пісьменніка Артура Клінава і мастацкі часопіс «pARTisan». У 2005 годзе журналістам Паўлам Шарыметам (1971–2016) быў заснаваны апазіцыйны двухмоўны інфармацыйны партал «Беларускі партызан» / «Белорусский партизан» (URL: http://www.belaruspartisan.org/

тарызаваў партызанскую тактыку як адзіную форму нацыянальнага супраціву, што была магчымая ў Беларусі ў апошнія два стагоддзі[49]. Падобным чынам, сутнасць беларускай культуры ўлавіла і прапанаваная Валянцінам Акудовічам ідэя «непрысутнасці»[50].

Укаранёная ў мясцовай актуальнасці (распад беларускай вёскі ці заняпад беларускай мовы) і ў большасці выпадкаў не гатовая да адкрытага бунту, інтэлігенцыя часта выбірала тактыку кампрамісу, абходу ці нечаканага нападу.

Ідэі, якія з’яўляліся ў самвыдаце, праходзілі заблытаны шлях уплываў і пераўтварэнняў. Яны адлюстроўвалі дух часу, які мы можам прасачыць і дасюль. Такое ўзгадненне межаў, хай і ў меншай ступені, адбывалася і ў афіцыйнай літаратуры: эзопава (алегарычная) мова, зацяжныя (па некалькі месяцаў) спрэчкі з рэдактарамі, рэцэнзентамі і цэнзарамі і абалонка ідэалагічна правільных фраз — далёка не поўны пералік прыёмаў, якія выкарыстоўваліся ў тыя часы[51]. Падчас перабудовы і ранняга перыяду незалежнасці альтэрнатыўныя ідэі пераўтварыліся ў магутныя палітычныя праграмы ды інтэлектуальныя праекты.

У гэтай кнізе сцвярджаецца, што многія афіцыйныя выданні былі не менш важныя для падрыву савецкай сістэмы, чым некаторыя самвыдаты. Адным з найлепшых прыкладаў у беларускай савецкай літаратуры былі ваенныя аповесці Васіля Быкава, большасць з якіх былі выдадзеныя афіцыйна. Рэдкае з’яўленне твораў Быкава ў самвыдаце зусім не азначае, што яго астатнія, афіцыйна надрукаваныя творы пазбеглі цэнзарскіх купюр і ачарнення ў савецкай прэсе. Не зусім упісваючыся ў разрад недазволеных, яго творы былі спробамі нестандартнага мыслення, якое спрыяла пераацэнцы афіцыйнага ваеннага дыскурсу.

Следуючы ідэі Дыпеша Чакрабарці ў яго знакамітай кнізе «Правінцыялізуючы Еўропу», такія асаблівасці ўскраіннага іншадумства не варта ўспрымаць як праяву абмежаванай (незавершанай) мадэрнізацыі, ганячы яго як другаснае ці недастатковае. Замест гэтага мае сэнс разглядаць асаблівасці ўскраіннага іншадумства як «фундаментальную частку» агульных мадэрнізацыйных працэсаў, дзе развіццё ў цэнтры было б немагчымае без таго, што адбывалася на перыферыі[52].

bel/). Гл. таксама ўдумлівае вытлумачэнне савецкіх і постсавецкіх партызанскіх міфаў у: Lewis S. Belarus — Alternative Visions: Nation, Memory and Cosmopolitanism. New York: Routledge, 2018. P. 53–80.

[49] Клінаў А. Партызан і антыпартызан // pARTisan. 2002. № 1 URL: http://partisanmag.by/?p=855 (дата звароту: 18.08.2017).

[50] Акудовіч В. Апалагеты адсутнасці // pARTisan. 2004. № 2 URL: http://partisanmag.by/?p=898 (дата звароту: 18.08.2017).

[51] Аб эзопавай мове ў расійскай (савецкай) літаратуры гл., напрыклад: Loseff L. On the Beneficence of Cencorship. Aesopian Language in Modern Russian Literature. München: Otto Sagner, 1984.

[52] Chakrabarty D. Provincializing Europe: Postcolonial Thought and Historical Difference.

Вальтэр Міньёла і Мадзіна Тластанава сцвярджаюць, што мясцовыя гісторыі і альтэрнатыўныя сучаснасці звычайна ўспрымаюцца як «залежныя і сурагатныя кампаненты трыумфальнага маршу сусветнай гісторыі/сучаснасці»[53]. Вывучэнне мясцовых, ускраінных культур павінна, аднак, абапірацца на метадалогію памежнага мыслення, якая процістаіць пануючаму наратыву і адкрывае замест аднаверсійнай рэчаіснасці шматверсійную. Такое памежнае мысленне дазваляе выправіць гэтую гісторыю і ўнесці свой уклад у шматверсійны свет, у якім могуць суіснаваць многа сусветаў[54].

Самвыдат і непадцэнзурная літаратура як аб'екты гэтага даследавання служаць каштоўнай крыніцай для вывучэння сэнсавых меж паміж афіцыйнай і неафіцыйнай культурай[55]. Такія межы заўсёды рухаюцца, бо значэнне тэксту «змяняецца ў залежнасці ад умоў напісання і распаўсюду»[56].

Пад «самвыдатам» тут разумеюцца як пазацэнзурныя выданні, так і сама дзея незаконнай (недазволенай) вытворчасці, памнажэння і распаўсюджвання ідэй. Такі падыход дае магчымасці для плённага тэматычнага даследавання памежных дыскурсаў і практык, граніцы якіх часам цяжка вызначыць. Як тлумачыць Вольфганг Эйхведэ датычна культуры самвыдату:

> Межы паміж сусветамі дапушчальнага, недазволенага і забароненага былі рухомымі. Яны маглі розніцца ад сферы да сферы, ад часу да часу[57].

Выпадак Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі дае спрыяльную глебу для такога даследавання меж паміж кіроўнымі коламі і дысідэнцкай інтэлігенцыяй, паміж афіцыйным і неафіцыйным друкам.

## 1.3. ГІСТАРЫЯГРАФІЯ

Пакуль яшчэ рэдка звяртаючыся да культурнай апазіцыі ў Румыніі ды іншых «паслухмяных» рэспубліках Усходняга блока, гістарычная навука збольшага ігнаруе таксама культурны супраціў і самвыдат у савецкай Беларусі[58]. Большасць

---

Princeton: Princeton University Press, 2007. P. 13. Чакрабарці абапіраецца на даследаванне індыйскага гісторыка Рнаджыта Гухі «Элементарныя аспекты сялянскага супраціву ў каланіяльнай Індыі» (Guha R. Elementary Aspects of Peasant Insurgency in Colonial India. Delhi: Oxford University Press, 1983).

[53] Mignolo W. D., Tlostanova M. V. Theorizing from the Borders. Shifting to Geo- and Body-Politics of Knowledge // European Journal of Social Theory. 2009. Vol. 9. P. 2.

[54] Ibid. P. 210.

[55] Kind-Kovács F., Labov J. Samizdat and Tamizdat: Entangled Phenomena? P. 3.

[56] Ibid. P. 4

[57] Eichwede W. Archipel Samizdat // Samizdat. Alternative Kultur in Zentral-und Osteuropa. Die 60er bis 80er Jahre / Hrsg. Eichwede W. Bremen: Ed. Temmen, 2000. S. 17.

[58] Выпадкі Румыніі і БССР істотна розняцца, але навукоўцы да нядаўняга часу

даследаванняў, анталогій самвыдату і даведнікаў дысідэнтаў, уключаючы першы і найбольш вядомы даведнік Людмілы Аляксеевай «История инакомыслия в СССР», не ахопліваюць БССР, пакідаючы яе «белай плямай» на карце іншадумства і самвыдату Цэнтральнай і Усходняй Еўропы[59]. А, напрыклад, двухтомны лексікон іншадумства Аляксандра Даніэля і Ірэны Бенькоўскай згадвае імёны толькі чатырох беларускіх дысідэнтаў — Алега Бембеля (нар. у 1939), Ларысы Геніюш, Зянона Пазьняка і мастака Яўгена Куліка (1937–2002)[60].

У пасляваенны перыяд некаторыя з беларускіх эмігранцкіх навукоўцаў і актывістаў спрабавалі асэнсаваць сутнасць культурнага супраціву ў БССР. Яшчэ ў 1958 годзе літаратуразнаўца Антон Адамовіч вывучаў элементы процістаяння саветызацыі ў беларускай літаратуры ў 1917–1957 гадах[61]. Будучы актыўным удзельнікам літаратурных дэбатаў 1920-х і 1930-х гадоў, Адамовіч быў абвінавачаны ў нацыянал-дэмакратызме (савецкі беларускі н准ватвор: «нацдэмаўшчына»), праходзячы па справе «Саюза вызвалення Беларусі». Як непасрэдны відавочца, Адамовіч змог раскрыць невядомыя падрабязнасці, але яго асабісты досвед разам з палітычнай скіраванасцю Інстытута даследаванняў СССР у Мюнхене, які падтрымліваў гэтую працу, ставіць пад сумнеў аб’ек-

працягвалі ігнараваць дзейнасць дысідэнтаў у іх абедзвюх. Пра выпадак Румыніі гл.: Petrescu C. Free Conversations in an Occupied Country. Cultural Transfer, Social Networking, and Political Dissent in Romanian Tamizdat // Kind-Kovács F., Labov J. Samizdat, Tamizdat, and Beyond. P. 107–136.

[59] Алексеева Л. История инакомыслия СССР: новейший период. 3-е изд. Москва: Московская Хельсинкская группа, 2012. Іншыя зборнікі, якія не ўключаюць савецкую Беларусь: Самиздат века / ред. А. Стреляный и др.; Samizdat. Alternative Kultur in Zentral- und Osteuropa / Eichwede W., Hrsg. Собрание документов самиздата (т. 1–30) змяшчае дакументы пра рэлігійную апазіцыю ў БССР (тамы 3, 4, 15, 28, якія ахопліваюць 1968–1988 гады), а таксама дакументы, якія асвятляюць палітычную і праваабарончую дзейнасць Міхаіла Кукабакі (том. 30, які ахоплівае 1977–1979 гады).

[60] Słownik dysydentów: czołowe postacie ruchów opozycyjnych w krajach komunistycznych w latach 1956–1989 / Daniel A., Bieńkowska I., eds. T. II. Warszawa: Ośrodek Karta, 2007.

[61] Адамовіч А. Супраціў саветызацыі ў беларускай літаратуры (1917–1957) // Творы Антона Адамовіча / пад рэд. Л. Юрэвіча. Нью-Ёрк: БІНіМ, 2003. С. 34–311. Упершыню надрукавана па-англійску як Anthony Adamovich. Opposition to Sovietization in Belorussian literature, 1917–1957 (München: Institut zur Erforschung der UdSSR, 1958). У 1955 годзе Адамовіч надрукаваў кароткі нарыс пра народнага паэта Якуба Коласа і яго супраціў саветызацыі. Гл.: Адамовіч А. Якуб Колас у супраціве саветызацыі. Мюнхен: Інстытут для вывучэння гісторыі і культуры СССР, 1955. Работа іншага аўтара-эмігранта, які аналізуе сорак гадоў улады камуністаў у Беларусі: Hlybinny U. Vierzig Jahre weißruthenischer Kultur unter den Sowjets. München: Institut zur Erforschung der UdSSR, 1959. Пра адносіны паміж камуністычнай уладай ды інтэлігенцыяй у 1920-я гады глядзіце таксама: Марціновіч Д. Якуб Колас і Вільгельм Кнорын // Каласавіны: Творчая спадчына Якуба Коласа ў парадыгме грамадска-інтэлектуальнага асяроддзя пісьменніка. Мінск: БДУ, 2008. С. 74–80.

тыўнасць даследавання. І тым не менш яна заслугоўвае ўвагі як адна з першых спроб звярнуцца да ўзаемаадносінаў інтэлігенцыі і ўладаў у першыя дзесяцігоддзі існавання БССР.

А. Адамовіч паказваў, як ужо ў 1920-я гады розныя погляды на нацыянальнае пытанне сталі для інтэлігенцыі асноўным пунктам нязгоды з савецкай уладай. Для залучэння інтэлігенцыі ў пабудову сацыялізму выкарыстоўвалася стратэгія пугі і перніка: абяцанні магчымасцяў, асветы і нацыянальнага развіцця змяняліся рэпрэсіямі і тэрорам. Інтэлігенцыя рэагавала рознымі спосабамі: адкрытым супрацівам, маўчаннем або «ўнутранай эміграцыяй», спробамі дыялогу ці абмеркаванняў з прадстаўнікамі рэжыму, канфармізмам і беспрынцыпнасцю. Даследаванне сканчаецца 1958 годам. Калі Ілля Эрэнбург ужо выдаў свой раман «Оттепель» (травень 1954 года) і прагучалі выкрыцці «культу асобы» падчас ХХ з’езда КПСС (14–25 лютага 1956 года), А. Адамовіч усё яшчэ не заўважаў прыкмет дэсталінізацыі ў беларускай літаратуры[62].

Іншы эмігранцкі даследчык, гісторык Ян Запруднік, ініцыяваў даследаванне нонканфармізму ў пасляcталінскай БССР[63]. Будучы рэдактарам беларускай службы Радыё «Свабода» ў 1956–1991 гадах, ён меў шырокі доступ да афіцыйных савецкіх выданняў. З самага пачатку ён засяродзіўся на палітыцы нацыянальнасцяў у СССР. У 1979 годзе Запруднік прапанаваў тэрмін «іншадумцы» як больш прыдатны для апісання тых, хто так ці іначай процістаяў савецкай уладзе. Характарыстыка «дысідэнт» у яго ўяўленні была зручнейшай хутчэй для ўладаў і адначасова магла выклікаць негатыўныя канатацыі сярод шырокіх колаў грамадства з-за сваёй сугучнасці са словам «дыверсант». Такім чынам, нязгодныя фігуральна выносіліся па-за межы закона і грамадства[64].

Як вынікае з яго артыкулу 1979 года, эмігранцкай супольнасці даводзілася рэканструяваць, а часам і дадумваць сэнс падзей, што адбываліся ў савецкай Беларусі: на той час нефармальныя каналы інфармацыі яшчэ былі абмежаванымі.

Я. Запруднік вярнуўся да тэмы нонканфармізму ў БССР праз дзесяцігоддзе, калі заходнія назіральнікі заўважылі адраджэнне нацыянальнага руху, а некаторыя пазацэнзурныя беларускія выданні трапілі да замежнага чытача[65]. Ён сачыў за афіцыйнымі выданнямі і самвыдатам, паведамляючы пра парасткі

[62] Адамовіч А. Супраціў саветызацыі. С. 327–328.

[63] Запруднік Я. Інакодумство в Білорусі // Сучасність. 1979. № 7–8. С. 158–169. Каментар да Запруднікавай публікацыі з’явіўся ў парыжскай Kultura: Sukiennicki W. Za głuchym murem // Kultura. 1979. № 12. P. 78–81.

[64] Запруднік Я. Інакодумство в Білорусі. С. 158. Параўнайце з вызначэннем Вацлавам Гаўлам «дысідэнцтва» і «дысідэнта» як навязаных заходнімі назіральнікамі, у яго эсэ «Сіла бяссільных», упершыню выдадзеным у 1978 годзе, усяго на год раней (Havel V. The Power of the Powerless. P. 57–58).

[65] Zaprudnik J. Belorussian Reawakening // Problems of Communism. 1989. July–August. P. 36–52.

палітычнага пратэставага руху[66]. У той жа час ён быў добра абазнаны ў беларускім тамвыдаце — такім, як «Письмо русскому другу» (1979) і «Лісты Гарбачову» (1986)[67].

І ўсё ж увага да беларускага самвыдату на Захадзе была вельмі абмежаванай. Калі ў 1985 годзе ў Лондане выйшаў самвыдацкі твор А. Бембеля «Родная мова і маральна-эстэтычны прагрэс», англійскі даследчык Майкл Кірквуд напісаў на яго водгук. Хаця акадэмічная вартасць нарыса была слушна ацэненая як неадназначная, рэцэнзент амаль цалком упусціў сімвалічнае значэнне твора[68]. Бембелеў тэкст быў адным з рэдкіх прыкладаў беларускамоўнага самвыдату (а пасля і тамвыдату), які шырока чытаўся і абмяркоўваўся інтэлігенцыяй. У ім разглядалася нацыянальнае пытанне ў БССР, якое дагэтуль было, як гэта будзе паказана далей, з аднаго боку, строга цэнзураваным, а з другога — маючым першараднае значэнне для палітычнай мабілізацыі інтэлігенцыі.

У пачатку 1990-х, а затым у пачатку 2000-х беларускія навукоўцы таксама намагаліся збіраць, апісваць і сістэматызаваць наяўныя веды пра дысідэнцкія рухі ў БССР. У 1991 годзе гісторык Юрый Лаўрык апублікаваў першапраходніцкі артыкул пра самвыдат у Беларусі. Ён падзяліў усе савецкія самвыдаты на агульнасаюзныя (уключаючы ўсе рускамоўныя пазацэнзурныя выданні ад «Архіпелага ГУЛАГ» да «Камасутры»), нацыянальныя (арыентаваныя на нацыянальныя праблемы і барацьбу з нацыянальнай партакратыяй) і мясцовыя[69]. Лаўрык указаў на шматгадовую традыцыю нецэнзураванага беларускага кнігадрукавання, якую ён прасачыў аж да палемікі праваслаўнага прапаведніка і палеміста XVI стагоддзя Афанасія Філіповіча[70].

Па словах Ю. Лаўрыка, у СССР беларускі самвыдат прайшоў тры этапы развіцця. 1965–1971 гады вызначаліся распаўсюдам агульнасаюзнага самвыдату. У 1971–1988 гады з’явіліся першыя нацыянальныя выданні, а пасля 1988 года пазацэнзурныя выданні ахапілі шырокія колы грамадства[71]. Прыблізна ў той жа час сацыёлаг Алег Манаеў заўважыў рост

[66] Падрабязней аб іншадумцах і іх групах, а таксама аб нацыянальным руху гл.: Zaprudnik J. Belarus — a Long Road to Nationhood // Urban M. Nation and Politics in the Soviet Successor States. Cambridge: Cambridge University Press, 1993. P. 99–120; Zaprudnik J. Belarus: at a Crossroads. P. 108–112, 12–133. Поўны спіс Запруднікавых твораў (да 2006) гл. у: Бібліяграфія Янкі Запрудніка // Запісы. 2006. № 30. P. 10–48.

[67] Разглядаюцца ў падраздзелах 4.4.1 і 2.6 адпаведна.

[68] Kirkwood M. Bembel’ Aleg. Rodnaye slova i maral’na-estetychny pragres. Association of Byelorussians of Great Britain. London, 1985 // The Slavonic and East European Review. 1987. Vol. 65, nr. 3. P. 433–434.

[69] Лаврик Ю. Самиздат в Белоруссии // Советская библиография. 1991. № 5. С. 15–22.

[70] Там жа. С. 17.

[71] Там жа. С. 17–19.

аўдыторыі заходняга радыёвяшчання сярод беларускай моладзі векам ад 16 да 30 гадоў[72].

Далейшую класіфікацыю нонканфармісцкіх рухаў прапанаваў археолаг і адзін з «нязгодных» Міхась Чарняўскі (1938–2013). Ён падзяліў іншадумную інтэлігенцыю на дзве асноўныя групы: агульнадэмакратычную плынь і беларускіх нацыянал-патрыётаў[73]. Першая, на яго думку, займалася агульнымі пытаннямі дэмакратыі і правоў чалавека, другія імкнуліся захаваць і адрадзіць мову і культуру.

У 1996 годзе для захавання памяці аб нядаўнім камуністычным мінулым быў створаны «Архіў найноўшае гісторыі», засяроджаны ў асноўным на антысавецкім супраціве. На падставе сабраных крыніц гісторык Алег Дзярновіч уклаў двухтомны даведнік пра нонканфармізм, дэмакратычную апазіцыю і рэпрэсіі ў паслясталінскай савецкай Беларусі[74]. Калі М. Чарняўскі лічыў галоўнай вызвольнай сілай інтэлігенцыі не дэмакратыю, а нацыянальнае самавызначэнне, то Дзярновіч абвяшчаў кожны негвалтоўны акт процістаяння савецкай уладзе дэмакратычным. Дзярновіч і яго сааўтары былі першымі, хто звярнуўся да розных культурных і палітычных пратэставых рухаў, а таксама да адзінкавых праяў незадаволенасці. Аднак гэтая работа ўсё яшчэ не зусім свабодная ад характэрных пастак постсавецкай нацыянальнай гісторыі 1990-х: у некаторых сваіх аспектах яна абапіралася на перадузятыя вытлумачэнні савецкай дзяржаўнай палітыкі ды (часам некрытычнае) усхваленне іншадумства.

Трохтомная энцыклапедыя рэпрэсаванай у 1794–1991 гадах інтэлігенцыі, складзеная Леанідам Мараковым, уяўляе сабою шырокі рэестр апазіцыі і рэпрэсій, што сярод іншага наводзіць на думку аб пераемнасці паміж савецкім і папярэднімі перыядамі беларускай гісторыі[75].

У 1998 годзе Юрый Лаўрык і Ларыса Андросік выдалі першы і пакуль

[72] Манаев О. Несогласная аудитория. Измерение критериев эфективности средств массовой информации в процессе демократизации общества // Социологические исследования. 1990. № 6. С. 34.

[73] Чарняўскі М. Лекцыя 1. Беларускія антыкамуністычныя рухі канфесійнай і агульнадэмакратычнай накіраванасці // Беларускія антыкамуністычныя рухі ў час позняга сталінізму (ад Сталіна да перабудовы Гарбачова: 1953–1987) / Беларускі калегіум. URL: http://old.belcollegium.org/lekcyji/historyja/czarniauski_01.htm (дата звароту: 22.03.2016).

[74] Дэмакратычная апазіцыя Беларусі. 1956–1991. Персанажы і кантэкст / пад рэд. А. Дзярновіча. Менск: Архіў найноўшае гісторыі, 1999; Нонканфармізм у Беларусі / пад рэд. А. Дзярновіча. «Архіў найноўшае гісторыі» быў заснаваны Беларускім гуманітарным фондам «Наша ніва» ў 1996 годзе для збору крыніц пра гісторыю пераследу і супраціву ў Беларусі ў ХХ стагоддзі.

[75] Маракоў Л. Рэпрэсаваныя літаратары, навукоўцы, работнікі асветы, грамадскія і культурныя дзеячы Беларусі, 1794–1991: у 3 т. Мінск: б. в., 2003–2004. Т. 1. Творы рэпрэсаваных аўтараў апублікаваныя ў зборніку «Расстраляная літаратура» (Мінск: Кнігазбор, 2008).

адзіны каталог пазацэнзурных перыядычных выданняў савецкай Беларусі. Каталог утрымлівае асноўныя даведкавыя дадзеныя пра падпольныя часопісы, выдаваныя ў 1917–1990 гадах[76]. Раней, у 1992 годзе, некаторыя пазацэнзурныя выданні (выдаваныя з 1987 года) былі ўнесеныя ў даведнік, выдадзены Forschungsstelle Osteuropa ў Брэмене[77]. Сёння, праз амаль трыццаць гадоў пасля распаду Савецкага Саюза, культурнае іншадумства і пазацэнзурныя выданні БССР, а таксама іх месца ў гісторыі ўсходнееўрапейскага супраціву патрабуюць дадатковай увагі. Да такога пераасэнсавання матывуе і эвалюцыя даследаванняў феноменаў культурнай і палітычнай нязгоды.

Пераход да новага разумення культуры і інтэлігенцыі ў БССР заўважаецца ў артыкуле А. Лявіцкага. Аўтара прапаноўвае тэрмін «унутранае дысідэнцтва» заклікаючы адмовіцца ад дыхатаміі супраціву і нязгоды, сацыялістычнага і нацыянальнага і разглядаць іншадумства як «арганічны складнік сістэмы афіцыйнай культуры»[78].

У сваёй уплывовай кнізе, прысвечанай гістарычнай палітыцы ў Беларусі, Райнер Лінднер вывучаў узаемаадносіны паміж інтэлігенцыяй (на прыкладзе гісторыкаў) і дзяржаўнай уладай ды іх развіццё ў XIX–XX стагоддзях[79]. Кніга ўтрымлівае багаты зыходны матэрыял і ўдумлівыя разважанні. У той жа час Лінднер засноўвае свае довады на процістаянні нацыянальна арыентаваных і праўладных гісторыкаў, застаючыся, такім чынам, у межах традыцыйнага падзелу на канфармістаў і нонканфармістаў[80]. Даследаванне Пера Андэрса Рудлінга аб беларускім нацыяналізме пачатку XX стагоддзя звяртаецца да вытокаў беларускай нацыянальнай ідэі, якая стала вырашальнай крыніцай су-

---

[76] Пазацэнзурны перыядычны друк Беларусі (1917–1990): каталёг / пад рэд. Ю. Лаўрыка, Л. Андросік. Менск: БГАКЦ, 1998. Кароткі агляд некаторых беларускіх выданняў пра самвыдат глядзіце таксама: Riach D. A. Themes in Belarusian National Thought: The Origins, Emergence and Development of the Belarusian ‘National Idea’: PhD Thesis / Department of Political Studies, Carleton University. Ottava, 2000. P. 378–382.

[77] Новая периодика и самиздат на территории Советского Союза 1987–1990 / сост. Е. Жемкова. Bremen: Forschungsstelle Osteuropa, 1992.

[78] Лявіцкі А. Да пытання пра ўнутраную эміграцыю беларускіх інтэлектуалаў у БССР (1964–1985) // Беларускі гістарычны агляд. Вып. 20. 2013. № 1–2. С. 149–172.

[79] Lindner R. Historiker und Herrschaft. Nationsbildung und Geschichtspolitik in Weißrussland im 19. und 20. Jahrhundert. München: Oldenbourg, 1999. Пераклад на беларускую: Ліндэр Р. Гісторыкі і ўлада. Нацыятворчы працэс і гістарычная палітыка ў Беларусі XIX–XX ст. / пер. з ням. Л. Баршчэўскага. 2-е выд. (1-е выданне з’явілася ў 2002 годзе) (Санкт-Пецярбург: Неўскі прасцяг, 2005.)

[80] Lindner R. Historiker und Herrschaft... Андрэй Катлярчук адзначыў недастатковую ўвагу да гісторыкаў-нонканфармістаў у даследаванні Ліндэра яшчэ ў 2004 годзе. Гл.: Катлярчук А. Нямецкая вучонасць і беларуская мінуўшчына // Архэ. 2004. № 2. С. 233–238.

праціву і для пасляваенных пакаленняў інтэлектуалаў[81]. Важна адзначыць, што Рудлінг, падобна да Ліндfísера, надае шмат увагі перыядычнай літаратуры, справядліва лічачы яе адным з галоўных сродкаў інтэлектуальнага самавыражэння ў XX стагоддзі.

Дзмітрый Крывашэй, Ірына Кашталян і Рэйк Эйнакс сцвярджаюць, што праявы дэсталінізацыі ў БССР былі абмежаванымі[82]. Гэта можна заўважыць і з самаўсведамлення беларускай інтэлігенцыі. За выключэннем аднайменнай кнігі Алеся Адамовіча, якая выйшла толькі ў 1991 годзе, тэрмін «шасцідзясятнікі» (ці пакаленне шасцідзясятых гадоў), як здаецца, не быў настолькі значным для інтэлігенцыі ў савецкай Беларусі, як для іх калег у Маскве і Ленінградзе ці нават Кіеве[83].

Калі ж, аднак, прыняць характарыстыку пакалення шасцідзясятнікаў для беларускай інтэлігенцыі, то двума яго яркімі прадстаўнікамі можна лічыць В. Быкава і А. Адамовіча. У канцы 1960-х гадоў Васіль Быкаў падвергся жорсткай крытыцы ў галоўных савецкіх выданнях за публікацыю сваёй аповесці «Мёртвым не баліць»[84]. Упершыню яна з’явілася па-беларуску ў 1965 годзе ў часопісе «Маладосць». Праз год, у перакладзе на рускую мову, яна была выдадзеная Аляксандрам Твардоўскім (1910–1971) у часопісе «Новый мир», які ў той час славіўся сваім лібералізмам[85]. Хаця Быкаў напісаў і выдаў аповесць

[81] Rudling P. A. The Rise and Fall of Belarusian Nationalism. P. 10.

[82] Kryvashei D. Vom Tauwetter zur Perestroika. Die Sechziger-Jahre-Generation in der weißrussischen Kultur // Bohn T., Shadurski V. Ein weißer Fleck. Bielefeld: Trancript, 2011. S. 203–209; Einax R. Entstalinisierung auf Weißrussisch. Krisenbewältigung, sozioökonomische Dynamik und öffentliche Mobilisierung in der Belorussischen Sowjetrepublik 1953–1965. Wiesbaden: Harrassowitz, 2014); Iryna Kashtalian I. The Repressive Factors of the USSR’s Internal Policy and Everyday Life of the Belarusian Society (1944–1953). Wiesbaden: Harrassowitz, 2016.

[83] Адамович А. Мы — шестидесятники. Москва: Советский писатель, 1991. Падрабязней пра 1960-я гады ў СССР гл.: Вайль П., Генис А. 60-е годы. Мир советстского человека; Алексеева Л. Поколение оттепели. Москва: Захаров, 2006. Zubok V. Zhivago’s Children: the Last Russian Intelligentsia. Cambridge, MA: Belknap Press, 2009. Пра пакаленне 1960-х ва Украіне гл.: Yekelchyk, S. The early 1960s as a cultural space: a microhistory of Ukraine’s generation of cultural rebels // Nationalisties Papers. 2015. Vol. 43, no. 1. P. 45–61.

[84] Аналіз аповесці гл. у: Lewis S. Belarus — Alternative Visions. P. 90–98. Крыху падрабязней я разглядаю «Мёртвым не баліць» у падраздзеле 3.2.

[85] «Новый мир», заснаваны ў 1925 годзе, быў адным з галоўных літаратурных часопісаў («толстых журналов») у СССР у пасляваенны час. У 1947–1991 гадах ён дзейнічаў як выдавецкі орган Саюза пісьменнікаў СССР. У 1958–1970 гадах паэт Аляксандр Твардоўскі займаў пасаду галоўнага рэдактара ў другі раз (першы — у 1950–1954 гадах). Пад яго кіраўніцтвам выданне набыло рэпутацыю ліберальнага часопіса, які імкнуўся друкаваць параўнальна свабодныя і смелыя літаратурныя творы. Самы вядомы з іх — «Один день Ивана Денисовича» Аляксандра Салжаніцына (Новый мир. 1962. № 11). Па тэме публікацый беларускіх аўтараў у «Новом мире» гл. табліцу 1.

раней за пачатак вывучáнага перыяду, эфект ад яе выдання захоўваўся і ў наступныя дзесяцігоддзі. У далейшым Быкаў зарэкамендаваў сябе як вядучы беларускі інтэлектуал у 1970-я, 1980-я і ў постсавецкі час. Літаратурная крытыка Быкава ў работах Зіны Гімпелевіч пралівае святло на менш вядомыя факты з яго жыцця. Галоўным чынам гэта датычыць складаных стасункаў пісьменніка з уладамі. У сваёй кнізе Гімпелевіч таксама коратка аналізуе менш вы́вучаную частку спадчыны Быкава — яго палемічныя артыкулы, надрукаваныя ў часы перабудовы і ў першыя гады незалежнасці Беларусі[86].

Пранікліваe даследаванне Саймана Льюіса аб прозе Васіля Быкава і Уладзіміра Караткевіча (1930–1984), а таксама некаторых аўтараў пакалення 1980-х гадоў выйшла ў свет, калі кніга была ўжо ў асноўным напісаная. У некаторых пунктах, асабліва датычных беларускай савецкай літаратуры, нашыя ідэі сугучныя і, спадзяюся, узаемадапаўняльныя. Але калі Льюіс вывучае (ня)здольнасць літаратуры вылечыць «разыходжанне паміж гісторыяй і памяццю», я засяроджваюся на надаванай ёю магчымасці пераглядаць межы паміж дазволеным і забароненым, згодніцтвам ды іншадумствам[87].

У работах Майкла Урбана, Дэвіда Марплза і Грыгорыя Іофэ даецца ўяўленне аб гісторыі пасляваеннай савецкай Беларусі з акцэнтам на яе палітычнае і сацыяльнае развіццё, хуткія працэсы індустрыялізацыі і урбанізацыі[88]. Што датычыць апошняга, Томас Бон падрабязна распавядае пра хуткі рост і развіццё Мінска ў пасляваенны час[89]. У Мінску мясцілася большасць беларускіх ВНУ, выдавецтваў, рэдакцый часопісаў і газет, таму з тэрытарыяльнага гледзішча Мінск займае цэнтральнае месца ў гэтым даследаванні. Вядома, Мінск быў месцам жыхарства большасці інтэлектуалаў, пра якіх гаворыцца ў гэтай кнізе (гл. табліцу 5).

Рышард Радзік лічыць, што грамадства ў БССР было адным з нямногіх, дзе савецкая ідэалогія здолела замяніць сабою нацыянальную ідэю[90]. Як ён гэта падае, у грамадстве з пераважна праваслаўнай абшчыннай культурай эліты мусілі пераняць кіраванне нацыянальнай кансалідацыяй, але не выканалі гэтай місіі ні ў пачатку XX стагоддзя, ні цягам усяго савецкага перыяду[91]. Было б, аднак, няправільна цалкам адмаўляць уплыў інтэлігенцыі. У гэтых адносінах больш

[86] Gimpelevich Z. J. Vasil' Bykaŭ. His Life and Works. Montreal and Kingston: McGill-Queen's University Press, 2005. P. 172–182.

[87] Lewis S. Belarus — Alternative Visions. P. 2.

[88] Urban M. E. An Algebra of Soviet Power. Elite circulation in the Belarusian Republic 1966–1986. Cambridge: Cambridge University Press, 1989; Marples D. R. Belarus: A Denationalized Nation; Ioffe G. Understanding Belarus: Economy and Political Landscape. P. 85–118.

[89] Bohn T. Minsk — Musterstadt des Sozialismus. Stadtplanung und Urbanisierung in der Sowjetunion nach 1945. Köln: Böhlau, 2008.

[90] Радзік Р. Беларусы на фоне нацыятворчых працэсаў. С. 119–120.

[91] Там жа. С. 117, 120–121.

дакладнымі могуць быць прапанаваная філосафам Валянцінам Акудовічам метафара архіпелага («Архіпелаг Беларусь»[92]) або ўяўленне аб інтэлігенцыі як коле (ці асяродку), што разыходзіцца (і звужаецца) у залежнасці ад сацыяльна-палітычных абставінаў і ўспрымальнасці грамадства да тых ці іншых ідэяў, распрацаваная Георгіем Памеранцам[93]. Інтэлігенцыя стварала і падтрымлівала анклавы беларускай культуры і самабытнасці, якія ў розныя часы прыцягвалі большую ці меншую колькасць паслядоўнікаў.

1986 год лічыцца часам, пасля якога апазіцыйная культура распаўсюдзілася сярод шырокіх слаёў савецкага грамадства. Гэта было звязана з паскарэннем перабудовы і, асабліва ў Беларусі і Украіне, з наступствамі ядзернай катастрофы 26 красавіка 1986 года[94]. Часы перабудовы ў БССР і актывізацыя нацыянальнага руху ахопленыя ў работах Рудольфа А. Марка, Дэвіда Марплза, Янкі Запрудніка і палітолага Астрыд Зам. А. Зам успрымае чарнобыльскую трагедыю як пускавы механізм, што выклікаў успышку нацыянальных настрояў[95]. Д. Марплз разглядае перабудову як перыяд нявызначанасці, які не завяршыўся ў Беларусі пасля распаду Савецкага Саюза, а працягваўся і ў першыя гады незалежнасці[96]. Работы Марплза, Зам, Меланi Арнт і Аляксандра Далгоўскага асвятляюць катастрофу на Чарнобыльскай АЭС і яе ўплыў на грамадства[97].

Наяўныя даследаванні антысемітызму ў Савецкім Саюзе засяроджаныя на цэнтры Савецкага Саюза і рэдка — на яго нацыянальных рэспубліках[98]. У 1960–1970-я гады афіцыйны антысемітызм, уласцівы для позняй сталінскай

---

[92] Акудовіч В. Архіпелаг Беларусь // Акудовіч В. Мяне няма. Роздумы на руінах чалавека. Менск: Euroforum, 1998. С. 3–5.

[93] Померанц Г. Человек ниоткуда. С. 104–105.

[94] Survilla M. P. Music From the Embassy to the Underground in Post-Soviet Belarus // Music and Diplomacy From the Early Modern Era to the Present / eds. R. Ahrendt, M. Ferraguto, D. Mihiet. New York: Palgrave Macmillan, 2014. C. 170.

[95] Mark R. A. Die Völker der Sowjetunion: ein Lexicon. Opladen: Westdt. Verlag, 1989; Zaprudnik J. Belarus: at a Crossroads; Sahm A. Die weissrussische Nationalbewegung nach der Katastrophe von Tschernobyl: (1986–1991). Hamburg: Lit, 1994; яна ж: Political Culture and National Symbols: Their Impact on the Belarusian Nation-Building Process // Nationalities Papers. 1999. Vol. 24, issue 4. P. 649–660.

[96] Marples D. Belarus: A Denationalized Nation. P. xi.

[97] Marples D. Belarus from Soviet Rule to Nuclear Catastrophe. Edmonton: The University of Alberta Press, 1996; яго ж: The Social Impact of the Chernobyl Disaster. London: Macmillan Press, 1988; Dalhouski A. Tschernobyl in Belarus. Ökologische Krise und sozialer Kompromiss (1986–1996). Wiesbaden: Harrassowitz, 2015; Politik und Gesellschaft nach Tschernobyl / Arndt M., Hg.; Sahm A. Brücken der Solidarität nach Tschernobyl und Fukushima. Belarussische und ukrainische Beiträge zur Katastrophenbewältigung in Japan // Arndt M. Politik und Gesellschaft nach Tschernobyl. S. 284–296.

[98] Гл., напрыклад, Petersen H.-Ch. Anti-Semitism in Russia and in the Soviet Union // Antisemitism in Eastern Europe / eds. H.-Ch. Petersen, Salzborn S. Frankfurt am Main: Peter Lang, 2010. P. 171–198. Нягледзячы на назву, у артыкуле не разглядаецца становішча ні ў адной з былых савецкіх рэспублік, акрамя РСФСР.

пары, прыціх, але ніколі не знікаў з афіцыйнага дыскурсу. Савецкі антысіянізм узмацніўся з шасцідзённай арабска-ізраільскай вайною ў 1967 годзе і прыхавана доўжыўся да канца 1980-х. Рух за яўрэйскую эміграцыю з СССР, а таксама барацьба «адмоўнікаў»[99] — савецкіх габрэяў, якія хацелі пакінуць Савецкі Саюз, але іх заявы былі адхіленыя, — назіраўся і ў савецкай Беларусі[100]. У той час дзяржаўны антысіянізм і антысемітызм не знаходзілі істотнай падтрымкі сярод нонканфармісцкай інтэлігенцыі[101]. З уздымам нацыянальных рухаў у 1980-х гадах узрасла насцярожанасць у стаўленні да габрэяў. Вядома, што ў сітуацыі, калі вядзецца барацьба за ўласную ідэнтычнасць, найбліжэйшы іншы аказваецца пад пагрозай непрызнання і адмаўлення. Тыповай пасткі «маладых нацыяналізмаў», калі нядаўна прыгнечаныя народы самі пачынаюць варожа ставіцца да іншых, як толькі атрымліваюць шанц на самасцверджанне, не мог цалкам пазбегнуць і беларускі нацыянальны рух.

Як адзначае Пер Андэрс Рудлінг у сваёй працы пра дзейнасць АУН/УПА і месца апошняй у сучаснай украінскай палітыцы памяці, ва Усходняй Еўропе антысемітызм перайшоў межы крайне правай ідэалогіі ды зноў з'явіўся ў асяроддзі дэмакратычна арыентаваных нацыянальных актывістаў[102]. Рудлінг

[99] Рус. «отказники».

[100] Падрабязней аб руху за яўрэйскую эміграцыю гл., напрыклад: Gitelman Z. A Century of Ambivalence. The Jews of Russia and the Soviet Union, 1881 to the Present. 2nd ed. Bloomington: Indiana University Press, 2001. P. 174–195; Ro'I Y. The Jewish Movement in the Soviet Union. Woodrow Wilson and Johns Hokins University, Washington, D.C. & Baltimor, 2012.

[101] Дагэтуль добра даследаваныя антысеміцкія погляды часткі расійскай нонканфармісцкай інтэлігенцыі. Найбольш вядомым прыкладам, верагодна, была «Русофобия» (1982), напісаная і надрукаваная ў самвыдаце вядомым матэматыкам Ігарам Шафарэвічам, і выкліканыя ёю спрэчкі, больш падрабязна гл. у: Horvath R. The Legacy of Soviet Dissent. Dissidents, Democratization and Radical Nationalism in Russia. London; New York: Routledge Curzon, 2005, асабліва ў частцы 4, с. 150–184. Сярод іншых прапагандыстаў антысіянізму і антысемітызму часта называюць Уладзіміра Бегуна, Аляксандра Раманенку, Валерыя Емяльянава і Аляксандра Праханава. Пра Бегуна гл.: Friedman A. Antizionismus und Anti-Masonismus in der Sowjetunion nach dem israelisch-arabischen Sechstagekrieg (1967). Der Verschwörungstheoretiker Vladimir Ja. Begun (1929–1989) // Juden und Geheimnis. Interdisziplinäre Annäherungen / ed. C. Oberhauser. Innsbruck: Innsbruck University Press, 2015. S. 137–151. Пра рускі нацыяналізм у пасляваенны час гл.: O'Connor K. Intellectuals and Apparatchiks. Russian Nationalism and the Gorbachev Revolution. Lanham: Lexington Books, 2006. P. 45–78, 133–164. Для Украіны спроба ўзнавіць гісторыю адносін нацыянальнай інтэлігенцыі да «габрэйскага пытання» на ўздыме нацыянальнага руху была нядаўна зробленая непасрэдным удзельнікам падзей Аляксандрам Буракоўскім. Бураковский А. Хроника эволюции «национальной идеи» Украины и евреи в 1987–2016 годы: книга документальной публицистики. Boston: M. Graphics, 2017. С. 40–77. Яго ж: In Search of a Liberal Polity: the Rukh Council of Nationalities, the Jewish Question, and Ukrainian Independence // East European Jewish Affairs. 2015. Vol. 45, nr. 1. P. 109–131.

[102] Rudling P. A. The OUN, The UPA, and the Holocaust: A Study in Manufacturing of

таксама коратка аналізуе замоўчванне звестак аб Халакосце і «габрэйскім пытанні» наагул у пасляваеннай Беларусі. Ён зазначае, што беларуская эмігранцкая супольнасць, у сваю чаргу, аддавала перавагу этнічнаму разуменню нацыяналізму, у якім у шэрагу выпадкаў прысутнічаў і антысемітызм[103]. Вяртанне памяці аб яўрэйскай Катастрофе ў часы Другой сусветнай вайны і наогул яўрэйскай гісторыі Беларусі таксама могуць быць разгледжаныя як практыкі культурнага супраціву, больш за тое, яны нярэдка заставаліся ў ценю беларускага нацыянальнага праекту. У часе перабудовы Халакост і дыскрымінацыйная савецкая палітыка ў адносінах да габрэйскага насельніцтва ў значнай ступені засланяліся пакутамі беларускага народа, выкліканымі сталінскім генацыдам, а пасля і чарнобыльскай катастрофай[104]. Даследаванні антысемітызму ў Беларусі па-ранейшаму рэдкія[105]. Сярод эмігранцкіх навукоўцаў, мабыць, найактыўней піша пра гісторыю габрэйскай супольнасці Беларусі Леанід Смілавіцкі[106]. Беларускія выданні ўключаюць работы Эмануіла Іофэ і Якава Басіна па гісторыі габрэяў Беларусі ды інтэрпрэтацыі Халакосту ў савецкай гістарыяграфіі[107].

---

Historical Myths // The Carl Beck Papers in Russian and East European Studies. Nr 2107. Pittsburgh: University Center for Russian and East European Studies, 2011, асабліва с. 25–32.

[103] Рудлінг П. А. Непрыкметны генацыд: халакост у Беларусі // Архэ. 2013. № 2. С. 129–131. Адным з такіх эмігранцкіх выданняў ёсць Ostrowski W. Anti-Semitism in Byelorussia and its Origin. London: Byelorussian Central Council, 1960.

[104] Рудлінг П. А. Непрыкметны генацыд… С. 131–132. Аб ужыванні тэрміна «генацыд» у тэкстах беларускіх нацыяналістаў гл.: Goujon A. «Genocide»: A Rallying Cry in Belarus: A Rhetoric Analysis of Some Belarusian Nationalist Texts // Journal of Genocide Research. 1999. Nr. 3. P. 353–366.

[105] Пяты нумар часопіса «Архэ» ў 2008 годзе быў прысвячаны тэме «Беларусь пад нямецкай акупацыяй». У гэтым нумары, сярод іншага, абмяркоўваюцца Халакост і трагедыя беларускага габрэйства. Публікацыі на гэтую тэму рэгулярна з'яўляюцца ў «Беларускім гістарычным аглядзе» пад рэдакцыяй Генадзя Сагановіча. Сагановіч выступіў з ініцыятывай перакладу манаграфіі Бернарда К'яры, якою распачалося даследаванне вынішчэння беларускіх габрэяў. Гл.: Chiari B. Alltag hinter der Front. Besatzung, Kollaboration und Widerstand in Weißrussland 1941–1944. Düsseldorf: Droste, 1998. S. 231–269. Па-беларуску кніга была выдадзеная як: К'яры Б. Штодзённасць за лініяй фронту: акупацыя, калабарацыя і супраціў у Беларусі (1941–1944). Мінск: Беларускі гістарычны агляд, 2005 (2-е выд. — 2008).

[106] Яго творы ўключаюць: Смиловицкий Л. Катастрофа евреев в Белоруссии 1941–1944. Тель-Авив: Библиотека Матвея Чёрного, 2000; Jewish Life in Belarus: The Final Decade of Stalin Regime (1944–53); Antisemitism in the Soviet Partisan Movement, 1941–1944: The Case of Belorussia // Holocaust and Genocide Studies. 2006. № 20. P. 207–234.

[107] Иоффе Э. Страницы истории евреев в Беларуси. Минск, 1996; яго ж: Актуальные вопросы изучения Холокоста на территории советской Белоруссии // Актуальные вопросы изучения Холокоста на территории Беларуси в годы немецко-фашистской окупации / под ред. Я. Басина. Минск: Ковчег, 2006; Басин Я. Большевизм и евреи: Белоруссия, 1920-е. Минск: Вараксин, 2008. Таксама пра антысемітызм у савецкай Беларусі ў першай палове XX стагоддзя гл.: Шварц С. Антисемитизм в Советском

## 1.4. КРЫНІЦЫ

У адрозненне ад гісторыі іншых посткамуністычных краін, асабліва Расіі, Польшчы і Чэхіі, самвыдаты з БССР дагэтуль не прыцягвалі вялікай увагі. Нягледзячы на тое, што ўжо было некалькі спроб стварыць збор беларускага самвыдату, гэта ўсё яшчэ толькі паступовыя крокі да складання паўнавартаснай базы дадзеных пазацэнзурнай літаратуры[108]. Такім чынам, класіфікацыя і апісанне самвыдату сталі неад’емнай часткай маёй работы з крыніцамі (гл. табліцы 2, 3 і 4).

Вядома, пазацэнзурныя выданні 1968–1988 гадоў у БССР даволі рэдкія і нерэгулярныя, але іх якасць і разнастайнасць падрывае агульнапрынятае меркаванне пра «адсутнасць беларускага самвыдату». Не ўсе самвыдаты захаваліся. Некаторыя з іх вядомыя толькі па апісаннях іх вытворцаў, бо былі канфіскаваныя і, меркавана, засакрэчаныя ў архівах КДБ[109]. Магчыма дапусціць, што не кожны вытворца меў разуменне гістарычнай каштоўнасці друкаваных або рукапісных матэрыялаў пры іх вырабе. У большасці з іх наўрад ці існавала культура ці культ самвыдату. Самаробныя і самапамножаныя выданні з’яўляліся як неадкладныя акты пратэсту, дзеля забавы або проста праз адсутнасць сродкаў і

Союзе. Нью-Йорк: Изд-во им. Чехова, 1952. С. 28–33, 78–79, 76–79 і далее; Sloin A. The Jewish Revolution in Belorussia. Economy, race, and Bolshevik power. Bloomington; Indianapolis, Indiana University Press: 2017. P. 209–237.

[108] У сувязі з гэтым варта згадаць намаганні Архіва найноўшае гісторыі — грамадскай арганізацыі, заснаванай Беларускім гуманітарным фондам «Наша ніва». У архіве, заснаваным у 1996 годзе, захоўваюцца вялікія зборы відэа-, фотаздымкаў і тэкставыя фонды, якія праліваюць святло на нонканфармісцкі рух у Беларусі на працягу XX стагоддзя. Архіў найноўшае гісторыі спыніў існаванне ў якасці грамадскай арганізацыі ў пачатку 2000-х. Алічбаваныя фонды знаходзяцца ў вольным доступе на інтэрнэт-платформе www.vytoki.net. Лічбавы архіў засяроджаны на гісторыі праваабарончых аб’яднанняў, а таксама на сацыяльных і вызвольных рухах. Гл. «Дэкларацыя», у «Грамадзкі вэб-архіў “Вытокі”». URL: http://vytoki.net/?page_id=3156 (дата звароту: 13.09.2016). Спробы сабраць матэрыялы і крыніцы аб «беларускім супраціве» савецкаму ладу была таксама зробленая на старонках альманаха «Veritas» — Бюлетэнь беларускага грамадскага аб’яднання «Ветэраны Адраджэння» (2003–2006), галоўны рэдактар Зміцер Санько (нар. у 1949). Частка самвыдацкай перыёдыкі, што паходзіць з Беларусі, была занесеная ў каталог навукова-даследчага праекта «Soviet Samizdat Periodicals» ва Універсітэце Таронта, кіраванага доктаркай Эн Камаромі. Гл.: Soviet Samizdat Periodicals. Uncensored Texts of the Late Soviet Era / University of Toronto Libraries. URL: http://samizdat.library.utoronto.ca/ (дата звароту: 30.09.2015).

[109] Архівы КДБ у Беларусі былі даступныя абраным даследчыкам і журналістам у першай палове 1990-х гадоў. Пасля жнівеньскай спробы дзяржаўнага перавароту партыйныя органы і КДБ былі вымушаныя саступіць патрабаванням апазіцыі. Сябры Камісіі па правах ахвяр палітычных рэпрэсій, што паўстала пры Вярхоўным Савеце БССР 12-га скліканння ў 1990 годзе, таксама маглі даследаваць некаторыя архівы КДБ. Сярод іх быў і журналіст Аляксандр Лукашук. Лукашук А. За кіпучай чэкісцкай работай. З жыцця катаў. Мінск: Наша Ніва, 1997. С. 66.

сувязяў, што дазвалялі атрымаць афіцыйна выробленыя асобнікі лепшай якасці[110]. Матэрыяльная абалонка мела меншае значэнне, чым змест, які неабходна было як мага хутчэй «праглынуць» і назапасіць — яшчэ і таму, што фізічнае валоданне матэрыялам уяўляла патэнцыйную пагрозу для яго ўладальніка.

Некаторыя самвыдаты захаваліся ў лічбавых копіях і даступныя ў інтэрнэце. У гэтым плане таксама варта ўлічваць кантэкст: у Беларусі, як і ў некаторых іншых постсацыялістычных рэспубліках, правілы і разуменне правоў аўтарства адрозніваюцца ад правіл у Заходняй Еўропе. Узнікненне новых тэхналогій камунікацыі дало ўсходнееўрапейскім аўтарам і былым дзеячам самвыдату такія магчымасці для публікацыі, якіх не было раней. Калі даследаванні і збор гісторый іншадумства і супраціву не выклікаюць цікавасці дзяржаўных архіваў ці навукова-даследчых устаноў, сваю справу робяць невялікія прыватныя ініцыятывы і новыя лічбавыя тэхналогіі[111].

У заходніх даследаваннях 1986–1987 гады пазначаюцца як час завяршэння эпохі самвыдату. Аднак гэта не зусім адпавядае сітуацыі ў савецкай Беларусі. Пасля частковага зняцця дзяржаўнай цэнзуры ў СССР у 1988 годзе і ўзмацнення палітыкі галоснасці афіцыйныя перыядычныя выданні ў БССР паступова адкрылі свае старонкі для «альтэрнатыўных» матэрыялаў[112]. У той жа час і ў Мінску, і ў абласных і раённых цэнтрах у геаметрычнай прагрэсіі расла колькасць самавыдавецкай літаратуры.

Пачынаючы з 1988 года было б больш дакладным апісваць такую літаратуру як пазацэнзурную, а не як нелегальную. Прымаючы пад увагу антыдэмакратычныя погляды беларускай наменклатуры, падрыхтоўка і распаўсюд самвыдату на той час усё яшчэ патрабавалі пэўнай мужнасці. І ўсё ж усяго толькі на некалькі гадоў раней вытворчасць незаконнага матэрыялу ставіла яго вытворцаў пад пагрозу арышту і пераследу[113].

[110] Першая і другая прычыны былі згаданыя адным з вытворцаў самвыдату, Сяргеем Астраўцовым, у ліставанні з аўтаркай. Электронныя лісты Сяргея Астраўцова аўтарцы ад 21 снежня 2018 года і 16 студзеня 2019 года.

[111] Аб крытыцы лічбавых крыніц гл.: Föhr P. Historische Quellen Kritik im digitallen Zeitalter: Dissertation zur Erlangung der Würde eines Doktors der Philosophie / Philosophish-Historische Fakultät der Universität Basel. Basel, 2018. URL: https://edoc.unibas.ch/64111/1/F%C3%B6hr_Pascal-Historische_Quellenkritik_im_Digitalen_Zeitalter-2018.pdf (дата звароту 18.02.2019).

[112] Першы артыкул, дзе абмяркоўваліся памеры сталінскіх чыстак у Беларусі, з’явіўся ў афіцыйнай прэсе ў снежні 1987 года. Гл.: Узяць з гісторыі агонь // Звязда. 1987. 22 снеж.

[113] У лютым 2015 года вэб-партал www.mediakritika.by распачаў праект, прысвячаны гісторыі беларускага самвыдату, некалькі пазацэнзурных выданняў для якога апісаў і прадставіў журналіст Дзяніс Лаўнікевіч. Па стане на красавік 2019 года агляд абмяжоўваўся газетамі і часопісамі, якія выходзілі ў 1988–1992 гадах. Гл.: Лаўнікевіч Д. Гісторыя беларускага самвыдату / Медиакритика. URL: http://mediakritika.by/category/history (дата звароту: 02.10.2015). Каталог бібліятэк Універсітэта Таронта спасылаец-

Гэтае даследаванне засноўвалася на самвыдаце, пазацэнзурных выданнях і адкрытых лістах інтэлігенцыі, палемічных артыкулах, абмеркаваннях і афіцыйных, збольшага апублікаваных дакументах, а таксама на справаздачах і матэрыялах даследаванняў Радыё «Свабодная Еўропа» / «Радыё Свабода» (RFE/RL), якія захоўваюцца ў «Архіве адкрытага грамадства» (OSA) у Будапешце[114]. Дзеля мэтаў гэтага даследавання і сістэматызацыі самвыдату выкарыстоўваліся таксама зборы архіва «Цэнтра даследаванняў Усходняй Еўропы» (FSO) у Брэмене, Беларускага архіва найноўшай гісторыі, а таксама некалькі асабістых фондаў у Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва (БДАМЛМ).

Пазацэнзурныя беларускія нефармальныя перыядычныя выданні даступныя ў архівах FSO. Беларускае гістарычнае таварыства ў Беластоку алічбавала вялікую колькасць савецкіх газет і часопісаў і зрабіла іх агульнадаступнымі. Акрамя таго, бібліятэка валодае вялікім зборам кніг і недзяржаўных выданняў часоў незалежнасці[115]. Некаторыя пазацэнзурныя друкаваныя матэрыялы і самы вялікі збор афіцыйных газет і часопісаў, выдадзеных у БССР, захоўваюцца ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі.

Другая значная група крыніц, на якую я абапіраюся, пішучы пра інтэлігенцыю і нонканфармісцкія дыскурсы ў БССР, — аўтабіяграфіі і мемуары выбітных інтэлектуалаў таго часу, іх дзённікі, нататкі і лісты, напісаныя ў 1968–1988 гадах[116]. Напрыклад, ліставанні Алеся Адамовіча і Васіля Быкава, Быкава і Аляксандра Твардоўскага, а таксама Зоські Верас (Людвіка Сівіцкая, 1892–1991) і Ларысы Геніюш; большасць з іх былі сабраныя і надрукаваныя дзякуючы намаганням беларускіх навукоўцаў і энтузіястаў — Міхася Скоблы, Сяргея Шапрана ды іншых. У заснаваным у 2002 годзе літаратурным часопісе «Дзеяслоў» друкаваліся ўспаміны і лісты Быкава, Уладзіміра Караткевіча, Рыгора Барадуліна (1935–2014) ды іншых выдатных інтэлектуалаў савецкіх часоў. Я таксама звярталася да раней невядомых лістоў беларускіх пісьменнікаў балгарскаму літаратуразнаўцу Георгію Вылчаву (нар. у 1926), якія захоўваюцца ў архіве FSO і ў Нацыянальнай бібліятэцы Фінляндыі[117]. Асноўная частка

ца на перыядычныя самвыдаты, выдадзеныя да 1986 года. Гл.: Komaromi A. Soviet Samizdat Periodicals. Падобным чынам, у архіве FSO пазацэнзурная літаратура пасля 1986 года пазначаная як «informelle Periodika der Perestroikazeit».

114 З 1949 па 1995 год знаходзіліся ў Мюнхене. У 1954 годзе з’явілася Беларуская служба Радыё «Свабода». У 1976 годзе дзве радыёстанцыі былі аб’яднаныя ў адну.

115 Лічбавыя газеты, часопісы і кнігі даступныя на сайце www.kamunikat.org.

116 Аб крытыцы і асаблівасцях даследавання ўспамінаў савецкай інтэлігенцыі гл.: Walker B. On Reading Soviet Memoirs: A History of the «Contemporaries» Genre as an Institution of Russian Intelligentsia Culture from the 1970s to the 1970s // The Russian Review. 2000. July, № 59. P. 327–352.

117 FSO 01-242, Kostezky і Sl. Ms. 93-1, Georgii V”lchev у Нацыянальнай бібліятэцы Фінляндыі. Я ўдзячная Марыі Класен і Алегу Сідарэнку, якія звярнулі маю ўвагу на гэтыя зборы.

перапіскі складаецца з лістоў, дасыланых Г. Вылчаву Васілём Быкавым[118]. І сам Вылчаў, і захальнік першай часткі архіву ўкраінскі эмігранцкі пісьменнік і выдавец Ігар Кастэцкі (1913–1983) надавалі вялікае значэнне гэтаму ліставанню[119]. Кастэцкі лічыў гэтыя лісты «дакументам асабістым і дакументам эпохі»[120].

Хаця лісты позняга савецкага перыяду былі і застаюцца галоўным адлюстраваннем меркаванняў і ідэй інтэлігенцыі, не след забываць аб заўсёднай рызыцы іх знаходжання і прагляду спецслужбамі. Удзельнікі перапіскі ў асноўным карысталіся эзопавай мовай, намёкамі і алегорыямі. Тое ж адчуваецца і ў перапісцы паміж сябрамі. Успаміны, апублікаваныя адразу пасля распаду Савецкага Саюза, пісаліся адкрыта і таму часта ўтрымліваюць больш звестак. З іншага боку, значэнне некаторых фактаў і падзей у іх часам магло перабольшвацца[121].

Кола беларускай нонканфармісцкай інтэлігенцыі было дастаткова абмежаваным і нешматлікім. Многія з тых, чые ідэі знаходзяцца ў цэнтры ўвагі гэтага даследавання, заставаліся вядомымі грамадскімі дзеячамі і ў постсавецкай Беларусі. Як вынік, яны неаднаразова апытваліся журналістамі і даследчыкамі ў 1990-я і 2000-я гады. Я выкарыстоўвала гэтыя інтэрв'ю ў якасці дадатковых крыніц. Асабліва каштоўнай ёсць кніга «Іншадумцы», што складаецца з інтэрв'ю, узятых і выдадзеных журналістам Аляксандрам Уліцёнкам (нар. у 1954) у 1991 годзе[122]. У гэтых інтэрв'ю ўдалося схапіць непасрэдны момант пераходу да новай эпохі і стаўленне інтэлігенцыі (са сваімі хібамі і перабольшваннямі) да феномена «іншадумства». Акрамя таго, важнай крыніцай былі інтэрв'ю, узятыя Юрасём Залоскам, Зінай Гімпелевіч, Сяргеем Шапранам, Малгажатай Ноцунь, Анджэем Бжэзецкім, Аляксандрам Тамковічам ды іншымі[123].

---

[118] «В. Быков — Г. Вылчеву» // FSO 01-242, Kostezky.

[119] Укр. Ігор Костецький, сапраўднае прозвішча Мерзляков. У 1942 годзе вывезены на прымусовыя працы ў Германію, дзе застаўся пасля вайны. У канцы 1950-х разам з жонкай пісьменніцай Элізабэт Котмаер заснаваў выдавецтва «На горі», якое спецыялізавалася на выданні ўкраінскай літаратуры і перакладаў на ўкраінскую мову. Вылчаў ліставаўся з Кастэцкім і радзіўся з ім наконт магчымасці выдання лістоў В. Быкава.

[120] «І. Костецкий — Г. Вылчеву».

[121] Walker B. On Reading Soviet Memoirs. Пра змест аўтабіяграфій савецкіх беларускіх пісьменнікаў гл.: Левицкий А. Осмысление советской культуры через автобиографию в независимой Беларуси // Историк в историческом и историографическом времени / под ред. Г. П. Мягкова [и др.]. Казань: Казанский федеральный университет, 2013. С. 374–378.

[122] Улитёнок А. Іншадумцы = Мыслящие иначе. Мінск: Беларусь, 1991. У 1992 годзе Уліцёнак атрымаў за гэтую кнігу Дзяржаўную прэмію Рэспублікі Беларусь.

[123] Залоска Ю. Праўда як рэлігія. Гутаркі з Васілём Быкавым. Мінск: Медысонт, 2010; Gimpelevich Z. Vasil' Bykaŭ; Шапран С. Васіль Быкаў. Гісторыя жыцця ў дакументах, публікацыях, успамінах, лістах. Ч. І і ІІ. Мінск; Гародня: Łódzka Drukarnia Dziełowa, 2009; Тамковіч А. Інтэрв'ю, якіх не было. Санкт-Петербург: Невский

Нарэшце, даследаванне ўлічвае і тыя творы беларускай інтэлігенцыі, якія былі афіцыйна выдадзеныя ў савецкай Беларусі і Савецкім Саюзе (беларускаму выданню часта папярэднічаў рускі пераклад). Як сцвярджае гісторык Балаш Трэнчэны, для інтэлігенцыі сацыялістычнага блока літаратура была не проста вынікам творчай фантазіі, але мела і магутную палітычную функцыю[124]. Істотнымі крыніцамі інфармацыі з'яўляюцца таксама афіцыйныя выдавецкія органы Саюзаў пісьменнікаў БССР і СССР — як, напрыклад, «Полымя», «Літаратура і мастацтва» і «Новый мир». На пачатку перабудовы ўплыў сярод інтэлігенцыі мелі «Парус» (да 1987 года — «Рабочая смена»), «Крыніца» і маскоўскія «Литературная газета», «Огонёк» і «Московские новости».

### 1.5. ПЕРЫЯДЫЗАЦЫЯ І СТРУКТУРА

Даследаванне ахоплівае прамежак з 1968 па 1988 год, яно пачынаецца з Пражскай вясны і рэакцыі беларускай інтэлігенцыі на яе і завяршаецца 1988 годам, так званай «восенню народаў» перад самым распадам Усходняга блока і рэвалюцыямі ва Усходняй і Цэнтральнай Еўропе. У 1968 годзе былы выкладчык беларускай літаратуры Мікола Ермаловіч напісаў нарыс, у якім прадставіў беларускую версію гісторыі Вялікага Княства Літоўскага. Яна супярэчыла афіцыйнаму наратыву, не была надрукаваная і распаўсюджвалася ў самвыдаце цягам дваццаці гадоў. Гэтую падзею можна лічыць пачаткам беларускага самвыдату. 1988 год стаў сярэдняй кропкай перабудовы ў СССР; але што больш важна — гэта быў год, калі былі паслабленыя цэнзурныя абмежаванні, а самвыдат саступіў месца неафіцыйным і афіцыйным перыядычным і неперыядычным выданням. На XIX Усесаюзнай партыйнай канферэнцыі, што адбылася ўлетку 1988 года, была прынятая рэзалюцыя аб «галоснасці». На ёй жа абмяркоўваліся і шляхі пабудовы «сацыялістычнай прававой дзяржавы»[125]. Як зазначае гісторык Юлія Русіна, канферэнцыя каталізавала пераход ад падпольных выданняў да адкрытай прэсы[126]. У БССР гэты год стаў пераломным,

простор, 2009; Кулинка Н., Федотова Н. Время несбывшихся надежд. 17 интервью с белорусскими журналистами о 1990-х. Вільня: Логвінаў, 2014; Ноцунь М., Бжэзецкі А. Зрабаваны народ. Размовы з беларускімі інтэлектуаламі. Гародня; Уроцлаў: Гарадзенскі рух «За Свабоду», 2008. Першапачаткова выдадзена на польскай мове як: Brzeziecki A., Nocuń M. Ograbiony naród. Rozmowy z intelektualistami białoruskimi. Wrocław: Kolegium Europy Wschodniej, 2007.

[124] Balácz Trencsényi [et al.] History of Modern Political Thought. Vol. II (Oxford University Press). P. 10 (у друку).

[125] Quigley J. Soviet Union as a State Under the Rule of Law: An Overview // Cornell International Law Journal. 1990. Vol. 23, № 2. P. 205.

[126] Русина Я. А. Пресса 1987–1991 гг. о диссидентах: размышления над источником // Документ. Архив. История. Современность. Вып. 3. Екатеринбург: Изд-во Уральского ун-та, 2003. С. 191.

менавіта тады культурны супраціў інтэлігенцыі перайшоў у форму арганізаванага палітычнага руху.

Гэтая кніга складаецца з шасці раздзелаў — уводзіны, чатыры асноўныя раздзелы і заключэнне.

Ва ўводзінах, з якімі чытач ужо пазнаёміўся, я абмяркоўваю, чаму іншадумства і самвыдат у савецкай Беларусі дагэтуль не атрымалі ў літаратуры дастатковай увагі, а таксама стаўлю пытанне пра магчымасць іх вывучэння ў кантэксце гісторыі дысідэнцтва ва Усходняй і Цэнтральнай Еўропе. Наступныя часткі гэтага раздзела прысвечаныя разгляду гістарыяграфіі, крыніцаў і хрыналагічных рамак даследавання.

Наступны раздзел ёсць спробай апісання катэксту, у якім узнікае іншадумства ў БССР ад Пражскай вясны да сярэдзіны перабудовы. У гэтым раздзеле, сцвярджаецца, што пачынаючы з 1968 года і нягледзячы на намаганні савецкіх прапагандысцкіх інстытутаў у савецкай Беларусі ўзнікаюць і пашыраюцца разнастайныя формы культурнага супраціву. Далей коратка разглядаецца пытанне аб рэлігіі ды рэлігійным нонканфармізме ў БССР.

У трэцім раздзеле гаворка ідзе пра ідэі і жыццяпісы выбранай колькасці інтэлектуалаў, якія прадстаўляюць шматгранную карціну іншадумства ў савецкай Беларусі. Далей у ім надаецца ўвага нефармальным моладзевым аб’яднанням, якія пачалі з’яўляцца ў пачатку 1980-х гадоў. Нарэшце, разглядаецца пытанне аб дарэчнасці самаапісальных паняццяў «інтэлігенцыя» ды «інтэлектуал» у беларускім кантэксце і іх трансфармацыя падчас працэсаў перабудовы ў савецкім грамадстве.

Чацвёрты раздзел прысвечаны самвыдату як дзейнасці, што перасягала культурныя і палітычныя межы. Я разглядаю тэхніку вырабу і распаўсюду самвыдату ў БССР, а таксама ўплыў на яго іншых дысідэнцкіх супольнасцяў. У другой частцы гэтага раздзела аналізуюцца перыядычныя і неперыядычныя сам- і тамвыдаты ў сферах гісторыі, палітычнай асветы, філасофіі і літаратуры. У заключнай частцы раздзела абмяркоўваецца, якім чынам надыход перабудовы змяніў афіцыйны друк у савецкай Беларусі.

У пятым раздзеле вывучаецца рэакцыя інтэлектуалаў на савецкую палітыку антысемітызму і антысіянізму і чарнобыльскую катастрофу.

У заключэнні прыводзіцца падагульненне вынікаў і абмяркоўваюцца перспектывы далейшых даследаванняў у сферы культурнага іншадумства і самвыдату ў савецкай Беларусі. Таксама ў ім сцвярджаецца, што патрэба ў пазацэнзурных публікацыях зноў стала адчувальнай у постсавецкай Беларусі, і ставіцца пытанне аб тым, як змянілася становішча з распаўсюджваннем новых камунікацыйных тэхналогій, асабліва інтэрнэту.

# 2. АД ПРАЖСКАЙ ВЯСНЫ ДА «ВОСЕНІ НАРОДАЎ», 1968–1988 ГАДЫ

## 2.1. ВЫНІКІ ХРУШЧОЎСКАЙ АДЛІГІ

Як і паўсюль у Савецкім Саюзе, у БССР «Сакрэтны даклад» Мікіты Хрушчова на XX з’ездзе партыі 25 лютага 1956 года надаў новы імпэт нонканфармізму і разнастайным праявам нязгоды з камуністычнай ідэалогіяй. Для большасці інтэлігенцыі Сакрэтны даклад, як толькі ён стаў агульнадаступным, зрабіў магчымай саму ідэю свабоднага мыслення. На XXII з’ездзе КПСС, што адбыўся ў кастрычніку 1961 года, была прадстаўленая змененая палітыка партыі ў выглядзе Трэцяй партыйнай праграмы. Як меркавалася ў праграме, у наступным пакаленні ў СССР мела паўстаць сапраўднае камуністычнае грамадства, маючы сваім вынікам сімбіёз культур, нацыянальнасцяў і моў[1]. Гэтыя две падзеі былі вызначальнымі для ўнутранай палітыкі СССР пад час праўлення М. Хрушчова і, адначасова, адлюстроўвалі яе супярэчлівасць.

Сучасныя гісторыкі схільныя разглядаць так званую хрушчоўскую лібералізацыю, ці адлігу (оттепель), канца 1950-х — пачатку 1960-х гадоў у СССР як фрагментарную і няўстойлівую. Нават калі мяняліся іх размах і якасць, рэакцыя і рэпрэсіі не спыняліся, хіба што фізічны тэрор замяняўся больш дзейсным калектыўным уціскам[2]. Нягледзячы на частковае паслабленне палітычнага рэжыму, гэты перыяд у гісторыі савецкай Беларусі таксама вызначаўся непаслядоўнасцю. З’явіліся магчымасці для больш адкрытага абмену думкамі, які, аднак, спыняўся пры першых прыкметах нязгоды.

З аднаго боку, пачаўся працэс вызвалення і рэабілітацыі зняволеных

[1] Программа Коммунистической партии, с. 65–66, 112–113.

[2] Bohn T., Einax R., Abeßer M. From Stalinist Terror to Collective Constraints. ‘Homo Soveticus’ and the ‘Soviet People’ after Stalin // De-Stalinization Reconsidered / Bohn [et al.]. P. 11.

ГУЛАГа і, прынамсі ў нейкай ступені, была прызнаная правамернасць крытыкі сталінскіх чыстак. Усё гэта ўнесла ў беларускія мастацтва і літаратуру новыя тэмы, якія адхіляліся ад сацыялістычнага рэалізму, і паспрыяла з'яўленню новых прадметаў і напрамкаў даследаванняў у сферы гуманітарных навук.

З іншага боку, з новай сілай аднавіўся працэс русіфікацыі. Вядома, што падчас візіту ў Мінск у 1959 годзе Першы сакратар ЦК КПСС М. Хрушчоў выказаў меркаванне, што чым хутчэй савецкія людзі пяройдуць на рускую мову, тым хутчэй прыйдзе камунізм. Усяго за два гады да гэтага Савет Міністраў БССР прыняў рашэнне ў чарговы раз змяніць беларускі правапіс[3]. Ужо ў 1962 годзе эміграцкі літаратуразнаўца Станіслаў Станкевіч заўважыў два галоўныя наступствы працэсу русіфікацыі ў савецкай Беларусі: публічнае ўжыванне беларускай мовы ўстойліва змяншалася, а літаратурная мова скажалася дзеля набліжэння яе да рускай[4].

Паводле савецкай статыстыкі, у 1959 годзе ў БССР каля 84 адсоткаў этнічных беларусаў прызналі роднай мовай беларускую (к 1979 году гэтая колькасць зменшылася на 10 адсоткаў)[5]. У той жа час няспынна расла колькасць беларусаў, якія засвойвалі рускую мову як «другую родную»: яна ўзрасла з 49 адсоткаў у 1970 годзе да 57 адсоткаў у 1979 годзе. У Беларусі гэты паказнік быў найвышэйшы сярод усіх нацыянальных рэспублік[6].

Акрамя гістарычных прычын абмежаванага ўжывання беларускай мовы і хуткага пашырэння рускай, варта мець на ўвазе і культурна-асветніцкую палітыку мясцовых уладаў. У большасці выпадкаў яны падтрымлівалі ці нават апярэджвалі загады цэнтральных уладаў з Масквы.

Разам з тым спробы зліцця дзвюх моў выклiка́лі супраціў інтэлігенцыі. У той час, калі беларуская мова выкаранялася як традыцыйная мова сельскага насельніцтва, яна развівалася і квітнела ў літаратуры. Таксама, нягледзячы на спробы ўладаў падавіць нязгоду і супраціў, дэмакратызацыя жыцця ў СССР у

[3] Пастанова Савета Міністраў БССР «Аб удакладненні і частковых зменах існуючага беларускага правапісу». Новы правапіс з'явіўся ў 1959 годзе ў брашуры Інстытута мовазнаўства АН БССР «Правілы беларускай арфаграфіі і пунктуацыі» (Мінск: Выд-ва Акадэміі навук БССР, 1959).

[4] Станкевіч С. Русіфікацыя беларускае мовы ў БССР і супраціў русіфікацыйнаму працэсу. Мінск: Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны, 1994. Упершыню апублікавана ў «Запісах Беларускага інстытуту навукі і мастацтва» (Мюнхен, 1962).

[5] Гэты, здавалася б, вялікі адсотак траціць сваю пераканаўчасць пры параўнанні з іншымі нацыянальнымі рэспублікамі. У кожнай з іх адсотак прадстаўнікоў тытульных нацый, якія захавалі сваю першую мову (іншымі словамі — прызнавалі яе роднай), быў значна вышэйшы. Так, у 1979 годзе ва Украіне, якая займала другое месца знізу, гэты паказнік складаў 82,2 адсотка, на трэцім месцы знізу знаходзілася Арменія з 90,7 адсотка.

[6] Tabelle 8: Nationen und Sprachen // Simon G. Nationalismus und Nationalitätenpolitik in der Sowjetunion. Von der totalitären Diktatur zur nachstalinschen Gesellschaft. Baden-Baden: Nomos, 1986. S. 436.

значнай меры падагравалася і працэсамі мадэрнізацыі, якія кіраўніцтва КПСС натуральна прыспешвала[7].

Моўнае становішча ў БССР стала лейтматывам грамадскіх абмеркаванняў, якія, у сваю чаргу, аказаліся найбольш істотным паказнікам лібералізацыі, што пачалася ў канцы 1950-х гадоў. Моўнае пытанне заставалася адзінай прасторай, дзе беларуская творчая інтэлігенцыя, у прыватнасці пісьменнікі, асмельвалася выказвацца, а таксама магла спадзявацца, што яе выслухаюць. На кароткі час гэтая надзея натхнялася і ваганнямі партыйнага кіраўніцтва ў выніку смерці І. Сталіна[8].

Але нават пазней нацыянальная палітыка КПСС была супярэчлівай. Аляксей Мілер сцвярджае, што гэтая супярэчлівасць засноўвалася на дзвюх процілеглых ідэях:

> навязванне рускай мовы і савецкай культуры спалучалася з сістэмай замацавання нацыянальнай ідэнтычнасці, што перакрывала магчымасць поўнай асіміляцыі[9].

Паслабленні М. Хрушчова сялянам, хуткая індустрыялізацыя (што патрабавала вялікай колькасці працоўных рук) і новыя магчымасці пераезду з вёсак у вялікія гарады вы́клікалі бурную урбанізацыю, якая карэнным чынам змяніла сацыяльнае атачэнне беларускай інтэлігенцыі.

Атрыманне асветы было яшчэ адною магчымасцю пазбегнуць цяжкага і ўбогага жыцця ў калгасах, якія ствараліся збольшага прымусова. Інтэлігенцыя 1960-х гадоў была апошнім пакаленнем, што пераважна паходзіла з сялянскіх сем’яў (гл. табліцу 5). Як узгадваў літаратуразнаўца Сямён Букчын, у 1961 годзе ён быў адзіным ураджэнцам Мінска, які паступіў на факультэт журналістыкі БДУ, тады як пераважная большасць студэнтаў прыехалі з вёсак[10]. Становішча ў корані змянілася ў наступным пакаленні, калі, як адзначыў Алесь Адамовіч, «знік цэлы кантынент, званы сялянствам»[11].

У першыя гады адлігі аднавіліся спрэчкі пра беларускую мову. З рознай

---

[7] Beyrau D. Die befreiende Tat des Wortes // Samizdat. Alternative Kultur in Zentral- und Osteuropa / ed. W. Eichwede. Bremen: Edition Temmen. S. 30.

[8] Einax R. Entstalisierung auf Weißrussisch. Wiesbaden: Harrassowitz, 2014. S. 103–118.

[9] Miller A. ‘Russifications?’ In Search for Adequate Analytical Categories // Imperienvergleich. Beispiele und Ansätze aus osteuropäischer Perspektive : Festschrift für Andreas Kappeler / ed. G. Hausman and A. Rustemeyer. Wiesbaden: Harrassowitz, 2009. S. 141.

[10] Семён Букчин // Тамковіч А. Інтэрв’ю. С. 15–16.

[11] Адамовіч А. З кнігі «Браму скарбаў сваіх адчыняю» // Ліс А., Саламевіч Я. Максім Гарэцкі. С. 126.

сілай яны працягваліся ў савецкія і постсавецкія часы, застаючыся крыніцай разыходжанняў паміж уладамі ды інтэлігенцыяй[12].

У 1955–1956 гадах выкладчык Гродзенскага педагагічнага ўніверсітэта Браніслаў Ржэўскі (1905–1980) пісаў ананімныя звароты з крытыкай нацыянальнай палітыкі БССР. Ён адпраўляў запыты ўладам БССР, вядомым прадстаўнікам творчай інтэлігенцыі, а таксама ў рэспубліканскія і цэнтральныя газеты[13]. У сваіх зваротах Ржэўскі заклікаў вярнуцца да ленінскай нацыянальнай палітыкі, якая, на яго думку, яшчэ ў 1928–1930-х гадах была замененая на сталінскую, а менавіта ў апошняй праявілася ўсё «шкоднае і антынароднае»[14]. Даволі хутка яго арыштавалі і правялі вобшук. У яго бібліятэцы знайшлі беларускія кнігі, выдадзеныя ў Другой Польскай рэспубліцы і падчас Другой сусветнай вайны. Як ідэалагічна шкодныя былі ацэненыя «Беларускі тэатр» (Вільня, 1924) Францішка Аляхновіча і «Крыўя-Беларусь у мінуласьці» (Менск, 1942) Яна Станкевіча[15]. І драматург і тэатразнаўца Ф. Аляхновіч (1883–1944), найбольш вядомы па аўтабіяграфічнай аповесці «У капцюрох ГПУ», і мовазнаўца, доктар філалогіі Ян Станкевіч (1891–1976) былі ўключаныя ў спіс забароненых на той час у СССР аўтараў[16].

25 сакавіка 1957 года пастановай Гродзенскага абласнога суда Б. Ржэўскі быў прызнаны вінаватым у «злобным паклёпе на савецкі грамадскі лад, савец-

---

[12] Баршчэўская Н. Беларуская эміграцыя — абаронца роднае мовы. Варшава: MWM, 2004. С. 153–154; Станкевіч С. Русіфікацыя. С. 11. Падрабязней аб змене статусу рускай і беларускай моў падчас пасляваеннай мадэрнізацыі і урбанізацыі на прыкладзе Гродна гл.: Ackermann F. Palimpsest Grodno. Nationalisierung, Nivellierung und Sowjetisierung einer mitteleuropäische Stadt 1919–1991. Wiesbaden: Harrassowitz, 2010. S. 268–274.

[13] «Хроніка дэмакратычнай апазіцыі». URL: http://www.slounik.org/153880.html (дата звароту: 05.05.2017).

[14] Генеральному прокурору Союза ССР тов. Руденко Адвоката Минской коллегии адвокатов Щетинина И. Я. По делу осуждённого Ржевского Бронислава Андреевича Жалоба в порядке надзора // Государственный архив Российской Федерации. Ф. Р8131. Оп. 31. Д. 79613. Л. 2. Ржевский Бронислав Андреевич. Начато 23.07.1957. (За доступ да гэтай крыніцы дзякую Уладзіміру Валодзіну.)

[15] Там жа. Л. 22–25.

[16] Францішак Аляхновіч — ураджэнец Вільні, беларускі драматург, выдавец і адзін з заснавальнікаў беларускага тэатра. У 1921–1923 гадах у Вільні ён выдаваў беларускамоўны штотыднёвік «Беларускі звон», у якім жорстка крытыкаваў вынікі Рыжскага міру 1921 года. У 1926 годзе пераехаў у савецкую Беларусь, дзе ў студзені 1927 года быў арыштаваны і асуджаны да дзесяці гадоў зняволення на Салавецкіх выспах. У 1933 годзе Ф. Аляхновіча вызвалілі і дазволілі выехаць з СССР у Польшчу ў абмен на іншага вядомага заходнебеларускага дзеяча, Браніслава Тарашкевіча. Францішак Аляхновіч быў забіты ў Вільні ў 1944 годзе. Яго аўтабіяграфічная аповесць «У капцюрох ГПУ» — адна з першых, дзе раскрываюцца метады савецкіх карных органаў, — была напісаная ў 1933 годзе і надрукаваная ў 1934 годзе па-польску (як «Siedem lat w szponach GPU», перавыдадзеная ў 1937 годзе), у 1937 годзе — па-беларуску.

кую рэчаіснасць і нацыянальную палітыку камуністычнай партыі і савецкага ўрада» (артыкул 72 Крымінальнага кодэкса БССР) і асуджаны да сямі гадоў папраўчых лагераў і наступнага паражэння ў правах яшчэ на пяць гадоў[17].

14 снежня 1957 года ў двухтыднёвіку «ЛіМ»[18] з'явіўся артыкул «Шанаваць родную мову», напісаны студэнтам аддзялення журналістыкі БДУ і маладым пісьменнікам Барысам Сачанкам (1936–1995)[19]. Гэты допіс стаў адным з першых публічных зваротаў інтэлігенцыі ў пасясталінскай Беларусі.

У Сачанкавым лісце выражаецца глыбокая трывога, якая пранізвала ўсё асяроддзе беларускамоўных творчых работнікаў. Пісьменнік і літаратурны крытык Сяргей Дубавец так ацэньваў ролю Сачанкі і пісьменнікаў яго пакалення ў пасясталінскія часы:

> Многія з таго літаратурнага пакаленьня разумелі сваю фантастычную місію — адраджэньня ўласнай культуры на руінах таталітарызму і вайны[20].

Таксама як і Б. Ржэўскі, Б. Сачанка апеляваў да У. Леніна, імкнучыся адшукаць аргументы ў падтрымку захавання і распаўсюджвання беларускай мовы ў публічнай прасторы БССР. У адрозненне ад Ржэўскага, аднак, Сачанку ўдалося знайсці форму, што аказалася прымальнай для афіцыйнай газетнай публікацыі.

Малады журналіст спасылаецца на цытату з упершыню надрукаванага ў часопісе «Дружба народов» праекта рэзалюцыі ЦК Расійскай камуністычнай партыі аб усталяванні Савецкай улады ва Украіне. У праекце У. Ленін даводзіць аб неабходнасці падтрымкі і распаўсюджвання ўкраінскай мовы як сродку «камуністычнай адукацыі народных мас» і, адпаведна, інструмента для замацавання савецкага ладу[21]. Гэтыя ідэі ляглі ў аснову палітыкі каранізацыі, адкінутай напрыканцы 1920-х гадоў савецкім кіраўніцтвам на чале з І. Сталіным. З другой паловы 1950-х, аднак, ідэям Леніна зноў быў вернуты іх «пазачасавы», вечны статус.

Прыводзячы (хучэй за ўсё, нявыдуманыя) прыклады са школьнага і ўніверсітэцкага жыцця, раённай і сталічнай журналістыкі, Сачанка імкнецца

[17] «Генеральному прокурору Союза ССР тов. Руденко». Л. 8. Б. Ржэўскі быў вызвалены раней, у 1961 годзе. Гл.: Маракоў Л. Браніслаў Ржэўскі // Маракоў Л. Рэпрэсаваныя літаратары. С. 185.

[18] Выданне выходзіла двойчы на тыдзень у 1957–1970 гадах, што прыблізна адпавядае часу адноснай свабоды думак і выказванняў для інтэлігенцыі.

[19] Сачанка Б. Шанаваць родную мову // ЛіМ. 1957. № 99 (14 снеж.). У наступныя дзесяцігоддзі Б. Сачанка стаў вядомым пісьменнікам і перакладчыкам. Значнай была таксама яго работа рэдактарам у выдавецтве «Мастацкая літаратура» з 1986 года і галоўным рэдактарам выдавецтва «Беларуская энцыклапедыя» ў 1993–1995 гадах.

[20] Дубавец С. Інтрыга Сачанкі // Дзеяслоў. 2006. № 3. С. 287.

[21] Сачанка Б. Шанаваць родную мову.

паказаць, што непаслядоўная моўная палітыка на месцах вядзе не проста да заняпаду беларускай мовы, а пагражае поспехам і дасягненням савецкай улады ў цэлым, бо ці магчымыя адукацыя і асвета, калі вучні і настаўнікі, студэнты і выкладчыкі, журналісты і чытачы не гавораць адной мовай? Таму, заключае Б. Сачанка, «павінна быць увядзенне выкладання ва ўсіх навучальных установах рэспублікі на беларускай мове»[22].

Праект моўнай уніфікацыі («беларуская мова ўвайшла ў паўсядзённы быт усіх слаёў насельніцтва») дзеля прагрэсу савецкага ладу астаўся не рэалізаваным. Савецкае грамадства пайшло, як вядома, іншым шляхам. І ўсё ж Сачанкава газетная замалёўка заслугоўвае вялікай увагі. Яна была не проста смелым выступам у падтрымку роднай мовы, што здолеў прыцягнуць увагу да моўнай праблемы ў БССР. Яна з'яўляецца яскравай дэманстрацыяй таго, як адбываецца перасоўванне межаў паміж забароненым і дазволеным у сітуацыі паслаблення таталітарнай сістэмы. Тыя ж самыя ідэі, за якія Б. Ржэўскі быў асуджаны і адбываў турэмны тэрмін, усяго праз паўгода змаглі быць надрукаваныя і дасягнулі шырокага чытача праз афіцыйныя савецкія медыя.

Пісьмо Сачанкі лічыцца першым адкрытым выступам у беларускай перыядычнай прэсе, але змены ў пісьменніцкім асяроддзі і ў грамадстве ў цэлым былі ўжо заўважныя. 26 красавіка 1957 года адбыўся пленум Саюза беларускіх пісьменнікаў. Пад час яго знаны беларускі савецкі паэт, старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў і сябар ЦК КПБ Пятрусь Броўка (1905–1980) назваў імёны некаторых яшчэ зусім нядаўна апальных аўтараў. Сярод згаданых ім былі паэты Юлій Таўбін (1911–1937) і Змітро Астапенка (1910–1944), пісьменнік Сымон Баранавых (псеўданім Сымона Баранава, 1900–1942), пісьменнік і палітык Цішка Гартны (псеўданім Змітра Жылуновіча), паэт Андрэй Александровіч, а таксама паэт і перакладчык Мікалай Хведаровіч (псеўданім Мікалая Чарнушэвіча, 1904–1981). Амаль усе яны былі рэабілітаваныя ў 1954–1956 гадах — большасць, аднак, пасмяротна. Следам за рэабілітацыяй рэпрэсаваных аўтараў іх творы пачалі з'яўляцца ў гадавых планах беларускіх выдавецтваў[23].

Паказальнай аказалася справа З. Жылуновіча. У 1955 годзе як пісьменнік — пад псеўданімам Цішка Гартны — ён быў часткова (таксама пасмяротна) адноўлены ў сваіх правах. Разам з тым органы цэнзуры перашкаджалі выкарыстанню яго сапраўднага імя, а таксама пазбягалі згадак пра яго палітычную дзейнасць у якасці кіраўніка першага беларускага рабоча-сялянскага ўрада.

[22] Сачанка Б. Шанаваць родную мову.
[23] Лісты Юркі Віцьбіча // Юрэвіч, Л. Архіўная кніга. Нью-Ёрк: БІНіМ, 1996. С. 363.

Цалком рэабілітаваны ён быў толькі ў 1988 годзе. У 1957 годзе ён усё яшчэ заставаўся ў спісе самых злосных беларускіх нацыяналістаў[24].

Тое ж адбылося і з імем іншага нацыянал-камуніста, гісторыка Усевалада Ігнатоўскага[25]. Падобным чынам працягвалася і замоўчванне спадчыны дзеячаў нацыянальнага руху і сяброў урада БНР. Дзейнасць Вацлава Ластоўскага ці братоў Івана і Антона Луцкевічаў ганілася і асуджалася пры любой згадцы[26].

Усе яны калісьці аддалі перавагу альтэрнатыўным савецкаму палітычнаму праекту ці разуменню нацыянальнага, што магло несці штонайменей патэнцыйную пагрозу сучаснаму вобразу савецкай дзяржаўнай сістэмы. Як вынік, памяць аб іх наўмысна сціралася[27]. Нягледзячы на адносную нешматлікасць беларускага нацыянальнага руху і нацыяналістычных настрояў у пасляваенным беларускім грамадстве, і КПБ, і КДБ старанна адсочвалі найменшыя намёкі на палітычнае (нацыяналістычнае) адхіленне[28].

Рэпрэсаваныя інтэлектуалы, якія перажылі Вялікі тэрор і сталінскія працоўныя лагеры, прайшлі занадта вялікія выпрабаванні, каб захоўваць ілюзіі адносна сацыялістычнага ладу, нават калі апошнія і былі ў іх у 1920-я гады. Пасля вызвалення ім даводзілася выбіраць стратэгію існавання ў савецкай сістэме. Некаторыя аддалі перавагу якнайхутчэйшай нармалізацыі ладу жыцця, вярнуўшыся да ролі савецкай інтэлігенцыі і выступаючы ў якасці яе прававерных прадстаўнікоў. Яны імкнуліся даказаць сваю прыхільнасць, але па-ранейшаму пачуваліся ўразлівымі. Іншыя таксама спрабавалі вярнуцца да творчай працы, але заставаліся як быццам на другім плане — як перакладчыкі або рэдактары ў менш палітычна ўплывовых выданнях. Першыя дзве катэгорыі ўключаюць тых, хто сталеў падчас усталявання савецкай улады і ў большасці сваёй з імпэтам вітаў яе. Як правіла, падтрымка захоўвалася да моманту ўласнага арышту, а часам нават і пасля яго, пакуль заставалася надзея на нейкую памылку. Пытанні «Навошта? Чаму я?» або разгубленасць «Я не зрабіў нічога дрэннага» былі найбольш тыповымі з тых, што займалі розумы арыштаваных[29].

[24] Белорусские буржуазные националисты: учебный материал / сост. Бойченко В. М., Ерёмин П. П. Москва: Комитет государственной безопасности при Совете Министров СССР, 1957. С. 9.

[25] Навіцкі У. М. Другая хваля палітычнай рэабілітацыі ў Беларусі: складанасць вяртання з забыцця былых «нацдэмаў» (1987–1990) // Коваленя А. А. [и др.] Институт белорусской культуры и становление науки в Беларуси: к 90-летию создания Института белорусской культуры. Минск: Белорусская наука, 2011. С. 438–439.

[26] Прыклады гл. у падраздзеле 4.1.2.

[27] Я дзячу доктару Ігару Барынаву з Інстытута сусветнай эканомікі і міжнародных адносін Расійскай акадэміі навук за тое, што звярнуў маю ўвагу на гэты факт.

[28] Для прыкладу таго, як улады абыходзіліся з беларускім нацыяналізмам, гл.: Белорусские буржуазные националисты / сост. Бойченко В. М., Ерёмин П. П.

[29] Да прыкладу, такія пытанні і разгубленасць пастаянна ўзнікаюць у гулагаўскіх

Зразумела, што пытанні гэтыя паказальныя не толькі для беларускай інтэлігенцыі, а наагул для большасці ахвяраў сталінскіх рэпрэсій[30].

Сярод астатніх і куды меншых груп былі тыя, хто вырашыў не вяртацца ў савецкую Беларусь або вярнуўся са спазненнем, і, нарэшце, адзінкі, якія адкрыта выказвалі сваю «антысавецкасць» нават пасля вяртання.

Варта пералічыць імёны і даць звесткі аб кар'еры некаторых былых палітвязняў. Паэт, драматург і сябар «Маладняка» Алесь Звонак (псеўданім Пятра Звонака, 1907–1997) быў асуджаны на дзесяць гадоў працоўных лагераў, якія адбыў у Магаданскай вобласці. А. Звонак быў цалкам рэабілітаваны ў 1954 годзе, у наступным годзе вярнуўся ў Мінск і працягнуў працаваць літаратурным і тэатральным крытыкам. У 1970–1980-х гадах ён таксама выдаў некалькі паэтычных зборнікаў[31]. Вядомы геолаг і беларускі дзеяч Гаўрыла Гарэцкі (1900–1988) неаднаразова арыштоўваўся (у 1931, 1937 і 1938 гадах) і быў урэшце рэабілітаваны ў 1958 годзе. Нягледзячы на нязменны намер працаваць у Беларусі і патрэбу рэспублікі ў кваліфікаваных кадрах, Г. Гарэцкі атрымаў дазвол на выезд з Масквы ў Беларусь толькі пасля таго, як адліга скончылася, у 1969 годзе[32]. Паэт, празаік і перакладчык Сяргей Грахоўскі пачаў пісаць і друкавацца ў канцы 1920-х — пачатку 1930-х. Быў арыштаваны ў 1936 годзе і высланы на дзесяць гадоў у Горкаўскую (цяпер Ніжагародская) вобласць. Неўзабаве пасля першага вызвалення быў паўторна арыштаваны ў 1949 годзе. Рэабілітаваны ў 1955 годзе, С. Грахоўскі вярнуўся ў Мінск і працаваў у дзіцячых і юнацкіх часопісах «Бярозка» і «Вясёлка». Ён быў адным з нямногіх рэпрэсаваных беларускіх інтэлектуалаў, якія пакінулі ўспаміны[33].

Уладзімір Дубоўка, сябар літаб'яднанняў «Маладняк» і «Узвышша» і адзін з самых таленавітых паэтаў свайго пакалення, жыў у Маскве і вучыўся ў Вышэйшым інстытуце літаратуры і мастацтва імя Валерыя Брусава. У. Дубоўка быў арыштаваны ў 1930 годзе як абвінавачаны па справе «Саюза вызвалення Беларусі». Ён быў асуджаны да больш чым дваццаці гадоў зняволення, большую частку з якіх правёў у працоўных лагерах. Пасля рэабілітацыі ў 1957 годзе У. Дубоўка вырашыў пасяліцца ў Маскве і, хаця і асцярожна, падтрымліваў су-

---

успамінах Сяргея Грахоўскага (1913–2002). Грахоўскі С. Споведзь: аповесці і вершы. Мінск: Мастацкая літаратура, 1990. С. 244–345; яго ж: З воўчым білетам // Грахоўскі С. Выбраныя творы: у 2 т. Мінск: Мастацкая літаратура, 1994. Т. 2.

[30] Уласцівыя яны былі і для былых або дзейных сяброў камуністычнай партыі — такіх, як Яўгенія Гінзбург. Гинзбург Е. Крутой маршрут. Хроника времён культа личности. Москва: Астрель; AST, 2007. Упершыню надрукавана як Гинзбург Е. Крутой маршрут. Франкфурт-на-Майне: Посев, 1967.

[31] Маракоў Л. Звонак Алесь // Рэпрэсаваныя літаратары. Т. I. С. 366–367.

[32] Маракоў Л. Гарэцкі Гаўрыла // Рэпрэсаваныя літаратары. Т. I. С. 243–244.

[33] Маракоў Л. Грахоўскі Сяргей Іванавіч // Рэпрэсаваныя літаратары. Т. I. С. 270–271.

вязь з літаратурнымі коламі савецкай Беларусі[34]. Ён ліставаўся з беларускімі літаратарамі, у 1958 годзе стаў сябрам Саюза пісьменнікаў БССР і працягнуў друкавацца па-беларуску, зноў стаўшы паважаным і прызнаным аўтарам. Тым не менш, як згадваюць сучаснікі, рэшту жыцця ён пражыў у страху[35].

## 2.2. ПАД КІРАЎНІЦТВАМ ПАРТЫЗАНА І ГЕРОЯ

У кастрычніку 1964 года адбылася адстаўка М. Хрушчова з пасады Першага сакратара ЦК КПСС. З пераемнікам М. Хрушчова Леанідам Брэжневым гісторыкі звязваюць надыход перыяду рэакцыі і спробаў рэсталінізацыі ў савецкім грамадстве. У эканамічным плане васямнаццаць гадоў улады Л. Брэжнева (1964–1982) былі пазней азначаныя як застой. У гэты час савецкая эканоміка з яе мадэллю экстэнсіўнага эканамічнага росту дасягнула сваіх межаў. І ўсё ж у гэты час савецкае грамадства дабілася адноснага, найперш эканамічнага, дабрабыту, раней невядомага яго большасці.

У савецкай Беларусі змена ўлады адбылася крыху больш чым праз год. 26 сакавіка 1965 года Першы сакратар ЦК КПБ Кірыл Мазураў (1914–1989), першы (калі не ўлічваць кароткага сакратарыяту Васіля Шаранговіча ў 1937 годзе) беларус на гэтай пасадзе, перайшоў на пасаду першага намесніка Старшыні Савета Міністраў СССР. Адначасна ён стаў паўнапраўным сябрам Палітбюро. 30 сакавіка 1965 года яго месца Першага сакратара заняў яшчэ адзін беларус — Пётр Машэраў (1918–1980)[36]. П. Машэраў заставаўся на пасадзе да сваёй раптоўнай і, як шмат хто мяркуе, падазронай смерці ў аўтамабільнай аварыі 4 кастрычніка 1980 года[37]. Як і яго папярэдніка, П. Машэрава залічвалі да групы савецкіх партызанаў пры ЦК КПСС[38].

Змена ўлады ў БССР суправаджалася пэўным перапынкам у рабоце рэпрэсіўнай машыны: у той час, калі ў савецкіх Расіі і Украіне разгортваліся палітычныя працэсы супраць інтэлігенцыі (справа С. Сіняўскага і А. Даніэля,

[34] Падрабязнейшы жыццяпіс У. Дубоўкі гл. у: Уладзімір Дубоўка, ён і пра яго / уклад. Г. Севярынец. Мінск: Лімарыус, 2017.

[35] Маракоў Л. Дубоўка Уладзімір Мікалаевіч // Рэпрэсаваныя літаратары. Т. I. С. 324–325; Брыль Я. Запісы // Дзеяслоў. 2004. № 12. С. 10.

[36] Станоўчы вобраз П. Машэрава як таленавітага, разборлівага і бескарыслівага кіраўніка з'явіўся ў: Антонович С. Пётр Машеров: документальная повесть. Мінск: Веснік, 1993. Упершыню надрукавана па-беларуску (Антановіч С. Пётр Машэраў // Звязда. 1990. № 66–67, 70–75, 77–79). Публікацыя была прымеркаваная да дзесяцігоддзя гібелі Машэрава ў аўтакатастрофе.

[37] Solchanyk R. Death of Belorussian Party Leader Masherov / RFE-RL 363-30. October 6, 1980, 1–2 // OSA/300/85/13/188.

[38] Urban M. An Algebra of Soviet Power. P. 13–14 etc.




*Ілюстрацыя 2. Будынак Цэнтральнага камітэта Кампартыі Беларусі, 1957 год. Inv.-Nr. 131658, Bildarchiv, Інстытут гістарычных даследаванняў Цэнтральнай і Усходняй Еўропы імя І. Г. Гердэра, Марбург.*

працэс чатырох), у БССР у 1965–1967 гадах не было зафіксавана асуджаных па артыкуле 67 «Антысавецкая агітацыя і прапаганда»[39].

Амерыканскі палітолаг Майкл Урбан сцвярджаў, што, нягледзячы на агульнае змаганне з прыкметамі нацыяналізму, якім займаліся тагачасныя ідэолагі КПСС, К. Мазураву і П. Машэраву ўдалося стварыць і папулярызаваць пэўны нацыянальны міф беларускага нацыянальнага руху супраціву, апошні пры гэтым быў, безумоўна, прадстаўлены як неад'емная частка гераічнай ахвяры ўсяго савецкага народа[40]. Адначасна абодва першыя сакратары будавалі Беларусь як узорную савецкую рэспубліку, вольную ад грахоў нацыяналізму і нязгоды, часам занадта старанна выконваючы загады Масквы.

Папулярны кіраўнік і герой-партызан П. Машэраў быў супярэчлівай асобай[41]. Да неспрыяльных наступстваў яго кіравання залічваюць далейшую

[39] Нонканфармізм у Беларусі / пад рэд. А. Дзярновіча. С. 8, 10.

[40] Urban M. An Algebra of Soviet Power. P. 14. Курсіў арыгінальны. Пра міф партызанскай рэспублікі гл. таксама: Lewis S. Belarus — Alternative Visions.

[41] Глядзіце, напрыклад, заўвагі беларускіх інтэлектуалаў аб палітыцы П. Машэрава,

русіфікацыю БССР, руйнайванне гістарычнай спадчыны і вычэрпванне прыродных рэсурсаў рэспублікі, стварэнне велізарных шкодных для навакольнага асяроддзя фермаў, асушэнне балот Палесся[42]. Акрамя таго, у 1970-я гады Мінск стаў адным з цэнтраў савецкага антысемітызму, які не з'яўляўся афіцыйнай пазіцыяй савецкай дзяржавы і ўсё ж маўкліва падтрымліваўся.

Паводле шырока распаўсюджанай думкі, кіраўнік БССР праводзіў адносна незалежную ад Масквы палітыку[43]. Аднак апошняе не выключала запэўненняў ва ўсебаковай лаяльнасці ў адносінах да Масквы і асабіста да Л. Брэжнева. Прыклад таму — артыкул П. Машэрава ў «Праўдзе», надрукаваны 7 снежня 1975 года, які абмяркоўваўся таксама і на Захадзе[44].

Магчымасць таго, што Першы сакратар ЦК КПБ зменіць на пасадзе кіраўніка савецкага Савета Міністраў Аляксея Касыгіна або нават самога Л. Брэжнева, абмяркоўвалася як у СССР, так і за мяжою, асабліва пасля смяротнай аўтамабільнай аварыі, якая, на думку некаторых, была падстроеная[45]. Абаяльны як асоба і таленавіты як прамоўца, П. Машэраў выгадна адрозніваўся ад немаладога і цяжка хворага савецкага кіраўніка Л. Брэжнева і яго атачэння.

Адносна невялікая колькасць узнагарод, якія і П. Машэраў, і БССР атрымалі за час знаходжання апошняга на пасадзе, могуць разглядацца як дадатковы доказ яго нязгоды з цэнтральнымі ўладамі[46]. Так, горад Мінск атрымаў званне «горад-герой» толькі ў 1974 годзе — значна пазней за Ленінград (1945), Кіеў (1961) і Керч (1973). Больш таго, узнагарода мела ўручацца асабіста Генеральным сакратаром Л. Брэжневым, які адклаў наведванне Мінска на чатыры гады і прыбыў толькі ў 1978 годзе. Не менш пытанняў выклікае і кандыдацтва П. Машэрава ў сябры Палітбюро, якое доўжылася з 1966 па 1980 год: Першы сакратар ЦК КПБ так і не стаў паўнавартасным сябрам Палітбюро, што было дастаткова нетыпова для бюракрата найвышэйшага рангу адной з вядучых савецкіх рэспублік.

---

сабраныя ў кнізе інтэрв'ю журналіста Аляксандра Уліцёнка ў 1990–1991 гадах: Улитёнок А. Іншадумцы, асабліва с. 46–48, 169–170, 212 і 308.

[42] Пра меліярацыю беларускага Палесся гл. таксама: Koida A. Melioration im Belarussischen Polesien. Die Modernisierung der sowjetischen Peripherie (1965–1991). Wiesbaden: Harrassowitz, 2019. Асаблівa частка 3, с. 28–88.

[43] Marples D. Belarus: A Denationalized Nation. P. 19–22.

[44] Duevel C. Masherov stakes his future on Brezhnev / RL. December 18, 1975, 1–4 // OSA/300/85/13/188.

[45] Версія з'яўляецца ў: Антонович С. Пётр Машеров, а таксама ў тагачасных паведамленнях RFE/RL і заходніх СМІ. Гл. напрыклад: «Pyotr Masherov, 62, Leader Of Byelorussian Communists / The Washington Post. URL: https://www.washingtonpost.com/archive/local/1980/10/06/pyotr-masherov-62-leader-of-byelorussian-communists/4a906f06-f7e7-414a-8b7a-bc2bdb9e36f7/?noredirect=on&utm_term=.cfbc1f7a2344 (дата звароту: 03.04.2019).

[46] Шамякін І. Роздум на апошнім перагоне: Дзённікі 1985–1998 гадоў. Мінск: Мастацкая літаратура, 1998. С. 326.



*Ілюстрацыя 3. П. Машэраў у ценю Л. Брэжнева.*
*«Зорка Героя – на сцягу горада», фота Георгія Ліхтаровіча.*
*З кнігі: Мінск—Минск—Minsk (Мінск: Беларусь, 1981).*

У 1973–1974 гадах, калі антыдысідэнцкія кампаніі праносіліся па іншых савецкіх рэспубліках, П. Машэраву, як мяркуюць некаторыя, удалося пакласці ціхі канец ініцыяванаму КДБ працэсу супраць нацыянальна свядомай інтэлігенцыі[47]. Адною з прычын такое цярпімасці да інтэлігенцыі мог быць ужо згаданы намер захаваць імідж БССР як ідэальнай савецкай рэспублікі. Таксама ёсць усе падставы меркаваць, што Першы сакратар ЦК КПБ П. Машэраў сапраўды верыў у грамадства, будаўніком і неад'емнай часткай якога ён быў. Яшчэ адной магчымай прычынай яго памкнення не дапусціць публічнага пераследу іншадумства ў БССР быў страх аказацца датычным беларускага нацыяналізму[48]. Адной згадкі пра які, пасля падзей трыццатых гадоў, як падаецца, было дастаткова, каб пазбавіць спакою не толькі інтэлігенцыю БССР, але і яе кіраўнікоў[49].

Ва ўспамінах дзеячоў творчай інтэлігенцыі П. Машэраў найчасцей выглядае чалавекам памяркоўным і спагадлівым, які звычайна падтрымліваў пытанні культуры і беларускай мовы[50]. І сам Першы сакратар, і яго аднагодак і калега Аляксандр Кузьмін (1918–2003), у 1971–1986 гадах сакратар па ідэалогіі ЦК КПБ, актыўна ўдзельнічалі ў інтэлектуальным жыцці рэспублікі, ладзячы рэгулярныя сустрэчы з творчымі работнікамі[51]. Аднак самі яны вельмі рэдка карысталіся беларускай мовай на людзях[52]. Нават такія верныя камуністычныя пісьменнікі, як Іван Шамякін (1921–2004), лічылі апошні факт вельмі прыкрым, і нават болей — пагібельным для беларускай культуры: калі кіраўнік рэспублікі не гаворыць па-беларуску, то чаму павінны іншыя?[53]

Вядома, такі адмоўны прыклад уплываў на аўтарытэт беларускай мовы ў рэспубліцы, асабліва ўлічваючы папулярнасць Машэрава. У цэлым П. Машэраў

---

[47] Падрабязней аб працэсе глядзіце ў падраздзеле 2.5.

[48] Варта адзначыць, што бацька П. Машэрава быў рэпрэсаваны ў 1937 годзе, а сам ён на кароткі час трапіў у палон да немцаў у 1941 годзе — факты жыццяпісу, нязручныя для партыйнага лідара. Ён іх не хаваў, хаця шырокага абмеркавання пры яго жыцці таксама не было. Аднак яны маглі вытлумачвацца не на яго карысць і зрабіць яго ўразлівым перад начальствам.

[49] Добры прыклад тут — спробы Міколы Ермаловіча надрукаваць сваё даследаванне пра адносіны класікаў марксізму-ленінізму да беларусаў і Беларусі (каля 1971 года), на рукапісе якой невядомы рэцэнзент надпісаў: «Нужна ли такая работа, ориентированая [не зусім разборліва] только на Белоруссии?» Нават «артадаксальныя» тэмы насцярожвалі, калі ў іх нейкім чынам закраналася нацыянальнае пытанне. Ермаловіч М. І. Пад іх сцягамі ідзе Беларусь: даследаванне, варыянт // БДАМЛМ. Ф. 444. Воп. 1. Спр. 21. Гл. таксама падраздзел 4.2.1.

[50] Byliśmy pokorni. Niestety. Rozmova z Henadziem Buraukinem // Brzezecki A., Nocuń M. Ograbiony naród. S. 69; Шамякін І. Роздум. С. 324.

[51] Галоўка С. Жыццёвая плынь Івана Шамякіна // Беларуская думка. 2016. № 2. С. 18; Шамякін І. Роздум. С. 309–310.

[52] За выключэннем уступу да прамовы на Пленуме V з'езда Саюза беларускіх пісьменнікаў у 1966 годзе, які падрабязней разглядаецца далей у гэтым падраздзеле.

[53] Шамякін І. Роздум. С. 324.



Уважаемый
Иван Петрович!

Примите поздравления
с Новым, 1972 годом
и пожелания
доброго здоровья,
личного счастья
и успехов в труде!

П.МАШЕРОВ

*Ілюстрацыя 4. Віншаванне «З Новым, 1972 годам!» ад Пятра Машэрава адрасаванае Івану Шамякіну (на рускай мове), архіў аўтара.*

падтрымліваў калектыўную беларускую ідэнтычнасць, глыбока ўкаранёную ў міфе ахвярнасці і агульнанацыянальнай партызанскай барацьбы падчас Другой сусветнай вайны[54]. Вобраз партызанскай рэспублікі аб'ядноўваў грамадства і вылучаў беларусаў з іншых савецкіх народаў, але намерана стрымліваўся межамі палітыкі савецкіх нацыянальнасцяў. Дваістасць і інструментальны характар міфа пра савецкую Беларусь трапна выразіў Зянон Пазьняк (пад псеўданімам «Генрых Ракутовіч») у самвыдацкім эсэ «Положение в Белоруси», напісаным у 1974 годзе, у разгар пераследу супрацоўнікаў Акадэміі навук БССР:

[54] Сайман Люіс даследаваў з'яўленне і распаўсюджванне міфа пра БССР як «партызанскую рэспубліку» ў: Lewis S. Belarus — Alternative Visions. P. 53–74.

В выступлениях и докладах, по радио и телевидению, в литературе и прессе, на каждом шагу вы услышите бесконечные юбилейные вопли, возгласы и заверения на российском языке о любви к «родной Белоруссии», «Белорусь», «Белоруссия», «Белоруссия-партизанка», «Хатынь», «многострадальный белорусский народ», конечно же вместе с «великим русским народом», и т. д. и т. п.[55]

## 2.3. НОВАЯ ПАСЛЯВАЕННАЯ ІНТЭЛІГЕНЦЫЯ

У пасляваеннай БССР хуткасць урбанізацыі ды індустрыялізацыі была адною з найвышэйшых у Савецкім Саюзе. За дваццаць гадоў паміж 1959 і 1979 годам колькасць насельніцтва БССР павялічылася з 8055 да 9535 тысяч чалавек[56]. Яго этнічны склад быў адносна аднародны ў параўнанні з іншымі рэспублікамі, уключаючы каля васьмідзесяці адсоткаў беларусаў цягам усяго вывучáнага перыяду.

Хутка расла колькасць тых, хто атрымаў вышэйшую адукацыю — скончыў універсітэт, інстытут ці вучэльню, тым самым падпадаючы пад савецкае паняцце інтэлігенцыі. Такім чынам, калі ў 1927–1928 гадах на дзесяць тысяч чалавек прыпадала 10,5 студэнта, то ў 1960–1961 гадах іх было ўжо 80,5, а ў 1980–1981 гадах гэтая колькасць павялічылася да 177,4[57]. У 1959 годзе доля інтэлігенцыі ў БССР, паводле савецкай статыстыкі, была па-ранейшаму адносна нізкай у параўнанні з іншымі рэспублікамі. Паведамлялася, што да інтэлігенцыі належала 904 з дзесяці тысяч асоб[58]. Інтэлігенцыя дзялілася на кіраўнічую (144 чалавекі з дзесяці тысяч), навуковую (12) і мастацкую (10).

[55] Ракутович Г. [Зянон Пазьняк] Положение в Белоруси. 1974 год. Магілёў: б. в., 1974. С. 18 / МНА. URL: http://vytoki.net/?docs=00017395 (дата звароту: 21.01.2016). Хатынь — назва беларускай вёскі ў сучасным Лагойскім раёне Мінскай вобласці, спаленай батальёнам СС пад кіраўніцтвам Оскара Дырлевангера і 118-м батальёнам дапаможнай паліцыі 22 сакавіка 1943 года ў адказ на партызанскую дзейнасць у гэтай мясцовасці. У 1969 годзе ў Хатыні быў узведзены нацыянальны мемарыял, каб ушанаваць памяць 5295 беларускіх вёсак, знішчаных падчас Другой сусветнай вайны. Цяпер сцвярджаецца, што Хатынь была абраная савецкімі ўладамі, каб заходзіць іншую расправу — у вёсцы Катынь Смаленскай вобласці, дзе ў красавіку і траўні 1940 года камандамі выканаўцаў НКУС былі забітыя 4400 палонных польскіх афіцэраў. Пра ролю Хатыні ў беларускай савецкай міфатворчасці гл.: Lewis S. Belarus — Alternative Visions. P. 67–74.

[56] Tabelle 2. Die nationale Zusammensetzung der Unionsrepubliken und Autonomen Republiken // Simon G. Nationalismus und Nationalitätenpolitik. S. 427.

[57] Tabelle 12: Die nationale Zusammensetzung der Hochschulstudentenschaft // Simon G. Nationalismus und Nationalitätenpolitik. S. 443.

[58] Tabelle 7: Struktur der Intelligenz // Simon G. Nationalismus und Nationalitätenpolitik. S. 435. Сярэдні паказнік, вылічаны аўтаркай, быў 1052.

Яшчэ адна, самая шматлікая, група інтэлігенцыі (378 чалавекі на тыя ж дзесяць тысяч) уключала настаўнікаў, правазнаўцаў, медыкаў і работнікаў культуры[59]. Такім чынам, у 1959 годзе агульная колькасць інтэлігенцыі па савецкім азначэнні складала 728 172 чалавекі.

У пачатку 60-х гадоў доля сяброў камуністычнай партыі ў савецкай Беларусі ўсё яшчэ была ніжэйшай за сярэднюю па Саюзе: на 1 ліпеня 1961 года 363 з дзесяці тысяч чалавек былі сябрамі або кандыдатамі на ўступленне ў партыю пры сярэднім агульнасаюзным паказніку 461[60]. Па гэтым паказніку БССР апынулася на шостым месцы паміж савецкай Украінай (379) і савецкім Азербайджанам (361). Але к 1 студзеня 1982 года доля вырасла да 706 сяброў і кандыдатаў пры сярэднім паказніку 678[61]. Гэта вывела Беларусь на другое месца сярод прадстаўнікоў тытульных нацый пятнаццаці савецкіх рэспублік. Такая высокая доля на пачатку 1980-х гадоў, магчыма, узмацніла вобраз Беларусі як адной з «самых» сацыялістычных частак СССР.

Новая кагорта пасляваеннай беларускай інтэлігенцыі, з’яўленне якой затрымлівалася вайной і разрывам пакаленняў, выкліканым рэпрэсіямі, з’явілася даволі позна. Гэтая ўзроставая група (народжаныя ў 1920–1930-я гады) увайшла ў літаратуру ў канцы 1950-х гадоў, загартаваная досведам вайны, калектывізацыяй, рэпрэсіямі і цяжкасцямі перыяду адбудовы савецкай улады пасля вайны.

Некаторыя яе прадстаўнікі, як Васіль Быкаў і Аляксей Кулакоўскі (1913–1986), не мелі афіцыйнай акадэмічнай адукацыі і сталі пісьменнікамі, скончыўшы толькі дзесяць ці нават сем класаў сярэдняй школы[62]. Але большасць была за выпускнікамі ВНУ з дыпломамі па літаратуры ці журналістыцы, радзей — па гісторыі ці прыродазнаўстве (гл. табліцу 5 і дыяграму 3). Яны мелі адносную свабоду самавыяўлення, падораную адлігай, верылі ў незваротнасць змен і мелі магчымасць карыстацца з набыткаў савецкага ладу жыцця, нярэдка знаходзячыся ў прывілеяваным становішчы ў параўнанні з іншымі катэгорыямі насельніцтва.

Славуты і асыпаны ўзнагародамі пісьменнік, намеснік старшыні Саюза

[59] Tabelle 7 // Simon G. Nationalismus und Nationalitätenpolitik. S. 435.

[60] Tabelle 15: Die nationale Zusammensetzung der Parteimitgliedschaft (Mitglieder und Kandidaten) // Simon G. Nationalismus und Nationalitätenpolitik. S. 448. Варта адзначыць, што паводле той жа крыніцы доля складала 69 дэпутатаў і кандыдатаў на дзесяць тысяч чалавек пры сярэднім паказніку 72.

[61] Там жа.

[62] Па выніках анкетавання маладых пісьменнікаў маскоўскага часопіса «Вопросы литературы» ў 1962 годзе В. Быкаў, якому тады было 38 гадоў, апынуўся сярод іх адзіным удзельнікам вайны. Іншыя анкетаваныя былі народжаныя значна пазней і пазбеглі прызыву ў войска. Шапран С. Васіль Быкаў. С. 123.

пісьменнікаў БССР Іван Шамякін добра ўлавіў у сваіх успамінах дух тых часоў, калі спалучаліся матэрыяльнае паляпшэнне жыцця інтэлігенцыі і духовая свабода 1950-х[63]:

> А паесці было што[…]. Купляла [Марыя, жонка Шамякіна] ікру, лепшую кілбасу па 50–70 рублёў за кілаграм, булкі і... пляшку піва. […] Самае дзіўнае, што мы нічога не баяліся, смела выказваліся. [...] Мы проста лічылі, што на вайне заваявалі сабе права на свабоду[64].

І ўсё ж вясёлы пафас шасцідзясятых гадоў, апісаны П. Вайлем і А. Генісам, падаецца не настолькі ўласцівым для БССР[65]. Страх і няўпэўненасць, якія панавалі ў асяроддзі інтэлігенцыі, мелі відавочныя прычыны ў нядаўнім мінулым. Нават пры адсутнасці асабістых сустрэч пасляваенныя інтэлектуалы навучыліся ўважна вывучаць сямейныя гісторыі сваіх старэйшых таварышаў. І. Шамякін прымаў блізка да сэрца гісторыю свайго калегі, непасрэднага начальніка і на першы погляд узорнага савецкага паэта П. Броўкі, маці, бацька і швагер якога прайшлі праз ГУЛАГ. Апошняму, як сцвярджалі некаторыя яго сучаснікі, самому давялося напісаць шэраг даносаў супраць сваіх калег, каб перажыць 1937 год[66].

Досвед пасляваеннай беларускай інтэлігенцыі з Заходняй Беларусі (гл. табліцу 5 і дыяграмы 2 і 3) значна адрозніваўся: гэта быў досвед вясковага жыцця, падаўлення беларускай культуры польскай адміністрацыяй, уз’яднання з савецкай Беларуссю і, амаль адразу, нямецкай акупацыі і вяртання ў БССР пасля вайны. Як паказвае І. Кашталян, усходнія жыхары апынуліся ў больш прывілеяваным становішчы: яны ўдзельнічалі ў Другой сусветнай вайне як звычайныя салдаты (рэдка — афіцэры) Чырвонай арміі і набылі права лічыцца пераможцамі. Як выглядае, тыя, хто нарадзіўся і жыў на ўсходзе Беларусі і прайшоў вайну, былі пазней больш рашучымі ў выяўленні сваёй незадаволенасці савецкай сістэмай (гл. дыяграмы 2 і 3)[67].

Хаця пастаянны націск савецкай цэнзуры і партыйных функцыянераў быў

[63] Будучы маладым пісьменнікам у канцы 20-х — пачатку 30-х гадоў, І. Шамякін ужо быў лаўрэатам Сталінскай прэміі (роўнай Дзяржаўнай прэміі СССР, якую ён атрымаў у 1951 годзе) і Літаратурнай прэміі імя Я. Коласа (1957 год).

[64] Шамякін І. Роздум. С. 213–214. Матэрыяльныя выгады, якімі надзяляла прыналежнасць да Саюза пісьменнікаў, абмяркоўваюцца таксама ў падраздзеле 4.2.3.

[65] Генис А., Вайль П. 60-е. С. 142–152.

[66] Шамякін І. Роздум. С. 223.

[67] Павелічэнне колькасці нязгодных сярод тых, хто нарадзіўся і вырас у савецкай дзяржаве ў канцы 1960-х — пачатку 1970-х, было заўважна і ў савецкай Украіне. Гл.: Алексеева Л. История инакомыслия в СССР. С. 25. Магчыма, гэта звязана і з большым уплывам расійскай інтэлігенцыі (найперш у Маскве і Ленінградзе) і лібералізацыяй, якая адбывалася ў яе асяроддзі.

жорсткім, заўсёды былі аўтары, якія маглі знайсці сур'ёзны аргумент у процістаянні ім. У 1960-я гады такім аргументам былі ордэны і медалі ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны, якія верылі ў тое, што адваявалі сабе права настойваць на важкасці свайго меркавання[68].

Заходнікі, у сваю чаргу, заставаліся пад акупацыяй або часам дзейнічалі ў партызанскіх атрадах: ва ўсякім разе, яны былі пад падазрэннем і мелі даказваць сваю прыхільнасць савецкай уладзе[69]. З іншага боку, яны былі менш уразлівыя да сацыялістычных лозунгаў, бо пажыўшы ў іншай дзяржаве, мелі магчымасці для параўнання і прычыны для нязгоды. Менавіта гэтая група інтэлігенцыі здолела захаваць пераемнасць з беларускай культурай дакастрычніцкага перыяду.

Зразумела, што ў гэтых дзвюх груп было і шмат агульнага. Супольным было іх захапленне рускай літаратурай XIX стагоддзя — Львом Талстым, Фёдарам Дастаеўскім і Антонам Чэхавым[70]. Расійская культура і літаратура прыйшлі ва Усходнюю Беларусь разам з масавай школьнай асветай, якая ніколі раней не была настолькі даступная дзецям сялян. Магчымасць наведваць школу і карыстацца бібліятэкамі, хаця і блага рэалізаваная, азначыла вялізны разрыў паміж моладдзю гэтага пакалення і яе сялянскімі бацькамі[71].

У Заходняй Беларусі літаратура адкрывала акно ў новы, нязведаны і захапляльны свет для тых, хто імкнуўся да самаадукацыі і рэдка выбіраўся за межы свайго раёна[72]. Моладзь наўпрост звязвала гэтую функцыю адкрыцця з рускамоўнай літаратурай (уключаючы пераклады), выбар якое быў значна ба-

[68] Сяргей Харэўскі ўзгадаў гісторыю студэнта Мінскай мастацкай вучэльні, маладога габрэйскага мастака Ізраіля Басава (1918–1994). У 1951 годзе Басаву, абвінавачанаму ў касмапалітызме, пагражала выключэнне. Яго таварышы, пераважна ветэраны Другой сусветнай вайны, процістаялі афіцэру НКУС, настойваючы на тым, каб Басаў застаўся ў вучэльні. Гл.: «Минск — образцовый город социализма?»: круглый стол / Новая Еўропа, 5 траўня 2009 года. URL: http://n-europe.eu/article/2009/05/05/%E2%80%9Cminsk_%E2%80%93_obraztsovyi_gorod_sotsializma%E2%80%9D (дата звароту: 02.04.2015).

[69] Kashtalian I. The Repressive factors… P. 94–150.

[70] Уплыў расійскай літаратуры асабліва прыкметны ў творах Алеся Адамовіча, як у крытычных, так і ў палемічных. Гл., напрыклад: Взрыв на вершине литературы // Адамович А. Отвоевались! Москва: Молодая гвардия, 1990. С. 127–156; Толстовский шаг // Адамович А. Избранные произведения: в 2 т. Минск: Мастацкая літаратура, 1977. Т. 2. С. 375–410.

[71] У сваіх успамінах Іван Шамякін ды Іван Пташнікаў падрабязна абмяркоўваюць заўзятасць сялянскіх дзяцей (і будучых беларускіх пісьменнікаў) да навучання. Гл.: Шамякін І. Роздум на апошнім перагоне; Пташнікаў І. Ненапісаная аповесць // Пташнікаў І. Выбраныя творы. Мінск: Беларуская навука, 2017.

[72] Гл., напрыклад, пра Максіма Танка: Верабей А. Максім Танк і польская літаратура. Мінск: Навука і тэхніка, 1984. С. 5—6.

гацейшы, чым выбар беларускай не толькі ў БССР, але і ў Другой Польскай рэспубліцы[73].

Пасляваеннае пакаленне пісьменнікаў, сялянскае па паходжанні, прыродна гаварыла па-беларуску. Мова змянялася і знікала на іх вачах пад уплывам рускамоўных СМІ і асветы. Урбанізацыя і масавая міграцыя з вёсак у гарады 1960–1970-х гадоў забяспечылі былых сялян працай і, хаця і абмежаваным, дабрабытам. Адначасна яны выхавалі новы ўзор савецкага інтэлектуала, першай мовай якога была руская і якому даводзілася свядома вывучаць беларускую.

Ужо беларускае пакаленне 1960-х мела адносна шырокія веды рускай мовы. Менавіта на яго прыкладзе заўважны пераход з адной моўнай сітуацыі ў іншую. В. Быкаў рэдагаваў і нават перакладаў свае аповесці на рускую мову, хаця, як ён сам прызнаваў пазней, гэта была і не тая мова, якою гаварыла расійская інтэлігенцыя[74]. Чытаючы рускамоўныя тэксты Аляксея Каўкі (нар. у 1937), кандыдата гістарычных навук (1971) і навуковага супрацоўніка Інстытута сусветнай сацыялістычнай сістэмы АН СССР, які з 1965 года стала жыў у Маскве, староннія назіральнікі адразу заўважалі, што руская мова не была для яго роднай[75].

Рэдкім выключэннем быў Алесь Адамовіч, рабочымі мовамі якога былі і беларуская, і руская. Першай ён пісаў і выдаваў літаратурную крытыку, другою карыстаўся ў мастацкай літаратуры. У канцы 1960-х А. Адамовіч атрымаў значны поспех і прызнанне ў абедзвюх сферах. У сваёй ваеннай літаратуры (заснаванай на аўтабіяграфічным матэрыяле), напісанай на рускай літаратурнай мове, ён па-майстэрску адлюстраваў жыццё ў невялікім беларускім мястэчку Глуша пад нямецкай акупацыяй, захоўваючы выразнасць мясцовага кантэксту[76]. Якасць Адамовічавых твораў прызнавалі нават беларускія эмігранты, якія, як правіла, варожа ставіліся да рускай мовы ў беларускай літаратуры[77].

---

[73] Агляд асартыменту беларускіх бібліятэк і ўжывання беларускай мовы ў школьным навучанні гл. у: Станкевіч С. Русіфікацыя беларускае мовы… С. 10–16.

[74] Гл.: Быкаў В. Доўгая дарога дадому. Мінск: Кніга, 2003. Спецыфічнасць яго мовы асабліва праступае ў перапісцы, свабоднай ад рэдактарскіх правак і цэнзуры. Вядома, дзеля большай пэўнасці яна мела б аналізавацца адмыслоўцамі ў сферы мовазнаўства.

[75] Introduction // Letter to a Russian friend. P. 4.

[76] Адамович А. Война под крышами / Адамович А. Партизаны: роман-дилогия. Москва: Воениздат, 1980. (Упершыню выдадзены ў 1960 годзе.)

[77] Запруднік Я. Інакодумство в Білорусі. С. 163.

## 2.4. РЭАКЦЫІ НА ПРАЖСКУЮ ВЯСНУ

***Праз кардон і да нас далятаюць пырскі***
***віна, што ліецца ў Пражскім Градзе,***
***Пражскай вясны салавейка порсткі***
***спявае і ў нашым садзе!***

Валянцін Тарас. Прага свабоды — няўтольная прага (канец 1980-х)[78]

***И если танки его отечества залили кровью асфальт чужой столицы, — то бурые пятна навек зашлёпали лицо писателя.***

Александр Солженицын.
Нобелевская лекция по литературе (1970)[79]

Змена палітыкі партыі стала відавочнай у канцы 1965 года, калі пачаўся суд над савецкімі пісьменнікамі Юрыем Даніэлем і Андрэем Сіняўскім па абвінавачванні ў незаконных перадачы і выданні іх «антысавецкіх» твораў на Захадзе. У лютым 1966 года, калі суд збіраўся вынесці прысуд, у савецкай прэсе пачалася масавая кампанія цкавання. Адным з яркіх прыкладаў быў ліст калег А. Сіняўскага, супрацоўнікаў філалагічнага факультэта Маскоўскага дзяржаўнага ўніверсітэта. У пасланні, адрасаваным друкаванаму органу савецкіх пісьменнікаў «Литературная газета», прадказальна ганілася амаральнасць пісьменніка, а сам ён быў прадстаўлены як паклёпнік на камунізм, савецкі лад і чалавецтва ў цэлым[80]. Малодшы калега А. Сіняўскага, беларускі крытык і пісьменнік Алесь Адамовіч адмовіўся падпісваць гэты ліст. Незадоўга да таго А. Адамовіч атрымаў ступень доктара філалагічных навук у МДУ, дзе выкладаў курс беларускай літаратуры ў 1962–1966 гадах. У выніку адмовы ўдзельнічаць у кампаніі супраць Ю. Даніэля і А. Сіняўскага яму давялося памяняць МДУ і Маскву на Інстытут літаратуры АН БССР у Мінску, у надзеі пазбегнуць пераследу[81]. Гэткую ж тактыку — змену месца жыхарства ў надзеі пазбегнуць рэпрэсій — выкарыстоўвалі беларускія інтэлектуалы і ў сталінскія часы.

Іншай важнай падзеяй стаў V з’езд Саюза пісьменнікаў БССР у чэрвені 1966 года, якім азнаменаваліся змены ў становішчы беларускай інтэлігенцыі

[78] Тарас В. На выспе ўспамінаў. С. 214–215.

[79] Солженицын А. Нобелевская лекция // Солженицын А. Публицистика: в 3 т. Ярославль: Верхне-Волжское книжное издание, 1995. Т. 1: Статьи и речи. С. 21. Хаця Салжаніцын і быў узнагароджаны Нобелеўскай прэміяй па літаратуры ў 1970 годзе, ён не змог выступіць на яе ўручэнні. Нягледзячы на традыцыю, у той год ён не прачытаў і адпаведнай лекцыі: яна была дадзеная Шведскай акадэміі пазней.

[80] Нет нравственного оправдания. Письмо в редакцию // Белая книга по делу А. Синявского и Ю. Даниэля / сост. А. Гинзбург. Франкфурт-на-Майне: Посев, 1967. С. 341–344. Упершыню апублікавана ў «Литературной газете» 17 лютага 1966 года.

[81] Хацевацкий Ю. Встречный иск. 1989.

і яе адносінаў з уладай. З’езд пачаўся з пасяджэння пленума, на якім у прэзідыуме сядзелі Пётр Машэраў і Васіль Быкаў. Першы, свежаабраны правадыр КПБ, імкнуўся заваяваць давер інтэлігенцыі, звяртаючыся да яе «ейнай» мовай, па-беларуску. Як высветлілася пазней, гэта была першая і апошняя спроба дзяржаўнага дзеяча ўжываць нацыянальную мову Беларусі[82]. П. Машэраў прывітаў беларускіх пісьменнікаў роднай мовай, а затым працягнуў па-руску.

Слова атрымаў і В. Быкаў, перад тым жорстка раскрытыкаваны ў прэсе за ваенную аповесць «Мёртвым не баліць»[83]. 13 траўня 1966 года ён зусім нечакана для слухачоў выступіў са смелай прамовай аб ролі і месцы літаратуры ў грамадстве. Як вынікае з яго лістоў, самога Быкава, аднак, гэтыя праблемы турбавалі ўжо не адзін год[84]. У першыя гады кіраўніцтва Л. Брэжнева няпэўнасць становішча і работы пісьменнікаў зноў пачала востра адчувацца, і пытанне аб аўтаноміі літаратурнай дзейнасці (і яе межах) было надзённым для пісьменнікаў ды інтэлектуалаў на ўсёй прасторы Савецкага Саюза.

Можна выказаць здагадку, што В. Быкаў натхніўся палымянай прамовай Жана-Поля Сартра, пачутай на Кангрэсе Еўрапейскай пісьменніцкай супольнасці (COMES) у Рыме 6 кастрычніка 1965 года. Васіль Быкаў разам з Аляксандрам Твардоўскім, Васіліем Аксёнавым, Канстанцінам Сіманавым ды іншымі ўваходзіў у савецкую дэлегацыю. Вядома, В. Быкаў быў уражаны гэтым візітам у Рым, хаця спачатку і не хацеў туды ехаць. Закранула яго і Сартрава прамова. Уражанні ад паездкі ён апісаў у сваім лісце да Георгія Вылчава[85]. У афіцыйным паведамленні аб кангрэсе, апублікаваным у «ЛіМе», В. Быкаў назваў Сартраву прамову пра авангард у літаратуры «вялікай і выдатна аргументаванай»[86].

Як і яго зганеная савецкай прэсай аповесць, прамова В. Быкава на з’ездзе пісьменнікаў належыць да намаганняў дэсталінізацыі, у якіх актыўна ўдзельнічалі былыя салдаты і партызаны Савецкай арміі, цяперашнія ваяры

[82] Як узгадвала дачка П. Машэрава, яна параіла кіраўніку беларускай Кампартыі больш не карыстацца беларускай мовай, бо Машэраў працаваў над удасканаленнем рускага вымаўлення (тыповая цяжкасць для беларускага носьбіта мовы) настолькі доўга, што беларуская ўрэшце пачала гучаць ненатуральна. Вытрымкі з прамовы П. Машэрава і ўспаміны Наталлі Машэравай гл. у: Война и мир Петра Машерова // «Спутник Беларусь». URL: https://sputnik.by/longrid/20180212/1033563978/zhizn-i-smert-petra-masherova-mify-i-pravda.html (дата звароту: 09.05.2019).

[83] Болей аб крытычнай кампаніі супраць «Мёртвым не баліць» гл. у: Шапран С. Васіль Быкаў. Ч. 1. С. 393–495; Lewis S. Belarus — Alternative Visions. P. 90–98, а таксама ў падраздзеле 3.2 гэтай кнігі.

[84] Ліст В. Быкава да Г. Вылчава, 3 траўня 1963 года.

[85] Гл. лісты Васіля Быкава Георгію Вылчаву, 18 верасня 1965 года і кастрычнік 1965 года, FSO 01-242 (Kostezky).

[86] Быкаў В. У пошуках ісціны // Быкаў В. Поўны збор твораў. Т. 10, кн. 1. С. 171–175, упершыню апублікавана ў «ЛіМе» 9 лістапада 1965 года. У сваёй прамове «Avant-Garde, de qui et de quia?» Ж-П. Сартр спасылаецца на агульную тэму Кангрэса COMES «Еўрапейскі авангард учора і сёння».

літаратуры. У савецкай Беларусі працэсы дэсталінізацыі шмат у чым зацягваліся: яна пачала згортвацца, ледзь пачаўшыся[87]. У такіх варунках літаратарам даводзілася заваёўваць і абараняць права гаварыць пра вайну так, як яны яе бачылі, быць шчырымі са сваімі чытачамі[88]. У сваёй прамове В. Быкаў выступіў у абарону літаратуры і незалежнасці пісьменніка, яго права адкрываць праўду. Нагадваючы сваім калегам пра лёс рэпрэсаваных паэтаў і пісьменнікаў, такіх, як Максім Гарэцкі, ён перасцерагаў ад добраахвотнай або ненаўмыснай супрацы з любы́м рэпрэсіўным рэжымам, бо імёны калабарантаў застаюцца ў гісторыі так жа, як і імёны тых, на каго яны палююць:

> Трэба часцей напамінаць пра той горкі вопыт нашай культуры. Асабліва для тых, хто ўсё яшчэ не страціў ахвоту ў падкутых ботах пагойсаць па яе здратаваным агародзе[89], —

сцвярджаў Васіль Быкаў.

Яшчэ магутнейшай падаецца яго крытыка несвабоды і кантролю ў сферы літаратуры з боку дзяржавы. Запісаны тэкст быў пазней перакладзены на рускую мову і з’явіўся ў самвыдаце і праграмах заходніх радыёстанцый, якія вяшчалі на Савецкі Саюз[90]. Словы, якія знайшлі водгук у інтэлектуалаў як у Савецкім Саюзе, так і за мяжою, вартыя вялікай цытаты:

> Безумоўна, каб пісаць праўду, апроч таленту патрэбна немалая мужнасць. Але не меней мужнасці патрэбна і для таго, каб успрыняць праўду ва ўсёй яе паўнаце і складанасці. І ў гэтым сэнсе варта выказаць жаль, што некаторыя нашы кіраўнікі, тыя, каму больш за іншых павінна быць уласціва гэтая якасць, апынаюцца, мякка кажучы, не на вышыні. На словах прызнаючы крытыку за рухаючую сілу грамадства, яны тым

[87] Einax R. Entstalinisierung auf Weißrussisch. S. 192 etc.

[88] Гл., напрыклад, артыкулы В. Быкава «Права на праўду» (1963) і «Чёрный хлеб правды» (1967) (Быкаў В. Поўны збор твораў. Т. 10, кн. 1. С. 146–153, 199–202).

[89] Быков В. Выступление на V съезде СП БССР // Быкаў В. Поўны збор твораў. Т. 10, кн. 1. С. 195. Упершыню апублікавана (у значна скарочаным выглядзе) у «ЛіМе» 20 траўня 1966 года. Поўная версія з’явілася спачатку як «Прамова на V з’ездзе пісьменнікаў Беларусі» (Крыніца. 1990. № 4). У кніжных выданнях прамова ўпершыню надрукавана ў кароткай анталогіі артыкулаў, інтэрв’ю і прамоў «На крыжах» (Быкаў В. На крыжах. Мінск: Беларусь, 1992).

[90] Асобнік выступу В. Быкава аўтарка (Т. А.) знайшла ў асабістым архіве рускамоўнага латвійскага гісторыка культуры Барыса Раўдзіна (нар. у 1942 годзе). Гл.: FSO 117-3 (Равдин) Василий Быков. «Речь на V съезде Союза писателей Белоруссии». Прамова трапіла таксама ў серыю «Архив самиздата» (АС 532/7). Варта адзначыць, што, хоць руская версія і была выдатным літаратурным перакладам арыгінальнага тэксту, паміж імі ёсць пэўныя адрозненні, якія, аднак, не мяняюць агульнага значэння, палягаючы ў падкрэсліванні ці пропуску некаторых пунктаў і абзацаў.

не менш імкнуцца надаць гэтай крытыцы адзін кірунак — зверху ўніз. Але для літаратуры не існуе ні верху, ні нізу. З'яўляючыся чалавеказнаўствам, яна з аднолькавым правам даследуе і даярку, і міністра, радавога члена партыі і сакратара ЦК. […]

Напісаць добры твор нялёгка ва ўсіх адносінах, але яшчэ цяжэй яго надрукаваць. Гэта ж факт, што ў нас лёгка друкуюцца толькі пасрэдныя творы, тыя, у якіх нічога няма, якія падобныя на сотні папярэдніх, ужо выпрабаваных выдаўцамі і крытыкай. А тое, што не адпавядае афіцыйным устаноўкам, сустракаецца з недаверам і пераадольвае магутнае супраціўленне ва ўсіх сферах. Практычна аўтар апынаецца перад дылемай: або прыняць патрабаванні выдавецтва і спаскудзіць твор, або той ніколі не пабачыць свету[91].

Вядома ж, падобныя думкі прыходзілі ў галаву многім; больш таго, яны, напэўна, узнікалі ў калідорах і ў прыватных размовах. Незвычайнымі былі месца і слухачы, перад якімі прагучала крытыка В. Быкава: патрабавалася вялікая грамадзянская мужнасць, каб прамаўляць гэта прылюдна, перад партыйным кіраўніцтвам рэспублікі. Як зазначае З. Гімпелевіч, зварот В. Быкава прымусіў партыйнага кіраўніка Пятра Міронавіча Машэрава пакінуць залу[92].

Рэформа сацыялістычнага ладу, распачатая ў Чэхаславакіі, і яе прымусовае спыненне стала адначасна і пікам пасляспталінскай адлігі, адным з самых яркіх яе выражэнняў, і яе змярканнем, якое азначала канец надзей на рэфармаваны і «чалавечы» сацыялізм сярод інтэлігенцыі[93]. Пражская вясна правяла водападзел у гісторыі савецкага грамадства. Падобным чынам, яна падзяліла адносіны інтэлігенцыі да сацыялізму на «да» і «пасля». Калі 5 студзеня 1968 года Аляксандр Дубчак уступіў на пасаду Першага сакратара Камуністычнай партыі Чэхаславакіі і пачалася лібералізацыя, у інтэлігенцыі БССР абвастрылася чаканне перамен[94]. Гэтак жа, уварванне аб'яднаных сіл краін Варшаўскай дамовы ў жніўні 1968 года і паступовае згортванне рэформаў у канчатковым выніку развеялі ілюзіі і паказалі шлях (няхай напачатку толькі ўмераны і прыхаваны) іншадумства для інтэлігенцыі. Калі раней пераважалі аптымізм і падтрымка, то пазней яны ператварыліся ў расчараванне і недавер.

Найвядомейшым адказам на ўзброенае падаўленне Пражскай вясны сярод савецкай інтэлігенцыі стала дэманстрацыя на Чырвонай плошчы 25 жніўня

[91] Быков В. Выступление. С. 192, 194.
[92] Gimpelevich Z. Vasil' Bykaŭ. P. 173.
[93] Тарас В. На выспе ўспамінаў. С. 415–416.
[94] Там жа. С. 415.

Василий Быков

Речь на У сьезде Союза писателей Белоруссии

Два года подряд Комитет по Ленинским премиям не присуждает премий в об-
ласти литературы.Не знаю ,как кого,меня этот факт наводит на грустные
размышления.На самом деле,как получилось,что наша литература,которая вс
гда волнсвала человечество гениальностью своих произведений,выродилась
настолько,что два года не находится книги,которую можно было бы удосто
Государственной премии?В чем также дело,что наши национальные /респуб-
ликанские/премии то присуждаются,то о них словно бы забывают и по мес
цам не слышно,что именно выдвинуто и когда будет присуждено?
Не углубляясь однако в данную тему,я не могу разделить оптимизма до
ладчиков в этой области и хочу подчеркнуть,что литература действитель-
но стала хуже.На фоне известных хозяйственных и технических достижений
которые по всему миру разносят славу нашей страны,наша литература нахо-
дится долеко не в расцвете.Можно даже,не боясь преувеличения,сказать,ч
литература в известном отношении переживает кризис.И это,когда такое
беспокойство о ней проявляют,так твердо ей руководят!Почему же тогда э
дитя стало таким хилым?
Мне кажется,что причины известного упадка лежат как раз там.где пла-
нировались успехи.Произошла очень простая вещь:по отношению к литерату-
ре утрачена мера,ею заруководили,ее занянчили,,попросту задергали.Есл
В народном хозяйстве волюнтаризм-пройденный этап,то в литературе он до
сих пор в полном расцвете.В народном хозяйстве уж так не командуют,как
в литературе,там производственные отношении куда с большей естественно
стью и закономерностью.Литература же стала тем,чем было сельское хозяй
ство в недавнем прошлом:каждый,кто имеет над ней какую либо власть,не
прочь порезвиться не ее и без того вытоптанном огороде.
Очень и очень ошибаются те,кто считает,что в искустве и литературе
нет нерушимых законов,что ими можно вертеть,как вздумается,склонять,ку
да не понадобится.Но на беду или на счастье такие законы есть.Больше т
го,как и всякие законы подлинные они неумолимы и сурово мстят за их на
рушение.Не уважать их нельзя.Но главная трудность для художника заклю
ется в том,что законы искуства часто не совпадают с действующими на ка
дом данном этапе нормами общественной жизни.Больше того,они почти всег
да в противоречии.В жизни идеальнок общество то,где как можно меньше к
фликтов,а искуство требует наоборот.Для жизни наилучшие люди -прямые,
ясные,а для искусства-сложные и противоречивые. Создатель произведения
либо раздваивается между этими разнонаправленными векторами,либо скло-
няется в какую нибудь одну сторону.Вот почему даже для самого опытного
реалиста писать каждую новую книгу значить начинать все сначала.Весь е
прежний опыт теряет свое значение,он всегда беспомощен,когда новый жиз
ненный материал воплощается в соответствующие художественные формы.При
этом невозможно подчинить законы искуства законам жизни,так же и нао-
борот Нужна гармония,то что принято называть мастерством и что обозна-
чается только талантом художника.Осуществлять в этом деле диктат абсо-
лютно невозможно без того,что бы не задушить искуство.
Все ли у нас понимают эту прописную,довольно таки банальную истину?
Боюсь,что нет.На каждом шагу в жизни мы встречаем вопиющее непонимание
литературы,непонимание,которое вызывает отчаяние,особенно,если неумер
ные ревнители начинают делать скоропалительные политические выводы.
Удивительно,что в наше время,на 49 -ом году Советской власти по отно-
шению к искуству пренебрегают тем,что нужно было бы усвоить в школе.
И я убежден,что высокие соображения,идейные обоснования /хотя бы и
ссылки на войну во Вьетнаме/ здесь ровно не при-чем -все беды в этой
области идут от невежества,низкой эстетической культуры,а то и от
дипломированного обскурантизма.
"Первым и главным проявлением такого обскурантизма,на мой взгляд
является отношение к критическому началу в литературе.Еще великий
Белинский в своей знаменитой статье "Ответ Москвитянину" писал:
"Творчество,по своей сущности,требует безусловной свободы в выборе
предметов не только от критиков,но и от самого художника.Ни ему никто
не вправе задавать сюжетов,ни он сам не вправе напрве направлять себя
в этом отношении.Он может иметь определенное направление,но оно у не

117-3 Bykov

*Ілюстрацыя 5. Самвыдацкі асобнік выступу Васіля Быкава на V з’ездзе Саюза пісьменнікаў БССР у траўні 1966 года (пераклад на рускую). FSO 117-3 (Равдин).*

1968 года ў Маскве. Дэманстрацыя мела моцны грамадскі эфект — яе называлі «самым рашучым пратэстам супраць агрэсіі ў Чэхаславакіі», шырока абмяркоўвалі і помнілі на Захадзе[95]. Праз год адна з удзельніц акцыі пратэсту, паэтка і перакладчыца Наталля Гарбанеўская (1936–2013) выпусціла самвыдацкі альманах «Полдень», прысвечаны жнівеньскім падзеям у Маскве[96]. У эпілогу Н. Гарбанеўская склала спіс іншых адкрытых пратэстаў супраць уварвання. У гэтым спісе адсутнічае выпадак беларускага фабрычнага рабочага Міхася Кукабакі (нар. у 1936); ён атрымаў вядомасць і прызнанне пазней, пасля таго як быў асуджаны за сваю праваабарончую дзейнасць. Наколькі вядома, 32-гадовы М. Кукабака з'явіўся ў пасольстве Чэхаславакіі ў Кіеве на наступны дзень пасля ўварвання, 22 жніўня 1968 года[97]. Ён выказаў салідарнасць з чэшскім народам, раскрытыкаваў дзеянні краін Варшаўскай дамовы і запэўніў, што далучыцца да чэхаславацкага народа ў выпадку адпраўкі ваяваць супраць апошняга[98].

Яшчэ менш вядомым быў выпадак выпускніка аддзялення філасофіі БДУ Анатоля Сідарэвіча (нар. у 1941). Яшчэ да падзеяў у Чэхаславакіі А. Сідарэвіч быў неаднаразова пазбаўлены працы за крытыку У. Леніна і яго ідэяў. Яго публічныя выказванні супраць умяшальніцтва ў справы Чэхаславакіі ў жніўні 1968 года прывялі да «прафілактычных» размоваў у КДБ, а пасля і змяшчэння ў псіхіятрычнае аддзяленне Мінскай клінічнай лякарні[99].

Кіруючыся ўказаннямі аддзела ідэалогіі і прапаганды ЦК КПСС, друкаваныя СМІ БССР захоўвалі варожае стаўленне да дэмакратычных перамен у Чэхаславакіі[100]. Тое ж датычыць і кіраўнікоў БССР. Першы сакратар Пётр Машэраў выказаў сваё незадавальненне А. Дубчакам і яго

---

[95] Год прав человека в Советском Союзе // ХТС. 1968. № 2. Цыт. па публікацыі «Мемарыялу». URL: http://www.memo.ru/history/DISS/chr/chr3.htm (дата звароту: 08.11.2016).

[96] Горбаневская Н. Полдень: Дело о демонстрации 25 августа 1968 года на Красной Площади. Франкфурт-на-Майне: Посев, 1970.

[97] Міхаил Кукобака. Рабочий, публицист, политический заключённый // Страна и мир. 1986. № 3. С. 14. Гл. таксама: Кукобака Міхаил Игнатьевич // Кузовкин Г., Макаров А. Список граждан, выразивших протест или несогласие с вторжением в Чехословакию. URL: http://www.polit.ru/article/2008/09/02/people68 (дата звароту: 11.06.2017). Больш пра Кукабаку ў: Міхась Кукабака / уклад. П. Сцепаненка, рэд. Н. Гардзіенка. Мінск: Цэнтар даследаванняў грамадзянскае супольнасці Беларусі, 2016.

[98] Дзярновіч А. Кукабака, Міхась // Дэмакратычная апазіцыя Беларусі. URL: http://slounik.org/153688.html (дата звароту: 19.06.2019).

[99] Дзярновіч А. Сідарэвіч, Анатоль // Дэмакратычная апазіцыя Беларусі. URL: http://www.slounik.org/153707.html (дата звароту: 17.08.2021).

[100] Selemenev V. Der 'Prager Frühling' und Weißrussland // Prager Frühling. Das internationale Krisenjahr 1968 / ed. Stefan Karner [et al.]. Band 1 (Beiträge). Köln: Böhlau Verlag, 2008. S. 930–931.

рэформамі ўжо 15 сакавіка 1968 года[101] і працягваў выступаць з падобнымі заявамі і далей[102].

Адметна, аднак, што два кіраўнікі камуністычнай партыі ў Беларусі — былы (К. Мазураў) і цяперашні (П. Машэраў) — былі ў розным становішчы што да падзей у Чэхаславакіі. П. Машэраў, хоць і займаў насцярожаную пазіцыю і асцерагаўся хваляванняў у БССР, не быў настолькі актыўны і ўплывовы па-за межамі рэспублікі, каб вызначаць рашэнні ЦК КПСС. К. Мазураў, на той час ужо паўнавартасны сябар Палітбюро, наадварот, знаходзіўся ў эпіцэнтры прыняцця рашэнняў па Чэхаславакіі. Ужо 21 сакавіка 1968 года на пасяджэнні Палітбюро ён выказаў меркаванне, што трэба рыхтавацца да горшага[103]. Відавочна, што пад апошнім ён меў на ўвазе задзейнічанне войска. Як паказалі наступныя падзеі, сам К. Мазураў аказаўся да гэтага гатовым. Ён быў прызначаны сакрэтным упаўнаважаным савецкага Палітбюро па справах Чэхаславакіі. Хаваючыся пад псеўданімам «генерал Трафімаў», К. Мазураў практычна кіраваў аперацыяй па здушэнні Пражскай вясны[104].

Інтэлігенцыя на ўскраінах Савецкага Саюза, у тым ліку ў БССР, здавалася, праглынула несвабоду і абмежаванні, што вынікалі з уварвання ў Чэхаславакію. Акты нязгоды ці тым болей адкрыты пратэст рэгістраваліся рэдка. Тым не менш, як бачна з дзённікаў і ўспамінаў, увага інтэлігенцыі ў Мінску (як і ў Маскве, Ленінградзе, Кіеве, Вільні) у той час была засяроджаная на падзеях у Чэхаславакіі і сімпатыі былі на баку чэшскага і славацкага народаў і іх памкненняў да свабоды.

Варта адзначыць, што Прага заўсёды мела асаблівае значэнне для беларускай гісторыі. Менавіта там 6 жніўня 1517 года выйшла першая друкаваная старабеларускай мовай кніга — «Псалтыр». Выдавец і перакладчык кнігі, беларускі першадрукар Францыск Скарына, стаў адною з рэдкіх постацей у гісторыі Беларусі, якая захоўвала сваё значэнне пры большасці палітычных рэжымаў, уключаючы савецкі[105]. Усяго за год да Пражскай вясны і яе жорстка-

---

[101] Selemenev V. Der ‘Prager Frühling’ und Weißrussland. S. 934.

[102] Valenta J. The Bureaucratic Politics and the Soviet Invasion of Czechoslovakia // Political Science Quarterly. Vol. 94, no. 1 (Spring, 1979). P. 60–61.

[103] «Мы должны готовиться к худшему» // «Пражская весна» и международный кризис 1968 года: статьи, исследования, воспоминания / под ред. Н. Томилиной. Москва: Международный фонд «Демократия», 2010. С. 384.

[104] Там жа. С. 399.

[105] Спіс крыніц аб Ф. Скарыне занадта вялікі, каб прыводзіць яго тут цалкам. Аднак варта пералічыць асобныя творы, якія адлюстроўваюць значэнне яго постаці для пасляваеннага і позняга савецкага перыядаў: Чапко В. Беларускі першадрукар Георгій Скарына. Мінск: Выдавецтва АН БССР, 1956; Журавский А., Булыко А. 450 лет белорусского книгопечатания. Москва: Книга, 1967; Сидоров А. [и др.] Белорусский просветитель Франциск Скорина и начало книгопечатания в Белоруссии и Литве.

га падаўлення ў БССР адзначалася 450-годдзе беларускага кнігадруку. Такім чынам, Прага была дастаткова блізкай як важнае месца для беларускіх культуры і памяці, але больш аддаленай як фізічнае месца і сталіца сацыялістычнай Чэхаславакіі. Тым не менш падзеі ў Празе ўзрушвалі і прыцягвалі ўвагу.

30 жніўня 1968 года ўраджэнец Заходняй Беларусі, вядомы празаік Вячаслаў Адамчык напісаў у сваім дзённіку, раней амаль цалком прысвечаным прыгажосці прыроды:

> Кожны вечар настаўляю вуха да светла-жоўтай старое «Сакты» [радыёпрымач] — слухаю і заміраю сэрцам, перажываючы за Чэхаславакію[106].

Нават дзённікі не лічыліся дастаткова бяспечнымі, каб свабодна выказваць у іх нязгоду, — выбар часта рабіўся на карысць алегорый і эзопавай мовы. Падзеі мелі сапраўды ашаламіць, каб пратачыцца ў дзённік. Такое ж ашаламленне з’яўлялася і ў мемуарах: шкадаванне і расчараванне былі настолькі моцнымі, што заставаліся ў памяці дзесяцігоддзямі.

У сваіх успамінах гісторык Барыс Клейн згадвае іх з Васілём Быкавым рэакцыю на паведамленні аб увядзенні войскаў саюзнікаў у Чэхаславакію.

У свой час і Б. Клейн, і В. Быкаў былі жыхарамі Гродна, усяго за трыццаць гадоў да гэтых падзей Гродна было ў складзе Другой Польскай рэспублікі. К 1960-м гадам горад быў значна і мэтанакіравана зрусіфікаваны. Вядучая рэгіянальная газета — штодзёнка «Гродненская правда», супрацоўнікам якой быў В. Быкаў, выходзіла цалком на рускай мове.

Б. Клейн згадвае:

> Надышоў той жнівень, які ўсё расставіў на свае месцы. Мы сустрэліся з Быкавым на пешаходным мастку пад чыгункай, непадалёк ад рэдакцыі

Масква: Наука, 1979; Калеснік У. Постаць Скарыны // Калеснік У. Тварэнне легенды. Мінск: Мастацкая літаратура, 1987. С. 3–122. У эміграцкай літаратуры і навуковых даследаваннях: Брага С. Пытанне імя доктара Францыска Скарыны ў святле актаў і літаратуры. Нью-Ёрк; Мюнхен: БІНіМ, 1967; каб атрымаць падрабязны спіс крыніц пра адносіны эміграцкай інтэлігенцыі да Скарыны, гл.: Тумаш В. Пяць стагоддзяў Скарыніяны, XVI–XX. Нью-Ёрк: БІНіМ, 1989; Беларускі і беларусаведны друк на Захадзе: Асобныя выданні: бібліяграфія / уклад. З. Кіпель, В. Кіпель. Нью-Ёрк; Менск: БІНіМ, 2003; Юрэвіч Л. Эмігрант Францыск Скарына, ці Апалогія. Мінск: Бацькаўшчына, 2015.

[106] Адамчык В. Развітальная аповесць: аповесць, апавяданні, дзённікі. Мінск: Мастацкая літаратура, 1999. С. 424–425.

> «Гродненской правды». Васіль запомніў мае словы: «Чуў? Яны ўсё ж увялі. Танкі ў Празе». Здаецца, ён таксама нешта сказаў. І мы разышліся з адчуваннем непапраўнага[107].

Як аднойчы зазначыў пісьменнік Іван Шамякін, унутраныя справы цікавілі савецкую інтэлігенцыю болей, чым сусветная палітыка. Сітуацыя змянялася толькі тады, калі адбываўся міжнародны крызіс[108].

Мабільнасць беларускіх пісьменнікаў па-за межамі СССР была нізкай у параўнанні з іх маскоўскімі ды ленінградскімі калегамі. Таксама ў Саюзе пісьменнікаў БССР існавала вялізная неадпаведнасць у магчымасцях падарожжаў паміж набліжанымі да ўлады і ўсімі іншымі. Першыя маглі дазволіць сабе турыстычны ці сяброўскі візіт у блізкае і далёкае замежжа, тады як апошнія павінны былі атрымаць запрашэнне калегі ці сябра і цярпліва чакалі дазволу аддзела ідэалогіі КПБ.

Народны паэт Беларусі Максім Танк (1968), старшыня праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі, а к пачатку 1970-х — старшыня Вярхоўнага Савета БССР, наведваў Чэхаславакію тройчы — у 1949, 1951 і 1971 гадах. Акрамя таго, толькі за адно дзесяцігоддзе, з 1965 па 1975 год, ён з’ездзіў у ГДР (тройчы), Венгрыю, Югаславію, Польшчу (двойчы), а таксама ў Чылі, Канаду, Фінляндыю і Англію[109]. У 1955–1975 гадах іншы вядомы аўтар і функцыянер Саюза пісьменнікаў, Янка Брыль, наведаў сямнаццаць краін, уключаючы ЗША, Індыю, Ірландыю, Італію і Турцыю[110].

К 1960-м прамы кантакт паміж беларускай і чэхаславацкай інтэлігенцыяй было б цяжка назваць трывалым. 2 сакавіка 1968 года Васіль Быкаў напісаў свайму балгарскаму сябру Георгію Вылчаву:

> Сюда доходят некоторые вести из Чехословакии, но нам далеко до них во всех смыслах...[111]

Г. Вылчаў, наадварот, быў добра абазнаны ў тамашніх справах, бо меў шчыльныя сувязі з чэхаславацкай інтэлігенцыяй і часта наведваў Прагу.

---

[107] Кляйн Б. Недагаворанае: раздзелы з успамінаў // Дзеяслоў. 2004. № 10. С. 190.

[108] Шамякін І. Роздум. С. 116.

[109] Спіс замежных паездак Максіма Танка, складзены ім уласнаручна // Асабістая справа Максіма Танка. Архіў СБП. URL: https://lit-bel.org/from-archive/Maksm-Tank-5544/ (дата звароту: 15.05.2015).

[110] Картка персанальнага ўліку сябра Саюза пісьменнікаў СССР. Старонка 1. Бібліяграфічныя звесткі // Янка Брыль. Архіў СБП. URL: https://lit-bel.org/from-archive/Yanka-Brely-5075/ (дата звароту: 15.05.2015).

[111] Ліст Васіля Быкава Георгію Вылчаву, 2 сакавіка 1968 года // FSO.

Нягледзячы на недахоп прамых кантактаў, Пражская вясна паўплывала на беларускую інтэлігенцыю. Гэтак жа, разам з уздымам пратэставай актыўнасці ва ўсім свеце ў 1968 годзе, агульная атмасфера перамен — пераход ад таталітарызму да частковай лібералізацыі, а пазней да спроб партыі вярнуць сабе поўны кантроль над грамадствам — адгукнулася і ў савецкай Беларусі. З таго часу інтэлігенцыя як афіцыйна, так і таемна стала на шлях незадаволенасці. Альтэрнатыўныя тэмы пранікалі ў літаратуру, мастацтва і кіно. Нетрадыцыйныя гістарычныя даследаванні прабівалі дарогу да чытача, а ў 1970-х паступова развіваўся самвыдат. Гэтыя тэмы будуць разгледжаны ў наступных раздзелах. Важна адзначыць, што ў наступным дзесяцігоддзі незадаволенасць была свядомым выбарам толькі невялікай колькасці асоб. Хаця сфармаваліся групы аднадумцаў, але яны, як уяўляецца, былі хутчэй супольнасцямі інтарэсаў і падтрымкі, якія яшчэ не нацэленыя былі на акты калектыўнага непадпарадкавання.

Паварот да беларускай мовы, вызначальны для беларускай інтэлігенцыі канца XIX — пачатку XX стагоддзя, быў характэрны і для канца 1960-х — пачатку 1970-х гадоў. Пісьменнік і паэт Леанід Дайнека (1940–2019) пазначае 1968 год як мяжу свайго павароту (роўна як і павароту некаторых яго сяброў і аднагодкаў) да беларускай мовы: усе яны пачалі пісаць па-руску, але пазней перайшлі на беларускую[112]. Найбольш вядомай падзеяй стаўся, аднак, збор подпісаў за навучанне на беларускай мове на філалагічным факультэце БДУ, арганізаваны А. Разанавым, В. Ярацам і Л. Барташам[113].

У канцы 1960-х невялікая група маладых супрацоўнікаў Акадэміі навук БССР, незадаволеных нацыянальнай палітыкай партыі, заснавала нефармальны «Акадэмічны асяродак»[114]. Болей цікавячыся нацыянальнымі пытаннямі, чым пытаннямі палітычнай свабоды і дэмакратыі, група лічыла апошнія «справай маскоўскай інтэлігенцыі»[115]. Яе ўдзельнікі збіралі бібліятэку дарэвалюцыйнай беларускай літаратуры, а таксама кнігі, выдадзеныя ў Заходняй Беларусі, апытвалі жывых відавочцаў Беларускай Народнай Рэспублікі ды беларускіх актывістаў Другой Польскай рэспублікі, прапагандавалі прызначэнне «сваіх» (беларускамоўных і прабеларускіх) супрацоўнікаў на адпаведныя адміністрацыйныя пасады. Адначасна ў Мінску пачалі гуртавацца неафіцыйныя мастацкія аб’яднанні — такія, як «На паддашку» (1965–1985)[116].

112 Дайнека Л. Герадоцінкі // Тэрмапілы. 2005. № 9. С. 65.

113 Падрабязней гл. у: «І немагчымае зрабі!..» Успаміны пра падзеі 1968 года / З. Санько, А. Чарнавокая. Мінск: Тэхналогія, 2021.

114 Іх сябры не вялі пісьмовай дакументацыі аб дзейнасці. Гл.: Чарняўскі М. Акадэмічны асяродак // Нонканфармізм у Беларусі / выд. А. Дзярновіч. С. 196–204.

115 Шапран С. Міхась Чарняўскі: «Нібыта мы зніклі з белага свету»: інтэрв’ю // Новы час. URL: http://novychas.info/asoba/michasj_carniauski_nibyta_my_z/ (дата звароту 30.01.2013).

116 Васілеўскі П. Творчы асяродак «На паддашку» // Дэмакратычная апазіцыя / пад рэд. А. Дзярновіча.

У 1968 годзе ўраджэнец Свярдлоўска, музы́ка Уладзімір Мулявін (1941–2003) заснаваў фальклорны ансамбль «Лявоны» (у 1970 годзе перайменаваны ў «Песняры»). Рэпертуар ансамбля, заснаваны на традыцыях беларускіх народных песень, аранжаваных элементамі джазу і рок-музыкі, атрымаў не толькі ўсесаюзнае, але і міжнароднае прызнанне. У адрозненне ад большасці іншых дзяржаўных мастацкіх праектаў, якія выкарыстоўвалі народную традыцыю ў якасці дэкору, «Песняры» ўспрымалі яе сур'ёзна, імкнучыся зразумець яе асновы і сапраўдную каштоўнасць.

Гэта ўзняло як беларускую песню, так і беларускую мову на ўзровень, калі апошняя перастала ўспрымацца як вясковая і адсталая ды пачала звязвацца з вытанчанай музыкай. Пераканаўчым было і тое, што кіраўніком ансамбля быў ураджэнец Расіі. Апошняе служыла дадатковай легітымізацыяй ужывання беларускай мовы, бо У. Мулявіна было б складана абвінаваціць у беларускім нацыяналізме.

У жніўні 1969 года Міхаіл Кукабака напісаў адказ англійскаму пісьменніку і рэжысёру Айвару Голдсміту Мантэгю (1904–1984). Мантэгю, які ўваходзіў у Камуністычную партыю Вялікабрытаніі, асуджаў нелегальную эміграцыю савецкага пісьменніка, аўтара «Бабінага Яра» Анатолія Кузняцова (1929–1979) і ўсхваляў становішча пісьменніка ў СССР[117]. Фабрычны рабочы М. Кукабака, як ён сам сябе называў, не адмаўляў прывілеяванага становішча інтэлігенцыі ў СССР. Тым не менш ён выказаў салідарнасць з пісьменнікам, якога цкавалі за рашэнне не вяртацца ў СССР — стаць «невяртанцам».

Пераход ад больш-менш ліберальных шасцідзясятых да рэакцыйных сямідзясятых і змены адносін паміж інтэлігенцыяй і ўладай можна прасачыць і на прыкладзе дылогіі Алеся Адамовіча «Партызаны», а дакладней — па спрэчках аб яе экранізацыі. У двухсерыйным фільме, знятым вядомым і шмат у чым нестандартным рэжысёрам Віктарам Туравым (1936–1996), бачны як уплыў адлігі, так і паварот да сталінізму[118]. Як адзначае Д. Сітнікава, першая частка, «Война под крышами» (1967), уяўляе сабою мазаіку асобных галасоў, сярод якіх «цяжка вызначыць, хто "наш", а хто — "вораг"»[119]. У другой жа частцы, «Сыновья уходят в бой» (1969), на першы план выходзіць вядучая роля партыі і арганізаванай агульнанацыянальнай партызанскай барацьбы[120].

У той час, калі ў Чэхаславакіі развівалася ідэя сацыялізму з чалавечым

[117] Комсомольская правда. 1969. 21 жн. «Бабий Яр» быў упершыню надрукаваны (са скарачэннямі) у часопісе «Юность» (1966. № 8–10), а праз год — як кніга: «Бабий Яр: роман-документ» (Москва: Молодая гвардия, 1967). У 1970 годзе, пасля эміграцыі А. Кузняцова, выдавецтва «Посев» перавыдала раман у Франкфурце-на-Майне.

[118] К канцу 1960-х гадоў выпускнік Усерасійскага дзяржаўнага інстытута кінематаграфіі В. Тураў ужо быў вядомы дзякуючы фільму «Через кладбище» (1965).

[119] Ситникова Д. Партизан. С. 428–429.

[120] Там жа. С. 429.

тварам, сярод расійскай інтэлігенцыі фармаваліся дысідэнцкі рух і пазацэнзурнае выдаўніцтва. Падобным чынам, у савецкай Беларусі сярод інтэлігенцыі выспявала альтэрнатыўнае паняцце культуры. Тым не менш гэтае паняцце было сфармуляванае (хай часам толькі паступова і асцярожна) збольшага не падпольнымі дысідэнцкімі коламі, а інтэлектуаламі, якія былі даволі паспяхова ўбудаваныя ў іерархію савецкага пісьменніцкага цэха і функцыянавалі амаль выключна ўнутры яго (асобныя выпадкі разглядаюцца падрабязней у раздзеле 3). Стварэнне самвыдату адыгрывала на той час маргінальную ролю і магло ажыццяўляцца адначасна з афіцыйна выдадзенай літаратурай. Гэтая тэндэнцыя захоўвалася і ў наступным дзесяцігоддзі.

Да таго ж, як падаецца, асновы, на якія абапіраўся расійскі дысідэнцкі рух, былі зусім іншыя, чым тыя, што можна назіраць на матэрыяле нацыянальных рэспублік. Калі першы надаваў першачарговае значэнне барацьбе за галоснасць і правы чалавека і грамадзяніна, то апошнія засяроджваліся на праве нацыянальнага самавызначэння, якое павіна было выступіць падмуркам дзеля забяспячэння іншых свабод. Звычайна такая пазіцыя паясняецца пэўнай няспеласцю мясцовай інтэлігенцыі, а таксама адсутнасцю рэсурсаў і магчымасцяў, што прыводзіла да своеасаблівага «даганяючага» іншадумства. Аднак нацыянальныя рухі можна разглядаць і як альтэрнатыўную лінію антысацыялізму, што ўзнікае з-за незадаволенасці інтэлігенцыі нацыянальнай палітыкай у СССР.

## 2.5. ДЗЕСЯЦІГОДДЗЕ РЭПРЭСІЙ

У гісторыі дысідэнцкіх рухаў пачатак 1970-х гадоў адзначаны перасследам расійскай інтэлігенцыі. Дзяржава ўзнавіла кантроль над часопісам «Новый мир» і прымусіла падаць у адстаўку яго адданага рэдактара Аляксандра Твардоўскага. КДБ аказваў ціск на ўплывовы бюлетэнь праваабарончага самвыдату «Хроника текущих событий», выдаўцоў якога часта абшуквалі, затрымлівалі і асуджалі. Як вынік, выданне бюлетэня давялося прыпыніць у 1973 годзе. Сярод іншых мерапрыемстваў таго ж парадку найбольш значнымі былі прапагандысцкая кампанія супраць Андрэя Сахарава, выключэнне Аляксандра Салжаніцына з Саюза пісьменнікаў і яго прымусовае выгнанне з СССР у 1974 годзе. Масавы пераслед, вобшукі і судовыя працэсы супраць нонканфармісцкай нацыянальнай інтэлігенцыі таксама праходзілі па ўсёй савецкай Украіне[121].

Гэтыя часы былі зусім неспакойнымі і для іншадумства ў БССР, хаця яны і атрымалі нашмат менш увагі з боку сучасных назіральнікаў. У 1972 годзе ў

[121] Касьянов Г. Незгодні: Українська інтелігенція в Русі опору 1960–80-х років. Київ: Либідь, 1995. С. 121–141.

Мінску быў забіты мастак-дысідэнт Лявон Баразна. Абставіны злачынства выклікáлі падазрэнне ў палітычным забойстве.

Беларускамоўны нонканфарміст і вядомы энтузіяст захавання гістарычнай спадчыны, Л. Баразна планаваў акцыю пратэсту супраць разбурэння квартала Няміга — рэштkaў старога горада ў Мінску. Калегі і сябры Л. Баразны выказвалі здагадку, што ў нападзе на мастака былі замяшаныя супрацоўнікі КДБ.

Як палітычна матываваная трактавалася і смерць музы́кі Валерыя Мулявіна ў 1973 годзе ў Ялце. Валерый быў артыстам знакамітага ансамбля «Песняры», старэйшым братам кіраўніка ансамбля, Уладзіміра Мулявіна.

У верасні 1970 года «ХТС» паведаміла пра забойства ў сталіцы БССР, Мінску, вучня Вячаслава Максакава, які распаўсюджваў (або збіраўся распаўсюджваць) улёткі з патрабаваннямі «дэмакратычных свабод». Смерць школьніка выклікала адкрыты пратэст сярод яго аднакласнікаў, якія патрабавалі свабоды прэсы і слова. Пры разгоне міліцыяй пратэстуючая моладзь крычала: «Это вам не Чехословакия!»[122]

У 1974 годзе КДБ Беларусі распачаў справу супраць «Акадэмічнага асяродка», у выніку чаго мовазнаўца Алесь Каўрус, геолаг Віктар Лапуць, мастацтвазнаўца Сцяпан Місько, археолаг Міхась Чарняўскі, гісторык літаратуры Мікола Прашковіч, а некалькі пазней і гісторык мастацтва Зянон Пазьняк былі звольненыя з працы ў АН БССР[123]. Працу згубіў і рэдактар Беларускай Савецкай Энцыклапедыі Валянцін Рабкевіч.

Уздым і загасанне руху «Салідарнасць» («Solidarność») у Польшчы і проста чарговая хваля рэпрэсій супраць іншадумцаў у Маскве і Ленінградзе прывялі да таго, што маскоўскі праваабаронца і сын Юлія Даніэля, Аляксандр Даніэль, назваў практычным разгромам дысідэнцкага руху[124]. Няўдача, як ён патлумачыў, была выкліканая не толькі рэпрэсіямі, але і адыходам ад дысідэнцкай дзейнасці ў пачатку 1980-х. Апошняе аказалася асабліва справядлівым для праваабарончага руху, да якога рэдка далучаліся новыя людзі, у выніку чаго «страты пачалі перавышаць здабыткі»[125].

---

[122] Краткие сообщения // ХТС. 1970. № 14. Гл. таксама абмеркаванне ў «Посеве»: Демонстрация старшеклассников Минска // Посев. 1970. № 9. С. 5. Гэтыя падазрэнні пасільвалі і забойствы, якія адбываліся прыблізна ў гэты ж час у іншых савецкіх рэспубліках. У савецкай Украіне шырока абмяркоўвалася забойства ў 1970 годзе мастачкі Алы Горскай — гл.: Алексеева Л. История инакомыслия. С. 21. Дзмітры Падбярэзскі падае іншую версію забойства, гл.: Хваляванні ў Менску 09.04.1970 // Дэмакратычная апазіцыя ў Беларусі. URL: http://slounik.org/153876.html (дата звароту: 07.11.2020).

[123] Гл. таксама: Нонканфармізм у Беларусі / пад рэд. А. Дзярновіча. С. 196–204.

[124] Морев Г. Александр Даниэль: «Без диссидентов политика стала мелкой как лужа» // Диссидентство как исторический феномен — глазами одного из участников и исследователей. Colta.ru. URL: http://www.colta.ru/articles/dissidents/6426 (дата звароту: 15.06.2017).

[125] Морев Г. Александр Даниэль.

У той жа час, калі П. Машэраў аддаваў даніну «найперш вялікаму расійскаму народу», у БССР распаўсюджваўся і кансалідаваўся ідэалагічны і культурны нонканфармізм[126].

З'яўленне і пашырэнне руху «Салідарнасць» ды ўвядзенне ваеннага становішча ў снежні 1981 года таксама адсочваліся і абмяркоўваліся ў Беларусі, але не з такою зацікаўленасцю, як падзеі ў Чэхаславакіі[127]. Магчымая прычына ў тым, што падставовая ідэя «Салідарнасці» аб нацыянальным адзінстве, якая перасягала сацыяльныя межы і злучала інтэлігенцыю і рабочы народ, на той момант яшчэ не была цалкам засвоеная беларускім грамадствам.

Адпрэчаныя ад вяскоўцаў ды іх жыцця ў працэсе прамысловага ўздыму і урбанізацыі шырокія колы інтэлігенцыі трымаліся за сваё прывілеяванае становішча ў грамадстве, толькі пачынаючы цікавіцца адраджэннем беларускіх мовы і культуры[128].

Адначасна ідэя заставалася элітарнай і незразумелай для большасці, якая толькі што «вызвалілася» ад «сялянскай» беларускай мовы і сваёй «ускраіннай» культуры.

Цікава, што частка актыўнай беларускай меншасці ў Польшчы таксама не прыняла ідэй «Салідарнасці».

Прычын такога неразумення было некалькі. З аднаго боку, інтэлігенцкая меншасць у значнай ступені ставілася да праваслаўя як да апоры беларускай нацыянальнай ідэнтычнасці, што не адпавядала руху «Салідарнасці», які абапіраўся на каталікаў. З іншага боку, «Салідарнасць» разглядалася як рух уніфікацыйны, не спрыяючы падтрымцы нацыянальных меншасцяў у Польшчы:

> У ёй [«Салідарнасці»] для нас як народу ў пазітыўным сэнсе не робіцца нічога істотнага. У ёй пануюць настроі тыпу «Польшча для палякаў»[129], —

адзначаў ананімны аўтар самвыдацкага альманаха «Аргументы да польска-беларускага дыялогу», прысвечанага абмеркаванню беларуска-польскіх адносін.

---

[126] Цыт. па: Marples D. Belarus from Soviet Rule. P. 6.

[127] Дубянецкі М. «Злое вогнішча». Да гісторыі выдання аповесці Васіля Быкава «Мёртвым не баліць» // Полымя. 1999. № 2. С. 172.

[128] Гл., напрыклад, проціпастаўленне інтэлігенцыі і «цёмнай вясковай кабеты» ў прамове Уладзіміра Дамашэвіча: Ул. Дамашэвіч «Заместа таго, каб радавацца...», 08.12.1988 // МНА F 1/21. Spr. D16. C. 4.

[129] Białoruska dokumentacja potrzeb i pragnień // Argumenty do dialogu polsko-białoruskiego. Zesz. 1. Przedświt, 1986. S. 161.

## 2.6. НА ШЛЯХУ ДА ПЕРАБУДОВЫ

Дваццаць сёмы з’езд КПСС, які адбыўся 25 лютага — 6 сакавіка 1986 года, адзначыўся першымі крокамі да перабудовы і галоснасці ў савецкім грамадстве. Новаабраны Генеральны сакратар ЦК КПСС Міхаіл Гарбачоў выказаў намер унесці беспрэцэдэнтныя змены ў эканамічнае, сацыяльнае ды інтэлектуальнае жыццё СССР. Як і чакалася, новая праграма атрымала падтрымку і вы́клікала вялікі энтузіязм у грамадзян савецкай дзяржавы. Разам з тым адносіны партыйнага кіраўніцтва да перабудовы падзяліліся. Некаторыя з мясцовых кіраўнікоў камуністычнай партыі процістаялі дэмакратычным зменам на ўскраінах, нягледзячы на паказную падтрымку.

Так рабілі і першыя сакратары ЦК КПБ у савецкай Беларусі Мікалай Слюнькоў (займаў пасаду ў 1983–1987 гадах) і Яфрэм Сакалоў (нар. у 1926 годзе, на пасадзе ў 1987–1990 гадах)[130]. Яны і іх блізкае атачэнне, здаецца, ваганіся паміж неабходнасцю выконваць указанні цэнтра ды імкненнем запавольваць ці мінімізаваць рэальныя змены ў БССР, выкарыстоўваючы падыход «пажывём — пабачым», як называе яго Андрэй Казакевіч[131]. Такія ж ваганні назіраліся і ў кіраўніцтве беларускага Саюза пісьменнікаў. Дыскусіі пра лёс беларускай мовы, якія разгарэліся ў больш ліберальным тыднёвіку «ЛіМ» з сярэдзіны 1987 года, суседнічалі з больш кансерватыўнай і асцярожнай пазіцыяй часопіса «Полымя»[132].

У БССР імпульс перабудовы захапіў сярод іншых такіх інтэлектуалаў, як Васіль Быкаў, Алесь Адамовіч, Васіль Якавенка (1936–2018), Уладзімір Дамашэвіч (1928–2014) і Зянон Пазьняк, якія распачалі дыскусіі спачатку ў цэнтральнай, а затым і ў рэспубліканскай прэсе. Сярод галоўных тэмаў былі стан беларускай мовы і культуры, дэсталінізацыя, а таксама кансерватыўнасць беларускага партыйнага апарату. Крыху пазней тэмай гарачага абмеркавання стала і экалагічнае становішча ў рэспубліцы.

Старонкі для дэбатаў інтэлігенцыі на актуальныя праблемы ў палітыцы і культуры прадастаўлялі ўплывовыя маскоўскія выданні — «Литературная газета», «Московские новости», «Огонёк», а таксама мінскія — «ЛіМ» і, крыху пазней, «Чырвоная змена».

Адначасна пачалі з’яўляцца групы і аб’яднанні інтэлектуалаў. Яны маглі быць недаўгавечнымі, калі патрабавалася супраца для неадкладнай пратэставай дзейнасці, або маглі быць нацэленымі на ўстойлівае калектыўнае

---

[130] Kazakevich A. In the Twilight of the Internationalist Politics: Means of Political Activity of Pro-Soviet Organizations in Western Republics of USSR, 1988–1991 // Belarusian Political Science Review. 2019. № 4. P. 43, 56–57.

[131] Ibid. P. 46.

[132] Гл. «Полымя», друкаваны орган Саюза пісьменнікаў БССР, асабліва 1986 і 1987 гады.

ўздзеянне на грамадства. Апошняе вабіла пераважна маладое, «трэцяе пакаленне» савецкай беларускай інтэлігенцыі (гл. табліцу 5). Народжаныя ў канцы 1950-х — 1960-х гадах, на пачатку перабудовы прадстаўнікі гэтага пакалення былі ва ўзросце паміж дваццаццю і трыццаццю гадамі і, натуральна, з'яўляліся найбольш актыўнай і гатовай да радыкальных дзеянняў часткай інтэлігенцыі.

Тыя, хто ў два апошнія дзесяцігоддзі адкрыта ці ў самвыдаце выступаў з крытыкай савецкага грамадства, дастаткова хутка ўбачылі ў перабудове магчымасці данесці вострыя для інтэлігенцыі пытанні да шырокай аўдыторыі.

15 снежня 1986 года дваццаць восем прадстаўнікоў беларускай творчай інтэлігенцыі звярнуліся да М. Гарбачова з адкрытым лістом, у якім яны білі трывогу аб стане беларускай мовы і «духовым выміранні» беларускага народа[133]. Большасць заяўнікаў былі літаратарамі — пісьменнікамі, паэтамі, рэдактарамі (14). Таксама да ліста далучыліся гісторыкі (5), мастакі (4) і артысткі (2). Акрамя таго, ліст падпісаў адзін кампазітар, адзін філосаф і адзін кандыдат навук па педагогіцы. Такім чынам, атрымалася агулам 26 мужчын і 2 жанчыны. Сярод подпісаў былі імёны Васіля Быкава, Янкі Брыля, Яўгена Куліка, Алеся Разанава, Рыгора Барадуліна, Вячаслава Адамчыка і Максіма Лужаніна. Нягледзячы на тое, што яны звярталіся да Генеральнага сакратара ЦК КПСС, ні адзін з інтэлектуалаў, якія падпісалі зварот, не спасылаўся на сваё сяброўства ў партыі; яны пералічылі толькі розныя віды ўзнагарод у сферы навук і мастацтва. Найвышэйшай узнагародай было званне народнага паэта, пісьменніка ці актрысы, якое мелі пяцёра з падпісантаў. Трынаццаць, пераважна пісьменнікі, мелі тыя ці іншыя (часта некалькі) дзяржаўныя ўзнагароды.

Зварот да М. Гарбачова, які быў хутка перакладзены і выдадзены Згуртаваннем беларусаў Вялікабрытаніі ў 1987 годзе, стаў вядомы як «Ліст дваццаці васьмі»[134]. Дадзеная выдаўцамі назва адсылае да іншага вядомага звароту інтэлігенцыі да ўладаў — «Ліста дваццаці пяці» (1966)[135].

Выданне на Захадзе «Ліста дваццаці васьмі», скіраванае супраць замацаванай за Беларуссю рэпутацыі самай спакойнай і сацыялістычнай рэспублікі, адначасна можна разумець як спробу ўключыць беларускі культурны супраціў у гісторыю культуры савецкага (пераважна расійскага) дысідэнтцтва. І ўсё ж

[133] Letters to Gorbachev. New Documents from Soviet Byelorussia. Second Edition with Original Text and English Translation / Лісты да Гарбачова. Выданне другое, з перакладам на ангельскую мову. London: The Association of Byelorusians of Great Britain, 1987. С. 21. Копія выдання захоўваецца ў OSA 300–85–12: 250 (Samizdat: Belorussia).

[134] Zaprudnik J. Belarus: at a Crossroads in History. P. 127.

[135] «Ліст дваццаці пяці» быў адрасаваны Генеральнаму сакратару ЦК КПСС Леаніду Брэжневу 14 лютага 1966 года, перасцерагаючы таго ад частковай ці ўскоснай рэабілітацыі Іосіфа Сталіна. Аб лісце гл.: Письмо 25-ти деятелей советской науки, литературы и искусства Л. И. Брежневу против реабилитации И. В. Сталина. URL: http://old.ihst.ru/projects/sohist/document/letters/antistalin.htm (дата звароту: 07.07.2019).

наўрад ці можна трактаваць гэтую спробу як удалую: яна вымагала параўнання і адначасова прыводзіла да высновы, што такое параўнанне было не на карысць беларусаў.

Нават калі можна было б парадавацца, што беларуская інтэлігенцыя зноў прачнулася ад доўгай дрымоты, гэтае абуджэнне магло падацца і кароткім, і запозненым. Такое разуменне беларускага досведу супраціву супадала з логікай халоднай вайны (якая ўсё яшчэ працягвалася), дзе гэты зварот нацыянальнай інтэлігенцыі рабіўся заўважным толькі праз прызму ідэі «даганяючага дысідэнцтва»[136].

З іншага боку, зварот да М. Гарбачова сапраўды быў надзвычайнай падзеяй для позняй савецкай Беларусі па шэрагу прычынаў.

Па-першае, ён паказвае на павелічэнне інтэнсіўнасці камунікацыі паміж беларускай савецкай інтэлігенцыяй і эміграцкай супольнасцю. Толькі за паўгода да таго Алесь Адамовіч (якога не было сярод падпісантаў згаданага калектыўнага звароту) пісаў М. Гарбачову ў марнай спробе папярэдзіць пра сапраўдны памер катастрофы на Чарнобыльскай АЭС, заклікаючы апошняга ўмяшацца[137]. Аднак змест яго звароту не вы́клікаў асаблівай увагі на момант выдання, а сам зварот не атрымаў настолькі хуткага распаўсюду ні ў СССР, ні тым больш за яго межамі[138].

У той жа час, «Ліст дваццаці васьмі» быў імкліва надрукаваны. Не выключана, што ў гэтым выпадку самі падпісанты ці нехта з іх найбліжэйшага атачэння змог перадаць тэкст эміграцкай супольнасці.

Адзначаную інтэнсіўнасць камунікацыі падцвярджае і рост колькасці тамвыдатаў (гл. табліцу 4), як выглядае, канал абмену звесткамі паміж Мінскам, Лонданам і Нью-Ёркам у гэты час значна пашырыўся.

Па-другое, снежаньскі зварот да М. Гарбачова пацвярджае, што нацыянальная ідэя саспела ў асяроддзі савецкай інтэлігенцыі яшчэ да таго, як яна была навязаная абставінамі ў выніку палітычных змен, і праявілася амаль адразу, як толькі пачалася перабудова. Самі заяўнікі кажуць пра гэта так:

> В последнее время как реакция на такое положение наблюдается заметный рост национального самосознания. Это в свою очередь вызывает отрицательную реакцию со стороны бюрократии. Лиц, которые пользуются родным языком, нередко автоматически зачисляют в «на-

[136] Мой тэрмін (Т. А.). Але тут я, зразумела, спасылаюся на тэорыіі мадэрнізацыі, якія тлумачаць развіццё незаходніх грамадстваў праз схему даганяючай (catching-up) мадэрнізацыі.

[137] Падрабязней ідэі А. Адамовіча абмяркоўваюцца ў падраздзеле 5.2.

[138] Тут маецца на ўвазе не рэакцыя М. Гарбачова на лісты А. Адамовіча, а толькі публічны рэзананс яго зваротаў.

ционалисты». Поэтому даже просто последовательное пользование белорусским языком требует определённого гражданского мужества[139].

Нават калі нацыяналізм быў лаянкай і для цэнтральных уладаў, ён усё роўна мог быць прымальным, хаця б у вокладцы ленінскай нацыянальнай палітыкі, тады як для рэспубліканскіх адміністрацый нават такі аргумент не мог быць дастаткова моцным, каб пераадолець страх і непрыязнасць да беларускіх культуры і мовы[140].

Калі ў 1970-я гады кіраўніцтва КПБ дазваляла сабе і нават заахвочвала асабістыя сувязі з інтэлігенцыяй, пасля смерці П. Машэрава яны практычна спыніліся. У 1986 годзе сышоў у адстаўку і Аляксандр Кузьмін, доўгачасовы сакратар ЦК КПБ па ідэалогіі, які меў давер у інтэлігенцыі. На гэтым узроўні асабістых адносін — «вообще-то нельзя, но для вас сделаем исключение» — было магчыма вырашаць шмат надзённых пытанняў.

Напрыканцы 1980-х вядучую пазіцыю датычна адносінаў паміж партыяй і інтэлігенцыяй заняў Іван Антановіч, на той час загадчык аддзела культуры ЦК КПБ. Хоць і бліскуча адукаваны, Антановіч не разумеў (ці не хацеў разумець) памкненняў нацыянальнай інтэлігенцыі. Як сведчыць яго далейшая кар’ера і выказванні, агульнасаюзная перспектыва вабіла яго больш, чым рэспубліканская[141].

У параўнанні з беларускімі партыйнымі босамі М. Гарбачоў уяўляў іншы тып лідара: ён здаваўся і прасцейшым, і дастаткова разумным, каб аддзяліць клопат пра нацыянальную культуру ад нацыянальнага радыкалізму.

Трэба заўважыць таксама, што «Пісьмо дваццаці васьмі» значна адрознівалася ад традыцыйных пратэставых лістоў, бо ў ім не толькі выказвалася незадаволенасць, але, што даволі нетыпова, далучаўся яшчэ і вялікі спіс мераў ва ўсіх асноўных сферах грамадскага жыцця Беларусі, дзякуючы якім мела быць адноўленая беларуская культура[142].

Разам з увядзеннем беларускай мовы як абавязковай у грамадскіх і дзяржаўных арганізацыях і, натуральна, у дашкольнай, школьнай і ўніверсітэцкай асвеце, яна ўключала ў сябе заснаванне музеяў, выдавецтваў і некалькіх беларускамоўных часопісаў. Прапаноўвалася перавесці як бытавы, так і навуковы дыскурс на родную мову.

---

[139] Letters to Gorbachev. P. 21.

[140] Гэта ж піша і Зміцер Санько, успамінаючы, як ліст быў напісаны і падрыхтаваны для адпраўкі ў Маскву. Тыя, хто падпісваў, заклікалі да асцярожнасці і апасаліся найперш рэакцыі мясцовых уладаў. Санько З. Лісты да Гарбачова. З гісторыі суполкі «На паддашку» // Наша слова. 2019. № 27. С. 6.

[141] Гл., напрыклад, артыкул, прысвячаны абвяшчэнню незалежнасці Беларусі: Антонович И. Уверенно идти своим курсом // Беларуская думка. 2017. № 1. С. 32–39.

[142] Letters to Gorbachev. P. 5–10.

Сапраўды, у праграме былі смелыя і даволі раннія (у СССР толькі пачынаўся ўздым нацыянальных настрояў) патрабаванні поўнай і незваротнай беларусізацыі Беларусі. Нягледзячы на расплывістыя спасылкі на ленінскую нацыянальную палітыку, ліст не пакідае месца іншым мовам у БССР. Разам з тым патрабаванні інтэлектуалаў былі даволі наіўнымі, наўрад ці дасягальнымі і, магчыма, занадта канкрэтнымі ў сваіх падрабязнасцях, каб быць зразумелымі для Гарбачова без дастатковае абазнанасці ў мясцовых справах. У лісце былі ўказанні на тое, што трэба зрабіць, аднак не гаварылася як.

Тым не менш разам з двума іншымі лістамі, адрасаванымі на імя кіраўніка Кампартыі Савецкага Саюза, якія былі падрыхтаваныя і адпраўленыя амаль у той жа час, гэты зварот сведчыў аб істотных зменах у асяроддзі інтэлігенцыі, якая цяпер не толькі магла абмяркоўваць нацыянальныя пытанні ў вузкіх колах, але і звяртацца з імі да кіраўніцтва Савецкага Саюза, вымушаючы яго прымаць меры.

Некаторыя захады, ці, прынамсі, спробы іх прыняць, сапраўды былі зробленыя. 12 студзеня 1987 года ў БССР пачала працаваць камісія ЦК КПСС, якая павінна была высветліць стан развіцця нацыянальнай мовы і культуры ў БССР. Як успамінае Зміцер Санько, мясцовыя партыйныя кіраўнікі зрабілі ў сваю чаргу ўсё, каб даказаць няслушнасць звароту інтэлігенцыі[143].

Як ні дзіўна, Гарбачоў згадаў зварот беларускай інтэлігенцыі ў інтэрв’ю Украінскаму тэлебачанню 8 снежня 1991 года — якраз тады, калі была падпісаная Белавежская дамова і СССР спыніў сваё існаванне:

> Знаете, когда из Беларуси ко мне обратились с письмом 25 [!][144] выдающихся деятелей культуры, заявляя, что гибнет белорусский язык, я горой встал на защиту. Стоял за то, чтобы этот вопрос нашёл отражение в решениях государственных органов. В одной беседе сказал однажды, что народ — это Божье явление, творение, и никто не вправе лишать его языка, его облика, черт...[145]

Сваім нясвоечасовым адказам на зварот беларускай інтэлігенцыі М. Гарбачоў зноў паспрабаваў знайсці довады на карысць захавання Саюза. Гэты прыклад мусіў сведчыць пра добрую волю савецкіх уладаў мірна вырашыць пытанне

[143] Санько З. Лісты да Гарбачова.

[144] Як згадвалася вышэй, падпісантаў было 28. Хутчэй за ўсё, Міхаіл Гарбачоў перablытаў колькасць пад уплывам «Ліста дваццаці пяці».

[145] Интервью Михаила Горбачёва Украинскому телевидению, 8 декабря 1991 года //«Союз можно было сохранить». Белая книга. Документы и факты о политике М. С. Горбачёва по реформированию и сохранению многонационального государства / под ред. А. Т. Вебера [др.]. Москва: Апрель-85; Фонд Горбачёва, 1995. С. 332.

нацыянальнасцяў. І М. Гарбачоў, і Палітбюро зразумелі яго значэнне толькі ў другой палове перабудовы. Сур'ёзныя спробы забяспечыць шырэйшую аўтаномію нацыянальнасцям узніклі толькі тады, калі стала адчувацца рэальная пагроза самому існаванню Саюза. Як і амаль паўсюдна ў нацыянальных рэспубліках, заняпад мовы і культуры стаў для беларускамоўнай інтэлігенцыі (колькасць якое ў гэты час імкліва павялічвалася) вырашальнай прычынай недаверу да КПСС і да СССР як шматнацыянальнай дзяржавы. Як вынік, незалежніцкія настроі сярод інтэлігенцыі былі вельмі высокімі ў параўнанні з агульнымі настроямі ў грамадстве.

Крыху раней, на XIX партыйнай канферэнцыі, якая праходзіла 27 чэрвеня — 1 ліпеня 1988 года, М. Гарбачоў ініцыяваў канстытуцыйную рэформу, у выніку якое быў створаны новы орган заканадаўчай улады — З'езд народных дэпутатаў СССР. Першыя часткова свабодныя выбары адбыліся ў СССР вясною 1989 года, таму з'езд прайшоў у Маскве 25 траўня — 9 чэрвеня 1989 года. Ён азнаменаваўся бурнымі спрэчкамі сярод пераважна інтэлігенцыі, якія адлюстроўвалі нядаўнія працэсы ў Савецкім Саюзе і бачанне будучыні.

На з'ездзе савецкая Беларусь была прадстаўленая 94 народнымі дэпутатамі сярод 2500 удзельнікаў (РСФСР мела 902 прадстаўнікоў, Украіна — 262, Масква — 197)[146]. Адзін з абраных дэпутатаў, Алесь Адамовіч, распавёў на з'ездзе аб разгоне мітынгу на «Дзяды» 30 кастрычніка 1988 года, праводзячы паралель паміж падзеямі восені 1988 года ў Мінску і вясновымі ўзрушэннямі 1989 года ў Тбілісі (9 красавіка), калі дэманстрацыя была падаўленая з удзелам войска[147].

Такім чынам, вынікае, што розныя колы інтэлігенцыі выпрацавалі розныя адказы на тое, што адбывалася ў 1968 годзе ў Савецкім Саюзе, у сацыялістычным блоку і па ўсім свеце. Больш таго, значэнне меў не толькі 1968 год, але і ўсе падзеі, якія адбываліся ў другой палове 1960-х — пачатку 1970-х гадоў. У савецкай Беларусі (і іншых нацыянальных рэспубліках) такім адказам была пільная ўвага да нацыянальнай мовы і культуры, што выходзіла за рамкі афіцыйнай палітыкі нацыянальнасцяў, а часам і супярэчыла ёй. Альтэрнатыўнае паняцце культуры фармавалася не толькі ў самвыдаце, але і ў афіцыйнай літаратуры, прасочваючыся скрозь шчыльныя краты савецкай цэнзуры. За наступныя дваццаць гадоў гэтая ідэя культуры стала агульным падмуркам, які аб'яднаў беларускую інтэлігенцыю ў самым канцы 1988 года. Гэта прывяло да стварэння першай праваабарончай арганізацыі — «Мартыралога Беларусі», поўная назва якой спачатку гучала як «Камітэт 58. Беларускае грамадскае гісторыка-асвет-

[146] The Soviet Empire: Its Nations Speak Out / O. Glebov, J. Crowfoot, eds. Chur, Switzerland; New York: Harwood Academic Publishers, 1989. P. 110.

[147] Ibid. P. 73.

ніцкае таварыства памяці ахвяр сталінізму». Арганізацыя ставіла перад сабой мэту «садзейнічаць выяўленню поўнай і праўдзівай карціны масавых забойстваў, рэпрэсій і тэрору на Беларусі»[148]. Адначасова з ёй утварылася палітычная партыя — Беларускі Народны Фронт за перабудову «Адраджэньне», у праграме якое была прапісаная стратэгія палітычнай барацьбы за дэмакратыю[149].

У гэты час перакладчык і журналіст Валянцін Та́рас напісаў паэму з сімвалічнай назвай «Прага свабоды». У паэме ўжытая гульня слоў: вядома, што па-беларуску «прага» (з вялікай літары) можа азначаць як чэшскую сталіцу, так і моцнае жаданне, імкненне да нечага. Напрыканцы 1988 года Пражская вясна нарэшце прыйшла і ў Беларусь, хаця і сутыкнуўшыся з моцным супрацівам дзяржапарату.

## 2.7. ІНТЭЛІГЕНЦЫЯ І ІНТЭЛЕКТУАЛЫ ДА 1988 ГОДА

Калі набрала сілу перабудова, традыцыйнае паняцце інтэлігенцыі стала пастунова ўступаць дарогу заходняй ідэі інтэлектуала. Гэта сцвярджэнне, хутчэй за ўсё, праўдзівае і для інтэлігенцыі нацыянальных рэспублік, дзе імпульс антыкаланіяльнага вызвалення ад уплыву расійскай культуры змыкаўся з жаданнем палітычнай эмансіпацыі. Юрген Хабермас сцвярджаў, што інтэлектуалы паўстаюць у грамадстве з ліберальна арыентаванай грамадскасцю, успрымальнай да іх ідэй і мабілізацыйных заклікаў, і з хаця б напаўдзейснай «прававою дзяржавай», у якой можна думаць аб агульначалавечых каштоўнасцях і культуры супраціву[150].

У савецкай Беларусі абвяшчэнне перабудовы і галоснасці мела вынікам шматлікія звароты інтэлектуалаў да Міхаіла Гарбачова. Як ужо абмяркоўвалася вышэй, раней падобная хваля зваротаў уздымалася на піку працэсаў дэсталінізацыі напрыканцы 1950-х і ў 1960-х.

Другая палова 1980-х была надзвычай плённай у плане культуры ды інтэлектуальнага жыцця. Гэтыя гады можна параўнаць толькі з нацыянальным адраджэннем пачатку стагоддзя ды інтэнсіўнай беларусізацыяй, заахвочванай савецкімі ўладамі ў 1920-я гады. Беларускі культурны ландшафт рэзка змяніўся за кароткі час: па ўсёй краіне ўзніклі культурныя, мастацкія ды інтэлектуальныя аб'яднанні ў суправаджэнні новых друкаваных СМІ. Афіцыйныя часопісы, пазбаўленыя дзяржаўнай цэнзуры, пачалі выдаваць літаратурныя творы і

[148] Дэкларацыя Беларускага грамадскага гісторыка-асьветніцкага таварыства памяці ахвяр сталінізму «Мартыралог Беларусі». URL: https://vytoki.net/content/дэкларацыя.pdf (дата звароту: 19.12.2020).

[149] Матэрыялы да праекту праграмы БНФ «Адраджэнне» // Навіны Беларускага Народнага Фронту за перабудову «Адраджэнне». (1988). № 2. С. 1–4.

[150] Хабермас Ю. Первым почуять важное. Что отличает интеллектуала // Неприкосновенный запас. 2006. № 3.




Дэмакратыя: —Шукаю апошнюю прытулку ў Літве.

Сталінізм: — А я ў Ме…у.

Наша газэта абвяшчае конкурс на прэмію імя Л.П.Берыі. Перши прэтэндэнт — артыкул члену Саюзу пісьменьнікаў СССР Алены Івановай "В Россию можно т…лько верить"/ "Ставропольская правда", 29.04.89./ ..Сегодня, наверное, нет такого человека у нас, который не вчитывался бы вдумчиво в строки партийных постановлений, правительственных указов, видя в них предначертания тому, что делать, куда идти дальше. Для нас, журналистов партийной печати, директивные документы являются прямым указанием к действию. Так их воспринимаю и я. ...Вера не нуждается в математических подсчетах и логических доказательствах, сна п… ается единственно сокровенной жизнью души. "Не веруешь – не кощунствуй", – строго упреждает хулителей веры народная мораль. "Господин" Потуткин, вы кощунствуете, когда утверждаете, что якобы "наша история страшна и безобразна". Народ вправе вас одернуть: "Ваша? Может быть. Наша – отнюдь". История нашего народа, овеянная грозами беспримерных событий, воистину трагична, но это не повод для насмешек недоброжелателей.

---

ГАТАВА – ЭКАЛЯГІЧНАЯ КАТАСТРОФА.

Просім грамадскасьць зьвярнуць увагу на экалягічнае становішча у Гатава (Мінскі раен). Там дзейнічае пабудаваны па кантракту зь Італіяй завод па перапрацоуцы скуры; выдаткі вытворчасьці якога забрудзілі навакольнае асяродзьдзе.
Усіх маючых дакладную інфармацыю просім тэрмінова напісаць у рэдакцыю. Будзем удзячны за падрабязную адрэсу.

---

ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ !

Наша газэта выходзіць дзякуючы вашым ахвяраваньням. У сувязі з гэтым нагадваем,што

_ усе ахвяраваньні і карэспандэнцыя накіроуваецца паштовым пераводам на адрэсу: 220050 Менск; Галоупаштампт, да патрабаваньня Емельянавай Людзьміле Віктараўне.

– усе ахвяраваньні, акрамя зробленых ананімна альбо з нататкай мэтавы фонд; у памерах больш за 10 рублеу павінны мець дакладнае афармленьне /г.зн. трэба напісаць: 1.прозвішча цалкам; 2.поуную паштовую адрэсу; 3.на якой мове жадаеце атрымліваць нашу газэту/.

Па гэтых паштовых адрэсах дасылаецца ня меньш за 20 нумароу "Б.Т." па меры іх выхаду.

– грамадскімі распаусюджвальнікамі ахвяраваньні прымаюцца ня больш 50 кап. за 1 газэту /прыкладны сабекошт аднаго асобніку /.

РЭДАКЦЫЯ.

---

СКЛАД РЭДАКЦЫІ:

| | |
|---|---|
| РЭДАКТА… – ВЫДАВЕЦ | ЕМЯЛЬЯНАУ ЗЬМІЦЕР |
| АДКАЗНЫ САКРАТАР | АЛАДЗЬЕВА НАТАЛЬЛЯ |
| РЭДАКТАР БЕЛ. ВЫПУСКУ | НЯХАМЕС СЯРЖУК |
| РЭДАКТАР РУСК. ВЫПУСКУ | ЕМЯЛЬЯНАВА ЛЮДЗ…МІЛА |

– ТЭЛЕФОН АПЕРАТЫУНАЙ СУВЯЗІ 26-38-19 (З 9 ДА 10 ГАДЗІН).

PRINTED …N MENSK. THE PRODUCTION OF INFORMCENTRE.



8

*Ілюстрацыя 6. Карыкатура на антыдэмакратычныя сілы ў савецкай Беларусі. «Беларуская Трыбуна» (1989. № 6). FSO, Gs. 160.*

матэрыялы, якія доўгія гады хаваліся ад грамадства. Разам з тым гэта былі і часы жорсткіх інтэлектуальных выпрабаванняў. Савецкі канон рушыўся, а канцэпцыя нацыянальнай ідэнтычнасці, прапанаваная ў кароткім часе адраджэння пачатку XX стагоддзя, была хоць і па-ранейшаму прывабнай, але шмат у чым састарэлай. Такім чынам, адчувалася патрэба ў фармуляванні асноваў новай калектыўнай ідэнтычнасці. Узнікла неабходнасць знайсці месца беларускай культуры ў інтэлектуальным і прасторавым плане: яна больш не магла існаваць як асобная сутнасць паміж Усходам і Захадам, як некалі пастанавілі ідэолагі нацыянальнага адраджэння, або як дадатак да расійскай культуры, што імкнулася сцвердзіць савецкая ідэалогія.

Самавызначэнне стала неабходным і для тых, хто ствараў бы гэты канон, бо старая савецкая інтэлігенцыя больш не адпавядала для гэтай мэты. Перад новымі інтэлектуаламі стаялі вялікія задачы. Прамаўляючы, яна павінны былі, гаворачы словамі Дубраўкі Угрэшыч, звяртацца адначасна да мясцовавай супольнасці, да Еўропы і да ўсё болей глабалізаванага свету[151]. Як трапна заўважыў Леанідас Донскіс, яны павіны былі быць «хутчэй, чым гісторыя»[152]. Для беларускіх нацыянальных эліт гэтая задача ўвасаблялася ў неабходнасці балансаваць паміж спробамі захаваць нацыянальныя мову і культуру ды звязаць Беларусь і сябе са знешнім светам. Дадатковая задача палягала ў тым, каб усведамляць, па-першае, факт культурнай каланізацыі расійскім і савецкім імперыялізмам, якую трэба было пераадолець, а па-другое (што было цяжка ўлавіць з самага пачатку) — павелічэнне ўплыву Захаду, які працягваў, як некалі зазначыў Лары Вульф, «вынаходзіць Усходнюю Еўропу», у тым ліку і Беларусь, як адно са сваіх альтэр эга[153].

Зразумела, што ўзніклая патрэба ў інтэлектуальным тлумачэнні не была зусім новай і ўнікальнай для БССР — яна ўзнікла як адказ на працэсы дэмакратызацыі, паступовага адкрыцця архіваў і адмены цэнзуры, што адбываліся па ўсім Усходнім блоку. Адначасна гэта з’явілася і адказам на савецкую палітыку нацыянальнасцяў, падмацаваную спробамі ўвасобіць у жыццё традыцыі «перарваных» рухаў нацыянальнага адраджэння XIX — пачатку XX стагоддзя.

---

[151] Ugrešić D. The New Eastern European Intellectual: ‘A Culture of Lies, / Context. 2005. № 18. URL: http://www.dalkeyarchive.com/the-new-eastern-european-intellectual-a-culture-of-lies/ (дата звароту: 02.03.2016).

[152] Donskis L. Loyalty, Dissent, and Betrayal. Modern Lithuania and East-Central European moral imagination. Amsterdam; New York: Rodopi, 2005. P. 3.

[153] Wolff L. Inventing Eastern Europe: The Map of Civilization on the Mind of the Enlightenment. Standford: Standford University Press, 1994.

## 2.8. ІНТЭЛІГЕНЦЫЯ І РЭЛІГІЯ

Разам з дэмакратычнымі каштоўнасцямі і нацыяналізмам значнай крыніцай супраціву савецкаму ладу былі рэлігійныя практыкі і вераванні. Больш таго, рэлігійнасць была часткай паўсядзённага жыцця найперш старэйшага пакалення, якое нарадзілася і вырасла да ўстанаўлення савецкай улады, а таксама ў Заходняй Беларусі[154].

Рэлігійная неаднастайнасць беларускага народа, як сцвярджаў Вацлаў Ластоўскі яшчэ ў 1912 годзе, стала адным з чыннікаў, якія перашкаджалі працэсу нацыянальнай гомагенізацыі і аслаблялі нацыянальную салідарнасць[155]. Гэта ж датычыць і савецкіх часоў. Больш таго, з увядзеннем дзяржаўнага атэізму ізаляцыя, калі не варожасць, розных канфесійных груп толькі ўзмацнілася. Як ні дзіўна, рэзкае змяншэнне рэлігійнай свабоды стала часткай лібералізацыйнай кампаніі Хрушчова[156]. Розныя рэлігійныя групы сутыкаліся з пастаянным прыгнётам цягам усяго савецкага перыяду ў Беларусі, у тым ліку ў 1960–1980-я гады. Пратэстанцкім суполкам часта адмаўлялі ў рэгістрацыі, многія з іх сталі фактычна нелегальнымі[157]. Паасобныя праваслаўныя і каталіцкія святары ды вернікі пастаянна сутыкаліся з пераследам[158]. Сярод інтэлігенцыі, якая была звязаная з сістэмай сацыялістычнай асветы і прапаганды мацней, чым сяляне і рабочыя, пераважаў свецкі светапогляд. Аднак рэлігійны светапогляд, атрыманы ў спадчыну ад сялянскіх сем’яў, і асабліва ад мацярок, няяўным чынам вызначаў працу і жыццё большасці вывуча́ных інтэлектуалаў.

Спрабуючы класіфікаваць беларускіх дысідэнтаў, Міхась Чарняўскі асобна вылучыў «рэлігійную плынь». У гэтую групу ён уключыў асоб — пратэстантаў, католікаў, грэка-католікаў і праваслаўных, — якія адстойвалі свабоду веравызнання. Як адзначае М. Чарняўскі, улады былі ў пэўнай ступені цярпімыя да праваслаўнай царквы, а некаторыя праваслаўныя святары заплямілі сябе супрацай з уладамі. Таму супраціў распаўсюджваўся галоўным чынам у неправаслаўных канфесіях[159]. М. Чарняўскі не выказваў гэтага наўпрост, але, як уяўляецца, яго абагульненне датычыць хутчэй асяроддзя духавенства,

---

[154] Einax R. Kommunismus und Volksfrömmigkeit. S. 197.

[155] Ластоўскі В. Раздзелы і сваркі //Ластоўскі В. Выбраныя творы / пад рэд. Я. Янушкевіча. Мінск: Беларускі кнігазбор, 1997. С. 263–264. Упершыню надрукавана ў «Нашай Ніве» (1912. № 41).

[156] Падрабязны аналіз рэлігійнай палітыкі ў Беларусі ў часы І. Сталіна і М. Хрушчова гл. у: Einax R. Entstalinisierung auf Weißrussisch. S. 282–310. Гл. таксама: Сілава С. Праваслаўная царква ў БССР падчас «хрушчоўскай адлігі» // Архэ. 2011. № 10. С. 218–239.

[157] Einax R. Kommunismus und Volksfrömmigkeit. S. 196.

[158] Гл.: Чарняўскі М. Лекцыя 1. «Беларускія антыкамуністычныя рухі канфесійнай і агульнадэмакратычнай накіраванасці» // Беларускі калегіум.

[159] Там жа.




*Ілюстрацыя 7. «Забароненая рэлігійная літаратура», канфіскаваная падчас вобшуку ў баптыстаў-раскольнікаў у 1970 годзе, вёска Барадзічы, Зэльвенскі раён, Гродзенская вобласць. Тагачасны савецкі здымак. Аляксей Шэін (рэжысёр), «Хрыстос забаронены», 2009 год, доступ 28 студзеня 2019 года, https://www.youtube.com/watch?v=pB4mvng4PDI.*

а не парафіянаў. Сярод святароў, вядомых як праціўнікі савецкай улады, — пратэстанцкі пастар Эрнст Сабіла (нар. у 1932), каталіцкі святар Уладзіслаў Чарняўскі (1916–2001) і грэка-каталіцкі святар Віктар Данілаў (1927–2016)[160].

Што датычыць пазацэнзурнага друку, асноўнымі незаконна выдаванымі

[160] Успаміны Эрнста Сабілы чытайце ў інтэрв'ю Радыё «Свабода»: Міхась Скобла, Эрнст Сабіла: «Ад смерці мяне ратавала рука Божая». Радыё «Свабода», 21 сакавіка 2012 года. URL: https://www.svaboda.org/a/24523344.html (дата звароту: 05.05.2017). Публікацыя Таццяны Касатай дае важнае ўяўленне аб жыцці пратэстанцкіх суполак у БССР і перасследзе вернікаў-пратэстантаў. Касатая Т. Евангельскія хрысціяне-баптысты БССР у 1944 — пачатку 1950-х // Архэ. 2011. № 1–2. С. 138–150. Гл. таксама: Балтрушэвіч Н. Асноўныя напрамкі і формы дзейнасці пратэстантаў у пасляваеннай БССР (1944–1985 гг.) // Архэ. 2012. № 1–2. С. 151–166. Імёны рэпрэсаваных пратэстантаў БССР, якія збольшага паходзілі з Брэста і Гомеля, можна знайсці сярод спісаў дысідэнтаў, складзеных таварыствам «Мемарыял». Тут след згадаць некалькі імёнаў. Абушэнка Ніна Карнееўна (нар. у 1926) была асуджаная ў 1968 годзе на два гады зняволення за «парушэнне закона аб аддзяленні царквы ад дзяржавы і школы». Барташчук Міхаіл Дзмітрыевіч (нар. у 1925) асуджаны на пяць гадоў у 1970 годзе. Елісееў Кузьма Антонавіч (нар. у 1904) у 1970 годзе быў асуджаны на пяць гадоў за «замах на асобу і правы грамадзян шляхам правядзення рэлігійных абрадаў». (Диссидентская активность 1950–1980-х гг. Персоналии. Краткий аннотированный перечень / А. Резникова, А. Паповян, ред. URL: http://www.memo.ru/history/DISS/perecen /index.htm (дата звароту: 15.03.2016.)

і распаўсюджванымі тэкстамі былі Біблія і асобна Новы Запавет. Рэлігійныя дзеячы, асабліва прадстаўнікі пратэстанцкіх суполак, імкнуліся данесці вернікам-хрысціянам «слова Божае», якое было цяжка пачуць у савецкай Беларусі. «[Атрымаць] Евангелле было цэлай праблемай», — узгадваў цяперашні душпастыр мінскай царквы «Слова веры» Аляксандр Саковіч[161]. Хрысціянская літаратура хадзіла сярод пратэстантаў пераважна на поўдні (Брэсцкая і Гомельская вобласці) і захадзе (Гродзенская вобласць). У розныя гады з'яўляліся «Братский листок», «Вестник спасения», «Сеятель истины» і «Религиозные беседы для детей».

Рэлігійнае выхаванне моладзі і яго ўплыў надзвычай непакоілі савецкія беларускія ўлады, бо падрывалі старанна выбудаваную сістэму ідэалагічнага выхавання. Нашчадкі ўдзельнікаў пратэстанцкіх камун не ўступалі ў піянеры і камсамольцы, часта не мелі ніякага ўяўлення, хто такі Васіль Чапаеў, і нічога не чыталі пра Уладзіміра Леніна[162]. У якасці прыкладу такой ідэалагічнай вайны з баптыстамі ў савецкай Беларусі можна згадаць кнігу Міхаіла Герчыка «Ветер рвёт паутину»[163]. Месцам дзеяння кнігі выступае глухі кут беларускага Палесся. Паслядоўнікі пяцідзясятніцтва (і былыя нацысцкія памагатыя) уцягваюць у рэлігійную сетку хлопчыка-інваліда і яго маці, якія жывуць няшчасным і неасвечаным жыццём. Усё мяняецца толькі дзякуючы ўмяшанню камсамольцаў, і хлопчык адужвае.

Сярод інтэлігенцыі існавалі спробы звярнуцца да чытача пры дапамозе рэлігіі. Зняволеная сталінскіх лагераў, паэтка Ларыса Геніюш адкрыта называла сябе хрысціянкай. Л. Геніюш, якая была гарачай прыхільніцай традыцыйнай беларускай культуры і беларускай мовы, у хрысціянстве бачыла крыніцу адраджэння беларускага грамадства[164]. Для астатніх, якія не маглі свабодна вызнаваць сваю веру, яна заставалася сувяззю з папярэднімі пакаленнямі беларусаў.

Паэт Рыгор Барадулін узгадваў, што на яго аказала вялікі ўплыў шчырае хрысціянства яго маці Акуліны. Вядома, будучы савецкім паэтам, ён не мог дазволіць сабе быць закранутым рэлігійным светапоглядам, аднак гэта праявілася ў яго паэзіі постсавецкага перыяду[165].

[161] Шэін А. Хрыстос забаронены.

[162] Там жа.

[163] Герчик М. Ветер рвёт паутину. Минск: Госиздат БССР, 1963 (2-е изд. — Минск: Юность, 1987).

[164] Геніюш Л. Споведзь. Мінск: Мастацкая літаратура, 1993. С. 170–176, 237–240. Назва аўтабіяграфіі мае выразны рэлігійны аспект, але варта адзначыць, што яна не належыць аўтарцы, а была абраная Міхасём Чарняўскім, калі той рыхтаваў аўтабіяграфію да першага выдання ў 1993 годзе.

[165] Барадулін Р. На таку майго веку // Барадулін Р. Поўны збор твораў. Мінск:

Важна адзначыць, што хрысціянства і традыцыйная сялянская мараль былі непадзельныя:

> …паганым чалавекам быць устыдно,
> слаўныя толькі тыя,
> хто добры і справядлівы[166], —

даводзіла Л. Геніюш.

Яны (хрысціянства і традыцыйная мараль) панавалі і сярод інтэлігенцыі.

Справядлівасць, унутраная патрэба чыніць правільна і дапамагаць тым, каму патрэбная дапамога, — з такімі пабуджэннямі часта жылі як праціўнікі, так і прыхільнікі камунізму. Яркім прыкладам першага была Ларыса Геніюш, другога — Максім Танк[167].

Інтэлігенцыя, натуральна, была нязгодная з разбурэннем культавай архітэктуры, якое было часткай шырэйшай савецкай антырэлігійнай кампаніі часоў позняга Хрушчова і прыхавана працягвалася ў гады Брэжнева. Па ўсёй Беларусі былі знішчаныя дзясяткі праваслаўных, каталіцкіх і былых уніяцкіх храмаў, мячэцяў і сінагог. Парафіяльная каталіцкая царква XIV стагоддзя, вядомая як Фара Вітаўта, доўгі час з'яўлялася адным з сімвалаў Гродна. У 1961 годзе яна была ўзарваная па рашэнні Гродзенскага гарвыканкама[168]. У сярэдзіне 1960-х гадоў у Глыбокім (раней — Беразвечча) была разбураная ўніяцкая царква св. апосталаў Пятра і Паўла (збудаваная ў 1751–1756 гадах), прызнаная гісторыкамі мастацтва вытанчаным помнікам віленскага барока[169]. Так званая Халодная сінагога, адзін з найстарэйшых каменных будынкаў у Мінску (збудаваная ў XVII стагоддзі), была знішчаная ў 1965–1966 гадах пры рэканструкцыі гарадскога квартала на Нямізе[170]. Асабліва сур'ёзнымі разбурэнні былі ў 1920–1930-х гадах ва Усходняй Беларусі і ў 1950–1960-х гадах. Яны закранулі не толькі рэлігійныя, але і грамадзянскія гістарычныя будынкі. Напрыклад, у 1957 годзе была знішчаная раней пашкоджаная вайною Магілёўская ратуша.

---

Мастацкая літаратура, 2002. Т. 4. С. 109–110; Барадулін Р. Евангелле ад мамы. Мінск: Мастацкая літаратура, 1995.

[166] Хаця гэтыя словы належаць Ларысе Геніюш, але яны аднолькава прыкладальныя і да многіх іншых. Геніюш Л. Споведзь. С. 9.

[167] Некаторыя прыклады маралі М. Танка разглядаліся ў артыкуле Сяргея Дубаўца «Калі пісаліся "Лісткі календара"» // Арсень Ліс пра Максіма Танка. Радыё «Свабода». URL: https://www.svaboda.org/a/24867038.html (дата звароту: 16.08.2017).

[168] Габрусь Т. Шматпакутная «Фара Вітаўта» // Страчаная спадчына / пад рэд. М. Ткачова [і інш.]. Мінск: Беларусь, 2003.

[169] Габрусь Т. Загублены шэдэўр // Страчаная спадчына.

[170] Трусаў А. Беларускія сінагогі // Беларуская мінуўшчына. 1996. № 3. URL: http://knihi.com/Aleh_Trusau/Bielaruski_.html (дата звароту: 15.05.2017).

У тым жа годзе былі знесеныя рэшткі Менскага замчышча[171]. Таму інтэлігенцыя невыпадкова ўспрымала антырэлігійную кампанію як частку разбурэння гістарычнай спадчыны Беларусі і наўмысны намер знішчыць культурную адметнасць апошняй[172].

У самвыдаце гэты пратэст супраць зруйнавання рэлігійнай культуры Беларусі асабліва яскрава праявіўся ў тэксце «Положение в Белоруси. 1974» аўтарства, як стала вядома пазней, Зянона Пазьняка[173]. Акрамя таго, аўтар «Положения» праводзіў прамую сувязь паміж заняпадам традыцыйнай хрысціянскай маралі і заганамі познесавецкага грамадства, а менавіта, распаўсюджанасцю «лжи, разврата, лентяйства, греха, жестокости и пьянства»[174].

Эмігранцкія суполкі таксама адыгралі значную ролю ў захаванні рэлігійнай культуры, якая ахапіла Беларусь к канцу 1980-х[175]. Леў Гарошка (1911–1977) рэдагаваў беларускамоўны часопіс «Божым шляхам»[176]. Акрамя таго, ён шмат гадоў быў галоўным рэдактарам беларускай службы Радыё «Ватыкан», якая выпускала беларускамоўныя праграмы.

У 1950–1975 гадах каталіцкі ксёндз Пётр Татарыновіч (1896–1978) выдаваў у Рыме рэлігійны часопіс «Зніч»[177]. Біскуп Часлаў Сіповіч (1914–1981) уваходзіў у склад заснавальнікаў Journal of Belarusian Studies і быў сябрам яго рэдкалегіі. Што яшчэ больш істотна — ён заснаваў бібліятэку і музей Ф. Скарыны ў Лондане. Бібліятэка, якая ўтрымлівае адзін з самых багатых збораў беларускіх кніг і рукапісаў за межамі Беларусі, стала значным цэнтрам беларускай культуры ў Еўропе[178]. Пасля смерці Ч. Сіповіча ў 1981 годзе пасаду дырэктара бібліятэкі больш за трыццаць гадоў займаў Аляксандр Надсан (1926–2015). Падчас халоднай вайны зборам карысталася пераважна эмігранцкая супольнасць. Пачынаючы з апошніх гадоў перабудовы ён стаў даступным і

[171] Трусаў А. Эпоха БССР. Кароткая гісторыя архітэктуры Беларусі // Наша слова. 2014. № 52. С. 6.

[172] Гл., напрыклад, Ракутович Г. Положение в Белоруси. С. 7. Тут вядзецца пра зруйнаванне рэлігіі, рэлігійнай беларускай культуры і мастацтва, архітэктуры.

[173] Ракутович Г. Положение в Белоруси. С. 7–8.

[174] Там жа. С. 8.

[175] Эмігранцкіх выданняў на рэлігійную тэматыку, наадварот, даволі многа. Пералічым некалькі з тагачасных: Гімны хрысціян. Christian Hymns in Byelorussian. Byelorussian Evangelical Baprist Fraternity in the USA and Canada / рэд. Д. Ясько. Cranesville PA, 1979; Праваслаўная царква ў Беластоцкім краі і беларуская мова ў ёй. Нью-Ёрк: Belarus, 1984.

[176] К 1980 году выйшаў 151 нумар часопіса. Гардзіенка Н. Беларусы ў Вялікабрытаніі. Мінск: Медысонт, 2010. С. 406–408.

[177] «Зніч. Беларуская рэлігійная адраджэнская часопісь». У 1950–1975 гадах было выдадзена 116 нумароў.

[178] Падрабязней гл. у «Вітаем», Беларуская бібліятэка і музей Францыска Скарыны URL: http://www.skaryna.org.uk/be/ (дата звароту: 06.10.2019).

"Студэнцкая Думка": "ВIльня — старадаўнi цэнтар беларускае культуры. Але да апошняга часу тут ня было беларускага культурнага асяродку. Як бы Вы схарактарызавалI гэткае становIшча ?"

— Гэткае пытаньне заўсёды выклIкала ў мяне супроцьлеглыя пачуцьцI. Найлепей, вIдаць, я акрэсьлIў Iх у сваIм вершы "СталIца".

СТАЛIЦА

Можа й добра, што ВIльню забралI ?..
Бо — каб н а ш а й сталIцай была —
у магIлах бы Храмы ляжалI
на пагосьце бятону I шкла.

ТолькI й страцIўшы с ь в е т не скарыцца
мой народ. Як шляхотны Кастусь.
Т а м нашчадкаў Скарыны сталIца,
дзе д у х о ў н а
Жыве Беларусь!



ГУЛЬНЯ У КОСЬЦI НА-БЕЛАРУСКУ........

"Студэнцкая Думка": "Пане Алег, Вы доўгI час займалIся праблемамI хрысьцIянства ў кантэксьце беларускай культуры. Якая роля хрысьцIянства ў паустаньнI беларускае культуры ?"

— Як Вы лIчыце, цI можна ўявIць сабе беларусаў без ЕфрасIньнI Полацкай, ФранцIшка Скарыны, МаксIма БагдановIча, большасьцI нацыянальных беларускIх дзеячоў да 30-х гадоў ? А мIж Iншым, усе яны былI хрысьцIяне.

"Студэнцкая Думка": "ЦI можна дакладна акрэсьлIць, хто ўсё ж беларусы па веравызнаньню ?"

— Я называю хрысьцIянства на БеларусI трохгалосным. Фэномэн нашае БеларусI ў хрысьцIянскае сумоўнасьцI, талерантнасьцI. АдзIн з маIх вершаў гэдак I называецца: "ХрысьцIянская сумоўная Беларусь".

9

*Iлюстрацыя 8. Карыкатура: «Гульня ў косцi па-беларуску». «Студэнцкая думка» (1989. № 3). FSO Gs.161.*

для інтэлігенцыі БССР[179]. У 1980-я і ў сам-, і ў тамвыдаце (надрукаваныя намаганнямі суполак беларускаў Вялікабрытаніі і ЗША) таксама распаўсюджваліся вершы паэта і філосафа Алега Бембеля пад псеўданімам Зніч, у якіх перасякаліся тэмы рэлігійнага выратавання і нацыянальнага адраджэння.

У часы перабудовы ў БССР, як і паўсюль у Савецкім Саюзе, зварот да рэлігійнага светапогляду стаў прыкметай вызвалення ад савецкага мінулага. Новыя палітычныя сілы і асобныя інтэлектуалы распачалі намаганні па ўмацаванні нацыянальнага адзінства праз заклікі да духовага адраджэння. БНФ надаваў значную ўвагу рэабілітацыі рэлігіі ў Беларусі. У сваёй палітычнай праграме 1989 года БНФ абвясціў веру крыніцай духовага адраджэння народа[180]. Што не менш важна, яго сябры лічылі рэлігію часткай беларускай гістарычнай спадчыны, якая таксама патрабавала аднаўлення.

Многіх вабілі спробы адрадзіць грэка-каталіцкую (уніяцкую) царкву, якая разглядалася як яднаючая беларускі народ. У 1990 годзе група маладых інтэлектуалаў заснавала часопіс беларускай уніяцкай моладзі «Унія»[181]. Варта адзначыць, што, у адрозненне ад іншых выданняў, вялікую частку грэка-каталіцкай моладзі складалі жанчыны-інтэлектуалкі. Сярод іх была тэолаг Ірына Дубянецкая (нар. у 1964).

Заўважнай была і жывая ўвага інтэлігенцыі да каталіцызму і праваслаўя. Так, у 1989–1990 гадах пазацэнзурная газета «Праваслаславная думка» звярталася да беларускай моладзі па-беларуску[182].

---

[179] Гл., напрыклад: Мальдзіс А. Англійскі дзённік // Полымя. 1985. № 12. С. 186–203.

[180] Матэрыялы да праекту праграмы БНФ «Адраджэнне». С. 1–4.

[181] Унія. Выданне беларускай уніяцкай моладзі. 1990. № 1 // FSO Gs.722. Рэдакцыя складалася з Сяргея Абламейкі, Ігара Бабкова, Юрася Быкава, Сержука [Сяргея] Вітушкі, Ірыны Дубянецкай, Галіны Жарко, Караліны Мацкевіч і Алены Ткачовай.

[182] «Праваслаўная думка». Незалежны часопіс праваслаўнай моладзі. № 1 (недатаваны); № 3 (1989); № 4 (1990) // FSO, GS 292.

# 3. СУПРАЦІЎ АСОБ: ПАРТРЭТЫ І ДЫСКУРСЫ

## 3.1. ПАМІЖ СУПРАЦАЮ І СУПРАЦІВАМ

***Клясычны адраджэнец беларускі займаецца ўсім чыста магчымым, што спрыяе беларускаму руху[1].***

Ян Станкевіч. Вячаслаў Ластоўскі (1953)

Існуючы на памежжы розных культурных традыцый, беларускія інтэлектуальныя эліты закраналіся рознымі культурнымі і нацыянальнымі праектамі — польскім, расійскім, украінскім, габрэйскім і літоўскім — і часта нават удзельнічалі ў апошніх. Валянцін Акудовіч увёў ідэю маргінальнасці як адной з важных прыкмет беларускай інтэлігенцыі на раннім этапе яе фармавання. В. Акудовіч даводзіць, што мясцовая інтэлігенцыя складалася ў асноўным з людзей, якія вярталіся да свайго этнічнага паходжання з іншых нацыянальных праектаў, дзе яны спрабавалі прыняць удзел, але не знайшлі ні славы, ні прызнання[2]. Досвед вяртання і выбару паміж рознымі нацыянальнымі праектамі, а таксама існаванне на ўскрайку грамадства не толькі падрывалі гамагеннасць нацыянальнай ідэнтычнасці. У іх быў і станоўчы пабочны вынік — асваенне разнастайнай культурнай спадчыны і залучэнне яе ў беларускі інтэлектуальны рух.

Маргінальнасць у такім разуменні заставалася ўласцівай для інтэлігенцыі і цягам XX стагоддзя. Беларуская інтэлігенцыя не адмаўлялася ад удзелу ў стварэнні альтэрнатыўных нацыянальных і наднацыянальных (найперш рускага і савецкага) культурных праектаў. І ўсё ж упершыню за доўгі час менавіта беларуская культура становіцца для інтэлігенцыі адначасова і кропкай адпраўлення, і пунктам прыбыцця.

[1] Станкевіч Я. Вячаслаў Ластоўскі // Станкевіч Я. За родную мову і праўдзівы назоў. Смаленск: Інбелкульт, 2013. С. 216.

[2] Акудовіч В. Код адсутнасці. Мінск: Логвінаў, 2007. С. 41.

У гэтым раздзеле разглядаюцца некалькі жыццяпісаў, адсочваюцца асабістыя гісторыі ды інтэлектуальныя ўплывы, а творы ўвязваюцца з кантэкстам, у якім яны ўзніклі. Як будзе паказана далей, кантэкст гэты быў адзін і той жа — усе героі жылі і працавалі ў БССР часоў позняга сацыялізму з яго адноснай эканамічнай стабільнасцю і абясцэньваннем сацыялістычных ідэалаў. Разам з тым ён быў вельмі разнастайны. Нехта меў прывілеі, узнагароды, высокія наклады і шматлікія пераклады сваіх твораў на іншыя мовы, а некаторыя цкаваліся ў афіцыйных сродках масавай інфармацыі, былі пад пільным наглядам, не маглі выдавацца або мусілі змагацца з цэнзурай. Па іроніі лёсу, абодва выпадкі маглі датычыць аднаго і таго ж чалавека. Культурны супраціў таксама мог праяўляцца па-рознаму: і як адкрытае процістаянне сістэме, і як спробы пашырыць яе межы, дзейнічаючы знутры.

#### 3.1.1. Максім Танк

***Межы, дзе глянеш — ўсё межы...***
***Глушыцца слова і гук.***

Максім Танк. Межы (1938)[3]

Тыповай рысай інтэлігенцыі ў познесавецкі час была своеасаблівая амбівалентнасць. Адзін з такіх прыкладаў — народны паэт (1968) і Герой Сацыялістычнай Працы (1974) Максім Танк (сапраўднае імя Яўген Іванавіч Скурко). У 1963–1971 гадах ён быў сябрам ЦК КПБ і старшынёй Вярхоўнага Савета Беларусі, у 1969–1975 гадах — дэлегатам Вярхоўнага Савета СССР, у 1960–1980-х гадах — старшынёй праўлення Саюза пісьменнікаў БССР (1967–1990) і сакратаром Саюза пісьменнікаў СССР (1966–1986) — і гэта толькі некаторыя з займаных ім высокіх афіцыйных пасад[4]. М. Танк нарадзіўся і атрымаў асвету ў Заходняй Беларусі, у міжваенны час уступіў у КПЗБ. Сваю палітычную дзейнасць ён пачаў яшчэ будучы школьнікам. М. Танк удзельнічаў у забастоўцы супраць закрыцця беларускай гімназіі ў Радашковічах і Пушкінскай гімназіі ў Вільні, дзе ён вучыўся. Пасля ўдзелу ў нелегальным выпуску першага і адзінага нумара «Часопіса для ўсіх» у 1932 годзе ён быў арыштаваны і пасаджаны ў сумнавядомую Лукішскую турму ў Вільні. Да 1935 года ён неаднаразова трапляў пад судовы перaслед[5].

[3] Танк М. Пад мачтай: паэзія. Вільня: Р. Шырма, 1938. URL: http://rv-blr.com/literature/5676#83776 (дата звароту: 19.09.2019).

[4] Скурко Евгений Иванович // Национальная академия наук Беларуси: энциклопедический справочник / под ред. В. Г. Гусакова [и др.]. Минск: Беларуская навука, 2017. С. 495.

[5] Дранько-Майсюк, Л. «...Натуральны, як лінія небасхілу». Архіўная аповесць пра Максіма Танка. Мінск: Кнігазбор, 2017.

Сваёю паэзіяй і ў не меншай ступені палітычнай дзейнасцю М. Танк змагаўся супраць прыгнёту беларусаў польскімі ўладамі і за аб’яднанне абедзвюх частак Беларусі пад уладай СССР[6].

Пасля далучэння Заходняй Беларусі да СССР М. Танк змог пазбегнуць савецкіх рэпрэсій, ахвярамі якіх сталі многія камуністы з Заходняй Беларусі. Яму ўдалося атрымаць прызначэнне на самую высокую з магчымых для пісьменніка наменклатурных пасад — незвычайнае дасягненне для літаратурнага дзеяча з Заходняй Беларусі[7].

Ужо будучы беларускім савецкім паэтам М. Танк захаваў своеасаблівае захапленне польскай культурай, шанаваў і прапагандаваў яе, нягледзячы на часта несправядлівую і жорсткую палітыку Другой Польскай рэспублікі датычна беларускага насельніцтва, якую ён адчуў і на сваім досведзе[8]. Ён быў настолькі адданы гэтай справе, што займаў пасаду кіраўніка Савецка-польскага камітэта дружбы з 1958 па 1991 год, хаця польская мова часта засціла яго любімую беларускую[9]. Польская культура аказала найвялікшы ўплыў і на яго творчасць[10].

Такое імкненне ахапіць абедзве культуры было характэрнае для беларускай савецкай інтэлігенцыі ў цэлым. Можна нават выказаць здагадку, што ў гэтым асяроддзі мела месца і сапраўднае (а не толькі пастановачнае) міжкультурнае ўзаемадзеянне паміж творцамі: ладзіліся міжнародныя сустрэчы, вялася перапіска, выдаваліся пераклады «з» і «на» тую ці іншую мову.

Такой жа «памежнай» былі Танкавы партыйная работа і паэзія. Пісьменнік і мастак А. Глобус заўважаў:

> З палымянага віленскага камунара Жэніка Максім Танк зрабіўся партнаменклатурным чыноўнікам Яўгенам Іванавічам[11].

У сваім эсэ пад назвай «Энігма» Сяргей Дубавец шукаў адказ на пытанне, чаму адзін з самых вядомых беларускіх паэтаў, талент якога параўнальны з Купалавым, стварыў так многа вершаваных хваласпеваў І. Сталіну.

С. Дубавец ды іншыя сцвярджаюць, што Танкавы вершы не пакідаюць уражання напісаных пад прымусам і кранаюць не менш, чым любы іншы з

[6] М. Танк захаваў і апублікаваў успаміны пра сваё жыццё ў Другой Польскай рэспубліцы ў 1935–1939 гадах. У перакладзе на рускую мову яны былі выдадзены як: Танк М. Листки календаря // Новый мир. 1967. № 11. С. 13–67. Гл. таксама табліцу 1.

[7] Пра стаўленне да заходнікаў гл.: Kashtalian I. The Repressive Factors… С. 132–150.

[8] Аб уплывах польскай культуры на М. Танка гл.: Верабей А. Максім Танк і польская літаратура. Мінск: Навука і тэхніка, 1984.

[9] Глобус А. Максім: словы пра паэта Максіма Танка // Глобус А. Партрэты. Мінск: Галіяфы, 2014. С. 6.

[10] Там жа. С. 5.

[11] Там жа. С. 7.

паэтавых твораў[12]. Больш таго, М. Танк ніколі прылюдна не выказваў раскаянне за сваю ролю ва ўслаўленні Сталіна і ніколі не сцвярджаў, што яго вершы былі няшчырымі[13].

Адначасна ў выніку ён дасягнуў настолькі высокіх пасад у іерархіі савецкай бюракратыі, што мог падтрымліваць іншадумных або перасследаваных аўтараў.

Сярод мноства выпадкаў, калі М. Танк падтрымліваў тых, хто цярпеў ад уціску, крытыкі і цэнзуры, вылучаецца абарона паэткі Ларысы Геніюш. Як адлюстравана ў лістах Л. Геніюш, Танк асабіста наведваў яе і спрыяў выданню зборніка яе вершаў. Л. Геніюш, былая зняволеная сталінскіх папраўчых лагераў, вельмі паважала савецкага функцыянера М.Танка і шчыра цаніла яго вершы[14].

У 1969 годзе тагачасны галоўны рэдактар часопіса «Новый мир» Аляксандр Твардоўскі абмяркоўваў сваё стаўленне да М. Танка у лістах Васілю Быкаву[15]. Стаўленне было агулам станоўчым. А. Твардоўскі, здавалася, дзівіўся шчырасці, з якою прадстаўляў сябе беларускі паэт: той быў надзвычай сімпатычны для партыйнага кадра такога роўню, улічваючы тое, што ад савецкіх функцыянераў звычайна не чакалася ні красамоўства, ні розуму. Рэдактар часопіса «Новый мир» верыў, што М. Танк не належаў да «прававерных» бюракратаў і будзе арганізоўваць працу Саюза пісьменнікаў іначай, чым яго папярэднік Пятрусь Броўка, з якога А. Твардоўскі кпіў, называючы таго «благополучным пустобрехом»[16].

Хаця пры рэдактарстве А. Твардоўскага «Новый мир» публікаваў толькі некалькіх выбраных беларускіх аўтараў, М. Танк быў сярод іх (гл. табліцу 1).

Гледзячы па ўсім, добра ставіўся да новага кіраўніка Саюза пісьменнікаў і В. Быкаў. У сваім лісце балгарскаму літаратуразнаўцу і перакладчыку Георгію Вылчаву (нар. у 1926) Быкаў пісаў:

---

[12] Дубавец С. Энігма // Дубавец С. Дзённік прыватнага чалавека. Менск: БГАКЦ, 1998. С. 43–46.

[13] Там жа. С. 45.

[14] Гл. лісты Ларысы Геніюш Максіму Танку № 12 і 14 у: Геніюш Л. Лісты з Зэльвы. Гародня; Уроцлаў: Гарадзенская бібліятэка, 2012. С. 19–20, 21–22.

[15] Ліст Аляксандра Твардоўскага Васілю Быкаву, 22 жніўня 1969 года. Цыт. па: «Эти молодые писатели видели пот и кровь на своей гимнастёрке». Переписка Василия Быкова и Александра Твардовского / сост. С. Шапран, В. Твардовская, О. Твардовская // Вопросы литературы. 2008. № 2. URL: http://magazines.russ.ru/voplit/2008/2/ko14.html (дата звароту: 04.09.2016).

[16] П. Броўка быў старшынёй праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі. У 1966 годзе пасада старшыні была скасаваная і замененая на пасаду першага сакратара. На з'ездзе СПБ у траўні 1966 года П. Броўка прылюдна выказаўся супраць пісьменнікаў Юрыя Даніэля і Андрэя Сіняўскага, асуджаных у лютым таго ж года. Гл.: Советская Белоруссия. 1966. 14 траўня.

> Пленум прошёл хорошо — быстро и единогласно — Бровка ушёл, Первым секретарём избран Максим Танк, который произнёс первую свою речь, в целом, понравившуюся всем[17].

Хаця пры неабходнасці М. Танк агучваў і меркаванні, чаканыя ад сябра КПБ. Як піша В. Быкаў, на наступным з'ездзе Саюза пісьменнікаў СССР М. Танк выступіў з «ва ўсіх адносінах правільнай прамовай»[18].

### 3.1.2. Валянцін Та́рас

Іншы паказальны выпадак — жыццё перакладчыка і журналіста Валянціна Та́раса (1930–2012), які жыў і тварыў на памежжы культур, моў і ідэалогій. Ён нарадзіўся ў змяшанай польска-руска-габрэйска-беларускай сям'і. У дзяцінстве ён гаварыў па-польску з бабуляй, па-руску з бацькамі, па-беларуску — гуляючы з мясцовымі дзецьмі на вуліцах даваеннага Мінска. У маладосці яго захапляла расійская культура і руская мова; ён карыстаўся ёй у асноўным і ў паўсядзённым жыцці. На працягу жыцця абедзве мовы, як руская, так і беларуская, захоўвалі для яго істотнае значэнне. Аднак у сталыя гады ён перайшоў на беларускую.

У 1950-я гады, пасля заканчэння факультэта журналістыкі БДУ, В. Та́рас працаваў рэдактарам літаратурнага аддзела беларускамоўнай газеты «Звязда», органа ЦК КПБ, а ў 1964–1968 гадах быў літаратурным рэдактарам рускамоўнага штомесячніка «Нёман». Будучы таленавітым перакладчыкам на рускую мову, В. Та́рас літаральна паспрыяў дыялогу паміж расійскай і беларускай культурамі[19].

Ягоны жыццяпіс пацвярджае складанасць часоў, у якія ён жыў: у 1940-я гады, будучы партызанам, ён шчыра верыў у справядлівасць савецкага ладу; у 1950-я быў ужо скептычна настроеным беспартыйным рэдактарам вядучага друкаванага органа КПБ «Звязда», а к канцу 1960-х, як датычны да «справы Вакулоўскай», ператварыўся ў беспрацоўнага інтэлігента-дысідэнта.

З 1968 года яго творы адкідаліся ўсімі часопісамі і выдавецтвамі БССР, хаця ў той жа час яго партызанскія раманы і пераклады працягвалі выходзіць

[17] Ліст Васіля Быкава Георгію Вылчаву, 1 снежня 1966 года // FSO 01-242, Kostezky.

[18] «[Е]го речь была правильная во всех отношениях». Ліст Васіля Быкава Георгію Вылчаву, 10 ліпеня 1967 года // FSO 01–242, Kostezky.

[19] Сярод шматлікіх важных работ В. Та́раса вылучаецца першы пераклад (сумесна з Карласам Шэрманам, 1934–2005) аповесці Габрыэля Гарсія Маркеса «Осень патриарха» (1975), упершыню надрукаваны ў «Нёмане». У 1989 годзе ў «Нёмане» быў надрукаваны Та́расаў пераклад Купалавых «Тутэйшых», за што ён пазней атрымаў прэмію «Нёмана» за 1989 год. Пераклад раней забароненага твора выйшаў праз год пасля яго публікацыі па-беларуску ў «Полымі».

у Маскве[20]. Выпадак Валянціна Тáраса сведчыць, што выбар паміж іншадумствам і згодніцтвам не быў ні простым, ні адназначным. Разважаючы, ці варта яму ўступаць у партыю, як таго патрабаваў ад яго рэдактар галоўнага друкаванага органа КПБ, Тáрас сутыкнуўся з рознай рэакцыяй у коле сваіх сяброў[21]. Прыняць рашэнне, якое пазней аказалася правільным, яму дапамагла заўвага аднаго з блізкіх сяброў, Алеся Адамовіча:

> Собираешься и дальше ехать на телеге сомнительного компромисса, сидеть на двух стульях? Так не бывает! Или — или![22]

Большасць прадстаўнікоў інтэлігенцыі, аднак, абіралі якраз шлях парадаксальнага кампрамісу. З аднаго боку, як піша А. Юрчак, яны жылі ў сістэме «вельмі рэальных чалавечых каштоўнасцяў, этыкі, сяброўства і творчых магчымасцяў, якія давала рэчаіснасць сацыялізму — часта нягледзячы на абвешчаныя дзяржавай мэты», і не ўяўлялі сябе па-за гэтай сістэмай[23].

З іншага боку, яны крытычна ставіліся да дзяржаўных інстытутаў, іх бюракратыі і недахопу свабоды. Так ці іначай, яны падтрымлівалі ўстойлівасць сістэмы. Будучы сябрамі Саюза пісьменнікаў, яны друкаваліся афіцыйна, мелі магчымасць падарожнічаць і аздараўляцца ў санаторыях за дзяржаўны кошт; іх творы перакладаліся дзякуючы нефармальным сеткам, якія ўзніклі пад дахам афіцыйнай пісьменніцкай арганізацыі, але ж і фармальнай патрэбе дзяржавы ў распаўсюджванні сацыялістычнага светапогляду.

Тут варта згадаць разгледжанае ва ўступе вытлумачэнне С. Ушакіным катэгарызацыі А. Грамшы. У савецкай інтэлігенцыі суіснавалі традыцыйныя і арганічныя рысы, але гэта зусім не было толькі мірным суіснаваннем — у выніку яно спарадзіла напружанне, якое, як падаецца, стала адной з прычын краху ўсёй сістэмы.

---

[20] Кашталян І. Валянцін Тарас // Дэмакратычная апазіцыя Беларусі (1956–1991) / URL: http://slounik.org/153713.html (дата звароту: 14.09.2016).

[21] Акрамя А. Адамовіча, у коле былі перакладчык Навум Кіслік (1925–1998), літаратурны крытык Рыгор Бярозкін (1918–1981), пісьменнік Фёдар Яфімаў (нар. у 1933) і паэт Аляксандр Дракахруст (1923–2008) (Тáрас В. На выспе ўспамінаў. С. 344–354, 374–379, 472).

[22] Тарас В. На выспе ўспамінаў. С. 185.

[23] Yurchak A. Everything was forever. P. 8.

## 3.2. ПОШУКІ ПРАЎДЫ: ВАСІЛЬ БЫКАЎ

***Выгнанніку***
***Не вецер у спіну дзьме, —***
***Ён носіць край абражаны***
***З сабою.***

Рыгор Барадулін. Адаму Міцкевічу (1973)[24]

Васіль Быкаў — выбітны пісьменнік, добра вядомы ў Беларусі і за мяжою сваёй ваеннай прозай. У гэтым падраздзеле асноўная ўвага будзе надавацца В. Быкаву як грамадскаму інтэлектуалу, яго пазіцыі ў культуры і ў беларускім грамадстве, што складвалася якраз у вывучáны перыяд, на працягу якога ён не раз апынаўся ў ролі ізгоя. Таму змест і роля літаратурнай творчасці В. Быкава разглядаюцца тут як вызначальныя для яго пазіцыі як найперш грамадскага дзеяча.

Кар'ера В. Быкава ў якасці ваеннага пісьменніка пачалася адносна позна, у 1950-я. У 1956 годзе, будучы журналістам і рэдактарам літаратурнага аддзела ў газеце «Гродненская правда», ён апублікаваў сваю першую аповесць «Страта» ў часопісе «Маладосць». Сам факт публікацыі твора падштурхнула В. Быкава працягваць пісаць. Акрамя таго, талент маладога пісьменніка адзначылі і рэдактары «Маладосці» Аляксей Кулакоўскі (1913–1986) і Георгій Шчарбатаў (1919–1957)[25].

У 1958 годзе В. Быкаў выдаў аповесць «Апошні баец». Аднак гэтым разам выданне прайшло не настолькі гладка: «Маладосць» цягнула з адказам і ўрэшце адхіліла аповесць. В. Быкаў накіраваў дапрацаваную і скарочаную версію ў «Чырвоную змену», дзе яна з'явілася ў сакавіку–красавіку 1958 года.

Праз некалькі месяцаў галоўны рэдактар «Маладосці» А. Кулакоўскі страціў сваю пасаду. Крыху раней, у майскім выпуску часопіса А. Кулакоўскі выдаў сваю аповесць «Дабрасельцы» (назва вёскі[26])[27]. Амаль адразу яго абвінавацілі ў скажэнні савецкай рэчаіснасці. У сюжэце аўтар апісаў жыццё працавітых савецкіх калгаснікаў, за якімі наглядалі прадажныя і жорсткія старшыні. Але наколькі б смелай ні была крытыка А. Кулакоўскім асобных выпадкаў злоўжывання ўладай, яна не была скіраваная на асновы савецкай сельскай гаспадаркі. У «Дабрасельцах» карумпаванага папярэдніка змяніў на пасадзе паважаны і праведны старшыня.

---

[24] Барадулін Р. Адаму Міцкевічу // Поўны збор твораў: у 5 т. Мінск: Мастацкая літаратура, 1996. Т. 1. С. 229.

[25] Быкаў В. Доўгая дарога дадому. С. 203; Шапран С. Васіль Быкаў. С. 123–124.

[26] А. Кулакоўскі даў назву аповесці адпаведна традыцыям сацыялістычнага рэалізму сталінскіх часоў. Назва мела выклікáць станоўчыя думкі аб буднях савецкіх калгасаў.

[27] Кулакоўскі А. Дабрасельцы // Маладосць. 1958. № 5. С. 39–106.

Будучы далёкай ад наўмыснага акта іншадумства, як яе часам імкнуцца вытлумачыць, аповесць была хутчэй спробай своечасовай рэакцыі на змены, прынесеныя дэсталінізацыяй у СССР. І тым не менш рэдакцыя паспяшалася адмовіцца ад свайго (цяпер ужо былога) галоўнага рэдактара. У верасні таго ж года ў загалоўным артыкуле рэдакцыя «Маладосці» крытыкавала аповесць А. Кулакоўскага як тэндэцыйную, напісаную на аснове «выдуманых сітуацый» і праяўляючую непавагу да чалавека. Рэдакцыя прызнавала сваю памылку і абяцала з гэтага часу друкаваць «высокаідэйныя і высокамастацкія творы, якія дапамогуць партыі выхоўваць савецкую моладзь бадзёрай, смелай, гатовай пераадольваць любыя цяжкасці ў барацьбе за камунізм»[28]. У 1959 годзе «Дабрасельцы» былі перавыдадзеныя беларускім эміграцкім колам у Мюнхене[29], што, аднак, толькі пагоршыла становішча аўтара і яго творчасці ў БССР.

Раней у А. Кулакоўскага ўжо былі праблемы з цэнзурай, прычым узніклі яны ў сувязі з процілеглымі абвінавачваннямі. У 1952 годзе ён рэдагаваў успаміны Героя Савецкага Саюза Васіля Казлова (1903–1967). Яны былі выдадзеныя ў Маскве, а вось публікацыя ў БССР, якая рыхтавалася ўжо пасля смерці І. Сталіна была знятая.

Хутчэй за ўсё з-за недагляду, А. Кулакоўскі прапусціў усхваленні Сталіна, замест таго каб выкрываць культ асобы. Гэта было вытлумачана як адхіленне ад партыйнай лініі[30]. За кароткі час паміж смерцю Сталіна і XX з’ездам партыі змянілася афіцыйная ідэалогія, але не ўсе аўтары змаглі адрэагаваць дастаткова хутка, узгадніўшы сваю працу адпаведным чынам. К 1965 году А. Кулакоўскі сутыкнуўся і з іншымі цяжкасцямі ў выданні сваіх апавяданняў і аповесцяў[31]. Як сведчаць яго лісты, ён хутчэй падпарадкоўваўся просьбам рэдакцыі і цэнзуры, чым адмаўляўся ад публікацый. Разам з тым ён спрабаваў дапасаваць свой выбар да прынцыпаў маральнасці. У сваім лісце перакладчыку Паўлу Кабзарэўскаму (псеўданім Фавія Гардона, 1909–1970) Кулакоўскі пісаў:

> Эти времена плоховато себя чувствую, потому что делаю то, что претит

[28] За высокаідэйную і высокамастацкую літаратуру // Маладосць. 1958. № 9. С. 4.

[29] Кулакоўскі А. Дабрасельцы: аповесць / прадм. С. Станкевіча. Мюнхэн: Бацькаўшчына, 1959. Сярод іншых кніг, падрыхтаваных у 1950-я гады выдавецтвам «Бацькаўшчына», былі «Раскіданае гняздо» (1953) і «Спадчына» (1955) Янкі Купалы, а таксама «У палескай глушы» Якуба Коласа (1957).

[30] Козлов В. Люди особого склада / ред. А. Кулаковский. Москва: Молодая гвардия, 1952. Больш падрабязна пра гісторыю выдання кнігі гл. у перапісцы Кулакоўскага са сваімі перакладчыкамі, надрукаванай у: Чарнякевіч Ц. Нядоля Кулакоўскага: ліставанне з перакладчыкамі // Маладосць. 2013. № 12. С. 106–111.

[31] Чарнякевіч Ц. Нядоля Кулакоўскага. С. 108.

совести: режу сам себя, удаляю находки, детали и вставляю демагогию, декларативные протезы. Вынужден как-нибудь выходить из положения…[32]

В. Быкаў быў азадачаны невыразнасцю пазіцыі А. Кулакоўскага, што здавалася дзіўным для вядомага пісьменніка і рэдактара. Пад уражаннем ад шчырага і дакладнага апісання цяжкага жыцця беларускіх жыхароў у «Дабрасельцах» В. Быкаў і яго сябар, пісьменнік і камуніст Аляксей Карпюк (1920–1992) наведалі А. Кулакоўскага, каб прапанаваць яму падтрымку і падзяліцца сваімі добрымі ўражаннямі ад публікацыі. Аднак Кулакоўскі, як горка ўспамінае В. Быкаў, пачаў адмаўляць якую-небудзь каштоўнасць кнігі, вызначаючы яе як памылковую[33].

Кароткі візіт, які так ясна запомніўся В. Быкаву, выяўляе велізарны разрыў паміж двума пакаленнямі савецкіх беларускіх літаратараў. Запал, з якім аўтар ганіў свой твор, глыбока ўразіў яго маладых калег. Хутчэй за ўсё матывацыяй А. Кулакоўскага быў страх пераследу[34]. Гэты страх працягваў даймаць тых, хто перажыў гады рэпрэсій. А. Кулакоўскі, які нарадзіўся за год да Першай сусветнай вайны, пражыў дастаткова, каб помніць жахлівую атмасферу сталінскіх гадоў. Тады быць пісьменнікам ці журналістам азначала мець мала шанцаў на выжыванне. Гэты досвед не толькі аб'ядноўваў прадстаўнікоў старэйшага пакалення, але і аддзяляў іх адзін ад аднаго, бо кожны ацалелы аўтар мог быць датычны даносаў на калег у 1930-я гады[35]. Таму ў 1960-х страх і недавер усё яшчэ віселі ў паветры.

Маладзейшыя аўтары, як ужо гаварылася вышэй, пачуваліся больш упэўнена і выступалі за права пісьменніка апісваць рэчаіснасць такою, якою яна была[36]. Тое, што было б недарэчным для В. Быкава і А. Карпюка, усё яшчэ вызначала лад жыцця іх старэйшых калег.

Рашэнне распавесці праўду пра Вялікую Айчынную вайну саспела ў В. Быкава даволі рана. Аднак адназначна вырашыць: працягваць або спыняць пісаць і выдавацца — было няпростым рашэннем, якое каштавала вялікіх сум-

---

[32] Ліст Аляксея Кулакоўскага Паўлу Кабзарэўскаму 26 лютага 1963 года // Чарнякевіч Ц. Нядоля Кулакоўскага. С. 111.

[33] Быкаў В. «ДДД». Аўтабіяграфічныя дадаткі да «Доўгай дарогі дадому» / уклад. І. Быкава, рэд. А. Пашкевіч // Дзеяслоў. 2006. № 23. С. 9.

[34] Падобныя ўспаміны пра сваіх старэйшых калег пакінулі і іншыя інтэлектуалы другога пакалення. Гл., напрыклад: Тарас В. Гены страху // Тарас В. На выспе ўспамінаў. С. 354–356.

[35] В. Тарас распавядае пра крытыка Рыгора Бярозкіна, які адбыў большы тэрмін (быў рэпрэсаваны) пасля вайны. Пасля вызвалення ён наўмысна сустракаўся з іншым пісьменнікам, які данёс на яго. (Тарас В. Цытата з Горкага // Тарас В. На выспе ўспамінаў. С. 344–354.)

[36] Гл. падраздзел 2.3.

неваў у сабе і сваім пісьменніцкім таленце[37]. У 1957 годзе ў лісце да паэткі Еўдакіі Лось ён усё яшчэ разважаў:

> Але, ведаеце, пісаць так, як у нас прынята, не хочацца, а напісаць па-свойму — з двух адно: ці не надрукуюць, ці потым раскрытыкуюць[38].

Пасля сутыкнення з тэкстам «Апошняга байца», калі ён быў зусім незадаволены апублікаванай аповесцю, не ў апошнюю чаргу таму, што сюжэт быў выдуманы, В. Быкаў зразумеў, што «пра вайну выдумваць нельга, таму што нельга хлусіць. Вайна вельмі сур'ёзная для гэтага справа»[39].

Наступная аповесць, «Жураўліны крык» (1959), ахарактарызаваная крытыкамі як пераходная, таксама вы́клікала многа спрэчак. З аднаго боку, уражвалі яе незвычайны сюжэт і праўдзівая манера напісання, з іншага — трывожыла нечаканае заканчэнне з гібеллю ўсіх галоўных герояў[40].

Каб праілюстраваць такую неадназначную рэакцыю, дастаткова аднаго факта: першы наклад кнігі склаў 6000 асобнікаў, што было вельмі мала ў параўнанні з памерамі выданняў як у СССР, так і ў БССР[41].

Нягледзячы на насцярожанае стаўленне да яго прозы, у тым жа 1959 годзе В. Быкаў быў прыняты ў Саюз пісьменнікаў БССР[42]. К сярэдзіне 1960-х гадоў В. Быкаў выпрацаваў адметны стыль пісьма. Ён цалкам занурыўся ў страты і трагедыю людзей, распавядаючы пра сутнасць вайны, пра тое, як ён бачыў і разумеў яе сам. Як адзначаецца ва ўспамінах сучаснікаў В. Быкава, ён адначасна стаў і вядомым грамадскім дзеячам, і прызнаным пісьменнікам. Ён часта меў публічныя выступы ў школах і вучэльнях і атрымаў поўнае прызнанне сярод гродзенскіх студэнтаў[43].

Ігар Дзядкоў ды іншыя савецкія літаратуразнаўцы лічылі творы В. Быкава часткай шырэйшай з'явы, «лейтэнанцкай прозы». Да савецкай ваеннай літара-

---

[37] Шапран С. Васіль Быкаў. С. 124–126.

[38] Ліст Васіля Быкава да Еўдакіі Лось, кастрычнік 1957 года, цыт. па: Шапран С. Васіль Быкаў. С. 126.

[39] Ліст Васіля Быкава Васілю Бурану. Цыт. па: Буран В. Васіль Быкаў: нарыс творчасці. Мінск: Мастацкая літаратура, 1976. С. 40.

[40] Шапран С. Васіль Быкаў. С. 185.

[41] Лічбы ўзятыя з выступу Янкі Брыля на пленуме Саюза пісьменнікаў БССР у 1960 годзе, цыт. па: Шапран С. Васіль Быкаў. С. 185. Першапачаткова надрукавана ў: Брыль Я. Роздум і слова. Мінск: Беларусь, 1963. С. 157.

[42] Цікава, што аповесць «Жураўліны крык», яе сюжэт, а таксама гісторыя яго абмеркавання ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» пазней сама зрабілася «фігурантам» іншага літаратурнага твора — рамана Уладзіміра Дамашэвіча «Камень з гары» (Мінск: Мастацкая літаратура, 1990).

[43] Васько У. Успаміны пра Васіля Быкава // Лідскі летапісец. 2010. № 2. С. 46–48. URL: http://pawet.net/files/l/50.pdf (дата звароту: 25.03.2016).

туры «другой хвалі», як яе яшчэ называюць, належаць кнігі Юрыя Бондарава (нар. у 1924), Георгія Бакланава (1923–2009), Канстанціна Вараб’ёва (1919–1975) і Юрыя Ганчарова (1923–2013)[44]. З першымі двума Быкава звязвала доўгае і моцнае сяброўства. Аўтарам «першай хвалі» быў, напрыклад, Канстанцін Сіманаў, а ў беларускай літаратуры — Аркадзь Куляшоў, якія таксама былі непасрэднымі ўдзельнікамі вайны. У лейтэнанцкай прозе месца доўгіх разважанняў над падзеямі занялі прамыя ўражанні, геранічную ўзнёсласць змяніла трагічная будзённасць вайны.

Адна з найвядомых аповесцяў В. Быкава, «Мёртвым не баліць», была ўпершыню надрукаваная ў 1965 годзе ў часопісе «Маладосць»[45]. У наступным, 1966 годзе яна была перакладзеная на рускую мову і выйшла ў часопісе «Новый мир» (гл. табліцу 1)[46]. Аповесць падверглася настолькі моцнай крытыцы ва ўсесаюзнай і рэспубліканскай прэсе, што не перавыдавалася да 1984 года.

У 1968 годзе ў сваім лісце Г. Вылчаву, зазвычай вельмі стрыманы і асцярожны ў сваёй перапісцы, В. Быкаў горка іранізуе, што класікі марксізму-ленінізму, падобна, ведалі праўду вайны лепей, чым тыя, хто меў яе непасрэдны досвед:

> В последней своей повести [я] малость допустил идейный перекос, неправильно изобразил солдат и офицеров, очернил героизм. Как ни стараюсь, всё как-то не получается. Не знаю, что и делать. Видно придётся оставить перо да основательно засесть за марксистско-ленинскую философию. Там надеюсь найти многие ответы на вопросы, связанные с минувшей войной, которую, оказывается, знаю недостаточно[47].

У «Мёртвым не баліць» скрозь увесь твор аўтарскі расповед падтрымліваецца кароткім словам «праўда» або, у больш пашыраным варыянце, «гэта была праўда». Для В. Быкава напісанне праўдзівай гісторыі Вялікай Айчыннай вайны савецкага народа стала сутнасцю яго пісьменніцкага шляху.

У аўтабіяграфіі пад назвай «Доўгая дарога дадому» (2002) В. Быкаў найбольш яўна выказваў тугу па «праўдзе», якая была настолькі крытычнай для

---

[44] Дедков И. Василь Быков. Очерк творчества. Москва: Советский писатель, 1980. С. 32–33.

[45] Нецэнзураваная версія апублікаваная Сяргеем Шапранам у 2014 годзе: Быкаў В. Мёртвым не баліць. Мінск: Медыял, 2014.

[46] Быков В. Мертвым не больно: повесть / авторизированный перевод с белорусского М. Горбачёва // Новый мир. 1966. № 1. С. 3–66; № 2. С. 7–64. Аб рэакцыі аддзела ідэалогіі і прапаганды КПСС гл.: Новиков А., Телицын В. Мёртвым не больно — больно живым // Вопросы литературы. 2004. № 6. URL: http://magazines.russ.ru/voplit/2004/6/nov15.html (дата звароту: 07.06.2016). Гл. таксама: Шапран С. Васіль Быкаў. Ч. 1. С. 393–401.

[47] Ліст Васіля Быкава Георгію Вылчаву, 29 жніўня 1968 года // FSO 01–242, Kostezky.

делать. Надо писать и переделывать. Такая уж судьба сценариев и сценаристов.

Ну а как тебе, Юра, живется в Минске? Наверно, уже очень соскучился по Софии, по родному языку и болгарских друзьях. Хотя хорошие люди есть и в Минске, но, я думаю, в Болгарии их больше. К тому же еще такой холод, морозы, как ты выдерживаешь их? Не болеешь?

Тут мои хлопцы – Сергей и Вася нарисовали для дяди Юры картинки. Лису нарисовал Серега, а Вася создал пейзаж с дождем, машиной и домиком. Впрочем, карандашом они рисуют лучше.

А я тебе нарисую свой автопортрет. Это у меня болят зубы и я поэтому такой злой и некрасивый.



На этом заканчиваю, Юра. Обязательно постараюсь к твоему отъезду навестить тебя.

Крепко жму твою руку – Василь.

P.S. Привет тебе сердечный от Нади.

*Ілюстрацыя 9. Ліст Васіля Быкава да Георгія Вылчава з аўтапартрэтам В. Быкава, 20 лютага 1964 года. FSO 01-242, Kostezky.*

яго і некаторых прадстаўнікоў яго пакалення[48]. Праўда ў літаратуры была неабходнай тым больш, што яе часта не хапала ў жыцці. Паміж перакананнямі інтэлігенцыі, афіцыйнымі заявамі і паўсядзённым жыццём існаваў рэзкі разрыў. Па іроніі лёсу, як трапна заўважыў В. Быкаў, савецкая ідэалогія часта звярталася да таго ж, да праўды, але тая праўда была зусім іншай:

> Нас заклікалі пісаць праўду, але далёка ня кожная праўда дазвалялася ў літаратуры, хіба тая, якая служыла ўладзе[49].

У познія савецкія часы зварот да праўды стаў кодам, які аб’ядноўваў інтэлектуалаў розных нацыянальных рэспублік, ураўноўваючы расійскую і нацыянальныя літаратуры. Самым яркім прыкладам стала паштоўка, дасланая рэдакцыяй «Нового мира» і асабіста Аляксандрам Твардоўскім В. Быкаву ў Міжнародны дзень працы ў 1969 годзе, у самы разгар антыбыкаўскай кампаніі ў савецкіх СМІ. На паштоўцы А. Твардоўскі напісаў:

> Всё минётся, а правда останется[50].

Зразумела, што В. Быкаў быў не адзінокі ў сваім імкненні распавядаць праўду пра вайну, якой бы непрывабнай тая ні была. Аднак ён аказаўся адным з нямногіх прадстаўнікоў нацыянальнай інтэлігенцыі ў СССР, чыя проза была ўніверсальнай і зразумелай паўсюль у СССР і за яго межамі. Уплыў рускай культуры на беларускую савецкую інтэлігенцыю быў значным, але, нягледзячы на першае падабенства, паняцце праўды мела і сваё выразнае нацыянальнае вымярэнне.

Заўважаную С. Ушакіным пераемнасць маральнай пазіцыі расійскай інтэлігенцыі XIX стагоддзя з савецкай можна толькі з асцярогай аднесці да нацыянальных рэспублік. Дарэвалюцыйная беларуская інтэлігенцыя таксама шукала праўду, што і было галоўнай тэмай яе дзейнасці, пачынаючы з «Мужыцкай праўды», выдаванай у 1862–1863 гадах рэвалюцыянерам Кастусём Каліноўскім. Але як для К. Каліноўскага, так і для актывістаў нацыянальнага руху праўда азначала хутчэй справядлівасць, роўнасць і вызваленне, чым праўдзівасць. У адрозненне ад хутчэй абстрактнага значэння

---

[48] «Доўгая дарога дадому» з’явілася спярша ў якасці серыі аўдыёзапісаў, агучаных аўтарам і перадаваных беларускай службай Радыё «Свабода». Гл.: «Доўгая дарога дадому» на Радыё «Свабода». URL: http://www.svaboda.org/a/1744415.html (дата звароту: 04.04.2015). Кніжнае выданне: Быкаў В. Доўгая дарога дадому. Мінск: Кніга, 2003.

[49] Гл.: Быкаў В. Доўгая дарога дадому. С. 237. Слова «праўда» трапляецца ледзь не на кожнай старонцы кнігі Быкава. Па іроніі лёсу яно прысутнічае і ў назве газеты «Гродзенская праўда», дзе ён працаваў.

[50] Цыт. па: Переписка Быкова и Твардовского / С. Шапран [и др.].

апошняй, першая ўвасабляла канкрэтныя патрабаванні, найперш — зямлі, асветы і самапавагі для беларусаў.

Глыбокае разуменне і выражэнне В. Быкавым нацыянальнага надалі яму аўтарытэт як пісьменніка і асобы сярод беларускай інтэлігенцыі[51]. Як сапраўдны савецкі пісьменнік, ён залучаў у сваіх аповесцях шырокае кола нацыянальнасцяў; тым не менш гісторыя беларускай вёскі і яе насельніцтва стала адным з найбольш істотных кантэкстаў яго твораў. Як савецкі пісьменнік В. Быкаў, напэўна, больш за іншых перасягаў межы нацыянальнай літаратуры і адначасна заставаўся ў ёй[52]. Паясненнем тут можа служыць зменения формула савецкай культуры: проза В. Быкава заставалася нацыянальнай па сваёй сутнасці, але па форме ёй удавалася трапляць у рамкі савецкай літаратуры, зразумелай выхаванаму на ідэях інтэрнацыяналізму чытачу з абшару паміж Камчаткай і Брэстам. Адначасова, яна стасавалася з гуманістычнай накіраванасцю лепшай класічнай і сучаснай В. Быкаву сусветнай літаратуры.

Адметна, што савецкія крытыкі, эмігранты і заходнія часопісы высока ацанілі гэтую ўніверсальнасць прозы В. Быкава, хоць яе глыбокая ўкаранёнасць у беларускай вёсцы і заставалася для іх незразумелай[53]. Ігар Дзядкоў пісаў пра значэнне даваеннага жыцця для галоўнага героя В. Быкава, бо яно «нікуды не знікла, яно жыве ў людзях, адбіваецца на іх дзеяннях, выяўляецца ў абставінах, удзельнічае ў вайне»[54]. Тое ж можна сказаць і пра ўласны досвед В. Быкава — дзяцінства і юнацтва ў беларускай вёсцы, што вызначала стыль яго пісьма разам з ваенным досведам.

Пачынаючы са сваіх партызанскіх аповесцяў, такіх, як «Сотнікаў» (1970)[55], В. Быкаў прыкладваў універсальныя тэмы — маральнага выбару, годнасці чалавечай асобы і вайны як пакуты — да вельмі канкрэтнага кантэксту беларускай вёскі. Ён працягнуў і развіў гэтую тэму ў 1980-х гадах у аповесці «Знак бяды» (1982)[56], дзе даследаваў жыццё мясцовых вяскоўцаў пад нацысцкай акупацыяй.

«Сотнікаў» спярша з’явіўся ў перакладзе на рускую мову ў часопісе

[51] Яшчэ ў 1994 годзе нямецкі гісторык літаратуры Вілі Бэйц адзначыў тое, што нацыянальная спецыфіка была істотная для В. Быкава. Гл.: Beitz W. Vom «Tauwetter» zur Perestroika. Bern: Peter Lang, 1994 S. 172.

[52] Параўнайце з Lewis S. Belarus — Alternative Visions. P. 86 і 90.

[53] Добрым прыкладам ёсць успамін пра Васіля Быкава, які напісаў пасля яго смерці адзін з найбольш уважлівых яго крытыкаў і добры сябар Лазар Лазараў (псеўданім Лазарара Шындэля, 1924–2010). Гл.: Лазарев Л. Правда останется // Знамя. 2003. № 12.

[54] Дедков И. Василь Быков. С. 114.

[55] Быков В. Сотников // Новый мир. 1970. № 5. Апублікавана па-беларуску ў часопісе «Полымя» (1970. № 11. С. 81–177). Нецэнзураваная версія кнігі пад арыгінальнай назвай «Ліквідацыя» з’явілася ў 2014 годзе: Быкаў В. Ліквідацыя / рэд. С. Шапран. Мінск: Медыял, 2014.

[56] Упершыню выдадзена кнігай у 1984 годзе: Быкаў В. Знак бяды. Мінск: Мастацкая літаратура, 1984.

«Новый мир» у 1970 годзе. Ён быў падрыхтаваны да выдання якраз тады, калі А. Твардоўскі быў звольнены з займанай пасады, а аўтаномная лінія часопіса была спыненая (гл. табліцу 1). У гэты момант В. Быкаў сутыкнуўся з няпростым выбарам, які пазней не дасць яму ні хвіліны спакою: ён мог бы адмяніць публікацыю ў «Новом мире» і такім чынам выказаць пратэст супраць разгону рэдакцыі, але ўсё ж вырашыў выпусціць аповесць[57]. Па іроніі лёсу, ён сутыкнуўся са становішчам, якое ў нечым нагадвае тыя, у якіх апыналіся яго героі.

У 1978–1982 гадах у выдавецтве «Мастацкая літаратура» меў выходзіць чатырохтомнік твораў В. Быкава, з нагоды атрымання апошнім звання народнага пісьменніка БССР. Выдавецтва, на чале з Міхасём Дубянецкім (1927–1990), ініцыявала выданне ў ім аповесці «Мёртвым не баліць». Рашэнне аб публікацыі прымалася некалькі месяцаў. У аддзелах ідэалогіі КПСС у Маскве і ў Беларусі ішлі няспынныя спрэчкі.

У 1984 годзе Быкаў святкаваў сваё шасцідзесяцігоддзе і быў прадстаўлены да рэдкай для беларускага пісьменніка ўзнагароды — звання «Героя Сацыялістычнай Працы». Сярод прыкладна сямідзесяці асобаў, якія абмяркоўваюцца ў гэтай працы, такая ўзнагарода была толькі ў яшчэ двух — Петруся Броўкі і Максіма Танка (гл. табліцу 5). У тым жа годзе аповесць «Мёртвым не баліць» была ўрэшце апублікаваная.

Як адзначыў у сваім дзённіку М. Дубянецкі, у 1980-я гады ўлады баяліся галоснасці па той бок жалезнай заслоны. Камуніст і энтузіяст беларускай культуры М. Дубянецкі выдатна разумеў слабасці сістэмы. У сваёй афіцыйнай прамове з нагоды публікацыі ён выказаўся так:

> Гэтым выданнем мы раз і назаўсёды спынілі розныя спекуляцыі замежных сваіх апанентаў, што, маўляў, у славутага Быкава ёсць забароненыя ў яго краіне творы[58].

На Захадзе сапраўды была вялікая цікавасць да творчасці В. Быкава. Падобным чынам, як паказваюць матэрыялы і справаздачы Радыё «Свабода», яму надавалася шмат увагі і як грамадскаму дзеячу. Яго аповесць «Мёртвым не баліць» прыцягнула ўвагу заходніх СМІ ўжо ў 1966 годзе. Шырока абмяркоўваўся і яго публічны выступ на V з’ездзе беларускіх пісьменнікаў у тым жа годзе[59]. У 1969 годзе партызанская аповесць В. Быкава «Круглянскі мост» з’явілася спачатку ў «Полымі» (у лютым)[60], а затым у «Новом мире» (у са-

[57] Шапран С. Васіль Быкаў. Ч. 1. С. 679–681.

[58] Дубянецкі М. Злое вогнішча. С. 191.

[59] Мондич М. «Смелое выступленне В. Быкова против литературных надсмотрщиков» / Радио «Свобода», Мюнхен. 16 ноября 1966 года. С. 1–6 // OSA 300/85/13/54 (Bykov).

[60] Быкаў В. Круглянскі мост // Полымя. 1969. № 2. С. 3–61.

кавіку), а ўжо ў ліпені Радыё «Свабода» апублікавала яе падрабязны разбор[61]. Як зазначыў Вілі Бэйц, літаратурная дзейнасць В. Быкава і А. Адамовіча прадвызначала перабудову і рыхтавала да яе грамадства[62].

У той жа час В. Быкаў параўнальна рэдка даваў інтэрв'ю і выступаў з прамовамі. Больш таго, ён не лічыў сябе палітычным дзеячам да таго часу, калі набылі сілу перабудова і галоснасць. Аднак з 1987 года ён пачаў друкаваць публіцыстыку ў цэнтральнай і нацыянальнай прэсе па ўсім Савецкім Саюзе, адчуваючы сябе абавязаным абараняць парасткі дэмакратыі[63]. У інтэрв'ю ў 1989 годзе В. Быкаў тлумачыў свой выбар наступным чынам:

> Есть в нашей жизни события и явления, на которые невозможно не откликнуться. У нас в Белоруссии таких проблем самого разного свойства великое множество — начиная от экологических, культурных, духовных. Тем более, что они годами не решались, да и теперь иной раз делаются попытки их не решать, оставить всё так, как есть, как было со времён Сталина. Поэтому естественно, что мне трудно удержать себя в некоей «башне из слоновой кости»[64].

Нягледзячы на перабудову і галоснасць, звароты В. Быкава (часта разам з або ў падтрымку сябра, Алеся Адамовіча) сустракаліся з жорсткімі нападкамі ў прэсе[65]. Да 1991 года вядучыя беларускія выданні, па-ранейшаму залежныя ад прыхацяў КПБ, працягвалі абвінавачваць В. Быкава і яго аднадумцаў у скажэнні ваеннай праўды і паклёпе на КПБ.

---

[61] Бек Л. Жестокость и сострадание в партизанской войне / Радио «Свобода», Мюнхен. 9 июля 1969 года. С. 1–6 // OSA 300/85/13/54 (Bykov).

[62] Beitz W. Vom Tauwetter zur Perestroika. S. 175, 181.

[63] Адзін з першых публічных зваротаў быў падпісаны групай інтэлектуалаў: Святланай Алексіевіч, Васілём Быкавым, Віктарам Казько, Аляксандрам Дракахрустам, Валянцінам Тáрасам ды іншымі. Гл.: Кто украл фонарь гласности // Советская культура. 1987. 3 окт. С. 6. Гл. таксама: Dogmatische Bremsversuche in Weissrussland. Vorwürfe des Schriftstellers Wasil Bykow // Neue Züricher Zeitung. 1988. № 6–7, Nov.; Быков В. Дубинки против гласности // Огонёк. 1988. № 47 (19–26 окт.); Шапран С. Василь Быков: «Сегодняшний кризис от тотальной идеологизации» // Советская молодёжь. 1990. 4 мая // OSA 300/85/13/54 (Bykov).

[64] Бжозовский А. [інтэрв'ю з Васілём Быкавым] «Человеку должно быть хорошо» // Наше наследие. 1989. № 3. С. 155–158 // OSA 300/85/13/54 (Bykov).

[65] Гл., напрыклад: Бумажкова Т. Барьер политической слепоты // Политический собеседник. 1989. № 1. С. 34–37; Севрук В. Как они на нас доносили // Литературная газета. 1990. 23 мая.

## 3.3. ВЯРТАННЕ ГІСТОРЫІ: УЛАДЗІМІР КАРАТКЕВІЧ

Уладзімір Караткевіч з’явіўся ў беларускай савецкай літаратуры ў канцы 1950-х. Народжаны ва ўсходнебеларускім горадзе Орша, ён правёў ваенныя гады ў эвакуацыі ў Разанскай і Пермскай абласцях. У 1949–1954 гадах ён вывучаў рускую філалогію ў Кіеўскім дзяржаўным універсітэце імя Тараса Шаўчэнкі, а ў пачатку 1960-х вучыўся на Вышэйшых літаратурных і драматургічных курсах імя Максіма Горкага ў Маскве. Яго студэнцкія гады ў Кіеве супалі з рэзкімі палітычнымі зменамі ў Савецкім Саюзе. Непасрэднае ўражанне ад працэсаў дэсталінізацыі У. Караткевіч адлюстраваў у сваёй першай аповесці «У снягах драмае вясна» (1957)[66]. Назва рамана нагадвала знакамітую «Оттепель» Іллі Эрэнбурга. У адрозненне ад апошняй, аповесць Караткевіча была апублікаваная толькі ў часы перабудовы (і пасля смерці аўтара), у 1989 годзе.

Пажыўшы далёка ад радзімы, у адрыве ад беларускай сучаснасці, У. Караткевіч рамантызаваў беларускае мінулае ў сваёй паэзіі і гістарычных творах. Яго першымі гістарычнымі аповесцямі былі «Леаніды не вернуцца да зямлі» (упершыню выдадзеная як «Нельга забыць», 1962 год) і «Дзікае паляванне караля Стаха» (паміж 1950 і 1958 гадамі, упершыню выдадзеная ў 1964 годзе). Першая аповесць выйдзе асобнай кнігай па-беларуску толькі ў 1982 годзе, другая — у 1989 годзе, праз дзесяць гадоў пасля яе экранізацыі «Беларусьфільмам», і пасля перакладу на балгарскую (1981), эстонскую (1983), нямецкую (1985) і латышскую (1985) мовы[67].

Па вяртанні з Масквы ў Беларусь У. Караткевіч цалкам прысвяціў сябе пісьменству. У адрозненне ад многіх іншых беларускіх інтэлектуалаў, якія спалучалі творчую ці навукова-даследчую работу з працай у афіцыйных выдавецтвах, часопісах і ўстановах, У. Караткевіч заставаўся па-за савецкай пісьменніцкай іерархіяй. Як вынік, ён адчуваў пастаянны недахоп грошай і бытавую неўладкаванасць. Яго становішча было асабліва складаным з канца 1960-х да сярэдзіны 1970-х, перш чым яго творы пачалі прыносіць істотны прыбытак.

З іншага боку, ён меў пэўную свабоду самавыражэння і паводзін, будучы

[66] Караткевіч У. У снягах драмае вясна: аповесць. Мінск: Юнацтва, 1989.

[67] Караткевіч У. Нельга забыць: раман амаль што сентыментальны. Мінск: Мастацкая літаратура, 1982. Раман быў упершыню выдадзены асобнай кнігай па-чэшску: Karatkěvič U. Leonidy se nevrátí / transl. by Václav Židlický. Praha: Pracé, 1975; яго ж: Дзікае паляванне караля Стаха. Мінск: Юнацтва, 1989. Пераклады ў 1980-х: Караткевич У. «Страшната ловна дружина на крал Стах», пераклад Евтимова Е.К. (София: Отечество, 1981); Vladzimir Karatkevitš, Kuningas Stahhi ajujaht: jutustus, пераклад Soe Laine (Tallin: Eesti Raamat, 1983) — 60 000 асобнікаў; Uladsimir Karatkewitsch, Königs Stach wilde Jagd, пераклад Ingeborg und Oleg Kolinko (Berlin: Neues Leben, 1985); Vladimirs Karatkēvičs, Karaļa Staha baismā karadraudze, пераклад T. Rullis (Riga: Liesma, 1985) — 45 000 асобнікаў.

вольным ад ціску рабочага калектыву і прафсаюза[68]. Парадаксальным чынам, ужыванне алкаголю таксама было спробай пашырыць прастору ўнутранай свабоды. Як і многія іншыя савецкія пісьменнікі, У. Караткевіч сур'ёзна піў. Алкаголь даваў яму (і іншым) хаця б ілюзорнае і кароткачасовае пазбаўленне ад кантролю дзяржавы, надзяляючы свабодай, неабходнай для мастацкага самавыражэння[69]. Без ужывання алкаголю не адбывалася ніводная сяброўская сустрэча ці ўрачыстасць.

Як ні дзіўна, алкаголь заахвочваў збірацца невялікімі сябрынамі, дзе языкі развязваліся, бо ўсе прысутныя былі «добрымі», і вольна вяліся гутаркі на забароненыя тэмы. Любімае жартаўлівае выказванне Рыгора Бярозкіна: «Мала гарэлкі, хлопцы» было своеасаблівай метафарай[70]. Калі было дастаткова гарэлкі, каб заглушыць страх, асцярожнасць і самацэнзуру, чалавек мог нарэшце адчуць сябе свабодным.

У 1965 годзе «Полымя» ўпершыню надрукавала скарочаную версію двухчасткавага рамана У. Караткевіча «Каласы пад сярпом тваім»[71]. У ім аўтар адлюстраваў жыццё беларускіх шляхты і сялянства напярэдадні Студзеньскага паўстання 1863–1864 гадоў у Беларусі, пераважна ва ўсходняй частцы Магілёўшчыны, або Прыдняпроўі. Аўтар ужо звяртаўся да гісторыі паўстання ў сваіх папярэдніх творах, уключаючы «Нельга забыць», але «Каласы…», як ён іх задумваў, мелі стаць (і сапраўды сталі) амбіцыйнай, рамантычнай сагай старасвеччыны, славы і страт беларускага народа. Магчыма, апісанага У. Караткевічам жыцця ніколі і не існавала, але гэта была тая гісторыя, якую ён жадаў для сучасных яму Беларусі і беларусаў.

Галоўны герой кнігі — створаны аўтарам персанаж, прадстаўнік заможнага шляхецкага роду Алесь Залескі. Па меры развіцця сюжэту ён завязвае сяброўства з рэальным гістарычным дзеячам, кіраўніком паўстанцкай групоўкі на землях сучасных Беларусі і Літвы Кастусём Каліноўскім[72] і стае паплечнікам апошняга. У. Караткевіч захапляўся К. Каліноўскім, і менавіта дзякуючы яго творам апошні замацаваўся ў пантэоне нацыянальных герояў Беларусі.

На гэтым прыкладзе таксама стае відавочнай размытасць мяжы паміж іншадумствам і афіцыёзам: Кастусь Каліноўскі быў адною з рэдкіх постацяў у

[68] Мальдзіс А. Жыццё і ўзнясенне Уладзіміра Караткевіча. Мінск: Літаратура і мастацтва, 2010. С. 86.

[69] Там жа. С. 91. Больш пра спажыванне алкаголю сярод беларускай інтэлігенцыі савецкіх часоў гл. у падраздзеле 4.3.1.

[70] Тарас В. На выспе ўспамінаў. С. 352.

[71] Полымя. 1965. № 2–6.

[72] У 1963 годзе да гадавіны студзеньскага паўстання У. Караткевіч напісаў тэатральную п'есу «Кастусь Каліноўскі. Смерць і неўміручасць» (Караткевіч У. Старыя беларускія хронікі. Мінск: Мастацкая літаратура, 1988. С. 17–86).

беларускай гісторыі, якая атрымала пераважна станоўчае вытлумачэнне ў афіцыйнай савецкай гістарыяграфіі[73]. Разам з тым некаторыя звязаныя з яго асобай факты, напрыклад яго непрыязнасць да расейскага самадзяржаўя, відавочная ў «Мужыцкай праўдзе» і «Лістах з-пад шыбеніцы», старанна цэнзураваліся. У сваіх творах У. Караткевіч выкарыстаў «афіцыйна адобраную» фігуру Каліноўскага, каб стварыць для Беларусі прынцыпова нетрадыцыйную і недазволеную раней гістарычную міфалогію.

У сваім артыкуле пра нацыянальны рух беларусаў Рудольф А. Марк ставіць пад сумнеў значэнне К. Каліноўскага і падпольнай газеты «Мужыцкая праўда» для ранняй канцэптуалізацыі нацыянальнай ідэі. Калі гэтая роля і была няяўнай у канцы XIX — пачатку XX стагоддзя, яна стала яркавыражанай у пасляваенны час. К. Каліноўскі быў уведзены ў афіцыйную гісторыю (за выключэннем антырасійскіх пасажаў). Разам з тым ён умацаваўся ў пантэоне нацыянальнай міфалогіі, і адбылося гэта збольшага дзякуючы прозе У. Караткевіча[*].

Скарочанае выданне «Каласоў…» у «Полымі » было прамацваннем глебы, пасля чаго аўтар паспрабаваў выдаць раман і асобнай кнігай, дзякуючы чаму ён мог бы дасягнуць нашмат больш шырокай аўдыторыі. Гэтыя спробы супалі са зменамі ў савецкай унутранай палітыцы і занялі ў У. Караткевіча некалькі гадоў.

Савецкая крытыка выявіла ў рамане адхіленне ад прынцыпаў «сацыялістычнага рэалізму» і скажэнне гістарычнай праўды. У. Караткевіч адлюстраваў вызваленчую барацьбу беларускай шляхты, а не прыгнечанага і беднага беларускага сялянства, тады як менавіта апошняе было ў цэнтры ўвагі афіцыйнай савецкай гістарыяграфіі[74]. У. Караткевіча папракалі як у афіцыйнай рэспубліканскай прэсе, дзе яго сталым апанентам быў літаратуразнаўца Якаў Герцовіч (1910–1976)[75], так і ў закрытых рэцэнзіях. У 1965 годзе крытык Максім Лужанін напісаў у сваёй закрытай рэцэнзіі на раман:

> Паказ беларускай вёскі, беднай, праз якую і для якой адбылося паўстанне, — першае, аб чым мусіць быць аўтарскі клопат[76].

[73] Гл., напрыклад: Игнатенко И. [и др.]. История белорусской ССР. Минск: Наука и техника, 1977. С. 121–128. Аб ваганнях савецкіх поглядаў на К. Каліноўскага гл.: Lewis S. Belarus — Alternative Visions. P. 118.

[*] Mark R. A. Die nationale Bewegung der Weißrussen im 19. und zu Beginn des 20. Jahrhunderts // Jahrbücher für Geschichte Osteuropas. 1994. Bd. 42. H. 4. S. 502.

[74] Афіцыйны пункт гледжання гл.: Игнатенко И. [и др.] История Белорусской ССР. С. 63–75, 83–85, 103–106. Пра гісторыю Студзеньскага паўстання і яго апісанне ў пасясталінскай савецкай гістарыяграфіі, гл. там жа, с. 121–128.

[75] Герцович Я. Судьбы человеческие и судьбы народные // Советская Белоруссия. 1965. 9 сент.

[76] Закрытая рэцэнзія Максіма Лужаніна на раман У. Караткевіча «Каласы пад сяр-

М. Лужанін, вядомы крытык і аўтар ў 1960-я гады, перажыў сталінскія рэпрэсіі і абвінавачванні ў «нацыянал-дэмакратызме», будучы ўдзельнікам паэтычнага аб'яднання «Узвышша» ў 1930-я гады. У 1933 годзе яго арыштавалі і адправілі ў высылку ў Марыінск Кемераўскай вобласці, адкуль ён вярнуўся праз некалькі месяцаў. Ён быў рэабілітаваны толькі ў 1956 годзе, але ўжо ў 1944 годзе пачаў працаваць у «Звяздзе», афіцыйнай газеце ЦК КПБ. З таго часу ён здолеў пабудаваць квітнеючую кар'еру тыповага савецкага пісьменніка[77].

Нягледзячы на свой канфармізм, М. Лужанін меў і талент, і літаратурны густ. Ён прызнаў літаратурную якасць рамана У. Караткевіча і зрабіў каштоўныя заўвагі што да стылю і мовы. Тым не менш, на думку рэцэнзента, кампазіцыя рамана, тое, як У. Караткевіч апісваў падзеі, што папярэднічалі Студзеньскаму паўстанню на беларускіх землях, і перш за ўсё гістарычны рамантызм аўтара патрабавалі значных змен[78]. Здаецца, М. Лужанін вагаўся паміж агулам добразычлівым стаўленнем да аўтара (ён быў адным з трох асоб, якія ў 1957 годзе рэкамендавалі прыняць У. Караткевіча ў Саюз пісьменнікаў) і намерам праявіць сваю прыхільнасць да сацыялістычнага рэалізму[79].

Аднак гэты твор адрозніваўся ад іншых вытвораў беларускай савецкай літаратуры якраз пералічанымі крытыкам «абмежаваннямі». Гераізм і поўнае прыгод жыццё шляхты найбольш захаплялі пісьменніка і затым чытача. Больш таго, у сваіх творах У. Караткевіч даказваў прывабнасць беларускай мовы і культуры, што патэнцыйна несла пагрозу абвінавачванняў у беларускім нацыяналізме.

Нягледзячы на рызыкі і нападкі з боку крытыкі, у канцы 1960-х і асабліва ў 1970-х У. Караткевіч стаў адным з самых папулярных і найбольш чытаных аўтараў БССР.

---

пом тваім» // Шапран С. Уладзімір Караткевіч: «Прыміце мяне такім, які я ёсць»: да гісторыі выдання «Каласоў пад сярпом тваім» // Дзеяслоў. 2006. № 24. С. 287. Лужанін напісаў закрытую рэцэнзію для выдаўцоў «Мастацкай літаратуры» ў лістападзе 1965 года.

[77] Маракоў Л. Рэпрэсаваныя літаратары. Т. 2. С. 36–37.

[78] Гл.: Сялянскае і княжаскае // Закрытая рэцэнзія… С. 287–292.

[79] Караткевіч У. Аўтабіяграфія, 25 красавіка 1957 года; Лужанін М. Рэкамендацыя // Асабістая справа Караткевіча. Архіў СБП. URL: https://lit-bel.org/from-archive/Uladzmr-Karatkevch-5017/ (дата звароту: 09.10.2018).

> [Яны] пачалі друкаваць мой псіхалагічны дэтэктыў [«Чорны замак Альшанскі»]. Я мог бы пахваліцца, на чорным рынку асобнік часопіса «Маладосць» [у якім быў надрукаваны раман] — [каштуе] пяцьдзесят рублёў[80], —

пісаў У. Караткевіч у сваім лісце ўкраінскаму гістарычнаму празаіку Раману Іванычуку.

Такога павароту літаратура не рабіла з часоў Максіма Гарэцкага і сяброў «Узвышша». У. Караткевіч звярнуўся да дарэвалюцыйнай гісторыі Беларусі, пра якую апавядаў як пра багатую і займальную. Ён вельмі добра разумеў сэнс гісторыі і гістарычнага пісьменства для фармавання нацыянальнай ідэнтычнасці. У 1980 годзе ў сваім дзённіку ён сфармуляваў ідэю нацыянальнасці, якая магла б прывесці да грамадскай згоды і культурнага развіцця ў Беларусі. Зноў жа, яна не супадала з савецкай:

> Без гістарычнага рамана, гістарычнай літаратуры ўвогуле не можа абудзіцца нацыя, бо няма нацыі без пачуцця гістарызму, без спакойнага гонару за сябе і проста самапавагі, без веры ў тое, што ёсць яна, непераходзячая, сталая, вечная каштоўнасць вечнага чалавецтва і па ўсіх гэтых прычынах павінна жыць, жыць дзейсна і велічна, ведаючы сябе ў дрэнным і вялікім[81].

Вяртаючыся да тэмы выдання «Каласоў…», барацьба за кнігу, у якую ўвязаліся таксама сябры і калегі Караткевіча, доўжылася больш за два гады і прымусіла аўтара адмовіцца ад ідэі трэцяй часткі рамана[82]. «Каласы пад сярпом тваім» нарэшце выйшлі асобнай кнігай у 1968 годзе. Само яе з’яўленне стала новай вяхою ў беларускім гістарычным пісьменстве.

Цяжкасці чакалі і пераклад «Каласоў…» на рускую мову. У 1969 годзе У. Караткевіч адправіў яго ў выдавецтва «Советский писатель». У 1972 го-

[80] Рагойша В. Уладзімір Караткевіч і Раман Іванічук // Уладзімір Караткевіч і яго творчасць у еўрапейскім культурным кантэксце / уклад. Т. Шкурко. Мінск: Беларускі кнігазбор, 2000. С. 103–104. Гл. таксама: Мальдзіс А. Жыццё і ўзнясенне Уладзіміра Караткевіча. С. 66 і наступныя; Навумчык С. «У сакратарыяце мне сказалі…» // Віцебскі рабочы. 1987. 25 ліп. У 1970-х гадах мінімальная заработная плата складала 70 руб. Звычайнае літаратурнае выданне каштавала ад некалькіх капеек да некалькіх рублёў, ў залежнасці ад памера і якасці, а, напрыклад, кошт аднаго нумара «Нового мира» ў 1979 годзе складаў 70 капеек.

[81] Цыт. па: Верабей А. Уладзімір Караткевіч: Жыццё і творчасць. Мінск: Беларуская навука, 2005. С. 63.

[82] Падрабязней пра гэта ў: Шапран С. Уладзімір Караткевіч: «Прыміце мяне такім, які я ёсць»; Мальдзіс А. Жыццё і ўзнясенне… С. 39–40, 66–70. Гл. таксама водгук Адама Мальдзіса «Праўда мастацкая і праўда гісторыі» (ЛіМ. 1965. 6 жн.).

дзе па просьбе аўтара яго нязменная перакладчыца, мовазнаўца Валянціна Шчадрына (нар. у 1927) пераклала раман, такім чынам, выданне было гатовае да друку. Аднак 22 студзеня 1973 года ў сваім водгуку на пераклад прафесар П. Заянчкоўскі сцвярджаў, што кнігу трэба было перапісваць цалкам, бо яна не адпавядала гістарычным фактам[83]. Пасля доўгіх роздумаў У. Караткевіч і В. Шчадрына папрасілі водгук у свайго суайчынніка, вядомага маскоўскага гісторыка Мікалая Улашчыка (1906–1986)[84].

М. Улашчык не сумняваўся ў неабходнасці напісання і выдання літаратуры пра беларускае мінулае. У сваім водгуку ён выказаў занепакоенасць тым, што ў 1973 годзе, праз сто дзесяць гадоў пасля Студзеньскага паўстання і больш за пяцьдзясят гадоў савецкай улады ў Беларусі, такая літаратура «практычна адсутнічала» як у расійскай гістарычнай прозе, так і ў гістарычных даследаваннях[85]. Таму М. Улашчык выступіў з прапановай выдаць «Каласы…» і адобрыў Караткевічаву цікавасць да аднаго з нявывучаных перыядаў беларускай гісторыі.

З улікам ухвальнай рэкамендацыі М. Улашчыка, кніга выйшла ў 1974 годзе[86]. Як гэта звычайна здаралася, пераклад на рускую мову зрабіў магчымымі далейшыя перадрукі на беларускай мове. Аднак і гэта не дало магчымасцяў для шырэйшага распаўсюду рамана па ўсім Савецкім Саюзе і сацыялістычным блоку. У адрозненне ад першых твораў іншых выбітных беларускіх пісьменнікаў — Івана Мележа і Васіля Быкава, не кажучы ўжо пра такіх зручных для рэжыму пісьменнікаў, як Іван Шамякін ці Іван Чыгрынаў, «Каласы пад сярпом тваім» не перакладаліся і прыцягвалі мала ўвагі за межамі Беларусі.

Падобны лёс напаткаў яшчэ адзін буйны раман Караткевіча — «Хрыстос прызямліўся ў Гародні»[87]. Часопіс «Нёман» апублікаваў яго ўпершыню ў 1966 годзе ў перакладзе на рускую мову, зробленым Навумам Кіслікам. Кнігай па-беларуску ён з’явіўся толькі праз шэсць гадоў[88]. У вывуча́ны перыяд раман быў перакладзены яшчэ толькі на чэшскую мову. Па-чэшску ён быў выдадзены

[83] Верабей А. Уладзімір Караткевіч і Масква // Скарыніч. 2011. № 10. С. 52; Шчадрына В. Як у Маскве выйшлі «Каласы пад сярпом тваім» // Шкурко Т. Уладзімір Караткевіч і яго творчасць. С. 63–66.

[84] Улащик Н. Отзыв на рукопись романа В. Короткевича «Колосья под серпом твоим» // Шкурко Т. Уладзімір Караткевіч і яго творчасць. С. 197–201.

[85] Улащик Н. Отзыв на рукопись романа В. Короткевича «Колосья под серпом твоим». С. 197, 201.

[86] Короткевич В. Колосья под серпом твоим / пер. В. Щедриной. Москва: Советский писатель, 1974.

[87] Агляд рамана гл. таксама ў: Lewis S. Belarus — Alternative Visions. P. 120–127.

[88] Уладзімір Караткевіч «Хрыстос прызямліўся ў Гародні: Евангелле ад Іуды» (Мінск: «Мастацкая літаратура», 1972). Рус. Владимир Короткевич «Христос приземлился в Гродно» (Нёман. 1966. № 11–12).

ў 1979 годзе ў перакладзе Вацлава Жыдліцкага (1931–2002), доктара славянскай філалогіі Карлавага ўніверсітэта ў Празе і добрага сябра многіх беларускіх літаратараў[89].

Трэба адзначыць, што выданні ў сацыялістычным блоку, як правіла, спансаваліся дзяржавай. Адсутнасць ці рэдкасць такіх выданняў ускосна паказвае на тое, што Аддзел ідэалогіі і прапаганды КПБ ставіўся да У. Караткевіча і яго кніг з падазрэннем. Больш бяспечнымі, як падаецца, лічыліся толькі абодва яго дэтэктыўныя раманы, шырока вядомыя і распаўсюджваныя. Поспех кніг падтрымлівалі экранізацыі «Дзікага палявання караля Стаха» (1979, «Беларусьфільм», рэжысёр Васіль Рубінчык) і «Чорнага замка Альшанскага» (1984, рэжысёр Міхаіл Пташук). Хаця У. Караткевіч быў аўтарам сцэнара ў абодвух фільмах, ён быў не зусім задаволены вынікам[90].

Яшчэ раней, у 1965 годзе, У. Караткевіч напісаў сцэнар для фільма «Хрыстос прызямліўся ў Гародні». Студыя «Беларусьфільм» распачала і ажыццявіла экранізацыю фільма пад назвай «Житие и вознесение Юрася Братчика» (1967). Рэжысёрам стаў Уладзімір Бычкоў (1929–2004). Ужо ў 1967 годзе У. Караткевіч заявіў, што яго ідэі супярэчылі ідэям рэжысёра і фільм ужо не быў «ягоным»[91]. Нягледзячы на значныя змены зыходнага сцэнара, фільм не быў выпушчаны ў шырокі пракат. 30 красавіка 1971 года «ХТС» паведаміла, што фільм (згаданы пад памылковай назвай «Другое прышэсце Хрыста») быў забаронены разам з работамі Андрэя Таркоўскага і Андрона Канчалоўскага — рэдкі выпадак, калі падзеі ў БССР трапілі ў расійскае дэмакратычнае выданне[92].

У рамане «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» аўтар зноўку звяртаецца да дарэвалюцыйнай гісторыі беларускіх земляў — гэтым разам да так званага «залатога веку» — XVI стагоддзя. У ім паказваецца, як былы студэнт і дробны ашуканец Юрась Братчык прымярае вобраз сялянскага Хрыста, прыбыўшы ў старажытную Гародню. Братчыку, раней занятаму ўласным жыццём, даводзіцца сутыкацца з пакутамі іншых, у выніку чаго ён перажывае асабістае пераўтварэнне, паступова «перараджаючыся» ў Хрыста перад народам, які доўга чакаў цуду. Вядома, гэтае перараджэнне было не пераўтварэннем цела і духу, але разумовым і маральным развіццём.

У гэтым рамане У. Караткевіч засяроджваецца на беларускім сялянстве, але яшчэ болей на свабодных грамадзянах — рамесніках і шкалярах, адводзячы ім актыўную ролю, якая адмаўлялася афіцыйнай гістарыяграфіяй[93]. Юрась

[89] Uladzimir Karatkěvič. «Evangelium podle Jidáše aneb Druhý příchod Páně», пераклаў Václav Židlický (Praha: Svoboda, 1979).

[90] Ліст Уладзіміра Караткевіча Георгію Вылчаву, 30 снежня 1979 года // Нацыянальная бібліятэка Фінляндыі. Sl. Ms. 93–1, II-91.

[91] Мальдзіс А. Каласы з цаліны // ЛіМ. 1961. 21 ліп.

[92] Запрещённые кинофильмы // ХТС. 1971. № 19, 30 крас.

[93] Пра паняцце актыўнасці (agency) і яго выкарыстанне ў беларускіх даследаваннях

Братчык, гарадзенскі Хрыстос, па сутнасці, з'яўляецца толькі каталізатарам, які вызваляе волю людзей да свабоды, роўнасці і лепшага жыцця. Яму процістаяць улады і духавенства ўсіх канфесій. Здавалася б, знешне тыповая сацыялістычная карціна прадстаўленага аўтарам класавага процістаяння радыкальна парушаецца па меры таго, як разгортваюцца падзеі гэтай неканвенцыйнай кнігі.

Першая і самая відавочная праява іншадумства — крытыка ўладаў, а таксама спосабаў ажыццяўлення ўлады. Усё тое, з чаго кпіць у сваім рамане У. Караткевіч, занадта часта нагадвае бюракратычную арганізацыю савецкага грамадства, але, мабыць, стасуецца хутчэй нядаўняга для У. Караткевіча сталінскага мінулага, чым яго сучаснасці. Аўтарскае выяўленне рэпрэсій, караў, татальнага кантролю і ўціску нязгодных у XVI стагоддзі выглядае актуальным.

Другая лінія — уважнае вывучэнне Караткевічам Бібліі і рэлігійнай літаратуры. Як успамінаў блізкі сябар пісьменніка Рыгор Барадулін, яшчэ ў 1950-я гады Караткевіч часта насіў з сабою Біблію і адкрыта чытаў яе:

> Па тых часах гэта было амаль выклікам не толькі кіруючай і накіроўваючай [камуністычнай партыі], але і ўсяму грамадству[94].

Шматлікія аповеды і ўспаміны Караткевічавых сяброў сведчаць, што пісьменнік крытычна ставіўся да грамадства, да якога належаў, і не баяўся выказваць сваю нязгоду. Разам з тым ён хутчэй прымаў сацыялістычную сістэму і імкнуўся да яе перабудовы, чым змагаўся за яе знішчэнне. Ён лічыў, што эвалюцыя, заснаваная на творчых намаганнях асобы, была больш дарэчнаю, чым адкрыты пратэст і рэвалюцыя[95].

Яшчэ адно выданне, якое варта адзначыць у кантэксце іншадумства і альтэрнатыўнай гістарыяграфіі Беларусі, — папулярна-навуковы нарыс пра мінулае і сучаснасць Беларусі пад назвай «Зямля пад белымі крыламі». У. Караткевіч задумаў яе як уступную кнігу для ўкраінскай моладзі, якая, на яго меркаванне, мала ведала пра Беларусь. Зборнік быў упершыню выдадзены ў 1972 годзе па-ўкраінску, а па-беларуску з'явіўся толькі праз пяць гадоў[96]. У кнізе раскры-

гл.: Ackermann F., Berman M., Sasunkevich O. In Search for Agency: Eximining Belarusian Society from Below // Journal for Soviet and Post-Soviet Politics and Society. 2017. Т. 3, № 1. P. 1. Іншыя прыклады апісання жывога, дзейнага беларускага народа ў творах У. Караткевіча можна знайсці ўяго тэатральных п'есах «Маці ўрагану» і «Званы Віцебска» // Караткевіч У. Старыя беларускія хронікі.

[94] Барадулін Р. «І коскі з месца не зрушу!..» // Шкурко Т. Уладзімір Караткевіч і яго творчасць. С. 8.

[95] Мальдзіс А. Жыццё і ўзнясенне… С. 91.

[96] Караткевіч У. Зямля пад белымі крыламі: нарыс. Мінск: Мастацкая літаратура, 1977. Укр. «Земля під білими крилами» («Моя Білорусь») (Київ: Веселка, 1972).

лася Караткевічава захапленне беларускай мінуўшчынай. Больш таго, яе выхад даваў ясна зразумець, што, як і маладыя ўкраінцы, маладыя людзі ў Беларусі амаль нічога не ведаюць пра беларускую гісторыю. У наступныя дзесяцігоддзі «Зямля пад белымі крыламі» стала альтэрнатыўным падручнікам гісторыі.

У 1970-я гады інтэлігенцыя пачала пільна цікавіцца фальклорам і культурнай спадчынай. Верагодна, гэта было апошняе дзесяцігоддзе савецкага кіравання, калі фальклорная традыцыя заставалася жывою, а насельніцтва беларускай вёскі было яе прыродным носьбітам[97]. За гэты час навукоўцы Інстытута гісторыі ды Інстытута гісторыі мастацтва, этнаграфіі і фальклору АН БССР правялі шэраг экспедыцый па Беларусі, вынікам якіх сталі Музей старажытнай беларускай культуры (адкрыты ў 1979 годзе) і сямітомнік «Помнікі гісторыі і культуры Беларусі» (1984–1987)[98]. У. Караткевіч прымаў актыўны ўдзел у такіх экспедыцыях па ўсёй краіне разам з жонкай Валянцінай, навуковай супрацоўніцай Інстытута гісторыі і адной з аўтарак «Помнікаў».

### 3.4. БЕСПРЫТУЛЬНАЯ ІНТЭЛІГЕНЦЫЯ: ЛАРЫСА ГЕНІЮШ

Ахвяра сталінскіх рэпрэсій, паэтка і грамадская дзяячка Ларыса Геніюш (у дзявоцтве Міклашэвіч) нарадзілася ў збяднелай дробнай шляхецкай сям'і ў Жлобаўцах на Ваўкавышчыне. Гэтыя землі пасля Рыжскага міру ўвайшлі ў склад Другой Польскай рэспублікі. У 1928 годзе яна скончыла польскую гімназію ў Ваўкавыску.

З ранняга юнацтва Л. Геніюш, як яна сама пазней успамінала, усвядоміла сваю беларускасць, чаму паспрыяла як прыналежнасць да праваслаўнай веры (што адразу адрознівала яе ад палякаў), так і бяспраўнае становішча беларусаў у міжваеннай Польшчы. Назіраючы несправядлівасць і прыгнёт, Л. Геніюш паставіла за мэту заставацца на баку бездапаможных і падтрымліваць беларускі народ і яго культуру[99].

У 1937 годзе яна выехала да мужа, лекара Янкі Геніюша, з Заходняй Беларусі ў Прагу, дзе ўключылася ў дзейнасць урада БНР у эміграцыі. Пасля гвалтоўнага вяртання з Чэхаславакіі ў 1948 годзе Геніюшы былі асуджаныя на дваццаць

У даследаванні цытуецца другое выданне: Караткевіч У. Зямля пад белымі крыламі: нарыс. Мінск: Народная асвета, 1992.

[97] Бажок У. Аўтабіяграфічны нарыс Арсеня Ліса. Таварыства беларускай мовы. URL: http://tbm-ova.by/news_1365.html (дата звароту: 02.11.2018). Гл., напрыклад, зборы, запісаныя Арсенем Лісам: Ліс А. Беларускія народныя песні. Мінск: Беларусь, 1970; Купальскія песні. Мінск: Навука і тэхніка, 1974; Восеньскія і талочныя песні. Мінск: Навука і тэхніка, 1981; Валачобныя песні. Мінск: Навука і тэхніка, 1989.

[98] Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі: у 7 т. Мінск: Беларуская Савецкая Энцыклапедыя, 1984–1987.

[99] Геніюш Л. Споведзь. С. 9, 12, 19.

пяць гадоў кожны па абвінавачанні ў антысавецкай дзейнасці. Ларыса Геніюш правяла сем гадоў у папраўчых лагерах і была часткова рэабілітаваная ў 1956 годзе, у разгар працэсу дэсталінізацыі.

Вярнуўшыся ў Беларусь, Ларыса і Янка Геніюшы пасяліліся ў мястэчку Зэльва на Гродзеншчыне. З таго часу іх дом стаў месцам збору многіх, хто крытычна ставіўся да савецкага ладу. Сярод гасцей былі Максім Танк, Васіль Быкаў, Уладзімір Караткевіч, Данута Бічэль, Аляксей Карпюк, Аляксей Марачкін (нар. у 1940), Яўген Кулік, Алясей Пяткевіч, Мікола Прашковіч (1932–1983), Міхась Чарняўскі, Зянон Пазьняк[100]. Улады ажыццяўлялі пільны нагляд, адсочваючы наведванні гасцей і лісты.

Л. Геніюш актыўна падтрымлівала беларускую культуру і мову і, хаця і высокім асабістым коштам, пратэставала супраць савецкай улады. Хоць яна і рэдка пакідала ваколіцы Зэльвы, Л. Геніюш перапісвалася з іншымі пісьменнікамі і суайчыннікамі па ўсёй Беларусі і за яе межамі[101]. Яны з мужам намагаліся забяспечваць беларускімі выданнямі эмігрантаў у Польшчы, ЗША і Аўстраліі, для чаго зазвычай загадзя куплялі некалькі асобнікаў кнігі або часопіса[102]. У лістах яны каментавалі тэксты і дзяліліся сваімі назіраннямі[103].

Праз такі абмен была створаная своеасаблівая суполка, ці сетка, у якой захоўвалі і дзяліліся альтэрнатыўнай версіяй савецкай гісторыі — не толькі ўспамінамі ды ідэямі, але і матэрыяльнымі прадметамі: фотаздымкамі, альбомамі, аўтографамі і нават традыцыйнымі тканымі дыванамі ручное работы[104].

[100] Часткова пералік імёнаў узяты з пасляслоўя да польскага выдання аўтабіяграфіі, гл.: Geniusz Ł. Ptaki bez Gniazd / przekład Cz. Seniucha. Białystok: Białoruskie Towarzystwo Historyczne, 2012.

[101] Перапіску апублікаваў Міхась Скобла ў: Геніюш Л. Лісты з Зэльвы. Гародня; Уроцлаў, 2012.

[102] Геніюш Л. Лісты з Зэльвы. С. 74 і далей.

[103] У сувязі з гэтым асаблівую цікавасць выклікае ліставанне Ларысы Геніюш з віленскай дзяячкай Зоськай Верас. Гл.: Верас З. «Я помню ўсё»: успаміны, лісты / рэд. М. Скобла. Гародня; Уроцлаў: Гарадзенская бібліятэка, 2013.

[104] Геніюш Л. Лісты з Зэльвы. С. 72 і далей. У Беларусі вытворчасць дываноў мела даўнія традыцыі і вызначалася шырокай разнастайнасцю формаў і малюнкаў, створаных уяўленнем беларускіх сялянак. Геніюш высока цаніла гэты від народнай творчасці і, ведаючы, што рамёствы знікаюць, спрабавала захаваць і раздаць у патрэбныя рукі некаторыя творы мастацтва, якія былі ў яе распараджэнні. Падрабязней пра ручныя дываны гл. таксама; Караткевіч У. Зямля пад белымі крыламі. С. 27. Іншым відам дываноў ручное работы былі маляваныя габелены такіх народных майстроў, як Язэп Драздовіч (1988–1954) і Алена Кіш (1889 ці 1896 — 1949). Пра Драздовіча гл.: Праз церні да зорак / рэд. М. Казловіч. Мінск: Мастацкая літаратура, 2014; Ліс А. Вечны вандроўнік. Мінск: Юнацтва, 1984. Пра А. Кіш гл.: Басалыга У. Не пагарджаць святым сваім мінулым // Мастацтва. 1992. № 12. С. 50–52; Коврик О. Женский лик белорусской маляванки // Женщины на краю Европы / ред. Е. Гапова. Минск: ЕГУ, 2003. С. 364–378.

Саюз пісьменнікаў БССР падтрымаў выданне пары дзіцячых кніг і двух невялікіх зборнікаў Л. Геніюш — «Невадам з Нёмана» (1967) і «На чабары настоена» (1982).

Першы зборнік выйшаў яшчэ падчас хрушчоўскай адлігі і атрымаў неадназначную ацэнку сярод інтэлігенцыі, што адлюстроўвае дваісты характар адлігі ў БССР. Яго бэсцілі некаторыя сябры Саюза пісьменнікаў і супрацоўнікі філалагічнага факультэта БДУ, у прыватнасці яго дэкан Аляксей Воўк (на пасадзе ў 1967–1990). Па некаторых дадзеных, асобнік аднаго са зборнікаў быў прылюдна спалены таленавітай паэткай і прававерной камуністкай Еўдакіяй Лось[105].

Усё гэта, аднак, не ўстрымала Л. Геніюш ад крытыкі савецкай улады і не пахіснула яе нязгоды. Гісторык Міхась Чарняўскі згадваў, як летам 1982 года Ларыса Геніюш таемна перадавала яму свае ўспаміны[106]. Гэта быў машынапісны, амаль неапрацаваны тэкст, які як кніга афіцыйна выйшаў толькі ў 1993 годзе пад назвай «Споведзь»[*]. Да таго ён распаўсюджваўся і чытаўся ў самвыдаце, як і некаторыя з яе вершаў[107].

У Л. Геніюш ужо быў пэўны досвед самвыдату. У 1947 годзе, чакаючы арышту ў Празе, Ларыса Геніюш змагла перадаць сяброўцы рукапісны зборнік сваіх вершаў, напісаных у 1945–1947 гадах. Арыгінал пазней усплыў у Беларускай бібліятэцы імя Францыска Скарыны ў Лондане і быў упершыню выдадзены ў 1992 годзе пад характэрнай назвай «Рукапісны зборнік»[108].

«Споведзь» уключае ўспаміны Л. Геніюш пра яе юнацкае жыццё ў міжваеннай Польшчы і дзесяць гадоў жыцця ў Празе да, падчас і адразу пасля Другой сусветнай вайны. Большая частка тэксту датычыць зняволення ў папраўчых лагерах Комі АССР — Інталаг і Абезь[109]. «Споведзь» — унікальны для савецкай Беларусі тэкст, напісаны без самацэнзуры і аглядкі на якія б ні было ўстановы кантролю і нагляду.

У сваёй прамове да кніжнага выдання М. Чарняўскі адзначаў, што амаль

---

[105] Геніюш Л. Споведзь. С. 50. Валянцін Тáрас дакладна апісвае Еўдакію Лось як асобу і паэтку ў сваёй аўтабіяграфіі: Тáрас В. На выспе ўспамінаў. С. 142–149.

[106] Чарняўскі М. Благаславенны родны дом // Геніюш Л. Споведзь. С. 3.

[*] У 1990 годзе «Споведзь» была надрукаваная ў часопісе «Маладосць» (№ 1-6), наклад часопіса на той момант складаў каля 10 000 асобнікаў.

[107] Гл., напрыклад: «Ганьбім мы лад прыгонны» // БДАМЛМ. Ф. 444. Воп. 1. Спр. 264.

[108] Геніюш Л. Вершы: Рукапісны зборнік з 1945–47. Лондан: Беларуская бібліятэка імя Францыска Скарыны, 1992.

[109] Геніюш Л. Споведзь. С. 192–261. Інта, або Інталаг, — папраўчы лагер у Інцінскім раёне Комі Аўтаномнай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. Абезь — папраўчы лагер у тым жа раёне Комі АССР. Прыкладна ў той жа час, у 1951–1952 гадах, у Абезі знаходзіўся вядомы рускі філосаф Леў Карсавін (1882–1952), які памёр у лагеры ў 1952 годзе. Гл.: Ванеев А. Два года в Абези. Брюссель: Жизнь с Богом, 1990.

## ВУЧЫМСЯ ЧЫТАЦЬ НА ЛАЦІНЦЫ

A, a — а
B, b — б
C, c — ц
Ć, ć — ць
Č, č — ч
Ch, ch — х
D, d — д
Dz, dz — дз
Dž, dž — дж
E, e — э
F, f — ф
G, g — г (у словах: густ, ганак, мазгі, газета)
H, h — г (у словах: гэта, чаго, гэктар, гарох)
I, i — і
J, j — й
K, k — к
L, l — ль dola, lepiej, Kupalle, los, lusterka, kultura, kolki
Ł, ł — л ład, łoś, łuk, bydła, kołki, łyka

Ja, ja — я Jabłyk, abjava, siniaja
Je, je — е Jełka, padjezd, nadvorje
Jo, jo — ё Jośé, abjom, dajonka.
Ju, ju — ю Juška, bju, sieju
ji — йі Vierabji

ia — я Biaroza
ie — е Dzień
io — ё Siońnia
iu — ю Parsiuk

M, m — м
N, n — н
ń — нь
O, o — о
P, p — п
R, r — р
S, s — с
Ś, ś — сь
Š, š — ш
T, t — т
U, u — у
Ŭ, ŭ — ў
V(W), v(w) — в
y — ы
Z, z — з
Ź, ź — зь
Ž, ž — ж

## Łarysa Hienijuš

***

Nad narodam čuzyja "bosy"
U biazdolnaj našaj staranie.
A narod, jak ryba biezhałosy,
Moŭčki karak pierad imi hnie.

A narodu śnicca swajo pole,
Što i jon udoma haspadar,
A narodu časam śnicca wola,
jak niabiosaŭ najświaciejšy
dar.



5

*Ілюстрацыя 10. Партрэт Ларысы Геніюш. «Студэнцкая думка» (1989. № 5. С. 5). FSO Gs. 161.*

усе іншыя аўтары ўспамінаў, лістоў і аўтабіяграфій, напісаных у перыяд позняга сацыялізму, былі дастаткова асцярожнымі, каб не казаць і не пісаць усёй праўды[110]. Успаміны Л. Геніюш сталі выключэннем, бо яна адкрыта пісала пра сваё непрыняцце савецкай улады і вызначала апошнюю як злачынную[111]. Л. Геніюш пайшла нават далей, параўноўваючы савецкія злачынствы са злачынствамі гітлераўскага нацысцкага рэжыму. У пачатку 1980-х гадоў такое параўнанне магло лёгка ператварыцца для яе ў яшчэ адзін турэмны тэрмін:

> …а мне замірала сэрца ад жудасных пачуццяў усходніх асвенцымаў, гдзе места печаў спальвалі людзей палярныя маразы, здзекі надзораў, адпаведных сваяму палітычнаму рэжыму, непасільная праца, амаль забарона лістоў (пісаць два разы ў год) і чвэрць стагоддзя пакарання за патрыятызм, што чалавеку нагадвала смерць за жыцця...[112]

Такое ж параўнанне з’явілася і ў яе самвыдацкім вершы:

> Ганьбім мы лад прыгонны,
> нямецкі ён або рускі,
> белы ён ці чырвоны —
> аднолькава лад ня людзкі[113].

«Споведзь» можна і, хутчэй за ўсё, варта параўнаць з іншым шырока вядомым сведчаннем аб сталінскіх рэпрэсіях — кнігай «Крутой маршрут» гісторыка і журналісткі Яўгеніі Гінзбург (1904–1977). Успаміны Я. Гінзбург, мабыць, самыя вітаныя крытыкай сярод жаночай прозы такога кшталту. Гэта гісторыя гарачай камуністкі, якая жыла камфортным жыццём універсітэцкай выкладчыцы, жонкі старшыні Казанскага гарсавета, сябра бюро Татарскага абкама Камуністычнай партыі Паўла Аксёнава (1899–1991). Я. Гінзбург была арыштаваная ў 1937 годзе і пасля двух гадоў пазбаўлення волі ў турме ў Яраслаўлі была накіраваная ў папраўчыя лагеры на Калыме. У 1947 годзе, па сканчэнні тэрміну, яна змагла пакінуць лагер, але, будучы пазбаўленай правоў, была вымушаная жыць у Магадане да 1954 года.

Да арышту яна была глыбока перакананая ў справядлівасці савецкага ладу, але нават пасля доўгіх гадоў пазбаўлення волі заставалася прыхільніцай ідэі камунізму і ўзнавіла сваё членства ў КПСС:

[М]ы были порождением своего времени, эпохи величайших иллюзий.

[110] Чарняўскі М. Благаславенны родны дом. С. 3.
[111] Геніюш Л. Споведзь. С. 172–177.
[112] Там жа. С. 149.
[113] «Ганьбім мы лад прыгонны» // БДАМЛМ. Ф. 444. Воп. 1. Спр. 264.

> Мы приходили к коммунизму не низом шахт, серпов и вил. Нет, мы с небес поэзии бросались в коммунизм, —

пісала яна[114].

Вельмі верагодна, што Л. Генію ш чытала ці хаця б чула пра ўспаміны Я. Гінзбург, якія з’явіліся ў тамвыдаце ў 1967 годзе (першая частка) і былі добра вядомыя сярод інтэлігенцыі ў 1970-я гады. Акрамя таго, натхніць паэтку на напісанне ўспамінаў мог і нехта з яе сяброў, магчыма, што гэта быў Мікола Канаш (1926–2006)[115].

У гэтых творах шмат агульнага, і ў той жа час яны вельмі розныя. Абедзве аўтаркі маюць свой унікальны голас і гісторыю жыцця, кахання і пакут. Яны злучаныя залатою ніццю: нягледзячы на нечалавечыя ўмовы, чалавек мае заставацца чалавекам. І Яўгеніі Гінзбург, і Ларысе Генію ш удалося прадставіць трагічнае, але на дзіва паэтычнае бачанне асабістых і грамадскіх выпрабаванняў у гады вайны і рэпрэсій.

У адрозненне ад Я. Гінзбург Л. Генію ш звязвала роўнасць і правы людзей з хрысціянскай мараллю, а не з камуністычнай ідэалогіяй. Для яе нацыянальная ідэнтычнасць стала вырашальным пунктам супраціву савецкаму ладу, які яна ніколі не прымала і ад якога не чакала ніякіх узнагарод.

Метафара «Птушкі без гнёздаў» з’яўляецца на старонках «Споведзі» ў сімвалічным проціпастаўленні раману Янкі Брыля «Птушкі і гнёзды», упершыню выдадзеным у 1963 годзе. Філолаг і літаратурны крытык Уладзімір Калеснік (1922–1994) сцвярджаў, што Я. Брыль, у сваю чаргу, натхняўся часта цытаванай прадмовай да «Кнігі Юдзіф», напісанай беларускім першадрукаром Францыскам Скарынам у 1519 годзе[116]. Ф. Скарына выкарыстаў вобраз птушак і гнёздаў, каб падкрэсліць тугу людзей па месцах, дзе яны нарадзіліся і раслі.

---

[114] Гинзбург Е. Крутой маршрут. С. 481.

[115] Мікола Канаш — былы вязень ГУЛАГа і добры знаёмы Л. Генію ш, які ў 1970-х не раз наведваў яе ў Зэльве. Пра сваю ролю як ініцыятара «Аўтабіяграфіі» паэткі Канаш сцвярджаў у сваім лісце да Сяргея Чыгрына ад 11 сакавіка 1996 года. Гл.: Чыгрын С. Лісты Міколы Канаша — вязьня сталінскіх лагероў // Czasopis. 2012. № 10. S. 38.

[116] Упершыню выдадзеная 8 лютага 1519 года ў Празе. Самая нядаўняя сучасная публікацыя прадмоў Ф. Скарыны адбылася ў зборніку старажытнай літаратуры XII–XVII стагоддзяў. Гл.: Францыск Скарына. Прадмова да кнігі «Юдзіф-удавіцы» // Старажытная беларуская літаратура (XII–XVIII стст.). Мінск: Кнігазбор, 2007. С. 145–146. З перакладаў Скарынавай прадмовы да Кнігі Юдзіф на шэсцьдзясят чатыры мовы складаецца нядаўняя кніга, выдадзеная дзяржаўным выдавецтвам «Звязда» (Францыск Скарына на мовах народаў свету / рэд. А. Карлюкевіч. Мінск: Звязда, 2015). Аб ролі Скарынавага іншасказу для беларускай эміграцыі ў XX стагоддзі гл.: Юрэвіч Л. Эмігрант Францыск Скарына, ці Апалогія.

Сам Ф. Скарына, нарадзіўшыся ў Полацку, змяніў шмат месцаў жыхарства падчас свайго жыцця. Ён быў, па сутнасці, намадычным мысляром. Як адзначыў У. Калеснік:

> Скарына зведаў гэтыя пачуцці пералётных птушак, калі ездзіў па навуку ў Польшчу, Чэхію, Італію, калі друкаваў у чэшскай Празе сваю «Библию руску», а потым вёз яе на радзіму[117].

«Птушкі без гнёздаў» — гэтай метафарай Л. Геніюш наблізілася да ўласнай гісторыі жыцця і гісторыі беларускай інтэлігенцыі: гнанай практычна ўсімі ўладамі і не маючай належнага разумення сярод людзей. Метафара можа адлюстроўваць і часавае ды прасторавае разыходжанне інтэлігенцыі з «народам», што было асабліва заўважна ў Беларусі — краіны з нязначнай колькасцю мясцовай інтэлігенцыі і моцнай, амаль заўсёды іншаземнай уладай.

Падобна да Л. Геніюш, Канстанцыя Буйло (сапраўднае імя — Канстанцыя Калечыц, 1883–1986) была адною з самых вядомых нацыянальных паэтак. К. Буйло была маргіналізаваная як жонка «ворага народа», і яе паэзія была надоўга занядбаная. Яна з'ехала з Беларусі ў Маскву і больш не вярталася. Пасля яе першага паэтычнага зборніка, рэдагаванага Я. Купалам і ілюстраванага Язэпам Драздовічам у 1914 годзе ў Вільні[118], яна маўчала некалькі дзесяцігоддзяў. У 1944 годзе яна была прынятая ў Саюз пісьменнікаў СССР[119]. І толькі ў 1950 годзе выйшаў яе другі зборнік вершаў, які быў адразу ж раскрытыкаваны ў «Звяздзе»[120].

Таму даволі дзіўна, што пачынаючы з 1960-х гадоў было выдадзена некалькі яе кніг[121], а ў 1968 годзе ёй было прысуджанае званне «Заслужаны дзеяч культуры БССР». Такую ўвагу нельга растлумачыць проста лібералізацыяй і частковай рэабілітацыяй рэпрэсаваных інтэлектуалаў. Магчыма, яна была вынікам асцярожнага адкрыцця да Захаду, распачатага М. Хрушчовым. Л. Рублеўская лічыць гэту публікацыю адказам на допісы ў эмігранцкіх часопісах, дзе Саветы асуджаліся за няўвагу да такой таленавітай беларускай паэткі[122].

[117] Калеснік У. Янка Брыль. Нарыс жыцця і творчасці. Мінск: Народная асвета, 1990. С. 167–168.

[118] Буйло К. Курганная кветка. Вільня: друкарня Марціна Кухты, 1914. Факсімільнае перавыданне ў «Мастацкай літаратуры», 1989.

[119] Буйло, Канстанцыя // Беларускія пісьменнікі 1917–1990 / укл. А. Гардзіцкі. Мінск: Мастацкая літаратура, 1994.

[120] Буйло К. Світанне. 1909–1949. Мінск: Дзяржаўнае выдавецтва БССР, 1950. Крытыка выйшла ў «Звяздзе» ў кастрычніку 1951 года.

[121] «На адноўленай зямлі» (1961), «Май» (1965), «Роднаму краю» (1973).

[122] Адказ эмігранцкай інтэлігенцыі на крытыку «Звязды» з'явіўся ў «Бацькаўшчы-

З іншага боку, гэта магло адбыцца з-за саступак, на якія паэтка пайшла пасля дзесяцігоддзяў ізаляцыі. У 1953 годзе К. Буйло напісала тэатральную п’есу «Калгас “Зара”», поўную ўсхваленняў Сталіна (хаця, як аказалася, было ўжо занадта позна для публікацыі)[123]. У 1968 годзе, пасля таго як Максім Танк ды Іван Шамякін павіншавалі яе з семдзесят пятым днём нараджэння, К. Буйло належным чынам адказала падзячнай запіскай «Партыі і ўраду і беларускаму народу»[124]. У адрозненне ад сваёй малодшай каляжанкі Ларысы Генію́ш, К. Буйло не змагла процістаяць пільнай увазе партыі.

Л. Геніюш, якая нарадзілася на ўскрайку Расійскай імперыі, атрымлівала выхаванне і асвету ў Другой Польскай рэспубліцы і мела чэхаславацкае грамадзянства, была заўзятай патрыёткай Беларусі, чалавекам памежжа, які не ўпісваўся ў савецкую канцэпцыю інтэлігенцыі. Гэтая маргінальнасць дазволіла ёй пазбегнуць тонкага лёду паміж праўдай і згодніцтвам, у адрозненне ад многіх інтэлігентаў на дзяржпасадах. Падобным чынам, «Споведзь» і паэзія Л. Геніюш не супадалі з лініяй беларускага адраджэння пачатку стагоддзя, не ўтрымліваючы скарг на нягоды нацыі і культуры. Наадварот, крыніцай яе натхнення былі разнастайнасць сялянскага паўсядзённага жыцця і багатая сялянская культура, як духовая, так і матэрыяльная. Адметнае стаўленне Л. Геніюш да традыцыйнай сялянскай культуры прадвяшчала і натхняла моладзевыя фальклорныя рухі 1980-х гадоў.

## 3.5. НЕФАРМАЛЬНЫЯ МОЛАДЗЕВЫЯ АБ’ЯДНАННІ

***...Лёс мовы?..***
***Будзе не так, як «гісторыя захоча»...***
***Будзе так — як мы зробім!..***

21 год, беларус, студэнт БДУ [З інтэрв’ю, сабраных А. Бембелем (каля 1979 г.)][125]

### 3.5.1. «Майстроўня»

Першае неафіцыйнае студэнцкае аб’яднанне, «Майстроўня», узнікла ў Мінску ў 1980 годзе. Яно аказала працяглы ўплыў на ўмацаванне моладзі ў

не» 31 кастрычніка 1951 года.

[123] Песня длиною в жизнь // Советская Белоруссия. 2013. 15 студз. URL: http://www.sb.by/kultura/article/pesnya-dlinoyu-v-zhizn.html (дата звароту: 23.03.2015).

[124] Ліст К. Буйло да М. Танка, І. Шамякіна, пасля 14 студзеня 1968 года, апублікаваны ў: Літаратура і жыццё ў перапісцы Івана Шамякіна / рэд. А. Шамякіна // Звязда. 2015. 26 ліп.

[125] Бембель А. Родная мова і маральна-эстэтычны прагрэс. London: The Association of the Byelorussians of Great Britain, 1985. С. 218.

беларускай культуры і традыцыях. Як заўважыў актыўны ўдзельнік і пазнейшы летапісец «Майстроўні» Сяргей Дубавец, суполка ўзнікла ў цёмныя часы брэжнеўскага застою, калі любая праява творчай энергіі была амаль немагчымай[126]. Маладыя сябры «Майстроўні» адраджалі фальклор, працавалі над захаваннем помнікаў гісторыі і прапагандавалі беларускую мову сярод гараджан. Прыблізна ў гэты ж час, у 1981 годзе студэнты Мінскай мастацкай вучэльні імя Аляксея Глебава Лявон Вольскі (Леанід Зэйдэль-Вольскі) (нар. у 1965) і Уладзімір Давыдоўскі (нар. у 1964) заснавалі музычны калектыў, які стане легендай беларускай рок-музыкі і сімвалам пратэставага руху[127]. Гурт, які к 1982 году атрымаў назву «Мроя», падтрымліваў «Майстроўню» ды іншыя моладзевыя аб'яднанні, такія, як «Спадчына», «Талака», «Паходня» ды іншыя, якія з'яўляліся ў 1980-х.

Дзяржаўныя органы да пэўнай ступені зносілі дзейнасць гэтага моладзевага кола. Знешне яно, здавалася б, увасабляла сабою значны савецкі прынцып: заахвочваць нацыянальную разнастайнасць як вонкавы пласт для падтрымкі шматнацыянальнай савецкай супольнасці, якая на справе вяла да аднастайнасці і сцірання асаблівасцяў[128]. Але ў адрозненне ад чыста пастановачных фальклорных традыцый, якія ўхваляліся савецкай дзяржавай, намеры гэтага моладзевага аб'яднання выходзілі за рамкі савецкага ладу жыцця: праз фальклор яго ўдзельнікі імкнуліся вярнуцца да каранёў і раскрыць аўтэнтычную традыцыю, якая, як яны лічылі, захавалася толькі ў сельскай мясцовасці. Разам з аднаўленнем фальклорнай дзейнасці, асабліва спеўнай, яны прапагандавалі ідэю нацыянальнага адраджэння.

У гэтым асяродку выспявалі памкненні да незалежнасці, якіх не маглі сабе ўявіць ні партыйныя эліты, ні савецкая беларуская інтэлігенцыя[129]. Звяртаючыся да народнай традыцыі і карыстаючыся ўсё большай папулярнасцю сярод студэнтаў, «Майстроўня» стварыла культурны рух, які процістаяў палітыцы савецкіх нацыянальнасцяў.

---

[126] Дубавец С. «Майстроўня»: гісторыя аднаго цуду. Радыё «Свабода», 2012. С. 10.

[127] Сахараў С. Хроніка гурту «Мроя» // Архэ. 2001. № 1. Пра рок-музыку ў Беларусі гл.: Survila M. Of Mermaids and Rock Singers: Placing the Self and Constructing the Nation Through Belarusan Contemporary Music. New York: Routledge, 2002.

[128] Аб палітыцы савецкіх нацыянальнасцяў гл.: Suny, R. G. The contradictions of identity: being Soviet and national in the USSR and after // Soviet and Post-Soviet Identities / M. Bassin, C. Kelly, eds. Cambridge: Cambridge University Press, 2012. P. 17–36.

[129] Параўнайце са «спеўнай рэвалюцыяй», што адбывалася ў Прыбалтыцы ў канцы 1980-х і пачатку 1990-х. (Šmidchens G. The Power of Song. Nonviolent National Culture in the Baltic Singing Revolution. Seattle, WA and London: Washington University Press, 2014.)

### 3.5.2. «Тутэйшыя»[130]

Назва «Тутэйшыя» належыць нефармальнаму аб'яднанню маладых паэтаў, пісьменнікаў, мастакоў і навукоўцаў, якія ўпершыню сабраліся 20 снежня 1986 года, маючы намер адкрыць і прасоўваць новае вызначэнне беларускай культуры[131]. Яны называлі сябе «пакаленнем "Тутэйшых"» і лічылі сябе «першым беларускім "інтэлектуальным" пакаленнем»[132].

Вызначэнне сябе як «тутэйшыя» мае істотнае значэнне ў гісторыі беларускай думкі. Яно пралівае святло на вытокі перарывістых і нетрадыцыйных інтэлектуальных сувязяў, якія паўсталі напрыканцы 1980-х.

Азначэнне «тутэйшыя» першапачаткова адносілася да карэнных жыхароў, прывязаных да месца свайго нараджэння і пражывання. Калі насельніцтва паўночна-заходніх правінцый Расійскай імперыі пыталіся аб іх этнічным ці нацыянальным паходжанні, яны часта заяўлялі, што яны «тутэйшыя». Прывязаныя да месца, дзе яны нарадзіліся і жылі, яны мала зважалі на этнічныя ці моўныя межы. Доўгі час такое самавызначэнне выклікáла негатыўныя канатацыі, як адсутнасць ці слабасць нацыянальнай ідэнтычнасці.

У пачатку XX стагоддзя назва «тутэйшыя» адначасна стала важнай часткай паэтычнай і драматычнай спадчыны Я. Купалы. Яго аднайменная п'еса «Тутэйшыя», што была напісана ў 1922 годзе, стала адной з самых вядомых драматургічных працаў у беларускай літаратуры, у той час як шлях яе да чытача і гледача быў вельмі пакручастым[133].

Абвяшчаючы сябе «Тутэйшымі» ў канцы 1980-х, група маладых паэтаў і празаікаў аспрэчвала афіцыйную савецкую версію беларускасці: як узгадвае паэт Алесь Аркуш (нар. у 1960, сапраўднае імя — Аляксандр Козік), яны сцвярджалі:

> Беларусі яшчэ няма, таму беларусаў таксама не існуе, ёсць толькі мясцовыя жыхары, «тутэйшыя», і мы належым да іх[134].

---

[130] Ранейшая версія гэтага падраздзела з'явілася ў маім артыкуле, апублікаваным ва «Усходняй Еўропе» пад рэдакцыяй Ірыны Какандэс і Юліі Хомскай. Гл.: Astrouskaya T. Located on Archipelago. New York and Oxford: Berghahn, 2018. Я хацела б падзякаваць выдавецтву Berghahn за дазвол на перавыданне.

[131] Вечарына «Тутэйшых». URL: https://vytoki.net/?news=00026561 (дата звароту: 15.11.2020).

[132] Кісліцына Г. Новая літаратурная сітуацыя. Лекцыя 3 / Беларускі калегіум URL: http://bk.baj.by/lekcyji/litaratura kislicyna03.htm (дата звароту: 12.02.2014).

[133] Гл. таксама: Купала Я. Тутэйшыя // Купала Я. Спадчына. Мінск: Адраджэнне, 1922. С. 194–195.

[134] Аркуш А. Вяртанне ў «Тутэйшыя» // Аркуш А. Аскепкі вялікага малюнку. Мінск: Логвінаў, 2007. С. 52.

Дзейнасць «Тутэйшых» была хоць і нядоўгай, але інтэнсіўнай. У канцы 1980-х суполка ўвасабляла сабою новы пратэставы рух інтэлігенцыі супраць старой закаснелай савецкай сістэмы. «Тутэйшыя» паўплывалі на грамадска-палітычнае жыццё БССР, выклікаючы гарачыя спрэчкі ў СМІ і пабуджаючы да пратэсту[135]. Кіраўнікамі аб'яднання былі яго старшыня Алесь Бяляцкі (нар. у 1962), публіцыст і пісьменнік Сяргей Дубавец (нар. у 1959), паэт Анатоль Сыс (1959–2005)[136] і пісьменнік і мастак Адам Глобус (нар. у 1958, сапраўднае імя — Уладзімір Адамчык). Усяго ў суполку ўваходзіла шэсцьдзясят-семдзесят чалавек, пераважна пісьменнікі, паэты, літаратуразнаўцы і мастакі.

«Тутэйшыя» пачалі эксперыментаваць з рознымі літаратурнымі жанрамі: хайку, дэтэктывамі і коміксамі, тым самым пашыраючы абсяг беларускай літаратуры і прадстаўляючы яе ўвазе шырокай аўдыторыі[137]. Удзельнікі суполкі таксама перанеслі літаратурны фокус з вясковага на гарадское жыццё, паставіўшы пад сумнеў падкрэсленую ролю вёскі ў беларускай літаратуры. Адзіны зборнік твораў «Тутэйшых» з'явіўся ў 1989 годзе, хаця і быў складзены годам раней[138]. Яго выданне значна зацягнулася, як гэта часта здаралася са зборнікамі маладых аўтараў, і да моманту выхаду суполка спыніла сваё існаванне.

Апублікаваны зборнік уключае паэзію і прозу амаль сарака аўтараў, у тым ліку пераклады твораў кітайскага паэта Лі Бо (аўтарства Ігара Бабкова) і грэцкіх класікаў Анакрэонта і Гарацыя (аўтарства Алеся Жлуткі, нар. у 1954). Пераклады былі паказнікам жадання ўключыцца ў шырэйшы культурны кантэкст. Зборнік, які ўтрымлівае адсылкі да разнастайных жанраў, тэм і аўтараў усходняга і заходняга канонаў, можна ўспрымаць і як першую спробу інтэлектуальнага маніфеста.

І хоць зборнік твораў «Тутэйшых» быў выпушчаны афіцыйна ў выдавецтве «Мастацкая літаратура», сябры суполкі працягвалі актыўна займацца самвыдатам. Негледзячы на некаторыя цэнзурныя паслабленні, магчымасці данесці свае творы да чытача для маладых і смелых аўтараў па-ранейшаму былі абмежаваныя. Акрамя таго, дзяржаўныя выдавецтвы аддавалі яўную перавагу аўтарам, якія ўжо атрымалі прызнанне.

---

[135] Прыклады спрэчак ёсць у: Жук І. Запас сумленнасці: маладая беларуская проза, 1987 год // Маладосць. 1988. № 2; Казімірчык Г. Да маладых без паблажлівасці //ЛіМ. 1988. № 48. С. 5; Акудовіч В. Архіў на карысць будучыні // Беларусь. 1989. № 4; Купцоў С. Бацькі ці дзеці? // ЛіМ. 1990. № 23. С. 7.

[136] Анатоль Сыс (1959–2005) — адзін з самых прызнаных беларускіх паэтаў пакалення 1980-х гадоў, сярод паэтычных зборнікаў якога можна назваць «Агмень» (Мінск: Выдавецтва ЦК КПБ, 1988), «Пан лес» (1989) і «Сыс» (2000).

[137] Бязлепкіна В. Разам і паасобку: таварыства «Тутэйшыя». Мінск: Беларускі кнігазбор, 2003.

[138] «Тутэйшыя»: зборнік сяброў таварыства / уклад. С. Дубавец. Мінск: Мастацкая літаратура, 1989.

Сярод вядомых самвыдатаў ёсць два зборнікі пад рэдакцыяй С. Дубаўца, датычныя дзейнасці «Тутэйшых», — «Літаратура 1» і «Літаратура 2», нелегальна выдадзеныя ў Вільні ў 1989 і 1990 гадах. Акрамя таго, паміж 1988 і 1989 гадамі ў Мінску з’явіўся бюлетэнь суполкі пад назвай «Кантроль», два нумары якога ўбачылі свет[139].

Калі зборнікі былі прысвячаныя літаратурным намаганням маладых аўтараў, то бюлетэнь прадстаўляў грамадскую дзейнасць «Тутэйшых» і паведамляў пра палітычныя падзеі ў савецкай Беларусі (гл. таксама табліцу 2).

Вывучыўшы дзейнасць двух выбітных лідараў «Тутэйшых», Анатоля Сыса і Адама Глобуса, можна адпачатку прасачыць як мінімум дзве траекторыі беларускага нацыянальнага руху. А. Сыс, будучы яркай і харызматычнай культавай постаццю, убіраў і ператлумачваў запал нацыянальнага адраджэння, бачачы сваю місію ў абуджэнні народа. А. Макмілін характарызуе А. Сыса наступным чынам:

> Будучы па-сапраўднаму патрыятычным паэтам, вершы якога глыбока ўпісаныя ў культурнае і духовае мінулае яго краіны, ён найбольш ярка выказаў свае надзеі і, у прыватнасці, роспач адносна таго, што здавалася яму катастрафічным заняпадам любімай роднай культуры[140].

У сваёй паэзіі А. Сыс пратэставаў супраць савецкага урбанізму і бачыў будучыню беларускай культуры ў вяртанні да каранёў, да вясковага жыцця[141]. Сысовы заклікі вярнуцца да вясковай культуры як асновы жыцця беларусаў былі сугучныя фальклорнаму руху пачатку 1980-х. Больш таго, яны адлюстроўвалі памкненні беларускай інтэлігенцыі пачатку XX стагоддзя. Адзін з прадстаўнікоў апошняй, тагачасны крытык Максім Гарэцкі тлумачыў:

> Наш младабеларускі фундамент — гэта сьвядомая інтэлігенцыя, каторая вырасла зь беларускай народнай гушчы і адтуль жа бярэ сокі для свайго жыцьця[142].

У некаторым сэнсе апанентам А. Сыса выступае Адам Глобус, найбольш

[139] «Кантроль». Бюлетэнь Таварыства маладых літаратараў «Тутэйшыя». 1988. № 1; 1989. № 1(2). Назва бюлетэня дазваляе многа вытлумачэнняў. Яе маглі абраць, каб падкрэсліць татальны кантроль, якому падвяргаўся звычайны грамадзянін савецкай Беларусі. Разам з тым яна магла азначаць і тое, што старая сістэма і яе паслугачы (старая інтэлігенцыя) страцілі кантроль і ўплыў, а замест іх з’явіліся новы лад і новая інтэлігенцыя.

[140] McMillin A. Writing in a Cold Climate. London: Maney Publishing, 2010. P. 541.

[141] Сыс А. Агмень. Мінск: Выд-ва ЦК КПБ, 1988. С. 15.

[142] Гарэцкі М. Развагі і думкі // Гарэцкі М. Творы. Мінск: Мастацкая літаратура, 1990. С. 189.

вядомы сваёй наватарскай прозай, дзе перспектыва перамяшчаецца з вёскі, якой аддавалі перавагу папярэднія традыцыі рамантычнага нацыяналізму і беларускай савецкай літаратуры, у вялікі горад.

Як гэта рабілі многія сябры «Тутэйшых», А. Глобус адначасна спалучаў ролі паспяховага пісьменніка і мастака. Гарадскія вершы і апавяданні пачалі рэгулярна з'яўляцца ў друку з 1988 года[143].

Як адзін з лідараў «Тутэйшых», А. Глобус аб'яднаў групу аднадумцаў (Максім Клімковіч, Міраслаў Шайбак, Уладзімір Сцяпан), каб разам працаваць над стварэннем новых асяродкаў для беларускай мовы. Яны эксперыментавалі з хайку, выдалі дэтэктыўныя гісторыі і даследавалі жанр дзіцячай літаратуры, рэдагуючы моладзевы часопіс «Бярозка».

Не менш адметнымі былі і іх спробы разабраць выходзячыя на паверхню нацыянальныя міфы. Напрыклад, у тэатральнай п'есе «Vita Brevis, або Нагавіцы святога Георгія»[144] беларускі першадрукар Францішак Скарына сустракаецца з Марцінам Лютэрам у Вітэнбергу. Такая культавая нацыянальная постаць, як Скарына, паўстае ў п'есе як жартаўнік, хітрун і юрлівец. У той час, калі нацыянальная ідэя набывала ў інтэлігенцыі ледзь не святарны статус, «Тутэйшыя» былі дастаткова смелымі, каб дазваляць сабе падобныя экперыменты.

Звяртае на сябе ўвагу і кантэкст, у якім узнікалі такія тэксты. Пераход ад камунізму суправаджаўся цяжкім эканамічным крызісам, які прывёў да збяднення большасці, уключаючы інтэлігенцыю. А. Глобус і яго калегі знайшлі выхад з фінансавых цяжкасцяў, пішучы і выдаючы папулярную рускамоўную літаратуру, якую яны паспяхова прадавалі па ўсім былым Савецкім Саюзе, фінансуючы такім чынам выданне беларускай інтэлектуальнай літаратуры[145].

Хаця і выступаючы супраць камуністычнай партыі і Саюза пісьменнікаў, які фінансаваўся дзяржавай, іншадумныя моладзевыя рухі захоўвалі некаторую ступень уключанасці ў механізм адносін паміж дзяржавай ды інтэлектуальнай элітай. Каб друкавацца, удзельнікам падпольных суполак даводзілася звяртацца ў дзяржаўныя часопісы і выдавецтвы. Колькасць рукапісаў, якія чакалі свайго выдання, была велізарнай. Маладыя пісьменнікі траплялі ў зачараванае кола: шанцы на публікацыю значна павялічваліся з уступленнем у афіцыйны СБП, але адсутнасць выдадзеных кніг рабіла гэтае ўступленне немагчымым.

[143] Кнігі, выдадзеныя Глобусам у 1980-х — пачатку 1990-х, уключаюць «Парк» (1988), «Адзінота на стадыёне» (1989), «Дамавікамерон» (1994) і «Толькі не гавары маёй маме» (1995).

[144] Клімковіч М., Шайбак М. Vita Brevis, або Нагавіцы святога Георгія // Літаратура 2. Б. в., 1990. С. 2–24.

[145] «У нас дзве душы»: размова з Адамам Глобусам // Ноцунь М., Бжэзецкі А. Зрабаваны народ. С. 110, 116.

У першым нумары самвыдацкага бюлетэня «Кантроль» «Тутэйшыя» іранізавалі над выдавецкай палітыкаў у дачыненні да маладых у БССР:

> Пяць гадоў таму [падкрэслена ў арыгінале. — *Т. А.*] А. Мінкін здаў у выдавецтва «Юнацтва» кніжку вершаў для дзяцей[146]. І вось запланаваную на 1989 год кніжку перакінулі яшчэ на тры гады. […] У тым жа выдавецтве ўбачыла свет кніжка тутэйшаўца С. Кавалёва «Мова». Сяргей здаў яе яшчэ пад час вучобы ва універсітэце. Яна трапіла ў «струмень» і выйшла ўсяго праз чатыры гады[147].

У 1988 годзе «Тутэйшыя» былі прызнаныя афіцыйным Саюзам пісьменнікаў БССР і атрымалі статус літаратурнага аб'яднання пад назвай «Таварыства маладых літаратараў». Набліжанасць да саюза задавальняла не ўсіх, але дазваляла дзейнічаць афіцыйна і выдаваць тое, што ў адваротным выпадку лічілася б недазволеным. Як успамінае адзін з удзельнікаў «Тутэйшых», Алесь Аркуш, быццё часткай афіцыйнай пісьменніцкай арганізацыі здавалася разумным, бо ніхто не мог сабе ўявіць краху Савецкага Саюза і абвяшчэння незалежнасці Беларусі[148].

Пратэсты «Тутэйшых» супраць савецкай рэчаіснасці аказаліся пратэстамі супраць стваральнікаў і паэтаў гэтай рэчаіснасці. Яны паўсталі супраць «бацькоў» — папярэдніх пакаленняў беларускіх савецкіх пісьменнікаў, якіх яны выкрывалі як слуг партыйнай ідэалогіі, што разменьвалі сваю беларускую шчырасць на прафесійныя і матэрыяльныя выгоды[149]. Як адзначае Чэслаў Мілаш у сваёй кнізе ўспамінаў і разважанняў «Rodzinna Europa» («Родная Еўропа»), нідзе, акрамя Усходняй Еўропы, мастакі, пісьменнікі і вучоныя не мелі такога прывілеяванага становішча[150]. Камуністычная партыя выкарыстоўвала гэтую іерархію ў сваіх інтарэсах. Такія прывілеі дазвалялі маладым інтэлектуалам абвінавачваць сваіх старэйшых калег у супрацы з уладамі.

Абвінавачванні не былі ні цалкам справядлівымі, ні аб'ектыўнымі. Вядома, што сярод літаратараў старэйшага пакалення было дастаткова тых, хто дбаў

[146] Хучэй за ўсё маецца на ўвазе наступнае выданне, якое насамрэч выйшла праз 6 год пасля вышэйпрыведзенай зацемкі ў бюлетэні «Тутэйшых»: Мінкін А. За месяцам месяц: вершы і казка. Мінск: Юнацтва, 1994.

[147] [Бяляцкі А. і Дубавец С.] Кантроль. 1988. № 1. С. 8.

[148] Аркуш А. Аскепкі вялікага малюнку. С. 57.

[149] Гл., напрыклад: Прыкарытнікі // Кантроль. 1989. № 2(1). С. 4.

[150] Miłosz Cz. Native Realm. A search for self-definition. London: Sidgwick&Jackson; Manchester: Carcanet New Press, 1981. P. 33–34.

найперш аб мове і літаратуры, а таксама аб якасці ўласнай працы, а не аб матэрыяльных выгодах. І тым не менш гэта супрацьпастаўленне маральнага і матэрыяльнага па-свойму аказалася азначэннем духу часу[151]. Што немалаважна, аднак, гэты «канфлікт пакаленненяў» паміж інтэлектуаламі не быў унікальным і з гістарычнай перспектывы: падобным жа чынам паэты рэвалюцыйных суполак «Маладняк» і «Узвышша» вінавацілі нацыянал-камуністаў у канцы 1920-х гадоў[152]. У сваю чаргу, «Тутэйшыя» разглядалі Саюз пісьменнікаў і яго сяброў як апірышча «ўнутранай» русіфікацыі і саветызацыі, і гэтае процістаянне добра адчувалася нават у часы незалежнасці[153].

У 80-я гады XX стагоддзя моўная праблема зноў стала найважнейшай азнакай для інтэлігенцыі, паказваючай яе «іншасць» да ўладаў і насельніцтва. Змена мовы стала перфармацыйным актам, які, як нішто іншае, абвяшчаў разрыў з савецкай традыцыяй. «Беларуская літаратура заўсёды знаходзілася на барыкадах», — тлумачыў пазней яшчэ адзін удзельнік «Тутэйшых», філосаф і паэт Ігар Бабкоў:

> Дело в том, что выбор белорусского языка для творчества — это выбор, нагруженный культурно и этично. Практически все наши литераторы,

[151] Напрыклад, у працы А. Бембеля «Родная мова і маральна-эстэтычны прагрэс» многія з яго рэспандэнтаў звязваюць заняпад беларускай мовы і культуры з памкненнем грамадства да найперш матэрыяльных выгодаў, «мяшчанства». Гл.: Бембель А. Родная мова і маральна-эстэтычны прагрэс. С. 88 і паўсюль.

[152] У сваім лісце да літаратуразнаўцы Янкі Саламевіча (1938–2012) удзельнік абодвух аб'яднанняў, паэт Уладзімір Дубоўка, растлумачыў гэтае процістаянне ў шырэйшым сэнсе — як канфлікт двух паслярэвалюцыйных пакаленняў. Першае з іх карысталася сваёю блізкасцю да ўлады і вынікаючымі з гэтага прывілеямі, а другое пагарджала прывілеямі і выступала за неабмежаваную творчасць. Сярод прадстаўнікоў першага — Цішка Гартны і Міхаіл Грамыка (1885–1969), да другога ж належалі Кандрат Крапіва (псеўданім Кандрата Атраховіча, 1896–1991), Кузьма Чорны (псеўданім Мікалая Раманоўскага, 1900–1944) і Язэп Пушча (псеўданім Іосіфа Плашчынскага, 1902–1964). У. Дубоўка ўспомніў эпіграму супраць Гартнага, якая характэрна перагукаецца з рыторыкай «Тутэйшых»:

Сядзіць дзядзя лысы
ля дзяржаўнай місы.
Капялюш Берлінскі,
а характар свінскі.

«Паважаны Іван Уладзіміравіч!» (ліст Уладзіміра Дубоўкі Янку Саламевічу, 16 сакавіка 1968 года) у: Дубоўка У. Я казаў вам шчырую праўду пра той час // Тэрмапілы. 2007. № 11. С. 196.

[153] Яшчэ ў 1998 годзе (што, магчыма, было падмацавана перамогай А. Лукашэнкі на прэзідэнцкіх выбарах 1994 года і наступнымі парушэннямі Канстытуцыі) С. Дубавец папракаў Саюз пісьменнікаў як «закормлены ў савецкія часы беларускі пісьменніцкі цэх, калябаранцкую арганізацыю, якая стварыла калябаранцкую літаратуру» (Дубавец С. З гледзішча нацыянальных інтарэсаў // Наша Ніва. 1998. № 9. С. 9.)

начиная с «тутэйшых», начинали писать на русском и выбрали топос белорусскоязычного литератора именно с этической перспективы: если я не согласен с тем, что этот язык умирает, что я могу сделать?[154]

Ужо ўдзельнікі «Майстроўні» ўжывалі беларускую мову, каб вылучацца з асяроддзя, але гэта была мова іх дзядоў, мова «вёскі» — адзінага месца, дзе жылі карэнныя жыхары і іх мова. «Тутэйшыя» ды іх пераемнікі шмат у чым аднавілі беларускую мову, вярнулі яе да паўсядзённага ўжытку. Мова выкарыстоўвалася цяпер не толькі для захавання традыцый, але і каб фармуляваць новыя ідэі і паняцці, перакладаць сучасную літаратуру і філасофскія творы, каб адпавядаць гарадской аўдыторыі. Больш таго, «Тутэйшым» давялося стварыць новую дыскурсіўную рэчаіснасць, «інтэлектуальны кантэкст» для сваіх тэкстаў[155].

У 1986 годзе маладыя мовазнаўцы Сяргей Шупа (нар. у 1961) і Лявон Баршчэўскі (нар. у 1958) заснавалі майстэрню перакладу пад назвай «Бабілён» дзеля прасоўвання еўрапейскай літаратуры ў беларускім перакладзе. Праз год быў заснаваны новы дзяржаўны часопіс «Крыніца», дзе дзякуючы рэдактару Уладзіміру Някляеву «Тутэйшыя» атрымалі магчымасць друкаваць як свае, так і перакладзеныя тэксты[156]. Дзякуючы рэдакцыйнай палітыцы, дзе рабіўся ўпор на галоснасць, а таксама дзейнасці маладых аўтараў «Крыніца» ператварылася ва ўплывовы культурна-літаратурны часопіс.

К 1988 году аддзел агітацыі і прапаганды Мінскага камітэта партыі таемна паведамляў пра існаванне ў Мінску 566 нефармальных моладзевых аб’яднанняў[157]. Многія з іх аб’ядноўвалі прадстаўнікоў новага пакалення інтэлігенцыі.

[154] Рублевская Л., Стадуб А. Литературную моду диктуют большие издательства // Советская Белоруссия. 2013. № 126.

[155] Максімюк Я. Словы ў голым полі. Беларуская літаратура 1990-х у снах, успамінах і фотаздымках. Мінск: Логвінаў, 2011. С. 50.

[156] Пра надрукаваныя ў «Крыніцы» пераклады гл. таксама: Чарнякевіч Ц. Пераклад твораў замежнай літаратуры ў часопісе «Крыніца» (1988–2003). URL: http://prajdzisvet.org/artyikulyi/seminar/3156.html (дата звароту: 08.08.2015).

[157] Некоторые актуальные вопросы идеологической работы в современных условиях (в порядке ориентирования секретарей партийных комитетов). Б. в.. 1988. № 2, 4. URL: http://vytoki.net/?docs=00017343 (дата звароту: 11.04.2016).

# 4. САМВЫДАТ І ТАМВЫДАТ: ПРАКТЫКІ І ТЭКСТЫ

## 4.1. ШЫРОКАЕ СЕЦІВА САМВЫДАТУ

Як узгадвае Надзея Мандэльштам (1899–1980), рукапісы твораў, забароненых да выдання савецкай цэнзурай, перадаваліся і распаўсюджваліся ўжо ў 1920-я гады. Напрыклад, вершы яе мужа, Восіпа Мандэльштама (1891–1938), перапісваліся ўручную і распаўсюджваліся сярод яго сяброў[1]. Для В. Мандэльштама публікацыя яго вершаў стала немагчымай пасля 1928 года: заставалася толькі дзяліцца творчасцю з сябрамі (часта ў тым ліку і вусна)[2].

Як падаецца, вытокі самвыдату глыбока ўкаранёныя ў гісторыі Расіі і падпарадкаваных ёй земляў: калі дзяржава душыць творчую энергію, апошняя шукае вакольныя шляхі. Значна ранейшым прыкладам з'яўляецца хатняя друкарня «першага расійскага інтэлігента»[3] Аляксандра Радзішчава і ананімнае выданне яго кнігі «Путешествие из Петербурга в Москву» ў 1790 годзе[4].

Самвыдат як шырока распаўсюджаная з'ява і адметная дзейнасць пасляваеннай сацыялістычнай інтэлігенцыі ўзнік у Маскве ў сярэдзіне 1950-х[5]. Першапачаткова ён ахопліваў нерэгулярную вытворчасць і размнажэнне не даступных іншымі шляхамі або забароненых вершаў і прозы. Пазней абсяг нелегальных выданняў пашырылі неафіцыйныя пераклады, зборнікі і часопісы, а таксама перапраўляная ў Савецкі Саюз тамвыдацкая літаратура. Значна пашырыўся і геаграфічны ахоп іх распаўсюду.

---

[1] Мандельштам Н. Воспоминания. С. 240.

[2] Зборнік артыкулаў «О поэзии» ды зборнік вершаў «Стихотворения», абодва выдадзеныя ў 1928 годзе, сталі апошнімі афіцыйнымі выданнямі В. Мандэльштама пры жыцці.

[3] Walker B. On Reading Soviet Memoirs. P. 334.

[4] Радищев А. Н. Путешествие из Петербурга в Москву. Санкт-Петербург: б. и., 1790.

[5] Алексеева Л. Рождение самиздата // Алексеева Л. История инакомыслия в СССР. С. 210–216.

З’яўленне пазацэнзурнага кнігадруку на тэрыторыі сучаснай Беларусі таксама папярэднічала свайму савецкаму адпаведніку — самвыдату.

Што датычыць любых складаных і шматмерных з’яў, такіх, як самвыдат і тамвыдат, па трапнай заўвазе Ф. Кінд-Ковач і Дж. Лабаў, існуе «здаецца, несканчоная колькасць магчымых азначэнняў»[6]. Спробы акрэсліць паняцце самвыдату абавязкова прывядуць нас да абмеркавання яго рэгіянальных, нацыянальных, ідэалагічных і часавых характарыстык.

У савецкай Беларусі распаўсюджванне самвыдату не набыло форму шырокага руху. Магчымыя прычыны гэтага згадваліся ў папярэдніх раздзелах, але тут варта падсумаваць іх. Па-першае, беларуская інтэлігенцыя як сацыяльная група ўзнікла даволі позна ў параўнанні з іншымі нацыянальнымі групамі ва Усходняй і Цэнтральнай Еўропе. Ледзь яна склалася, як яе шэрагі былі спустошаныя дзвюма сусветнымі войнамі і сталінскімі чысткамі. Такім чынам, было страчанае якое-кольвек адчуванне супольнасці, якое ёсць неабходнай умовай для калектыўнага намагання, такога, як стварэнне і распаўсюджванне непадцэнзурнай літаратуры.

Па-другое, падчас халоднай вайны савецкая Беларусь стала заходняй мяжою СССР і атрымала «стратэгічнае значэнне» для вайсковай абароны. На яе тэрыторыі знаходзілася таксама буйная частка ваенна-прамысловага комплексу СССР. У выніку ўсё насельніцтва краіны, у тым ліку інтэлігенцыя, знаходзіліся пад мацнейшым ідэалагічным і палітычным кантролем, чым некаторыя іншыя часткі Савецкага Саюза і сатэліты СССР.

Яшчэ адна прычына — у яе перыферыйным статусе, знаходжанні на адлегласці ад міжнародных інфармацыйных і траспартных вузлоў, што было даволі распаўсюджанай з’явай і для іншых нацыянальных рэспублік. Заходнія пасольствы, міжнародныя карэспандэнты і замежныя госці, якія былі найбольш актыўнымі пасрэднікамі паміж іншадумнай інтэлігенцыяй і Захадам, знаходзіліся ў далёкіх Маскве і Ленінградзе. Нават консульствы такіх «сяброўскіх» краін, як Польшча і ГДР (адкрытыя адпаведна ў 1971 і 1972 гадах), з’явіліся ў Мінску са значнай затрымкай нават у параўнанні з Кіевам[7]. Беларускія гарады былі па-за асноўнымі маршрутамі замежных турыстаў у СССР[8]. Такім чынам, інтэлігенцыя нацыянальных рэспублік не мела лёгкага доступу да «прадстаўнікоў Захаду». Адпаведна, шанцы перапраавіць літаратуру мясцовай вытворчасці праз жалезную заслону з’яўляліся асабліва рэдка. Было цяжка дасягнуць якіх-небудзь выдаўцоў на Захадзе, якія б маглі гарантаваць выдаўцам пэўную бяспеку і тым самым забяспечыць далейшае выданне.

[6] Kind-Kovács J., Labov F. Samizdat and Tamizdat: Entangled Phenomena? P. 2.

[7] Klöckner M. Kultur- und Freundschaftsbeziehungen zwischen der DDR und der Belorussischen Sozialistischen Sowjetrepublik (1958–1980). Stuttgart: Franz Steiner Verlag, 2017. S. 15, 189–194.

[8] Ibid. S. 273–284.

Нарэшце, беларуская эміграцкая дыяспара была недастаткова шматлікай і ўплывовай, каб дастаўляць у БССР значную колькасць нелегальнай літаратуры, выдадзенай за мяжою. Заходнія арганізацыі, такія, як RFE/RL у Мюнхене, не лічылі савецкую Беларусь прыярытэтнай для прасоўвання дэмакратыі і нейтралізацыі савецкага ўплыву[9].

Адсутнасць цэльнай эміграцкай дыяспары адрознівала Беларусь ад выпадку савецкай Украіны ці Польскай Народнай Рэспублікі[10]. Беларуская эміграцкая інтэлігенцыя заснавала шэраг перыядычных выданняў: газета «Бацькаўшчына» (выдавалася ў 1947–1966 гадах), «Запісы БІНіМ» (заснаваны ў 1952 годзе) і «Journal of Belarusian Studies» (заснаваны ў 1965 годзе). Аднак падобна, што гэтыя перыядычныя выданні не аказалі істотнага ўплыву на культурны краявід савецкай Беларусі. Тое ж было і з беларускай службай Радыё «Свабода»: яго ўплыў распаўсюдзіўся толькі пазней, у 1980-я гады[11]. Па іроніі лёсу, становішча змянілася ў параўнанні з міжваеннымі часамі: жалезная заслона стала больш пранікальнай у напрамку з Усходу на Захад, чым наадварот. Выданні эміграцкай інтэлігенцыі сведчаць, што яна мела даволі шырокія, хай часам і прадузятыя, веды пра афіцыйныя выданні савецкай Беларусі. Аўтары былі добра знаёмыя з культурнай палітыкай БССР. Наўрад ці можна было сказаць тое ж самае пра іх усходніх калег.

#### 4.1.1. Абшар распаўсюджвання

Нелегальныя копіі нецэнзураванага самвыдату і тамвыдату ў асноўным траплялі ў БССР з Масквы, Ленінграда, Украіны, часам з Польскай Народнай Рэспублікі і Чэхаславакіі. Цяжка ацаніць дакладную колькасць, змест і абсяг уплыву такіх выданняў. Як сведчыў Міхаіл Кукабака, самвыдат пранікаў праз межы БССР толькі зрэдку[12]. Як выглядае, аднак, гэтая ацэнка датычыць найперш палітычнага самвыдату, бо межы дазволенага і пазацэнзурнага былі куды больш акрэсленымі для палітычных тэкстаў, чым для гістарычных або літаратурных выданняў, а менавіта з апошніх складалася асноўная плынь самвыдату[13].

У цэлым беларуская інтэлігенцыя, здаецца, была добра знаёмая з расійскай

[9] Вядома, абсяг мэт RFE/RL быў значна шырэйшы.

[10] Падрабязней пра выдавецкую дзейнасць украінскай дыяспары гл.: Satzewich V. The Ukrainian Diaspora. London; New-Haven: Routledge, 2002. Пра выпадак Радыё «Свабода» гл.: Kind-Kovács F. Radio Free Europe and Radio Liberty as the ‘Echo Chambers’ of Tamizdat // Kind-Kovács F., Labov J. Samizdat, Tamizdat and Beyond. P. 70–91.

[11] Пра гісторыю беларускай службы Радыё «Свабода» гл.: Гардзіенка Н., Юрэвіч Л. Рада БНР. 1947–1970. Падзеі, дакументы, асобы. Мінск: Кнігазбор, 2013. С. 64–70; Руднік Г. Птушкі пералётныя. Радыё «Свабодная Эўропа» / Радыё «Свабода», 2011.

[12] Кукобака М. Принудительно меня упрятали за решётку на 17 лет, принудительно меня и помиловали // Улитёнок А. Іншадумцы. С. 228.

[13] Кляйн Б. Недагаворанае. С. 188 і 193.

і заходняй літаратурай, не прызначанай для афіцыйнага распаўсюду ў СССР. Як узгадвалі Юлія Чарняўская (нар. у 1962), Юрый Дракахруст (нар. у 1960), Сяргей Харэўскі (нар. у 1967) ды іншыя, усе яны мелі сяброў, сваякоў і сувязі ў Маскве. Па такіх асабістых сетках распаўсюджваліся недазволеныя і цяжкадаступныя кнігі[14].

20 чэрвеня 1969 года кіраўнік Камітэта дзяржаўнай бяспекі СССР Юрый Андропаў паведаміў ЦК КПСС пра «нездаровыя праявы» пісьменнікаў Васіля Быкава і Аляксея Карпюка[15]. Сярод іншых правапарушэнняў у дакладзе Ю. Андропава згадваецца пра чытанне кнігі «Крутой маршрут» Яўгеніі Гінзбург[16].

У той час А. Карпюк займаў пасаду сакратара абласнога аддзела Саюза пісьменнікаў БССР. Будучы пераканаsucceeded камуністам, ён ніколі не ўпускаў магчымасці крытыкаваць мясцовых функцыянераў. Непахісная вера ў магчымасць удасканалення сацыялістычнай сістэмы і справядлівасць сацыялістычнага ўкладу зрабілі Карпюка адным з самых рашучых і настойлівых яго крытыкаў. У 1972 годзе за нязгоду ён быў звольнены з працы і выключаны з партыі[17].

У той жа час В. Быкаў выступаў у якасці асноўнага атрымальніка і распаўсюдніка самвыдату ў іх з Карпюком коле сяброў. Будучы сталым аўтарам часопіса «Новый мир» у канцы 1960-х — пачатку 1970-х гадоў, ён часта ездзіў у Маскву, каб наведаць рэдакцыю часопіса, і вяртаўся з гэтых паездак з пазацэнзурнай літаратурай[18]. Па словах сведкаў, сутыкнуўшыся з узмоцненым наглядам КДБ, В. Быкаву давялося тапіць самвыдат, сярод якога былі асобнікі «Крутого маршрута» Я. Гінзбург і лісты А. Салжаніцына, у рацэ Гараднічанцы[19].

У меншай ступені, але ўсё ж магчымым быў абмен пазацэнзурнай літаратурай з прадстаўнікамі інтэлігенцыі ў савецкіх Літве і Украіне. Дакументы з краін Савецкага блока таксама пранікалі праз беларускую мяжу, хаця не ўсе яны былі даступныя з-за моўнага бар’ера. Самвыдат прыбываў і з Польшчы, асабліва ў былыя «kresy wschodnie», дзе значная частка насельніцтва чытала і разумела па-польску. А. Карпюк быў адным з атрымальнікаў польскага самвы-

[14] «Домашняя библиотека культуролога Юлии Чернявской. Внутренний камертон на искусство». CityDog. 19 ліпеня 2013 года. URL: http://citydog.by/post/chernyavskaya-library/ (дата звароту: 26.10.2016); «Вы уверены, что кто-то прочитал Достоевского?» Минчане о том, как доставали редкие книги, и что из этого получалось». CityDog. URL: http://citydog.by/post/chernyavskaya-library/ (дата звароту: 23.08.2019).

[15] Кляйн Б. Недагаворанае. С 190.

[16] У 1990 годзе Васіль Быкаў напісаў прадмову да савецкага выдання. Гл.: Быков В. Маршрутом страдания и гнева // Гинзбург Е. Крутой маршрут: хроника времён культа личности. Москва: Советский писатель, 1990. С. 2–3.

[17] Вашкевіч А. «Больш за ўсё я люблю свабоду...». Гісторыя Аляксея Карпюка // Дзеяслоў. 2007. № 4. С. 266.

[18] Кляйн Б. Недагаворанае. С. 193.

[19] Шапран С. Васіль Быкаў. Ч. 2. С. 8.

дату ў Гродне. Падобным чынам, сябар А. Карпюка і В. Быкава Барыс Кляйн узгадваў, што ў пачатку 1970-х яму давялося знішчыць выпіскі з чэшскай прэсы. Адмовіўшыся ўдзельнічаць у дзяржаўнай кампаніі па асуджэнні сіянізму, ён быў вымушаны ўжываць меры засцярогі, каб абараніць сябе і сваіх сяброў[20].

Асаблівай увагі заслугоўваюць зносіны паміж беларускай інтэлігенцыяй і ўкраінскімі дысідэнтамі. Лісты і самвыдацкая літаратура распаўсюджваліся і памнажаліся ў супольнасцях абедзвюх краін, збіраліся і грошы на рэпрэсаваных[21]. М. Чарняўскі згадваў добра вядомы нарыс «Інтернаціоналізм чи русифікація» Івана Дзюбы, у якім крытыкавалася нацыянальная палітыка СССР[22]. Літаратуразнаўца Мікола Прашковіч, адзін з тых супрацоўнікаў АН БССР, каго напрыканцы 1960-х — у пачатку 1970-х праследавалі ў сувязі з абвінавачваннем у нацыяналізме, падтрымліваў зносіны з украінскай дзеячкай і літаратуразнаўцай Зэновіяй Франко (1925–1991), унучкай Івана Франко[23]. У 1968 годзе З. Франко звольнілі з Інстытута моў Украінскай акадэміі навук[24]. Пасля неаднаразовых допытаў ёй давялося прылюдна пакаяцца за свае дзеянні ў савецкай штодзёнцы «Радянська Україна».

Многія маладыя інтэлектуалы правялі гады брэжнеўскага застою многа чытаючы і разважаючы ў абмежаваных сяброўскіх колах. Для большасці з іх момант дзейнічаць надышоў толькі з перабудовай. Перафразуючы Р. Горвата, сам акт чытання літаратуры, якую можна было лічыць «антысавецкай», быў знакам нязгоды[25]. Сын вядомага савецкага паэта Аляксандра Абрамавіча Дракахруста (1923–2009), студэнт механічна-матэматычнага факультэта БДУ Юрый Дракахруст называў сябе і сваіх сяброў у 1970-х «гуртком дысідэнцкай моладзі». Ю. Дракахруст патлумачыў, што для іх «чытанне кніг» ужо ўяўляла сабою «бунт»: яны чыталі кожную кнігу, якую ўдавалася дабыць дзякуючы сувязям з маскоўскімі дысідэнтамі[26].

Літаратурныя тэксты хадзілі сярод шырокай і разнастайнай аўдыторыі, але

---

[20] Кляйн Б. Недагаворанае. С. 191.

[21] Ракутович Г. Положение в Белоруси. 1974 год. Магілёў: б. в., 1974. С. 20; Шапран С. Міхась Чарняўскі.

[22] Дзюба І. Інтернаціоналізм чи русифікація. Київ: КМ Академія, 1998. Упершыню надрукавана ў самвыдаце ў пачатку 1960-х.

[23] Ліс А. «Група Прашковіча» і справа беларускіх нацыяналістаў // Новы час. 2017. 19 ліст. URL: https://novychas.by/poviaz/pad-nehalosnym-apjakunstvam (дата звароту: 06.11.2018).

[24] ХТС. 1968. № 5; Алексеева Л. История инакомыслия. С. 24. Пра Зэновію Франко гл.: Діти і онуки Івана Франка / Івана-Франкоўская абласная ўніверсальная навуковая бібліятэка імя І. Франко. URL: http://lib.if.ua/franko/1310891119.html (дата звароту: 23.08.2019).

[25] Horvath R. The Legacy of Soviet Dissent. P. 2.

[26] Кулинка Н., Федотова Н. Юрий Дракохруст // Кулинка Н., Федотова Н. Время несбывшихся надежд. С. 70–71.

ўсё ж чыталіся і перадаваліся з асцярогай. Гісторык і пісьменнік Уладзімір Арлоў (нар. у 1953) згадваў, як памнажаў «Мастера и Маргариту» Міхаіла Булгакава, якая, здаецца, была адною з самых чытаных кніг сярод савецкай інтэлігенцыі. У. Арлоў таксама пісаў пра «моцна зашмальцаваны» асобнік кнігі Аляксандра Салжаніцына «Один день Ивана Денисовича», які ён трымаў пад матрацам студэнцкага ложка ў 1974 годзе[27]. Культурны антраполаг Юлія Чарняўская ўзгадвала, што чытала «Воспоминания» Надзеі Мандэльштам ды іншыя самвыдаты, пастаянна наведваючы сяброў-масквічоў у канцы 1970-х[28].

Іншымі папулярнымі, але афіцыйна не даступнымі аўтарамі былі, напрыклад, Аляксандр Зіноўеў, Абдурахман Аўтарханаў і Алексіс дэ Токвіль[29]. Гэты набор імёнаў паказвае палітычныя зацікаўленні моладзі, якая імкнулася зразумець, як можа працаваць іншая, альтэрнатыўная сацыялістычнай, палітычная сістэма.

Паказальна, што ў 1970-я гады шырокі распаўсюд выдаванага ў 1968–1983 гадах бюлетэня Маскоўскай Хельсінкскай групы «Хроника текущих событий» (ХТС) ды іншых самвыдатаў маскоўскіх ці ленінградскіх праваабаронцаў не заўважны сярод беларускай інтэлігенцыі. Як вынікае, перадаваць на Захад звесткі пра рэпрэсіі і парушэнні свабоды ў СССР было значна прасцей і, напэўна, эфектыўней, чым у суседнюю Беларусь. Падобным чынам, у «ХТС» практычна не згадваюцца падзеі ў Мінску ды іншых гарадах Беларусі. У той час БССР не была значным цэнтрам пратэсту і дысідэнцкай дзейнасці. Магчыма таксама, што маскоўскія праваабаронцы не надавалі першаснага значэння нацыянальнаму пытанню або не бачылі агульнай глебы для змагання за дэмакратыю. Матэрыялы «ХТС» паказваюць, што расійскія дэмакраты разумелі нацыянальныя памкненні не як асобнае пытанне, але як другараднае для ўсталявання дэмакратыі[30].

Як і паўсюль у СССР, нягледзячы на ўпартыя спробы заглушыць радыё, заходняе вяшчанне стала яшчэ адною жыццёва важнай крыніцай інфармацыі

[27] Абодвы твора к таму часу ўжо былі выдадзеныя ў савецкай перыёдыцы, але ўсё ж былі практычна недаступныя савецкаму чытачу, асабліва на ўскраінах.

[28] CityDog. «Домашняя библиотека культуролога Юлии Чернявской».

[29] Падрабязней пра А. Зіноўева і значэнне яго твораў для інтэлігенцыі СССР гл.: Hanson P. Four Essays on Russia. Aleksandr Zinov'ev and the Russian Tragedy // Baltic Worlds. 2010. Vol. 3, № 2. P. 18–25. Найпапулярнейшым у СССР творам А. Аўтарханава была «Технология власти» (Франкфурт-на-Майне: Посев, 1983) (3-е выд.). Што датычна А. Токвіля, то, хутчэй за ўсё, у самвыдаце распаўсюджвалася яго вядомая праца «Дэмакратыя ў Амерыцы», якая не выдавалася ў СССР. Гл.: Токвиль А. Демократия в Америке. Москва: Прогресс, 1992.

[30] Гл., напрыклад, спрэчкі пра арышт афіцэраў Балтыйскага флоту ў Эстоніі (ХТС. 1969. № 9). У сваёй кнізе Л. Аляксеева, пішучы пра ўкраінскі нацыянальны рух, падкрэслівае яго блізкасць да маскоўскіх праваабаронцаў: Алексеева Л. История инакомыслия. С. 20.

і альтэрнатыўных поглядаў для інтэлігенцыі[31]. Р. Горват адзначае, што распаўсюджванне камунікацыйных тэхналогій «падарвала поўную манаполію савецкай дыктатуры на сродкі масавай інфармацыі» і адкрыла шлях да галоснасці:

> Падчас сталінскага тэрору такі кантроль дазваляў мабілізаваць атрымальнікаў інфармацыі і маніпуляваць іх уяўленнем значна эфектыўней, чым калі-небудзь яшчэ. Цягам наступных дзесяцігоддзяў баланс змяняўся на карысць грамадства[32].

У дзённіках, інтэрв'ю і ўспамінах беларускай інтэлегенцыі часта згадваецца праслухоўванне такіх заходніх радыёстанцый, як Радыё «Свабода», «Голас Амерыкі», Радыё «Швецыя», BBC і Радыё «Люксембург»[33]. Васіль Быкаў успамінаў, як упершыню слухаў такія «галасы»:

> Тады ж і давялося пачуць і шмат якія перадачы радыё «Свабода», Бі-Бі-Сі, «Голас Амерыкі». Было дужа цікава. І — вядома, страхотна[34].

Абсягі распаўсюджвання такіх звестак былі па-ранейшаму абмежаванымі. Больш таго, інтэлігенцыі не хапала перадачаў на беларускай мове, як цікавасці да «беларускіх справаў». У 1974 годзе З. Пазьняк напісаў на гэты конт:

> Западные передачи на белорусском языке мы почти никогда не слышим. Их глушат особенно яростно и скрупулёзно. Все западные передачи на

[31] Што датычыць глушэння радыё ў БССР, асаблівае значэнне мае справа Сяргея Ханжанкова (1942–2016). У 1962 годзе С. Ханжанкоў разам з групай сяброў планаваў падарваць Мінскую вежу, якая афіцыйна называлася «Радыёстанцыя № 3», у знак пратэсту супраць абмежавання свабоды інфармацыі ў СССР. 27 траўня 1963 года С. Ханжанкоў быў арыштаваны беларускім КДБ. 7 кастрычніка 1963 года яго асудзілі на дзесяць гадоў мардоўскіх лагераў па артыкулах 67.1 (антысавецкая агітацыя і прапаганда, адпаведнік 58 артыкула Крымінальнага кодэкса РСФСР), 65 (сабатаж) і 69 (заснаванне або ўдзел у антысавецкай арганізацыі) Крымінальнага кодэкса БССР. (Ханженков Сергей Николаевич // Жертвы политического террора в СССР. URL: http://lists.memo.ru/index22.htm (дата звароту: 08.02.2015); Нехамкин С. Покушение на радиостанцию № 3 // Известия. 2001. 19 апр. URL: http://izvestia.ru/news/289276 (дата звароту: 31.11.2016)).

[32] Horvath R. The Legacy of Soviet Dissent. P. 61.

[33] Пералічаныя радыёстанцыі значацца ў дзённіках і ўспамінах Васіля Быкава (у канцы 1950-х гадоў) і Вінцэся Мудрова (у 1970-я гады): Быкаў В. Пункціры жыцця. Далітаратурная біяграфія (частка 5) // Дзеяслоў. 2005. № 6. С. 176; Мудроў В. Ператвораныя ў попел // Мудроў В. Ператвораныя ў попел. Менск: Выдавецтва Логвінава, 2004. С. 26.

[34] Быкаў В. Пункціры жыцця. С. 176.

российском и польском языках если в том или ином вопросе и касаются нашей родины, то выражают, как правило, точку зрения польских шовинистов или российских белогвардейцев. Рассуждения сильно пахнут ладаном или давно известным всем «от моря до моря» патриотизмом[35].

Незалежна ад таго, ці з'яўляецца яго ацэнка цалком аб'ектыўнай, Пазьнякова сцвярджэнне дазваляе выказаць здагадку, што беларускамоўныя службы заходніх радыёстанцый, найбольш уплывовай з якіх, зразумела, была беларуская служба Радыё «Свабодная Еўропа» / Радыё «Свабода», дасягалі толькі вельмі вузкай аўдыторыі ў БССР. Разам з тым перадачы, якія ўсё ж прарываліся ў БССР, не давалі інфармацыі, якая была жаданай і патрэбнай для інтэлігенцыі: пацвярджэння цікавасці да Беларусі і беларусаў з боку Заходняга свету.

У сваіх лістах супрацоўнікі беларускай службы Радыё «Свабода» пацвярджалі гэтае ўражанне аб адсутнасці сапраўднай зацікаўленасці: яны скардзіліся, што нікога з кіраўніцтва і з іншых нацыянальных службаў, здаецца, не хвалююць нацыянальныя праблемы ў БССР. Размовы пра панаванне рускай мовы і культуры ў СССР былі сярод тэм, якія не хутка атрымлівалі эфірны час[36].

Яшчэ больш абмежаванай была колькасць тых, хто ўспрымаў гэтую інфармацыю як стымул да дзеянняў. М. Кукабака распавядаў пра тры гады, з 1979 па 1982, праведзеныя ім у Наваполацкай калоніі № 10, як пра найскладанейшыя ў яго жыцці[37]. Калі на Захадзе пачалася шырокая кампанія за яго вызваленне і заходнія газеты пастаянна пісалі пра яго справу, многія яго суайчыннікі, здаецца, нават не ведалі пра яго існаванне[38]. Мала што было вядома пра яго акцыю пратэсту супраць уварвання СССР у Чэхаславакію і яго барацьбу за правы чалавека. У ліпені 1978 года Deutsche Welle транслявала яго эсэ «Украденная родина» (гл. табліцу 4). У тагачаснай савецкай Беларусі наўрад ці быў вядомы гэты твор, у якім аўтар скардзіўся на лёс роднай зямлі і яе самабытнай культуры, аслабленай і разбуранай дзесяцігоддзямі савецкай нацыянальнай палітыкі[39].

[35] Ракутович Г. Положение в Белоруси. С. 35.

[36] Гардзіенка Н., Юрэвіч Л. Рада БНР. С. 65–66.

[37] Кукобака М. Принудительно меня упрятали…. С. 228.

[38] Першая кампанія ў падтрымку М. Кукабакі была распачатая ў 1976 годзе. Пасля шасці гадоў (1970–1976) зняволення ў розных месцах, уключаючы Маскоўскі інстытут судовай псіхіятрыі імя Сербскага і псіхіятрычны шпіталь імя Сычова, М. Кукабаку арыштавалі паўторна. Пра публікацыі пра М. Кукабаку ў 1977–1981 гадах, калі ён быў у Беларусі, глядзіце ў раздзеле «Worker's Rights: Mikhail Kukobaka» (Soviet Analyst. 1978. 23 feb. P. 4–6); Боннер Е. Информация Московской Хельсинкской группы о Михаиле Кукобаке // Архив самиздата, 4909. 1980. 23 дек. OSA 300/85/13/159. М. Кукабака застаўся адным з апошніх палітвязняў у СССР: ён быў вызвалены ў 1989 годзе.

[39] Напісаны 25 сакавіка 1978 года, перадаваўся на Deutsche Welle 9–10 ліпеня 1978 года (Кукабака Міхась // Дзярновіч А. Дэмакратычная апазіцыя. URL: http://

У 1983 годзе, верагодна ў якасці запозненай рэакцыі на рух «Салідарнасць», ЦК КПБ і Савет Міністраў выдалі дэкрэт «Аб мерах абароны савецкіх грамадзян ад замежнага вяшчання». Адпаведна, у 1985 годзе ў Магілёве, Брэсце і Гродне мелі быць пабудаваныя тры новыя глушыльныя вышкі[40]. Аднак гэтага не адбылося: будаўніцтва нават не распачыналася, а 30 лістапада 1988 года глушэнне было спыненае зусім.

**4.1.2. Вытокі іншадумства**

Удзельнікі «Акадэмічнага асяродка» арганізавалі пошук забароненай беларускай літаратуры, збіралі кнігі і часопісы, выдадзеныя Інбелкультам (Інстытут беларускай культуры, працаваў у 1921–1928 гадах) і заходнебеларускімі дзеячамі ў міжваенныя часы. Пераважна гэтыя кнігі захаваліся на землях, якія да таго былі ў складзе Другой Польскай рэспублікі, у старых настаўнікаў або дзеячаў КПЗБ. Знойдзеныя матэрыялы капіяваліся або фатаграфаваліся і распаўсюджваліся сярод сяброў, знаёмых і калег[41]. Яшчэ адною істотнай крыніцай нелегальнай літаратуры былі зборы кніг і дакументаў былых нацыянальных дзеячаў — такіх, як Ларыса Геніюш або Зоська Верас. Уладзімір Арлоў узгадваў пра «Расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік» Вацлава Ластоўскага[42], які ён з вялікай асцярожнасцю прывёз пасля аднаго з візітаў да Ларысы Геніюш.

Зразумела, што абмен думкамі адбываўся таксама і ў вуснай форме, нягледзячы на рызыку праслухоўвання. Больш за тое, сам факт знаёмства з такімі асобамі, як З. Верас ці Л. Геніюш, адкрываў новае вымярэнне несавецкай беларускай гісторыі і культуры.

Савецкая антынацыяналістычная прапаганда таксама давала інтэлігенцыі прыхаваныя доказы альтэрнатыўнага мінулага беларусаў. Крытыка і нават ганьбаванне былі скіраваныя на тых асоб і ідэі, якія не адпавядалі савецкаму бачанню нацыянальнага пытання. Адзін з такіх прыкладаў разгляду мінулага цераз прызму савецкай ідэалогіі — біяграфія Янкі Купалі за аўтарствам Алега Лойкі (1931–2008) «Як агонь, як вада»[43]. Хоць аўтар і склаў яе па-бела-

---

slounik.org/153688.html (дата звароту: 21.09.2017). Нарыс выдаваўся як у самвыдаце, так і ў тамвыдаце. Гл., напрыклад: Kukobaka M. Gestohlene Heimat // Kontinent. 1979. № 11. S. 174–181; Кукобака К. Украденная родина // Страна и мир. 1986. № 3. С. 16–20.

[40] Шадурскі В. Культурныя сувязі Беларусі… С. 154–155.

[41] Чарняўскі М. Беларускія антыкамуністычныя рухі нацыянальна-патрыятычнай скіраванасці. Лекцыя 2 // Беларускія антыкамуністычныя рухі ў час позняга сталінізму (ад Сталіна да перабудовы Гарбачова: 1953–1987). Беларускі калегіюм. URL: http://old.belcollegium.org/lekcyji/historyja/czarniauski_02.htm (дата звароту: 22.03.2016).

[42] Ластоўскі В. Расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік. Коўна: Друкарня А. Бака, 1924; Арлоў У. Полацкі вецер, спроба ранніх мемуараў (частка 2) // Дзеяслоў. 2006. № 21. С. 274–276.

[43] Лойка А. Як агонь, як вада: раман-эсэ пра Янку Купалу. Мінск: Беларусь, 1984. Па-руску: Лойко О. Янка Купала. Москва: Молодая гвардия, 1982.

руску, упершыню яна была выдадзеная на рускай мове ў 1982 годзе; беларускі арыгінал выйшаў на два гады пазней. А. Лойка, які ў той час быў прафесарам філалогіі, напісаў у цэлым цікавы і спачувальны аповед аб Купалавым жыцці, але амаль не разглядаў асоб, якія былі блізкія да Купалы, асабліва калі той працаваў у рэдакцыі газеты «Наша Ніва» (1913–1914). Антон ды Іван Луцкевічы і Вацлаў Ластоўскі — тры постаці, якія фактычна адсутнічалі ў савецкай гістарыяграфіі Беларусі — з'явіліся ў кнізе пад няправільнымі імёнамі і са скажонымі думкамі. Аўтар змяніў прозвішча «Луцкевіч» на «Лацкевіч», а Ластоўскі стаў Ласоўскім, але чытач усё ж мог распазнаць іх.

У 1985 годзе маскоўскі беларускі гісторык Мікалай Улашчык адказаў А. Лойку. Ён напісаў разгромны агляд Лойкавай кнігі, які быў упершыню надрукаваны толькі ў 1986 годзе[44]. Як паказаў М. Улашчык, аўтар шырока падтасоўваў гістарычныя падзеі, таму яго даследаванне можна было лічыць павярхоўным і недакладным. Тым не менш надуманыя абвінавачанні ў дачыненні Купалавых калег з «Нашай Нівы» пралівалі святло на дарэвалюцыйную дзейнасць нацыянальнай інтэлігенцыі. А. Лойка ўважліва разгледзеў постаць асноўнага апанента і ганьбавальніка Купалы — Лукаша Бэндэ (1903–1961)[45], што дапамагло ўсвядоміць ролю, як сказаў М. Улашчык, «самай змрочнай фігуры ў гісторыі новае беларускае літаратуры» і лепш зразумець атмасферу 1930-х гадоў[46].

Тое ж было і ў публікацыях іншых пракурораў «беларускага буржуазнага нацыяналізму». Часта такія паклёпы служылі процілеглым мэтам, чым ад іх чакалася. Узгадваючы свой шлях да іншадумства і нацыянальнай самасвядомасці, мовазнаўца і палітычны дзеяч Вінцук [Валянцін] Вячорка (нар. у 1961) заяўляў у адным са сваіх інтэрв'ю:

> Цікавы факт: падрабязнасьці пра іх [дзеячоў беларускага адраджэння пачатку XX стагоддзя] і палітычныя традыцыі Беларускай Народнай Рэспублікі, пра жыцьцё нашай эміграцыі мы вычыталі паміж радкоў пасквільных кніжак Алеся Божкі, Леаніда Прокшы і Вацлава Міцкевіча. Аўтары, таго ня ведаючы і не жадаючы, далі першасную інфармацыю пра «клятых нацыяналістаў», зацікавілі імі, прымусілі засяроджана ўслухоўвацца ў галасы на кароткіх хвалях[47].

[44] Улашчык М. Кніга пра Янку Купалу // Беларускі гістарычны агляд. 1996. Т. 3, сш. 1. С. 56–62. URL: http://www.belhistory.eu/ulashchyk-мм-кніга-пра-янку-купалу/ (дата звароту: 15.01.2016).

[45] Гл.: Бэндэ Л. Янка Купала. Крытычны нарыс. Мінск, 1932.

[46] Улашчык М. Кніга пра Янку Купалу.

[47] Вячорка В. Будучая Бацькаўшчына — незалежная, некамуністычная, нетаталітарная // Улітёнок А. Іншадумцы. С. 200.

Акрамя таго, некаторыя аўтары спрабавалі праравацца скрозь цэнзурныя нормы, выкарыстоўваючы тое, што можна акрэсліць як «засцерагальную крытыку». Апошняя адрознівалася ад самацэнзуры, якая ўзнікала з-за страху. «Засцерагальная крытыка» часта была вынікам наўмыснага выбару, спробы збіць з тропу цэнзара. У гэтым выпадку аўтар або яго твор атрымліваў неадабральны водгук, на падставе якога, аднак, можна было надрукаваць і пашырыць дакладныя звесткі па тэме. Такім чынам маглі з'яўляцца крытычныя, але адначасна даючыя нагоду для разважанняў публікацыі пра несавецкую гісторыю Беларусі. Яркім прыкладам ёсць кніга Уладзіміра Калесніка «Зорны спеў», выдадзеная ў 1975 годзе[48]. Сярод артыкулаў, якія ўвайшлі ў выданне, быў адзін, у якім абмяркоўваюцца жыццё і дзейнасць заходнебеларускага міжваеннага інтэлектуала Ігната Канчэўскага (псеўданім: Ігнат Абдзіраловіч), і ў прыватнасці яго праграмны нарыс «Адвечным шляхам»[49]. У. Калеснік напісаў крытычны, але не асуджальны артыкул, знайшоўшы спосаб пазнаёміць беларускіх чытачоў з І. Канчэўскім. Цікава, што прозвішча Канчэўскага няма ў змесце кнігі: Калеснік схаваў яго ў падраздзеле «Старонкі рамантызму»[50]. Да гэтага акту «інтэлектуальнай кантрабанды» публікацыі творчасць І. Канчэўскага была невядомай для шырокіх колаў інтэлігенцыі савецкай Беларусі (яго працы не перавыдаваліся да 1989 года). Пераадкрыццё яго творчасці напрыканцы 1980-х, да якога, магчыма, спрычынілася і Калеснікава публікацыя, стала магутным штуршком да самастойнага і арыгінальнага мыслення.

Існавалі і выкарыстоўваліся разнастайныя спосабы атрымаць недастаючыя, але неабходныя звесткі. Блізкае знаёмства з бібліятэкарам або рэкамендацыя ўплывовага акадэмічнага дарадцы магла надзяліць маладых даследчыкаў дазволам карыстацца закрытым архівам ці аддзелам бібліятэкі. Так адбылося, напрыклад, з гісторыкам Міхасём Ткачовым (1942–1992), які ў 1960-я гады быў студэнтам БДУ і мог працаваць над сярэднявечнай гісторыяй горада Мсціслава з недаступнымі раней архіўнымі матэрыяламі. Яго навуковы кіраўнік, вядомы прафесар Лаўрэнці Абэцэдарскі (1916–1975), забяспечыў яму пратэкцыю і дазвол на работу з архівамі[51].

Нарэшце, афіцыйныя выданні такіх пісьменнікаў, як У. Караткевіч ці В. Быкаў, і такіх гісторыкаў, як Мікола Улашчык, павольна пашыралі перспектыву афіцыйна адобранай беларускай мінуўшчыны і часам служылі натхненнем і для вытворцаў самвыдату[52].

[48] Калеснік У. Зорны спеў. Літаратурная партрэты, нарысы, эцюды. Мінск: Мастацкая літаратура, 1975.

[49] Коратка разглядаецца ў падраздзеле 1.2.

[50] Калеснік У. Фантазмы Ігната Канчэўскага // Зорны спеў. С. 139–146.

[51] Ткачоў М. Не зрабіць зла свайму народу // Улитёнок А. Іншадумцы. С. 269.

[52] Працы М. Улашчыка, надрукаваныя ў 1960–1980-х гадах, уключаюць «Предпо-

#### 4.1.3. Цэнзура і перашкоды

Пачатак самвыдату ў БССР можна датаваць канцом 1960-х — пачаткам 1970-х гадоў[53]. У 1967–1968 гадах гісторык Мікола Ермаловіч напісаў свой нарыс «Па слядах аднаго міфа»[54]. Ю. Лаўрык і Л. Андросік лічаць 1971 год пачаткам беларускага перыядычнага самвыдату, гэта быў час, калі ў Наваполацку ўзнік першы вядомы пазацэнзурны часопіс — «Блакітны ліхтар».

16 жніўня 1971 года ЦК КПБ абмеркаваў «выпадкі незаконнага распаўсюджвання антысавецкай і іншай палітычнай літаратуры, у якой падвяргалася крытыцы практыка сацыялістычнага будаўніцтва ў СССР»[55]. Як вынікае з абмеркавання, самвыдат быў распаўсюджаны сярод навукоўцаў, творчых работнікаў, студэнтаў і вернікаў у Мінску, Гродне, Віцебску, Брэсце, Баранавічах, Нясвіжы, Пінску ды Іванаве.

Падпольнае выдаўніцтва не спынялася да 1990 года. 12 чэрвеня 1990 года Вярхоўны Савет СССР прыняў закон аб адмене савецкай цэнзуры[56]. Парадаксальна, але пэўнае паслабленне цэнзуры ў 1987 і 1988 гадах заахвоціла не толькі ўздым афіцыйнага друку, але і падпольнае выданне і распаўсюд друкаванай прадукцыі ў БССР (гл. табліцу 2). Колькасць пазацэнзурных выданняў расла ў геаметрычнай прагрэсіі і ў іншых частках Савецкага Саюза. У той жа час значна змяніліся змест і значэнне такіх выданняў. К 1988 году ў РСФСР і Прыбалтыцы ўжо быў відавочным узрастаючы распад цэнзурнай сістэмы: там афіцыйныя СМІ паступова падмянялі сабою самвыдат. Выданне ў 1989 годзе кнігі Аляксандра Салжаніцына «Архіпелаг ГУЛАГ»[57], безумоўна, сведчыла пра крызіс Галоўліта і паслабленне цэнзуры.

У савецкай Беларусі саматужныя і падпольныя друкарні былі ўсё яшчэ актуальнымі, бо сфера дзяржаўнага друку была строга рэгламентаваная. Такія кансерватыўныя выданні, як падпарадкаваныя апарату ЦК КПБ часопіс «Политический собеседник» і газета «Вечерний Минск», актыўна змагаліся за ўплыў на чытача цягам усёй перабудовы.

На савецкіх ускраінах (за выключэннем, магчыма, Прыбалтыкі і Грузіі) свабода самавыражэння ўстанаўлівалася павольней. Часопісы і выдавецтвы часта карысталіся меншымі прывілеямі; яны былі пад двайною ці нават трайною цэнзурай мясцовых, рэспубліканскіх і агульнасаюзных кантрольных установ.

сылки крестьянской реформы 1861 г. в Литве и Западной Белоруссии» (Минск, 1965); «Очерки по археографии и источниковедению истории Белоруссии феодального периода» (Москва, 1973); «Введение в изучение белорусско-литовского летописания» (Москва, 1985).

[53] Пазацэнзурны перыядычны друк Беларусі / уклад. Ю. Лаўрык і Л. Андросік.

[54] Разглядаецца ў падраздзеле 4.2.1.

[55] Гужалоўскі А. Галоўліт БССР. С. 149 са спасылкай на Нацыянальны архіў Беларусі (Ф. 4. Воп. 81. Спр. 2358. Арк. 98).

[56] Аднак патрэба ў самвыдаце ўзнікла зноў у сярэдзіне 1990-х, калі прэзідэнт Лукашэнка ўвёў рэпрэсіўныя меры супраць недзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі і абмежаваў друк. З-за гэтага некаторыя няўрадавыя газеты былі вымушаныя друкавацца ў Літве. Гл. падрабязней у падраздзеле 6.2 (агляд).

[57] Солженицын А. Архипелаг ГУЛАГ. Москва: Советский писатель, 1989.

У сваёй самвыдацкай брашуры Зянон Пазьняк апісаў цэнзурныя абмежаванні ў савецкай Беларусі гэтак:

> Издания наши проходят через длинную цензурную иерархическую цепь, начиная от редактора, через главный цензурный комитет под названием «Главлит», потом через военную цензуру, разные ведомственные цензуры, цензурный отдел КГБ и, наконец, через цензуру идеологических и прочих отделов горкомов, обкомов и обязательно ЦК КПБ[58].

Адначасна былі і ўнутрырэспубліканскія прычыны затрымкі з адменай цэнзуры ў БССР. Кансерватыўны ЦК КПБ і падпарадкаваны яму аддзел ідэалогіі і прапаганды мэтанакіравана падтрымлівалі славу БССР як самай паспяховай і памяркоўнай савецкай рэспублікі. Алесь Адамовіч трапна назваў гэтае канфармісцкае і антыдэмакратычнае асяроддзе «Вандэяй перабудовы»[59].

А. Гужалоўскі сцвярджаў, што партыйныя органы БССР разумелі абвешчаную ў СССР перабудову па-свойму[60]. З гэтага гледзішча, перабудова мела адбывацца на аснове прыняцця рашэнняў «зверху ўніз», падобна да іншых ранейшых структурных змен у СССР. У снежні 1985 года ў Галоўліце БССР была зладжаная найбуйнейшая канферэнцыя па ідэалогіі, у якой удзельнічалі рэдактары ўсіх газет і часопісаў, выдавецтваў, БелТА (Беларускае тэлеграфнае агенцтва), Дзяржтэлерадыё, Дзяржкіно (Дзяржаўны камітэт па кінематаграфіі), а таксама прадстаўнікі міністэрстваў і арганізацый, якія займаліся выдаўніцтвам і СМІ[61].

Магутная іерархія пісьменніцкага цэха стала яшчэ адною прычынай, якая ўскосна прывяла да ўзлёту пазацэнзурных выданняў у канцы 1980-х. З-за гэтай негалоснай іерархіі выдавецтвы з гатоўнасцю выпускалі кнігі знакамітых сяброў Саюза пісьменнікаў, а газеты і часопісы публікавалі іх новыя вершы, апавяданні і раманы. Аўтарам-пачаткоўцам даводзілася абыходзіцца рэгіянальнымі газетамі і ўдзелам у калектыўных зборніках. Атрымаўшы прызнанне, паэты і празаікі набывалі прывілеі на выданне часта нават даволі няякасных твораў, тады як маладыя аўтары ўтваралі вялізныя чэргі ў дзяржаўных выдавецтвах, часам чакаючы публікацыі па некалькі гадоў. Таленавітыя, творчыя і

---

58 Ракутович Г. Положение в Белоруси. С. 31. Іншы прыклад цэнзурных абмежаванняў у дачыненні да сродкаў масавай інфармацыі гл. у: Гужалоўскі А. Цэнзурны кантроль тэлебачання БССР // Беларуская думка. 2015. № 2. С. 68–73.

59 Адамовіч А. «Наш век даказаў бяссілле ўсякай сілы». Гутарка з журналістам Аляксандрам Лукашуком 8 снежня [sic!] 1994 года ў Маскоўскім інстытуце праблем кінамастацтва // Адамовіч А. Выбраныя творы. Мінск: Кнігазбор, 2012. С. 468.

60 Гужалоўскі А. Чырвоны аловак: нарысы па гісторыі цэнзуры ў БССР. Кн. 2: 1943–1991. Мінск: А. М. Янушкевіч, 2018. С. 16.

61 Гужалоўскі А. Галоўліт БССР. С. 147.

нонканфармісцкія аўтары рызыкавалі выдыхнуцца раней, чым праб'юцца да чытача.

Паэт Алесь Аркуш узгадваў свой першы досвед выдання ў часопісе «Маладосць», фармальна прызначаным для маладых аўтараў:

> Да маіх першых вершаваных спробаў вядомая паэтка [Яўгенія Янішчыц] паставілася прыхільна і, пасля азнаямлення з рукапісам, сказала: «Будзем ставіць». […] Прыхільнасць вядомае паэткі не азначала, што ставіць будуць заўтра, ці ў гэтым месяцы, ці ў гэтым годзе. Упершыню Янішчыц адабрала мае вершы для друку ў верасні 1985 году. А мой дэбют у «Маладосці» адбыўся ажно ў чэрвені 1987-га[62].

У параўнанні з рускім самвыдатам беларускамоўны самвыдат з самага свайго пачатку меў свае асаблівасці ў выбары тэм і ідэй. Гэтак жа, як у тэкстах і зваротах асобных аўтараў у 1950–1960-х гадах, а то і раней — у працах дзеячаў першага Беларускага адраджэння, галоўнымі тэмамі ў апошнія два дзесяцігоддзі савецкай улады па-ранейшаму заставаліся пытанні нацыянальнага самавызначэння і сацыяльнай справядлівасці.

#### 4.1.4. Спосабы вытворчасці і распаўсюду

Успаміны былых дзеячаў і выдаўцоў даюць некаторае разуменне спосабаў вытворчасці і распаўсюду айчыннага самвыдату. На жаль, тэхнічныя дэталі дагэтуль атрымлівалі параўнальна мала ўвагі.

У сваіх успамінах Ніл Гілевіч падрабязна распавёў пра падпольнае напісанне і распаўсюд сваёй гратэскнай паэмы «Сказ пра Лысую гару»[63], у якой гучала рэзкая крытыка пісьменніцкага цэха як істотнай апоры савецкага ладу[64]. У. Арлоў, А. Аркуш і А. Бяляцкі зрабілі першыя спробы задакументаваць досвед нелегальнага перыядычнага выдаўніцтва[65]. Аднак яны ў асноўным засяроджваліся на пераследзе за распаўсюд самвыдату, і куды менш — на спосабах яго вытворчасці, збору і стварэння тэкстаў. Адначасна, памеры пераследу або патэнцыйных пагроз не варта і недаацэньваць. У большасці выпадкаў апошнія былі асноўнай прычынай, па якой спынялася выданне, як гэта адбылося з пятнаццаццю нумарамі рукапіснага часопіса «Блакітны ліхтар». Па словах аднаго

[62] Аркуш А. Аскепкі вялікага малюнку. С. 46.

[63] Гілевіч Н. Як быў напісаны «Сказ пра Лысую гару» // Naviny.by, 1 верасня 2003 года. URL: http://naviny.by/rubrics/culture/2003/09/01/ic_articles_117_142802/ (дата звароту: 21.03.2016).

[64] Падрабязней пра паэму і яе сэнс гл. у падраздзеле 4.2.3.

[65] Арлоў У. Як мы рабілі самвыдат. Радыё «Свабода», 22 кастрычніка 2010 года. URL: http://www.svaboda.org/a/2197615.html (дата звароту: 08.04.2016).

з выдаўцоў, беларускі КДБ канфіскаваў іх у 1974 годзе і, магчыма, знішчыў падчас жнівеньскага путчу 1991 года[66].

Першы паўнавартасны самвыдацкі нарыс на беларускай мове — «Па слядах аднаго міфа» Міколы Ермаловіча — быў напісаны ўручную, а пасля перадрукаваны на пішучай машынцы. Пазней тэксты адразу ствараліся на машынцы і памнажаліся праз кальку. За адзін раз можна было вырабіць каля 4–8 экзэмпляраў у залежнасці ад кшалту паперы. Для атрымання вялікай колькасці асобнікаў ужываліся невялікія друкарскія станкі, схаваныя ў каморах, закінутых дамах ці проста ў лесе[67].

Выдаўцы выкарыстоўвалі і выпадковыя магчымасці. С. Дубавец рыхтаваў і друкаваў «Люстра дзён» у рэдакцыі газеты мясцовага палка, дзе якраз праходзіў вайсковую службу. Сяргей Астраўцоў выдаваў самаробную палкавую газету ў Слоніме, будучы прызваным на абавязковыя вайсковыя вучэнні. Калі газета знікла са сцен калідора, дзе з ёй павінны былі знаёміцца чытачы, С. Астраўцоў узяў захаваныя копіі і арганізаваў іх у выглядзе самвыдацкага часопіса, што атрымаў назву «Набойні. Альманах вайсковае творчасці»[68]. У. Арлоў выкарыстоўваў асабістыя сувязі ў аддзеле архітэктуры Наваполацкага гарсавета для памнажэння «Крыўска-расійскага слоўніка» В. Ластоўскага.

А. Бяляцкі, актыўны вытворца самвыдату ў 1980-я гады, даволі падрабязна апісаў досвед выдання часопіса «Бурачок» у 1987–1988 гадах[69]. Часопіс выдаваўся групай, у якую ўваходзілі Вінцук Вячорка, Сяргей Дубавец, Алесь Суша, Віктар (1959–2013) і Яўген Івашкевічы. Маючы досвед арганізацыі ды ўдзелу ў такіх нефармальных моладзевых аб'яднаннях, як «Майстроўня», «Талака» і «Тутэйшыя», яны ўжо сфармулявалі выразную палітычную мэту. Група імкнулася да аб'яднання беларускага моладзевага руху; гэта мела забяспечыць пераход ад культурнай асветы да палітычнай барацьбы. А. Бяляцкі ўзгадваў:

> Мы былі амбітнымі і не баяліся думаць за ўсю Беларусь[70].

Яны выдавалі «Бурачок» з асаблівай асцярожнасцю, на асобнай пішучай машынцы, прызначанай выключна для падпольнага друку. Асобнікі распаўсюджваліся ананімна (у тым ліку і праз пошту) сярод тых, хто, як меркавалася, спачувае беларускай ідэі.

---

[66] Мудроў В. Вясновая песня шпака //Ператвораныя ў попел. С. 6–54.

[67] Скобла М. Забаронены Хрыстос на абшарах БССР. Радыё «Свабода», 16 лютага 2010 года. URL: https://www.svaboda.org/a/1958641.html (дата звароту: 25.05.2017).

[68] Разам са студэнтамі факультэта журналістыкі БДУ Сяргеем Дубаўцом ды Ігарам Герменчуком (1961–2002).

[69] Гл.: Пра часопіс «Бурачок» і палкоўніка Даніліна. Успаміны Алеся Бяляцкага, напісаныя ў турме // Народная воля. 2011. № 161–162. С. 4.

[70] Там жа.

Яднанне прабеларускіх палітычных сіл, нават калі яны знаходзіліся на стадыі каардынацыі, не магло пазбегнуць увагі КДБ. А. Бяляцкага дапыталі, але, як ён піша, спецслужбы не змаглі высветліць асобу выдаўца.

Выданне спынілася, калі адзін з распаўсюднікаў, Яўген Івашкевіч, быў затрыманы пры раскідванні часопіса па паштовых скрынях у Мінску[71].

Назва часопіса «Бурачок» перагукалася з псеўданімам Францішка Багушэвіча, які выдаў кнігу «Дудка беларуская» пад псеўданімам Мацей Бурачок у 1891 годзе. Ф. Багушэвіч лічыцца першым, хто выразна заклікáў да адраджэння беларускай мовы і беларускага народа. Як тлумачыць А. Бяляцкі:

> […] Ф. Багушэвіч упешыню, мабыць, так ясна і зразумела сфармуляваў беларускую ідэю, якая прывяла да стварэння беларускага нацыянальнага руху[72].

Для разумення кантэксту істотныя, аднак, не толькі палітычная і культурніцкая місія Ф. Багушэвіча, але і ўмовы, у якіх ён жыў і працаваў. Жывучы ў канцы XIX стагоддзя ў Расійскай імперыі, Ф. Багушэвіч не мог афіцыйна друкаваць свае беларускамоўныя кнігі, усе яны выдаваліся за мяжою — у Кракаве (Аўстра-Венгерская імперыя) і Познані (Каралеўства Прусія) — і пасля нелегальна былі перапраўленыя на тэрыторыю Расійскай імперыі[73]. У канцы 1980-х, як і ў папярэднім стагоддзі, беларускай нацыянальнай ідэі даводзілася шукаць шляхі для абходу цэнзурных абмежаванняў.

У канцы 1980-х былы ўдзельнік «Тутэйшых» Алесь Аркуш пераехаў са сталіцы ў Полацк, дзе распачаў выданне альманаха «Ксэракс беларускі». Да афіцыйнай рэгістрацыі альманах быў самвыдатам. Літаратурны штогоднік стаў друкаваным органам «Таварыства вольных літаратараў», заснаванага ў тым жа Полацку[74]. Першы нумар альманаха быў выдадзены ў 1990 годзе, і ў той час спосабы яго вытворчасці па-ранейшаму нагадвалі самвыдацкія. Калі да іх прыгледзецца, можна лепей зразумець, як адбываўся пераход ад падпольнага да легальнага выдаўніцтва. Сама назва часопіса — «Ксэракс», імя маркі капіявальных машын, — была адсылкай да нецэнзураванага і неабмежаванага

[71] Пра часопіс «Бурачок» і палкоўніка Даніліна…

[72] Там жа.

[73] Dudka Białoruskaja Macieja Buraczka (Kraków: Drukawau swajim kosztam Wl. I. Anczyc, 1891); Szymon Reŭka z pad Barysowa. Smyk Białoruski (Poznań, 1894) (Багушэвіч Ф. Творы / уклад. Язэп Янушкевіч. Мінск: Мастацкая літаратура, 1991. С. 296).

[74] У 1993 годзе А. Аркуш заснаваў у Полацку «Таварыства вольных літаратараў» з мэтай паспрыяць «рэгіяналізацыі і дэцэнтралізацыі» беларускай літаратуры. У адрозненне ад «Тутэйшых», якія ўзніклі ў сталіцы, аб’яднаўшы мінскую інтэлігенцыю, ТВЛ яднала таленавітых паэтаў і пісьменнікаў з беларускіх ускраін. Падрабязней пра пра аб’яднанне гл: «Таварыства вольных літаратараў» // LitaraNet. URL: http://www.litara.net/doc/tvl (дата звароту: 10.03.2016).

друку. Па словах А. Аркуша, першы нумар «Ксэракса беларускага» быў складзены ў Полацку, але надрукаваны ў Вільні. Выдаваць падобную літаратуру ў савецкай Беларусі было ўсё яшчэ складана[75]. Маючы наклад у 1000 асобнікаў, альманах распаўсюджваўся сярод нацыянальна-дэмакратычных колаў, пераважна ў Мінску. Другі нумар штогодніка быў надрукаваны ў наступным, 1991 годзе ў наваполацкай друкарні без ніякіх абмежаванняў.

[75] Аркуш А. Друкарскія таямніцы // Аркуш А. Аскепкі вялікага малюнку. С. 112–115.




*Ілюстрацыя 11. Вокладка самвыдацкага альманаха «Набойні». З ласкі Сяргея Астраўцова.*

## 4.2. НЕПЕРЫЯДЫЧНЫЯ ВЫДАННІ

### 4.2.1. Выклік савецкай гістарыяграфіі: «Па слядах аднаго міфа»

Сярод першых вядомых непадцэнзурных выданняў, распаўсюджваных у савецкай Беларусі, быў гістарычны нарыс «Па слядах аднаго міфа. Ці было літоўскае заваяванне Беларусі?», напісаны ў 1967–1968 гадах[76]. Аўтарам нарыса быў школьны настаўнік і (самаадукаваны) гісторык з Маладзечна Мікола Ермаловіч (1921–2000)[77]. У 1947 годзе Ермаловіч скончыў Беларускі педагагічны інстытут, а ў 1948–1955 гадах выкладаў у Маладзечанскім настаўніцкім інстытуце. З-за праблем са здароўем (вельмі дрэнны зрок) М. Ермаловічу давялося сысці на пенсію ў трыццаць з лішнім гадоў. Гэта, аднак, дазволіла яму цалкам прысвяціць свой час вывучэнню беларускай гісторыі.

Самастойныя заняткі дазволілі пазбегнуць уплыву і дагматычнай савецкай гістарыяграфіі, і аўтарытэту прафесійных гісторыкаў дзвюх вядучых у беларускай гістарычнай навуцы ўстаноў — гістарычнага факультэта БДУ і Інстытута гісторыі АН БССР. Адначасна адсутнасць фармальнай кваліфікацыі, а таксама абмежаваны доступ да крыніцаў былі слабым месцам М. Ермаловіча, якое часта выкарыстоўвалася яго крытыкамі.

«Па слядах аднаго міфа» быў апублікаваны афіцыйна ў пачатку перабудовы і з таго часу шырока абмяркоўваўся як у Беларусі, так і за мяжою.

Мэта гэтага падраздзела — не абмеркаванне навуковай каштоўнасці тэксту, яго аргументаванасці або суб’ектыўнасці, а аналіз кантэксту і ўмоў, у якіх ён узнік. У цэнтры ўвагі знаходзяцца таксама асаблівасці выдання і яго ўспрыманне ў літаратуры вывуча́нага перыяду.

Калі разглядаць «Па слядах аднаго міфа» як папулярны нарыс, найперш уражваюць аўтарава эрудыцыя і глыбокае веданне крыніц. Адметнай была і інтуіцыя М. Ермаловіча, які разумеў значэнне гістарычнай памяці для грамадства і выказваўся за перагляд гістарычнай палітыкі БССР.

У сваім нарысе М. Ермаловіч прадставіў альтэрнатыўную канцэпцыю гісторыі Вялікага Княства Літоўскага, у якой падкрэсліваў ролю «беларускага» чынніка ў яго стварэнні і найдалейшай гісторыі і такім чынам адназначна процістаяў афіцыйнай гістарычнай ведзе[78].

---

[76] Гады работы над тэкстам, 1967–1968, былі напісаныя на рукапісе. Ермаловіч М. Па слядах аднаго міфа. Ці было літоўскае заваяванне Беларусі? // МНА. F1/21, E72. Лічбавая копія рукапісу ёсць у сеціве: URL: http://vytoki.net/content/jermalowicz.pdf (дата звароту: 21.06.2017). Некалькі машынапісных асобнікаў захоўваецца ў БДАМЛМ (Ф. 444. Воп. 1. Спр. 3).

[77] Мікола Ермаловіч // Беларускія пісьменнікі. 1917–1990. URL: http://slounik.org/80994.html (дата звароту: 28.03.2019).

[78] Афіцыйную версію гісторыі Вялікага Княства Літоўскага і беларускіх тэрыторый у ім прадставіў беларускі савецкі гісторык, адзін з бацькоў-заснавальнікаў гісторыі БССР Лаўрэнці Абэцэдарскі ў брашуры «У святле неабвержных фактаў» (Мінск: Голас Ра-

Канцэпцыя Ермаловіча засноўвалася на трох наступных палажэннях:

— Высокі ўзровень развіцця старых беларускіх княстваў, у першую чаргу Полацкага, і значная іх незалежнасць ад Кіева.

— Вялікае Княства Літоўскае з'явілася ў выніку саюза, дамовы ці пагаднення з літоўскімі князямі, якое было добраахвотным і выгадным для абодвух бакоў. Гэта азначала адказ «не» на пытанне, ці мела месца заваяванне Беларусі Літвой, выкладзенае ў другой часцы загалоўка «Гісторыі аднаго міфа».

— Месцазнаходжанні гістарычнай і сучаснай Літвы не супадаюць[79]. Як спрабаваў давесці Ермаловіч, ядро гістарычнай Літвы знаходзілася на землях сучаснай Беларусі, а менавіта на захадзе, ахопліваючы сённяшнюю Гродзенскую і часткова Мінскую вобласці[80]. Больш таго, аўтар аспрэчваў пераемнасць паміж Вялікім Княствам і сучаснай Літвою, на чым настойвала савецкая гістарыяграфія, якая, як адзначыў эмігранцкі гісторык Ян Запруднік, «ігнаравала тэрміналагічныя разыходжанні паміж XX стагоддзем і сярэднявеччам, ігнаруючы навуку, калі тая супярэчыла ідэалогіі»[81].

М. Ермаловіч не збіраўся пісаць і распаўсюджваць свой нарыс падпольна. Наадварот, ён імкнуўся данесці свае ідэі якнайшырэйшаму колу чытачоў. У 1969 годзе ён нават спрабаваў аддаць рукапіс у «Полымя», але там яго друкаваць адмовіліся, спасылаючыся на іншы профіль выдання[82]. Таксама з нарысам азнаёміўся акадэмік і тагачасны дырэктар Інстытута мастацтвазнаўства,

---

дзімы, 1969). У хуткім часе беларуская эміграцыя дала адказ на ідэі Л. Абэцэдарскага. Гэта яшчэ раз даказвае, што абмен ідэямі, хаця і ў такой супярэчлівай форме, існаваў нягледзячы на жалезную заслону. Гл.: Урбан П. У сьвятле гістарычных фактаў (У сувязі з брашурай Абэцэдарскага). Мюнхен; Нью-Ёрк: БІНіМ, 1972. Падрабязны разбор беларускай савецкай гістарыяграфіі гл. у: Lindner R. Historiker und Herrschaft. S. 147–366. Некалькі прыкладаў крытычнага абмеркавання твораў Абэцэдарскага гл. у: Біч М. Канцэпцыя праўды // ЛіМ. 1989. 9 верас.; Грыцкевіч А. Прынцыпы і факты // ЛіМ. 1989. 29 верас.; Падокшын С. «Абэцэдаршчына»: развагі пра манапалізм у навуцы // ЛіМ. 1990. 8 чэрв. С. 13–14. У 1990 годзе гісторык і пісьменнік Уладзімір Арлоў раскрытыкаваў работы Л. Абэцэдарскага і яго падыход да выкладання і кіравання гістарычнымі даследаваннямі ў беларускім самвыдаце (Арлоў У. «Совершенно секретно», або Адзін у трох іпастасях. Нататкі няўдзячнага вучня // Ксэракс беларускі. 1990. № 1. С. 25–35). Station Становучае вытлумачэнне спадчыны Л. Абэцэдарскага ў Беларусі пасля 1994 года гл. у: Сташэўскі М. Лаўрэнці Абэцэдарскі: народжаны стаць гісторыкам // Беларуская думка. 2011. № 7. С. 60–65. URL: http://beldumka.belta.by/isfiles/000167_399195.pdf (дата звароту: 22.04.2016).

[79] Ермаловіч М. Дзе была Літва // Ермаловіч М. Па слядах аднаго міфа. С. 21–39.

[80] Там жа. С. 35.

[81] Запруднік Я. Беларусь. С. 89–90.

[82] «Мікола Ермаловіч — Мікалаю Улашчыку» // У пошуках летапіснае Літвы (З перапіскі) / публікацыя А. Каўкі // Скарыніч. 2010. № 8–9. С. 60. Пра адносіны Ермаловіча і Улашчыка гл. таксама: Сагановіч Г. Па слядах змагання з адным гістарычным міфам // Др. Марыя Паўліна Сурвіла (1964–2020): Даследчыца і адвакат беларускай культуры / уклад., прадм. З. Гімпелевіч. Мінск: Лімарыус, 2021. С. 165–174.

этнаграфіі і фальклёру АН БССР Пятро Глебка (1905–1969), які, аднак, устрымаўся ад уласнай ацэнкі твора, звярнуўшыся, у сваю чаргу, да аўтарытэтнага маскоўскага гісторыка беларускага паходжання Мікалая Улашчыка[83].

У сваім лісце да аўтара ад 15 лютага 1969 года М. Улашчык грунтоўна разглядае працу Ермаловіча і дае парады, якім чынам яе можна было б надрукаваць. Сярод парадаў — даслаць тэкст у Кіеў, ва «Український історичний журнал», ці разбіць тэкст на асобныя тэмы і паспрабаваць надрукаваць часткамі[84].

З цікавасцю адзываўся аб працы вядомы (а таксама і крытыкуемы за яго канцэпцыю) расійскі археолаг і гісторык Валянцін Сядоў (1924–2004)[85], ідэі якога аб балцкім субстраце ў этнагенезе беларусаў былі ўспрынятыя з вялікім энтузіязмам у колах беларускай нацыянальна арыентаванай інтэлігенцыі[86].

Ужо ў 1969 і 1972 гадах М. Ермаловіч апублікаваў два кароткія канферэнцыйныя дакументы, дзе фігуруюць некаторыя ідэі, сугучныя асноўным тэзам яго гістарычнага нарыса. Таксама яму ўдалося напісаць некалькі артыкулаў для Беларускай Савецкай Энцыклапедыі[87]. Аднак спробы апублікаваць усё даследаванне ў выглядзе манаграфіі праваліліся, нягледзячы на намаганні аўтара і яго добразычліўцаў.

Канцэпцыя была раскрытыкавана як нацыяналістычная. 30 кастрычніка 1974 года дырэктар Інстытута гісторыі АН БССР Іларыён Ігнаценка (1919–2002) выступіў з дакладам на нарадзе работнікаў кафедраў сацыяльна-эканамічных навук, дзе сярод іншага заявіў, што М. Ермаловіч паўтарае «нацыяналістычныя тэорыі, якія даўно ўжо адкінуты савецкай навукай»[88]. Цікава, што М. Ермаловіч так гэтую справу не пакінуў. У шэрагу лістоў на імя загадчыка па навуцы ЦК КПБ А. Караткевіча (таксама гісторыка па адукацыі) «настаўнік-пенсіянер» (як

[83] «Пятро Глебка — Мікалаю Улашчыку», ліст ад 27 студзеня 1969 года // У пошуках летапіснае Літвы (З перапіскі).

[84] «Шаноўны Мікалай Іванавіч», ліст М. Улашчыка да М. Ермаловіча ад 15.02.1969, с. 4 // БДАМЛМ. Ф. 444. Воп. 1. Спр. 157. Перапіска (паводле копій ліставання, якія захоўваюцца ў асабістым архіве А. Каўкі) надрукавана ў: У пошуках летапіснае Літвы (З перапіскі). С. 60–71.

[85] «Многоуважаемый Николай Иванович!» Ліст В. Сядова да М. Ермаловіча ад 11 красавіка 1970 года // БДАМЛМ. Ф. 444. Воп. 1. Спр. 155.

[86] Гл.: Седов В. В. К происхождению белорусов (Проблема балтского субстрата в этногенезе белорусов) // Советская этнография. 1967. Вып. 2. С. 112–129. Крытычны разгляд канцэпцыі В. Сядова гл., напрыкалад, у: Третьяков П. Н. Восточные славяне и балтийский субстрат // Советская этнография. 1967. № 4. С. 110–118.

[87] Где была летописная Литва? // Тезисы докладов к конференции по археологии Белоруссии. Минск, 1969. С. 232–233; Из истории Новогрудка // Беларускія старажытнасці. Мінск, 1972. С. 343–357; «Загадчыку Аддзела навукі ЦК КПБ тав7 [sic!] Караткевічу», с. 1. Ліст Міколы Ермаловіча ад 10 студзеня 1973 года // БДАМЛМ. Ф. 444. Воп. 1. Спр. 126.

[88] «Загадчыку Аддзела навукі ЦК КПБ тав7 [sic!] Караткевічу». С. 1.

аўтар сам сябе называў) скардзіцца на дырэктара Інстытута гісторыі АН БССР, даказваючы сваю правату і беспадстаўнасць абвінавачванняў у нацыяналізме[89].

Аднак нарыс так і не быў надрукаваны, ён распаўсюджваўся нелегальна цягам дваццаці гадоў, за якія ўплыў Ермаловічавых ідэй узмацніўся і пашырыўся сярод інтэлігенцыі. З іншага боку, Мікола Ермаловіч быў не першым і не адзіным, хто задумваўся над стварэннем альтэрнатыўнай гісторыі ВКЛ. Як даводзіць Г. Сагановіч, уплыў на М. Ермаловіча маглі аказаць даследаванні гісторыка літаратуры М. Прашковіча і гісторыка філасофіі Мікалая Алексютовіча (1921–1967)[90].

Нягледзячы на інтэнсіўнае пашырэнне работ М. Ермаловіча праз самвыдат (ягоны самвыдацкі перыёдык «Гутаркі» разглядаецца далей), яго дзейнасць наўрад ці магла быць упісаная ў рамкі класічнага разумення дысідэнцтва.

У 1970 годзе амаль адначасна з працай над нарысам «Па слядах аднаго міфа» ён выдаў даследаванне аб сувязях Уладзіміра Леніна з Беларуссю пад назвай «Дарагое беларусам імя»[91]. Таксама ім была падрыхтавана яшчэ адна праца (магчыма, што яна была першай, шырэйшай версіяй апошняй), названая «Пад іх сцягамі ідзе Беларусь» (не пазней за 1971), героямі якой былі, акрамя Леніна, Маркс і Энгельс і іх погляды на «беларускае пытанне»[92]. Нельга адназначна сказаць, ці гэтыя даследаванні былі вынікам шчырай цікаўнасці М. Ермаловіча да азначанай тэматыкі, спробамі разабрацца ў нацыянальным пытанні з пазіцыі класікаў марксізму-ленінізму, альбо яно было ўвасабленнем тактыкі, якую можна было б назваць «прасочваннем у партыйную сістэму», пра якую шмат распавядалі Зянон Пазьняк і Міхась Чарняўскі[93]. Згодна з апошняй, свядомая беларуская інтэлігенцыя заахвочвалася да супрацоўніцтва з партыйнай бюракратыяй і да ўступлення ў партыю, для таго каб пашырыць магчымасці ўплыву на культурную палітыку ў БССР.

Як было заўважана раней, М. Ермаловіч быў не першым і не адзіным даследчыкам, хто настойваў на пераглядзе дарэвалюцыйнай гісторыі Беларусі. І хоць прасачыць дакладную генеалогію і пераемнасць уяўляецца складаным, відавочна, што адхіленыя ў афіцыйнай гістарыяграфіі новыя ідэі (у тым ліку і аўтарства М. Ермаловіча) пступова пранікалі і ў афіцыйныя публікацыі. Ніжэй прапаноўваецца некалькі прыкладаў такой пераемнасці.

---

[89] «Загадчыку Аддзела навукі ЦК КПБ тав7 [sic!] Караткевічу». С. 1.

[90] Сагановіч Г. Па слядах змагання.

[91] Ермаловіч М. Дарагое беларусам імя. Аб сувязях Леніна з Беларуссю і дакументах, якія датычацца гэтых сувязей. Мінск: Бібліятэчка газеты «Голас Радзімы», 1970.

[92] Ермаловіч М. І. Пад іх сцягамі ідзе Беларусь: даследаванне, варыянт // БДАМЛМ. Ф. 444. Воп. 1. Спр. 21.

[93] Гл. напрыклад: Валеры Мазынскі, рэж. «І выберу Радзіму» (Міхась Чарняўскі), хв. 9–10. URL: https://belsat.eu/films/i-vyberu-radzimu-dak-film/ (дата звароту: 28.12.2010).

2

туце гісторыі і калі ў выніку гэтага не пацвердзіцца, што яны з"яўляюцца перапевам нацыяналістычных тэорый, то ў мяне папросяць прабачэння. Я згадзіўся на гэта. Аднак праходзілі месяцы, а мяне ніхто не выклікаў. Я гутарыў па гэтым пытанні з дырэктарам Інстытута тав.Петрыкавым і загадчыкам сектара тав.Шабуням. ~~Яны заявілі~~, што мае пытанне ~~яны~~ разгледзяць разам з абмеркаваннем манаграфіі "Беларускія землі ў складзе Вялікага княства Літоўскага", якая рыхтавалася Інстытутам. Некалькі разоў па маёй просьбе звяртаўся ў Інстытут і тав.Кузьмянкоў. Аднак гэта не дало ніякага выніку. Наколькі мне вядома, у лістападзе мінулага году ў Інстытуце было праведзена ~~абмеркаванне вышэй названай манаграфіі~~, але я туды не быў запрошаны.

Я таму і звяртаюся да Вас з просьбай указаць кіраўнікам Інстытута гісторыі на недапушчальнасць з іх боку такіх адносін да мяне. Я спадзяюся, што ўрэшце рэшты будзе наладжана абмеркаван[не] маіх артыкулаў.

М.І.Ермаловіч

29.П.1976

Г.Маладзечна, пр-кт Леніна, 74 А, кв.10, тэл.7-84-89.

*Ілюстрацыя 12. Фрагмент ліста М. Ермаловіча (з рукапіснымі праўкамі) да загадчыка аддзела навукі і навучальных установ ЦК КПБ А.Ц. Караткевіча, датаваны 29 лютага 1976 года. БДАМЛМ. Ф. 444. Воп. 1. Спр. 126. Арк. 19.*




*Ілюстрацыя 13. Вокладка нямецкамоўнага выдання «Зямлі пад белымі крыламі» У. Караткевіча, 1983 год.*

У сваёй «Зямлі пад белымі крыламі» Уладзімір Караткевіч асцярожна ўвёў беларускі фактар у гісторыю Вялікага Княства Літоўскага, а на вокладцы нямецкамоўнага выдання Караткевічавага нарыса пра гісторыю і сучаснасць Беларусі побач з фотаздымкам пасляваеннага Мінска быў размешчаны літоўскі герб «Пагоня»[94], перадрукаваны з Трэцяга статута ВКЛ 1588 года.

[94] Karatkewitsch U. Land unter weissen Flügeln: essai. Minsk: Junaztwa, 1983.

Паводле У. Караткевіча, літоўскае заваяванне протабеларускіх тэрыторыяў выглядала наступным чынам:

> Дальнабачныя людзі з Беларусі, якія прагнулі спакою і парадку для пашматаванай, абяскроўленай зямлі, не памыліліся. Нічога новага літоўцы не ўнеслі, акрамя жыццёва патрэбнай моцнай вярхоўнай улады, нічога не змянілі. Наадварот, праводзілі палітыку цярпімасці, асядалі на новай зямлі, жаніліся на славянках, прымалі хрысціянства. Ужо ў другім-трэцім пакаленні старабеларуская мова стала іх мовай, мовай суда, мовай дзяржаўных актаў.
>
> Яны, нешматлікія, растварыліся ў славянскім моры ва ўсіх мясцінах, куды прыйшлі. […] Як балгары прынеслі склавінам і антам толькі назву будучай дзяржавы, так і літоўцы, «Літва» — «Вялікае княства Літоўскае»[95].

Для У. Караткевіча гэта быў не адзіны выпадак, калі ён уступаў у спрэчкі пра спадчыну Вялікага Княства Літоўскага. Падаецца, яго рэпутацыя сярод уладаў як «беларускага нацыяналіста» была ў гэтым сэнсе небеспадстаўнай. У рамане «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» аўтар гаворыць вуснамі аднаго з галоўных герояў — Багдана Роскаша, збяднелага шляхціча, які пазней стае апосталам Тумашам. У кнізе Роскаш распавядае пра спрэчку са сваім феадалам Тадэем Квясткгайлам (гледзячы па ўсім, літоўцам):

— […] Вы з лясоў жмойскіх прыйшлі. Вы пісьма не ведалі, а Роскашы — карэнныя тутэйшыя […].

— Брэшаш. Мы вас заваявалі.

— Гэта мы вас заваявалі, — кажу. — На чыёй мове гаворыш, дзікун?!

Яму няма чым адказваць[96].

На пачатку 1988 года перагледжаная канцэпцыя ўтварэння ВКЛ ўжо адкрыта абмяркоўвалася ў часопісе «Полымя». У сваім артыкуле, прысвячаным гістарычнай фантастыцы ў Беларусі, празаік Кастусь Тарасаў таксама звяртаўся да нядаўняга павароту ў гістарыяграфіі:

> [Н]екалі Літва была не там, дзе сёння, а тое, што сёння называецца Літвой, раней называлася Аўкштотай і Жмуддзю, што «літвін» — ніяк не літовец, а беларус, што Вільня настолькі ж была сталіцай для Беларусі ў часы Вялікага княства Літоўскага, наколькі лічылася сталіцай і ў літоўцаў[97].

[95] Караткевіч У. Зямля пад белымі крыламі. С. 118–119.

[96] Караткевіч У. Хрыстос прызямліўся ў Гародні // Караткевіч У. Збор твораў: у 8 т. Мінск: Мастацкая літаратура, 1990. Т. 6. С. 114–115.

[97] Тарасаў К. Падзеі гісторыі і версіі літаратуры. Некалькі разваг над гістарычнай

К. Тарасаў таксама спасылаўся на ранейшае абмеркаванне, што адбылося ў 1987 годзе, пасля Ермаловічавай публікацыі па гісторыі Полацка ў «Маладосці». Спрэчкі пра гістарычную Літву працягваліся і ў іншых рэспубліканскіх перыядычных выданнях, у тым ліку ў «Звяздзе»[98].

Нягледзячы на непазбежнае скарачэнне і спрашчэнне тэзы, яе публікацыя даказвае, што яшчэ да пачатку перабудовы канцэпцыя М. Ермаловіча была вядомай для большасці беларускай інтэлігенцыі. Больш таго, гэтая спасылка сведчыць пра тое, што альтэрнатыўныя гістарычныя інтэрпрэтацыі распаўсюджваліся ў асяроддзі інтэлігенцыі і былі гатовыя да выхаду на паверхню.

Гістарычны нарыс «Па слядах аднаго міфа» быў афіцыйна апублікаваны ў выглядзе кнігі ў 1989 годзе. К таму часу ён ужо прыцягнуў шырокае кола чытачоў[99]. Наклад першага выдання склаў 6 000 асобнікаў. У 1991 годзе выйшла другое выданне, накладам у 11 000 асобнікаў. Усе яны былі хутка раскупленыя. Улічваючы заняпад афіцыйнага кнігадруку ў 1990–1991 гадах і элементарны недахоп паперы, лічбы былі даволі ўражвальнымі[100].

Ермаловічава даследаванне спрыяла пераасэнсаванню беларускай гісторыі і ў іншых пытаннях. Пачынаючы з канца 1980-х гадоў Вялікае Княства Літоўскае і Вільня/Вільнюс як яго сталіца былі паўторна ўнесеныя ў гісторыю Беларусі як яе арганічная частка.

Цярністыя шляхі беларускай гісторыі ў XX стагоддзі выклікáлі сярод бе-

прозай // Полымя. 1988. № 2. URL: http://www.tarasau.com/be_art_padzei_2.html (дата звароту: 14.12.2016).

[98] Звязда. 1987. 24 верас.

[99] Ермаловіч М. Па слядах аднаго міфа. Мінск: Навука і тэхніка, 1989. Канцэпцыя М. Ермаловіча прыцягнула шырокае кола чытачоў і ў 1990–2000-я гады. Далейшая яго бібліяграфія ўключае: «Старажытная Беларусь: Полацкі і Навагародскі перыяды» (Мінск: Мастацкая літаратура, 1990), «Старажытная Беларусь: Віленскі перыяд» (Мінск: Выдавецкі цэнтар «Бацькаўшчына», 1994) і пасмяротнае выданне «Беларуская дзяржава Вялікае Княства Літоўскае» (Мінск: Беллітфонд, 2000), часткова складзенае з ранейшых публікацый. Варта адзначыць, што ў канцы 1980-х — першай палове 1990-х гадоў былі папулярнымі не толькі яго работы — шырокае грамадскае прызнанне атрымаў і сам аўтар. У 1990 годзе М. Ермаловіч быў узнагароджаны медалём імя Францыска Скарыны, а ў 1992 годзе стаў лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь. У гэты час М. Ермаловіч быў вядомай і нават папулярнай постаццю, удзельнічаў у шматлікіх асветніцкіх і культурных мерапрыемствах. Напрыклад, у 1992 годзе ён выступіў з прамовай на зладжаных Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь фестывалі і адкрыцці музея і помніка Адаму Міцкевічу ў Наваградку. Гл.: Краўцэвіч А. Гэтай зямлі не хапае свята. Наваградак–Менск // ЛіМ. 1992. № 46. С. 16.

[100] Аб становішчы, у якім знаходзіліся дзяржаўныя выдавецтвы ў пачатку 1990-х гадоў, гл.: Шамякін І. На апошнім перагоне. С. 402–403, 410–411. У той час (1980–1992) Іван Шамякін займаў пасаду галоўнага рэдактара выдавецтва «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя».

ларускіх інтэлектуалаў спрэчкі аб «сапраўдным цэнтры» Беларусі. Такімі лічыліся і Мінск (Менск), і Вільня (Вільнюс), але выбар так і не стаў канчатковым. Цягам XIX і першай паловы XX стагоддзя Вільня (па-польску Wilno, па-руску Вильна, па-габрэйску Vilne, сёння літоўскі Вільнюс) была важным цэнтрам інтэлектуальнага жыцця для многіх паўстаючых нацыянальных эліт, у тым ліку і для беларускай. Аднак пасля Другой сусветнай вайны беларуская інтэлігенцыя, здаецца, прыняла межы, праведзеныя ў 1939 годзе Сталіным.

У пасляваенныя гады Вільнюс як частка беларускай спадчыны амаль знік з поля зроку большасці інтэлектуалаў Беларусі. Здавалася, што інтэлігенцыя адмовілая ад ідэі Вільні як беларускай сталіцы і прыняла літоўскую версію тапоніма — Вільнюс. Беларускае насельніцтва Вільні пачувалася забытым і адарваным ад Беларусі.

Публіцыстка і пісьменніца Зоська Верас скардзілася ў сваіх лістах на няведанне мінскай інтэлігенцыяй гісторыі і сучаснасці беларускай меншасці ў Вільні[101]. Жывучы ў Вільні з канца 1920-х гадоў, яна мела непасрэдныя веды пра змены ў адносінах.

Больш таго, знаходзячыся ў савецкай Беларусі, было практычна немагчыма знайсці згадкі пра Вільню і яе месца ў беларускай мінуўшчыне. Гісторык Алесь Смалянчук выказаў гэта так:

> Савецкія ўлады клапаціліся пра тое, каб адміністрацыйныя межы БССР не перасякаліся ні ў гістарычных даследаваннях, ні ў культурных праектах[102].

Як выглядае, успамінаць пра Вільню ў кантэксце беларускай гісторыі азначала рызыку быць абвінавачаным у «буржуазным нацыяналізме»[103]. Беларуская інтэлігенцыя ўстрымлівалася ад настальгіі па Вільні, асцерагаючыся такіх абвінавачванняў.

З пачаткам перабудовы роля горада ў беларускай культуры зноў павялічвалася. Кансерватызм кіраўніцтва БССР быў процілеглы нацыяналізму такіх літоўскіх камуністаў, як Альгірдас Бразаўскас[104]. Смеласць літоўскай прэсы пераважвала асцярожнасць, а часам і рэакцыйнасць беларускай. Там жа ў той час друкаваліся некаторыя з самвыдатаў — напрыклад, ужо згаданыя «Ксэракс беларускі», а таксама альманах сяброў таварыства «Тутэйшыя» — «Літаратура». У Вільні адбыліся першыя дэмакратычныя сустрэчы беларускай інтэлігенцыі — устаноўчы сход БНФ і другі Вальны сойм Канфедэрацыі беларускіх

[101] Верас З. Я помню ўсё. С. 125, 131–132, 141.

[102] Смалянчук А. Беларускія сімвалы Вільні. С. 4.

[103] Там жа.

[104] Альгірдас Бразаўскас (1932–2010), у 1977–1987 гадах — сакратар, у 1987–1989 гадах — Першы сакратар ЦК Кампартыі Літвы, у 1993–1998 гадах — прэзідэнт Літвы.

суполак[105]. І нарэшце, у 1991 годзе ў Вільні Сяргей Дубавец нанова распачаў выпуск «першай беларускай газеты» — «Наша ніва».

Даволі нечакана, у канцы 1980-х гадоў патрабаванні «вярнуць» Вільню ў Беларусь раптам чуліся не ад апалагетаў беларускага нацыяналізму, але ад кансерватыўных функцыянераў. Маючы намер не дазволіць абвясціць незалежнасць Літвы, камуністычныя лідары вырашылі шантажаваць літоўцаў «віленскім пытаннем». Інтэлігенцыя адразу адрэагавала пратэстам і асуджэннем.

Сёння відавочна, што нарыс «Па слядах аднаго міфа» не можа прэтэндаваць на званне паўнавартаснай і аб’ектыўнай навуковай работы. На думку пазнейшых крытыкаў яго канцэпцыі, М. Ермаловіч памыляўся ў некаторых сцвярджэннях і выкарыстоўваў у сваім даследаванні спрэчныя тэзы[106]. Аднак у гісторыі культурнага супраціву нарыс займае істотнае месца і як крыніца, і як гістарычнае сведчанне культурнага супраціву. Кніга ўяўляла сабою адно з рэдкіх даступных у канцы 1960-х — пачатку 1980-х гадоў аспрэчванняў савецкай гістарыяграфіі і давала надзею на нацыянальнае адраджэнне. Больш таго, яна прыскорыла і натхніла з’яўленне шэрагу больш дасканалых даследаванняў па гісторыі Вялікага Княства Літоўскага, напісаных наступнымі пакаленнямі гісторыкаў.

### 4.2.2. Першая палітычная праграма: «Положение в Белоруси»

47-старонкавая друкаваная брашура «Положение в Белоруси. 1974 год»[107] была напісаная гісторыкам мастацтва Зянонам Пазьняком, які ў далейшым стаў адным з самых вядомых палітыкаў канца 1980-х — 1990-х[108]. Ужыўшы

[105] Першы Вальны сойм Канфедэрацыі беларускіх суполак адбыўся 26–27 кастрычніка 1987 года ў БССР і быў афіцыйна падтрыманы Цэнтральным камітэтам Беларускага камсамола; другі сход, прызначаны на 20–21 жніўня 1988 года, ужо не меў падтрымкі і таму быў тэрмінова перанесены ў Вільню. На яго сабралася 263 дэлегатаў ад 43 патрыятычных арганізацый, сярод якіх 11 дэлегатаў ад БНФ «Адраджэнне»: Статыстыка сойму // Супольнасць. 1989. № 1. С. 8. FSO Gs. 156.

[106] Крытычныя публікацыі, прысвячаныя канцэпцыі М. Ермаловіча, з’явіліся ўжо ў пачатку 1990-х, адначасна з ростам яе папулярнасці на хвалі нацыянальнага адраджэння ў 1988–1994 гадах. Сярод крытыкаў былі як беларускія, так і замежныя гісторыкі. Адзначым некалькі: Краўцэвіч А. Стварэнне Вялікага Княства Літоўскага. Мінск: Беларуская навука, 1998; Gudavičius E. Following the Tracks of a Myth // Lithuanian Historical Studies 1996. № 1. P. 38–58; Семянчук Г. Мікола Ермаловіч (1931–2000) // Białoruskie Zeszyty Historyczne. Białystok, 2000. № 13. S. 195–202; Дзярновіч А. Пошукі Айчыны: «Літва» і «Русь» у сучаснай беларускай гістарыяграфіі // Палітычная сфера. 2012. № 1–2. С. 30–53.

[107] Ракутович Г. Положение в Белоруси // МНА. URL: http://vytoki.net/?docs=00017395 (дата звароту: 21.01.2016).

[108] У 1988 годзе, пасля публікацыі пра Курапаты (гл. падраздзел 4.5), З. Пазьняк стаў

псеўданім Генрых Ракутовіч, Пазьняк такім чынам адказваў на пераслед групы супрацоўнікаў АН БССР, так званага «Акадэмічнага асяродка», у 1974 годзе і заклікаў міжнародную супольнасць да салідарнасці:

> У нас, пишущих этот очерк, нет совершенно никаких связей с белорускglobalой эмиграцией и заграницей. Уничтожение нашей интеллигенции органами КГБ происходит в полном молчании. Если эти страницы попадут в руки наших братьев и единомышленников из других республик СССР, располагающих более широкими возможностями связи и информации, мы надеемся на их солидарность и помощь[109].

Брашура прызначалася для распаўсюду ў БССР і за яе межамі. Гэтым, а таксама, магчыма, памкненнем пазбегнуць чарговых абвінавачанняў у нацыяналізме і тлумачыцца ўжыванне рускай мовы[110].

З. Пазьняк быў адною з ахвяр праследу, а магчыма, што прычынай стаў якраз дадзены нарыс — спроба заступіцца за ўжо звольненых калег[111].

У 1975 годзе ён страціў пасаду навуковага супрацоўніка ў Інстытуце этнаграфіі Акадэміі навук БССР[112].

Тым не менш «Положение в Белоруси. 1974 год» не абмяжоўваецца толькі разборам падаўлення іншадумства ў Акадэміі навук. У сваім нарысе З. Пазьняк прадставіў рэалістычную карціну культурных, маральных і экалагічных катастроф, з якімі сутыкнулася савецкая Беларусь пасля амаль пяцідзесяці гадоў

лідарам нядаўна заснаванай арганізацыі «Мартыралог Беларусі», паралельна з якой быў утвораны Беларускі Народны Фронт, які першапачаткова меў назву «Беларускі Народны Фронт за перабудову "Адраджэнне"». Фронт быў чацвёртай арганізацыяй такога кшталту, заснаванай у СССР. Раней з'явіліся літоўскія «Саюдзіс» і народныя франты ў Латвіі ды Эстоніі. У канцы 1980-х — пачатку 1990-х гадоў БНФ стаў адною з наймацнейшых палітычных сіл, а сам З. Пазьняк быў адным з найвядомейшых грамадскіх дзеячаў тых часоў і кандыдатам на прэзідэнцкіх выбарах 1994 года. Да выгнання з Беларусі ў 1996 годзе ён публікаваўся і шырока выступаў з публічнымі прамовамі. Варта адзначыць, што, як паказвае аналіз гэтага самвыдату, многія палітычныя ідэі З. Пазьняка абапіраліся на яго ранейшыя ідэі, след якіх бачны яшчэ ў 1970-х. Разбор публічных зваротаў З. Пазьняка гл. у: Богдан С. Нацыянальна-дэмакратычны праект беларускай палітыкі па версіі Зянона Пазьняка, 1987–1995 // Палітычная сфера. 2010. № 14. С. 41–57.

[109] Ракутович Г. Положение в Белоруси. С. 0 [sic!].

[110] Згодна з каталогам «Нонканфармізм у Беларусі: 1953–1985», перадрукі і фотакопіі брашуры распаўсюджваліся ў Беларусі і за мяжою. Гл.: Нонканфармізм у Беларусі. С. 6.

[111] За гэты каментар дзякую Сяргею Навумчыку. Крыніца: перапіска аўтара з С. Навумчыкам 09.06.2021.

[112] Słownik dysydentów / Daniel A., Bieńkowska I., eds. S. 150.

савецкага кіравання. У тэксце разглядаецца шырокі абсяг праблем, пачынаючы ад сферы культуры і адукацыі, парушэнняў свабоды веравызнання ў БССР і антысемітызму і заканчваючы забруджваннем паветра, вады і зямлі.

Лейтматывам тэксту становіцца тэзіс пра народы як ўтварэнні [существа] маральныя і нацыянальныя[113]. У панятак маральнага пры гэтам аўтар укладвае найперш хрысціянскую мараль. Толькі на аснове свабоднага нацыянальнага развіцця, як ён сцвярджае, магчымае развіццё асобы і свету. Істотным з'яўляецца і пытанне асабістай і калектыўнай адказнасці, прызнанне сябе «саўдзельнікам у злачынстве». На ўвазе тут маюцца найперш злачынствы камуністычнай сістэмы. Гэтая тэза, аднак, не атрымала ў аўтара дастатковага развіцця. Раз за разам у тэксце ўзнікаюць абвінавачванні ў адрас расійскага шавініму і імперыялізму ў якіх заўгодна яго формах, а тэма адказнасці змяняецца рыторыкай ахвяры.

Пры чытанні тэксту таксама стае зразумела, што аўтар быў добра знаёмы і з міжнародным заканадаўствам у сферы правоў чалавека, якое з 1973 года СССР фармальна ўзяў абавязак выконваць[114]. Сачыў ён і за тагачаснымі дыскусіямі ў асяроддзі расійскай інтэлігенцыі. Гэты факт супярэчыць вобразу Беларусі як аддаленай ад значных шляхоў распаўсюджвання іншадумных ідэй, а таксама сведчыць пра тое, што насуперак намаганням цэнзуры словы і ідэі распаўсюджваліся дастаткова хутка. Якраз калі адбываліся допыты навуковых супрацоўнікаў АН БССР і З. Пазняк пісаў свой тэкст аб становішчы ў савецкай Беларусі, разгаралася палеміка паміж А. Салжаніцыным і А. Сахаравым. Нельга выключаць, што яна таксама сталася ўскоснай матывацыяй для напісання «Положения», ці, прынамсі, некаторых яго тэзаў.

А. Салжаніцын напісаў «Письмо к вождям Советского Союза» ў верасні 1973 года, аднак нейкі час яго змест заставаўся невядомым шырокім колам інтэлігенцыі[115]. У студзені 1974 года ліст перапраўляюць за мяжу і друкуюць у Парыжы асобнай брашурай. А. Сахараў піша свой адказ на ліст пісьменніка 3 красавіка 1974 года[116].

З. Пазьняк, як пазначана ў тэксце, падрыхтаваў свой нарыс у сакавіку–красавіку таго ж года. Паказальна, што ў завяршальнай частцы тэксту яго

---

[113] Ракутович Г. Положение в Белоруси. С. 44.

[114] Там жа. С. 27. Маецца на ўвазе Міжнародны пакт «Аб грамадзянскіх і палітычных правах» ад 16.12.1966, які быў ратыфікаваны ўказам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР 18 верасня 1973 года.

[115] Суровцева Е. А. И. Солженицын и А. Д. Сахаров: Дискуссия вокруг «Письма вождям Советского Союза» // Проблемы истории, филологии, культуры. 2014. № 14. С. 279.

[116] Гл.: Солженицын А. Письмо вождям Советского Союза. Paris: Ymca-Press, 1974. Сахаров А. «О письме Александра Солженицына «Вождям Советского Союза» // Тревога и надежда / сост. Е. Боннер. Москва: Интер-Версо, 1991. С. 63–72. Пра палеміку і адносіны паміж А. Сахаравым і А. Салжаніцыным гл.: Медведев Р. Солженицын и Сахаров. Москва: Права человека, 2002.

рыторыка ў адносінах да «маскоўскіх дэмакратаў» становіцца нашмат больш жорсткай[117].

Палеміка, якая азначала разыходжанне ў поглядах расійскай інтэлігенцыі, не задаволіла З. Пазьняка. Хаця і аддаючы належнае грамадзянскай мужнасці абодвух дысідэнтаў і несумненна ўсведамляючы мастацкую і палітычную значнасць твораў А. Салжаніцына, аўтар «Положения в Белоруси» сумняваўся ў гатоўнасці расійскай інтэлігенцыі прыняць свабоднае і самастойнае развіццё нярускіх народаў.

Шырокая перспектыва і ярка выражаны антыкамунізм вылучаюць голас Ракутовіча–Пазьняка з большасці твораў сучаснікаў, многія з якіх (асабліва так званае пакаленне 1960-х) аддавалі перавагу перабудове ў межах савецкай сістэмы[118]. У сярэдзіне 1970-х поўнае адмаўленне савецкай улады, адмова ад падмурка марксісцкай ідэалогіі і заклік да незалежнага развіцця савецкіх нацый, характэрныя для Пазьняковага твора, не былі распаўсюджаныя нават сярод дысідэнцкай інтэлігенцыі[119].

У БССР, як і ў іншых савецкіх нацыянальных рэспубліках, нацыянальная інтэлігенцыя арыентавалася галоўным чынам на пытанні мовы і культуры і, пазней, аўтаномнага развіцця. Барацьба за дэмакратыю і звяржэнне камуністычнага ладу тут, на першы погляд, аказвалася другасным пытаннем і падавалася як адказнасць маскоўскай інтэлігенцыі[120]. Аўтар такую пазіцыю тлумачыць,

---

117 Ракутович Г. Положение в Белоруси. С. 43, 45–46.

118 Параўн. з «Письмо русскому другу» — самвыдатам з савецкай Беларусі (London: The Association of Byelorussians in Great Britain, Ukrainian publishers limited, 1979) які апісваецца далей, і творам Івана Дзюбы «Інтернаціоналізм чи русифікація» (Київ: КМ Академія, 1998).

119 З. Пазьняк успамінаў, што ён быў крытычна настроены ў дачыненні да савецкага строю ўжо з дзяцінства, а ў студэнцкія гады, падчас вучобы ў Беларускім дзяржаўным тэатральным інстытуце на самым пачатку 1960-х гадоў разам мастаком Лявонам Баразною, марыў пра незалежнасць Беларусі. Гл.: Пазьняк З. Незалежнасьць (Да 25-годзьдзя Незалежнасьці Беларусі). Нью-Ёрк: Беларускае выдавецкае таварыства ў Амерыцы, 2016. С. 18.

120 Гл., напрыклад, довады Міхася Чарняўскага ў інтэрв'ю Сяргею Шапрану: Шапран С. Міхась Чарняўскі: «Нібыта мы зніклі з белага свету» // Новы Час. URL: http://novychas.info/asoba/michasj_carniauski_nibyta_my_z/ (дата звароту: 30.01.2013); аб выпадку Украіны гл. развažанні Людмілы Аляксеевай пра дыстанцыяванне Украінскай Хельсінкскай групы ад выпадкаў рэлігійнага пераследу, а таксама выпадкаў іншых парушэнняў правоў (за выключэннем права на нацыянальнае самавызначэнне) у: Алексеева Л. История инакомыслия в СССР. С. 30–31. У сваёй пазнейшай, часткова пабудавай на ўспамінах аповесці «Палын-палын...», прысвечанай нацыянальна арыентаваным колам інтэлігенцыі ў канцы 1960-х — пачатку 1970-х, З. Пазьняк проціпастаўляе гэту пазіцыю «незмагання» з камуністычным ладам «змаганню за нацыянальнае» (і супраць «расійскага імперыялізму») яшчэ больш радыкальна. Ён тлумачыць яго ўпэўненасцю, што камуністычны лад і савецкая дзяржава так ці інакш праз нейкі час павінны былі скончыць сваё існаванне. Гл.: Зянон «Палын-палын...:

па-першае, «зонай маўчання», якая ўзнікла вакол Беларусі, а па-другое — памкненнем да «канкрэтнай справы», «упартай працы» і «служэння свайму народу» замест «экстрэмісцкіх выбрыкаў», пад якімі ён, як падаецца, разумеў адкрытае супраціўленне[121]. Як вынікае з гэтага супрацьпастаўлення, З. Пазьняк (і магчыма, яго асяроддзе) ужо на той час дастаткова сур'ёзна разважалі над стратэгіямі (не)супрацiву. Разуменне ўлады як знешняй, інароднай, навязанай звонкі вызначала і адпаведныя тактыкі абыходжання з ёю.

У брашуры часта сустракаюцца рэзкія выпады супраць «расійскага імперыялізму» і антырасійскія настроі, што ў той форме, у якой яны выказваюцца, выклікаюць пытанні. Тым больш, што аўтар, мяркуючы па ўсім, шукаў салідарнасці і сярод рускамоўнай інтэлігенцыі.

Адначасова ў брашуры прапаноўваецца праграма дэмакратычнага развіцця для ўсіх савецкіх рэспублік. Адназначнае сцвярджэнне незалежнасці ўсіх нацый і народаў СССР стала не толькі найбольш значнай, але і самай здзіўляючай ідэяй выдання з улікам усеагульнай веры ў доўгую будучыню СССР[122].

У 1976 годзе аўтар «Положения в Белоруси» быў адноўлены ў Акадэміі навук, гэтым разам як навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі[123]. Уплыў і распаўсюджанасць тэксту ў часы яго напісання дакладна ацаніць складана. Несумненнай, аднак, з'яўляецца яго каштоўнасць як дакумента, які падрабязна адлюстроўваў перакананні і расчараванні інтэлігенцыі (больш дакладна, яе перакананa антысавецкай часткі), а таксама хібы і праблемы беларускага савецкага грамадства ў вельмі канкрэтны момант часу: у сярэдзіне — другой палове 1974 года.

Гэты тэкст — яскравы прыклад таго, як дэмакратычныя погляды могуць суседнічаць з радыкальным этнічным нацыяналізмам, а талерантнасць — з перадузятасцю да той ці іншай нацыі. У гэтым погляды аўтара «Положения в Белоруси» аказваюцца нечакана блізкімі да перакананняў крытыкуемага ім А. Салжаніцына.

Выкладзеныя ў тэксце палажэнні перагукаюцца як з пазнейшымі (пачынаючы з часоў перабудовы) артыкуламі З. Пазьняка, так і з палітычнай праграмай БНФ «Адраджэнне», і ў гэтым сэнсе разгляданы самвыдацкі тэкст займае істотнае месца ў культурнай і палітычнай гісторыі познесавецкай і постсавецкай Беларусі.

Беларускі раман з часоў савецкай акупацыі. Нью-Ёрк: Беларускае выдавецкае таварыства ў Амерыцы, 2016. Гл. таксама яго ж «Камунізм як форма рускага імперыялізму» (Нью-Ёрк: Беларускае выдавецкае таварыства ў Амерыцы, 2000).

[121] Ракутович Г. Положение в Белоруси. С. 22–23.

[122] Л. Аляксеева заўважала, што нават у 1983-м пытанне, ці праіснуе СССР да 1984 года, расцэньвалася як рытарычнае, а СССР падаваўся непарушным. (Алексеева Л. История инакомыслия в СССР. С. 382). Параўнайце таксама з: Амальрик А. Просуществует ли Советский Союз до 1984 года? Амстердам: Фонд им. Герцена, 1969.

[123] Андросік Л., Дзярновіч А. Пазьняк, Зянон // Дэмакратычная апазіцыя ў Беларусі. URL: http://www.slounik.org/153697.html (дата звароту: 20.11.2020).

### 4.2.3. Крытыка пісьменніцкай гільдыі: «Сказ пра Лысую гару»

Самы ўплывовы літаратурны самвыдат, «Сказ пра Лысую гару», з’явіўся ў Мінску ў 1971 годзе[124]. Ананімны аўтар адначасна разаслаў яго ў рэдакцыі вядучых літаратурных газет і часопісаў. Сучаснікі ўспрынялі «Сказ…» з вялікім захапленнем: ён набыў небывалую папулярнасць як у Беларусі, так і за мяжою. Тэкст ведалі і ў Кіеве, і ў Маскве, і сярод беларускіх эмігрантаў, ён быў нават перавыдадзены ў Польшчы і, у самым пачатку перабудовы, быў надрукаваны ў Нью-Ёрку[125]. Іншае непадцэнзурнае выданне з савецкай Беларусі — выдадзенае ў Лондане «Письмо русскому другу» — таксама цытавала яго, праўда, як прыклад народнай творчасці[126].

Адзін з сучаснікаў зазначаў:

> «Сказ пра Лысую гару» ведала не толькі ўся наша інтэлігенцыя, якая хоць трохі цікавілася беларускай справай, нацыянальнымі праблемамі. Яго чыталі, пераказвалі, цытавалі па памяці фразамі і цэлымі кавалкамі школьнікі і студэнты, малодшыя навуковыя супрацоўнікі і дактары навук ды акадэмікі, рабочыя розных прафесій і сяляне. Словам, самыя розныя людзі ад так званых звычайных абываталяў з Камароўкі да інтэлектуалаў вышэйшай пробы[127].

Сведкі аднагалосна пацвярджаюць каштоўнасць паэмы і яе ўплыў на чытача:

> Гэта была сенсацыя... Ніводзін твор, нават з самых выдатных, не меў такога хвалюючага, ажыятажнага запатрабавання, як паэма «Сказ пра Лысую гару», —

прызнаваў адзін з такіх галасоў[128].

Гратэскная паэма наследавала традыцыю знакамітых беларускамоўных твораў XIX стагоддзя ў гэтым жанры — «Тарас на Парнасе» і «Энеіда на-

---

[124] Некаторыя крытыкі, аднак, згадваюць пачатак 1972 года ці нават 1968 або 1969 год. Я абапіраюся на доказы аўтара, дадзеныя ў прадмове да першага падпісанага імем выдання ў 2003 годзе. Гл.: Гілевіч Н. Як быў напісаны «Сказ пра Лысую гару». Другое выданне з дадатковай главою распаўсюджвалася з 1975 года. Гл.: Дубавец С. Сказ пра Лысую гару // Вострая брама. Радыё «Свабода». URL: https://www.svaboda.org/a/24866960.html (дата звароту: 17.06.2021).

[125] Сказ пра Лысую гару. Роздум ля параднай брамы : ананімныя самавыдавецкія паэмы. Нью-Ёрк: Выдавецтва газеты «Беларус», 1985.

[126] Письмо русскому другу. С. 21–22.

[127] Бугаёў Д. Бляск сатырычнага слова // Крыніца. 1995. № 1–2. С. 20–28. Гл. таксама: Вячорка В. Будучая Бацькаўшчына — незалежная, некамуністычная, нetаталітарная // Улитёнок А. Іншадумцы. С. 199.

[128] Каваленка В. Гэта была сенсацыя... // Крыніца. 1995. № 1–2. С. 67.

выварат»[129]. У ёй дзёрзка і па-новаму была выяўленая постаць беларускага савецкага пісьменніка пачатку брэжнеўскага застою, яго (у той час беларускімі савецкімі пісьменнікамі былі пераважна мужчыны) фінансавыя цяжкасці, але і яго «крыху прывілеяванае» становішча ў сацыяльнай іерархіі[130]. Пастаянны творчы крызіс, ад якога пакутавалі пісьменнікі, алкагольная залежнасць і, не ў апошнюю чаргу, сялянская душа, якая імкнулася да ўласнага кавалка зямлі, якога пісьменнік быў пазбаўлены савецкай уладай, — усё гэта трапна апісана аўтарам паэмы[131].

Сюжэт паэмы будуецца вакол барацьбы пісьменнікаў за лецішчы — невялікія надзелы зямлі, якія выдзяляліся сябрам Саюза пісьменнікаў у сельскай мясцовасці пад Мінскам, на аднайменнай Лысай гары[132]. Як успамінаў адзін з уладальнікаў лецішча пісьменнік М. Герчык, падзел дачных дзялянак адбываўся вясной 1968 года[133]. Наступныя раздзелы прысвечаны ўладкаванню атрыманых дзялянак, якое суправаджаецца канкурэнцыяй, зайздрасцю і бясконцым ваганнем паміж прызнаннем першаснасці духоўнага і непазбежнасцю матэрыяльнага:

Дык як жа будзе з камунізмам, калі ўсе грады пабяруць?[134]

Непрымальная і таму амаль адсутная ў літаратуры (калі не браць да ўвагі негатыўныя прыклады «мяшчанства») для савецкага грамадзяніна заклапочанасць уласным і сямейным дабрабытам высмейваецца і ў самвыдатаўскай паэме. Здавалася б, гэта адбываецца цалкам у рэчышчы афіцыйнай ідэалогіі. І тым не менш гратэскна намаляваная ў ёй пагоня за лецішчамі, якая ахапіла асяроддзе творчай інтэлігенцыі, была больш чым толькі прымальнай крытыкай асобных яе заганаў. Культура, як заўважаў яшчэ ў 1969 годзе А. Амальрык, стала істотным складнікам існавання савецкага рэжыму[135]. Разладдзе і крызіс (няхай і перабольшаныя аўтарам) у творчым саюзе, справакаваныя ўварваннем быту ў сферу культуры, прымушаюць задаваць пытанні аб устойлівасці механізмаў яе функцыянавання.

---

[129] Конан У. Дасціпная паэтыка смеху // Гілевіч Н. Сказ пра Лысую гару. Мінск: Белфранс, 2003. С. 7.

[130] Стадольнік І. Сказ пра «Сказ». С. 57.

[131] Арабей Л. Загадка веку // Крыніца. 1995. № 1–2. С. 53.

[132] Афіцыйная назва паселішча — Кааператыў «Узгор'е-1». Пазней з'явілася таксама «Узгор'е-2». Марціновіч Д. Жарсці на Лысай гары. Гісторыі з жыцця беларускіх пісьменнікаў // Будзьма. URL: https://budzma.by/news/zharsci-na-lysay-hary-historyi-z-zhyccya-byelaruskikh-pismyennikaw.html (дата звароту: 17.06.2021).

[133] Гл.: Дубавец С. Сказ пра Лысую гару.

[134] Гілевіч Н. Сказ пра Лысую гару. С. 22.

[135] Амальрик А. Просуществует ли Советский Союз до 1984 года? С. 4.

Паэма звяртае ўвагу на тое, наколькі матэрыяльныя абмежаванні ўплываюць на жыццё і, адпаведна, творчасць паэтаў, крытыкаў і пісьменнікаў у час позняга сацыялізму. Апошнія, што істотна, паказаныя не ў момант натхнёнай творчай працы, а заспетыя за «непрывабнымі» будзённымі справамі, акружаныя «цешчамі», «жонкамі» і «дзецьмі». Такім чынам, творчасць аказваецца неаддзельнай ад паўсядзённасці, а творца — ад асяроддзя, у якім ён знаходзіцца. Гэтая непрывабнасць і, адначасова, усюдыіснасць савецкай будзённасці заўважная таксама і ў рамане У. Дамашэвіча «Камень з гары» (1990), напісаным прыкладна ў той жа час і, як і «Сказ...», упершыню выдадзеным падчас перабудовы[136].

Добра адлюстраваная ў паэме таксама іерархія пісьменніцкага цэха і разрыў паміж пакаленнямі. «Класікі» — старое, даваеннае пакаленне, не па чутках знаёмае з тэрорам 1930-х і маральна скампраметаванае пісаннем элегіяў І. Сталіну, — былі вельмі добра забяспечаныя матэрыяльна[137]. Да маладых пісьменнікаў пакалення адлігі камуністычная партыя ўжо не была такой шчодрай[138]. Яны былі больш смелыя — але, у тым ліку і з-за неабходнасці забяспечваць сябе і сям'ю, траплялі ў пастку выбару паміж якасцю і колькасцю, бескампраміснасцю і прыстасаваннем.

«Сказ пра Лысую гару» ўтрымлівае яшчэ адно важнае пытанне — як і ў якой ступені матэрыяльны дэфіцыт і/або прывілеі выбудоўвалі іерархію паміж інтэлігенцыяй і партыйнымі функцыянерамі, а таксама ўнутры самой інтэлігенцыі, прымаючы пад увагу існаванне «народных паэтаў» (размеркаванне прэмій гл. у табліцы 5).

Творчая інтэлігенцыя займала сярэдняе становішча на лесвіцы матэрыяльнага дабрабыту, маючы доступ да шэрагу прывілеяў, уключаючы магчымасці падарожжаў (у межах Усходняга блока), адпачынку і побытавых умоў. Аднак гэты доступ часта трэба было выпрошваць і зарабляць паслугамі «партыі і народу». У гэтым плане паэма ёсць нонканфармісцкай не толькі дзякуючы сваёй ананімнасці і падпольнаму распаўсюду: яна мецiла ў аснову савецкага кiравання, крытыкуючы і высмейваючы становішча савецкай інтэлігенцыі.

Наступны прыклад дазваляе праілюстраваць барацьбу інтэлігенцыі за выгоды.

---

[136] Дамашэвіч У. Камень з гары. Мінск: Мастацкая літаратура, 1990.

[137] Гілевіч Н. Сказ пра Лысую гару. С. 22.

[138] Пра шчодрасць камуністычнай партыі і дабрабыт савецкіх пісьменнікаў у сталінскія часы гл. таксама: Козлова Н. Согласие, или Общая игра (Методологические размышления о литературе и власти) // НЛО. 1999. № 6. URL: https://magazines.gorky.media/nlo/1999/6/soglasie-ili-obshhaya-igra.html (дата звароту: 18.06.2021). М. Танк успамінаў раскошу банкету ў гонар 35-годдзя творчасці Я. Купалы падчас вайны. Гл.: Дранько-Майсюк Л. …Натуральны, як лінія небасхілу. С. 27–28.

Прыблізна ў той час, калі распаўсюджвалася ананімная паэма, адзін з яе герояў, галоўны рэдактар штотыднёвіка «ЛіМ», паэт і перакладчык Хведар Жычка (1927–2007) правёў два гады, звяртаючыся да розных узроўняў улады, каб усталяваць тэлефонную сувязь у сваёй прыватнай кватэры[139]. Праз два гады ён напісаў тагачаснаму першаму намесніку старшыні Саюза пісьменнікаў БССР і старшыні Вярхоўнага Савета БССР Івану Шамякіну, які быў яго апошняй надзеяй. Як паясняў Хв. Жычка:

> Тэлефон на кватэры патрэбен не для асабістых патрэб, а для сувязі з кіраўнікамі тых устаноў, органамі якіх з'яўляецца газета «ЛіМ», — Саюза пісьменнікаў і Міністэрства культуры БССР[140].

На жаль, аўтарцы невядома, чым скончылася гісторыя з тэлефонам. Хучэй за ўсё, ён быў нарэшце ўсталяваны. Паказальны, аднак, узровень бытавых праблемаў, з якімі даводзілася змагацца ніжэйшаму і сярэдняму звёнам творчай інтэлігенцыі.

Аўтарства паэмы доўгі час заставалася невядомым. Толькі ў 2003 годзе народны паэт Ніл Гілевіч перавыдаў кнігу пад сваім імем і, такім чынам, быў прызнаны яе аўтарам. Постаць Н. Гілевіча выяўляе неадназначнасць пазіцыі інтэлігенцыі і супярэчлівасць выразнага падзелу яе на дысідэнтаў і тых, хто так ці інакш працаваў на савецкую ўладу. Будучы першым сакратаром праўлення Саюза пісьменнікаў БССР (у 1980–1989 гадах) і сакратаром Саюза пісьменнікаў СССР (у 1981–1991 гадах), тыповым сістэмным функцыянерам і камуністам, з аднаго боку, з іншага — ён заставаўся заўзятым (яўным і таемным) падтрымальнікам беларускай мовы[141]. Так, напрыклад, у якасці функцыянера Н. Гілевіч выступіў з прамовай на VIII з'ездзе Саюза пісьменнікаў СССР у чэрвені 1986 года. З аднаго боку, выступ быў у савецкай абвінавальнай мане-

[139] Гілевіч Н. Сказ пра Лысую гару. С. 32.

[140] Ліст Хведара Жычкі Івану Шамякіну, 1975 года, апублікаваны ў «Звяздзе» 26 ліпеня 2016 года URL: http://zviazda.by/be/news/20160726/1469540749-litaratura-i-zhytstsyo-u-perapiscy-ivana-shamyakina (дата звароту: 15.09.2016).

[141] У 1989 годзе Н. Гілевіч стаў старшынёй толькі заснаванага Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны. У 1990 годзе ён узначальваў камісію Вярхоўнага Савета БССР па адукацыі, культуры і гістарычнай спадчыне. Камісія вяла абмеркаванне і прыняцце закона «Мовы ў БССР», згодна з артыкулам 2 якога беларуская мова стала адзінай дзяржаўнай мовай БССР (з 25 жніўня 1991 года — Рэспубліка Беларусь). Закон, як вядома, быў зменены яшчэ раз пасля рэферэндуму 14 траўня 1995 года, што адбыўся па ініцыятыве прэзідэнта Лукашэнкі. У адпаведнасці з вынікамі рэферэндуму руская мова атрымала такі ж статус дзяржаўнай мовы, як і беларуская.

ры, а з іншага — утрымліваў смелыя разважанні пра неабходнасць перагляду палітыкі нацыянальнасцяў у СССР[142].

Асцярожныя заклікі на карысць роднай мовы заўсёды былі адной з асноўных тэмаў паэтычных кніг Н. Гілевіча. Да тэмы мовы звяртаецца ён і ў сваёй самвыдацкай паэме. Занядбанне мовы, як даводзіць аўтар, адбылося ў выніку заняпаду творчай інтэлігенцыі, якая трапіла ў вір штодзённых патрэб, успрымала мову толькі як прыладу і, нарэшце, адмовілася ад свайго паклікання[143].

Як і паўсюль у СССР, многія прадстаўнікі літаратурнай і мастацкай інтэлігенцыі, з'яўляючыся сябрамі КПСС, адначасна выконвалі ролю пасрэднікаў паміж дазволеным і недазволеным, балансуючы на тонкай мяжы незабароненнага, і, такім чынам, маглі ўводзіць у афіцыйны дыскурс спрэчныя пытанні. У БССР з яго заахвочваннем да знешняга канфармізму сярод інтэлігенцыі гэтая дваістасць супрацы на афіцыйным узроўні і ўнутранага пратэсту стала, напэўна, найбольш характэрнай.

Не будучы «антысавецкім», «Сказ...», тым не менш, не ўпісваўся ў межы афіцыйна дазволенай літаратуры. Ён не толькі ўтрымліваў вострую крытыку інтэлігенцыі, але і падводзіў да высновы, што стан, у якім тая знаходзілася, не быў простым адхіленнем некаторых ідывідуумаў пасярод дабрадзейнага калектыўнага адзінства. Творчая інтэлігенцыя і культура ўвогуле былі занадта істотным складнікам савецкага грамадства.

Упершыню паэма афіцыйна была надрукаваная толькі ў 1988 годзе[144]. Наклад першага выдання склаў 30 000, другога — 100 000 асобнікаў. Абодва наклады былі распрададзеныя практычна адразу. «Такіх накладаў не было нават у рускамоўных кніг», — адзначаў паэт Іван Стадольнік[145]. Самвыдацкая паэма стала адным з рэдкіх беларускіх літаратурных твораў позняга савецкага перыяду, якія маглі супернічаць з рускамоўнай літаратурай.

Першая публікацыя паэмы супала па часе са з'яўленнем новага пакалення ў літаратуры — пакалення «Тутэйшых», якое характэрна ўзялося і за звяржэнне аўтарытэтаў. Адным з абвінавачванняў у адрас «старэйшых» пісьменнікаў была іх залежнасць ад даброт аў, звязаных са статусам пісьменніка ў савецкім грамадстве[146]. Такім чынам, актуальнасць узнятых Н. Гілевічам пытанняў пацвердзілася ў другой палове 1980-х, а вастрыня іх толькі ўзмацнілася з агульным крызісам савецкага грамадства. Маладое пакаленне аўтараў настойвала на недапушчальнасці нагляду дзяржавы над інтэлігенцыяй і залежнасці апошняй ад партыі і кіраўніцтва Саюза пісьменнікаў. Такім чынам, гратэскны карнавальны смех з прадажнай і не-

[142] Гл.: Найпершы клопат душы і сэрца: выступленне Ніла Гілевіча // ЛіМ. 1986. 11 ліп. С. 1–2.

[143] Гілевіч Н. Сказ пра Лысую гару. С. 39, 65–66.

[144] Лысагорскі В. Сказ пра Лысую гару: паэма. Мінск: Выдавецтва ЦК КПБ, 1988.

[145] Стадольнік І. Сказ пра «Сказ» // Крыніца. 1995. № 1–2. С. 57.

[146] Прыкарытнікі // Кантроль. 1989. № 1(2). С. 4.

разборлівай пісьменніцкай клікі набыў новы сэнс і выбухнуў рэхам новых вострых ананімных вершаў у канцы 1980-х — пачатку 1990-х гадоў, што так ці інакш сцвярджалі сваю пераемнасць са «Сказам...»[147].

«Сказ пра Лысую гару» быў вядомы і папулярны сярод інтэлігенцыі ў Беларусі і за яе межамі і прыцягваў увагу да сябе таксама пасля распаду СССР, тым больш што праблема адносінаў паміж інтэлігенцыяй і ўладай не страціла сваёй актуальнасці.

## 4.3. САМВЫДАЦКІЯ ЧАСОПІСЫ

### 4.3.1. Першыя спробы перыядычнага друку: «Блакітны ліхтар», «Мілавіца», «Гутаркі»

Першы рукапісны перыядычны самвыдат — «Блакітны ліхтар»[148] — выпускаўся ў 1971–1974 гадах (усяго 15 нумароў) у нядаўна збудаваным і імкліва растучым горадзе Наваполацку, які ў згаданы перыяд налічваў каля 50 000 жыхароў. Заснаваны ў 1958 годзе, горад вырас вакол нафтаперапрацоўчага завода, прыцягваючы рабочых з усяго Савецкага Саюза. Насельніцтва Наваполацка было шматэтнічным і ў сваёй пераважнай большасці рускамоўным. Яно было аддаленым ад сялянскага побыту і мясцовых традыцый нават больш, чым жыхары іншых гарадоў.

Менавіта ў гэтым, адным з самых «небеларускіх» гарадоў БССР і з'явілася першае нелегальнае перыядычнае выданне на беларускай мове. Нетрадыцыйнай была і асоба рэдактара «Блакітнага ліхтара» Віктара Мудрова (нар. у 1958) — будучы сынам расійскага афіцэра, ён вырас у выбітнага дысідэнта і заўзятага прыхільніка беларускай культуры, а пазней беларускамоўнага аўтара і публіцыста Вінцэся Мудрова[149].

В. Мудроў заснаваў «Блакітны ліхтар» разам са сваімі аднакурснікамі з Полацкага політэхнічнага інстытута Валерыем Шлыкавым і Анатолем Рыбікавым. Пазней рэдакцыя папоўнілася іх малодшымі школьнымі таварышамі — Уладзімірам Арловым і Генадзем Кулажанкам. У 1974 годзе аўтарам давялося спыніць выпуск пасля «прафілактычных размоў з КДБ». Увесь наклад быў канфіскаваны і дасюль застаецца недаступным для даследчыкаў[150].

---

[147] Гл.: напрыклад: Лысагорскі В. (Меншы). Сказ пра Яфрэма Сакалова і тайную вячэру. Мінск: Беларускі Дом друку, 1993.

[148] Існуе меркаванне, што ў 1963–1964 гадах будучы рэдактар «Гутарак» Мікола Ермаловіч выдаваў рукапісны часопіс «Падснежнік» (выйшла ўсяго чатыры нумары). Аднак, наколькі нам вядома, часопіс не захаваўся.

[149] Як успамінаў У. Арлоў, яшчэ ў школьныя гады В. Мудрова апісвалі як выключную асобу, «несавецкага чалавека». Гл.: Арлоў У. Полацкі вецер (частка 1). С. 266.

[150] У. Арлоў выказаў здагадку, што ўсе 15 нумароў «Блакітнага ліхтара» былі канфіскаваныя КДБ у 1974 годзе і дасюль захоўваюцца там, але ўсе спробы аўтараў атрымаць копіі з архіваў КДБ былі беспаспяховымі. Ён таксама дае некаторае ўяўленне пра змест перыядычнага выдання ў сваіх успамінах, паводле якіх часопіс не

У 1974–1976 гадах У. Арлоў і Г. Кулажанка, будучы студэнтамі гістфака БДУ, распачалі іншы перыядычны самвыдат — «Мілавіца»[151]. Да іх далучыліся Ігар Чарняўскі і некаторыя іншыя. Усяго было выпушчана сем нумароў часопіса[152]. У Арлова захаваўся трэці нумар[153], які налічвае дваццаць пяць друкаваных старонак, добра афармленых І. Чарняўскім. У ім была падборка ўзораў ранняга студэнцкага, яшчэ даволі наіўнага пісьма У. Арлова, Г. Кулажанкі, І. Чарняўскага, Эдварда Зайкоўскага і Сяргея Кавалёва, а таксама сатырычная хроніка жыцця студэнцкай грамады. Хоць, па словах Арлова, часопіс шырока чытаўся студэнтамі суседніх універсітэтаў, імёны аўтараў заставаліся адкрытымі і не хаваліся пад псеўданімамі[154]. Незразумела, ці была такая адкрытасць вынікам свядомай адмовы ад прынцыпаў падпольнай дзейнасці (у процілегласць поўнай сакрэтнасці дзяржавы і кантрольных ведамстваў), або проста сведчыла аб бесклапотнасці маладых выдаўцоў[155].

Хоць аўтары «Мілавіцы» не выказвалі выразнага палітычнага пратэсту, яны, тым не менш, дазвалялі сабе разнастайныя смелыя праявы культурнай нязгоды. Гэта стае асабліва яўным, калі ўлічыць, што к 1970-м гадам, паводле У. Арлова, на гістарычным факультэце Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта не заставалася нічога беларускага, акрамя назвы[156].

Напрыклад, у кароткай паэме Э. Зайкоўскага гаворыцца пра вуліцы старога Мінска, якія знішчаліся ўладамі ў той самы час[157]. Іншыя тэксты былі прызнаннямі ў любові да беларускай культуры, выказанымі ў беларускамоўнай лірыцы, папярэджаннямі супраць ядзернай энергетыкі[158],

---

ўтрымліваў антысавецкай інфармацыі, а проста выходзіў па-беларуску. Па словах Арлова, у «Блакітным ліхтары» былі як крытычныя заўвагі адносна тагачаснага статусу беларуса, так і іранічныя вершы пра становішча маладога інтэлігента ў савецкім грамадстве — як, напрыклад, радкі Мудрова «Парыж ня бачыў я ніколі. І ад таго чарніла піў...». Гл.: Арлоў У. Полацкі вецер (частка 2). С. 274.

[151] «Мілавіца» — традыцыйная народная назва планеты Венера, якую часта называлі зоркай. Самы вядомы паэтычны прыклад — верш Максіма Багдановіча «Зорка Венера», які, хутчэй за ўсё, добра ведалі і цанілі выдаўцы «Мілавіцы». Варта адзначыць, што як слова або паэтычны сімвал Мілавіца ўжывалася і ў тагачасных афіцыйных выданнях. Гл., напрыклад Федзюковіч М. Мілавіца. Мінск, 1971.

[152] 1974: 1–2. 1975: 3–5. 1976: 6–7). Гл.: «Мілавіца». URL: http://vytoki.net/?docs=00004986 (дата звароту: 04.06.2015).

[153] Цяпер яго лічбавая версія даступная ў сеціве: Мілавіца. 1975. № 3. URL: http://vytoki.net/content/MILAVITSA.pdf (дата звароту: 04.06.2015).

[154] Арлоў У. Полацкі вецер (частка 2). С. 275.

[155] Больш пра устаноўку на адкрытасць у актыўнасці дысідэнтскіх і праваабарончых арганізацыяў у СССР у 1960–1980-я гг. гл.: Horvath R. The Legacy of Soviet Dissent. P. 64–69.

[156] Арлоў У. Полацкі вецер (частка 1). С. 267–268.

[157] Зайкоўскі Э. У вузенькіх вулках старага Мінска // Мілавіца. 1975. № 3. С. 13.

[158] Кавалёў С. Солнца красного диск — свет багровой крови // Мілавіца. 1975. № 3. С. 16.

насмешлівымі спробамі абвясціць «Саюз пісьменнікаў “Мілавіцы”» ці маніфестам «Клуба аматараў піва» — усе яны, безумоўна, перасягалі рамкі канфармісцкай культурнай вытворчасці.

Што датычыць «Клубу аматараў піва» — паводле Эн Камаромі, інтэлігенцыя, як ні дзіўна, часта ўспрымала ўжыванне алкаголю як жэст асабістай ды інтэлектуальнай аўтаноміі, калі на кароткі момант грамадскія абмежаванні і абмежаванні свабоды ставалі нязначнымі і лёгкаадольнымі[159].

Асобнай увагі патрабуе таксама штотыднёвы самвыдацкі лісток «Гутаркі», які выдаваўся ў 1975–1976 гадах (усяго 53 нумары)[160]. Іх выдаўцом быў Мікола Ермаловіч, гістарычны нарыс якога абмяркоўваўся вышэй, ён жа выступаў і ў ролі аўтара. «Гутаркі» ў дэталях задакументавалі атмасферу другой паловы 1970-х — прыцемкаў брэжнеўскага застою ў савецкай Беларусі.

Хоць храналагічна лісток выдаваўся амаль адначасна з «Мілавіцай», ён прадстаўляе іншы тып самвыдату, выдаваны не студэнтамі ці маладымі актывістамі, а дарослым дысідэнтам, які адзін выконваў задачу цэлага падпольнага выдавецтва. Памнажаць і распаўсюджваць лісткі М. Ермаловічу дапамагаў мастак Я. Кулік[161].

М. Ермаловіч, якому ў той час было за сорак, стаў асаблівым аўтсайдарам у савецкай сістэме: з-за праблем са здароўем ён не змог працаваць «на карысць грамадства» і мусіў датэрмінова сысці на пенсію. Парадаксальным чынам, такая маргіналізацыя надзяліла яго перавагай асабістай ды інтэлектуальнай свабоды, ратуючы ад рызыкі быць абвінавачаным у дармаедстве, як гэта адбывалася з многімі іншымі[162]. Хаваючыся пад псеўданімам Сымон Беларус, Мікола Ермаловіч працягваў у сваіх самвыдатаўскіх лістках традыцыю жанра гутарак беларускай літаратуры. Наследаваў ён таксама і самай знакамітай публікацыі XIX стагоддзя ў гэтым жанры — «Мужыцкай праўдзе» Кастуся Каліноўскага.

Сярод праблем беларускага савецкага грамадства, якія прыцягвалі ўвагу аўтара, былі бюракратызацыя, распешчанасць палітычных эліт, катастрафіч-

---

[159] Эн Камаромі аналізуе суадносіны паміж «пошукам аўтаноміі» ды спажываннем алкаголю на прыкладзе маскоўскіх станцый Венядзікта Ерафеева («Москва-Петушки», 1969). Komaromi, Uncensored, 1.

[160] «Гутаркі» выдаваліся ўсяго год — з 14 лістапада 1975 года па 13 лістапада 1976 года. Колькасць нумароў вядомая з-за паслядоўнасці іх нумарацыі. На гэты час, аднак, сабрана толькі 40 нумароў. Найпаўнейшы збор захоўваецца ў БДАМЛМ, у прыватным фондзе Міколы Ермаловіча (Ф. 444).

[161] Дзярновіч А. Ермаловіч, Мікола // Дэмакратычная апазіцыя Беларусі. URL: http://www.slounik.org/153680.html (дата звароту: 18.08.2021).

[162] Добра вядомы выпадак маладога паэта і будучага лаўрэата Нобелеўскай прэміі Іосіфа Бродскага ў 1965 годзе. Матэрыялы судовых працэдур былі перапісаныя Фрыдай Вігдаравай у «Белой книге». Гл.: Эткинд Е. Записи суда над Иосифом Бродским, сделанные Ф. А. Вигдоровой // Самиздат века. С. 79–94.



АД СЭРЦА.

Хто з Вас,паважаныя чытачы,не пІў пІва? Яго любяць усе.Ця
сабе,як бы мы жылІ без пІва. Нездарма пІва займае так
месца вакол нас.Гэта І творчасць ЛІтаратараў:

Сэрца маё гарачае,
Згарыш ад жыцця,няйначай.
Хаваць цябе не бяруся-
ПамерцІ без пІва баюся.

Гэта прымаўкІ,якІя народ нёс у сэрцы стагодзІ:"РыбакІ лав
а злавІлІ рака...-/Безумоўна пІва рыхтавалІся пІць./
Вобраз пІва знайшоў адлюстраванне І ў народных прыкмет
пІва там І Г.Кулажанка".І новы аўтамабІль названы у гонар
"ЖыгулІ".ПІце пІва,паважаныя таварышы,яно не падвядзе!

СА СЛОЎНІКА ЛІТАРАТАРА.

ДаследваннямІ тэарэтыка І гІсторыка пІваІзма Юрася Банда
высветлена,што пІсьменнІкУладзя Арлоў ужывае ў сваёй твор
звыш ста памяншальна-пяшчотных сІнонІмаў да слова пІва.Ся
"ПІвушка зяленае","ЛІдскае" І"пойдзем вочы зальем".
Багатая І шматгранная мова УладзІ.

ЗНОЎ ПРА ПІВА.

4"ЛАДА"-новы гатунак"ЖЫГУЛЕЎ".

НА КОЖНЫМ КІЛАМЕТРЫ.

Нядаўна рэдакцыя 4МІЛАВІЦЫ"наведала з сяброўскІм вІзІтам
На кажным кІламетры з вокнаў цягнІка ляцелІ бутэлькІ з-па



*Ілюстрацыя 14. Старонка «Мілавіцы» (1975. № 3), жартаўліва прысвечаная піву (ужыванне гэта напою было своеасаблівай праявай студэнцкай свабоды). Унізе старонкі: фатаграфіі выдаўцоў на фоне Гедымінавай вежы ў Вільні. Уладзімір (Уладзя) Арлоў справа. www.vytoki.net. З ласкі Уладзіміра Арлова.*

ны стан мясцовай сельскай гаспадаркі (калгасаў), экалагічныя праблемы і дэградацыя культуры. Апошнюю аўтар тлумачыў няведаннем беларускай дарэвалюцыйнай гісторыі і заняпадам беларускай мовы. Ідэі, якія складаюць сутнасць «Гутарак», выяўляюць аўтараву прыхільнасць да ідэй беларускага адраджэння пачатку дваццатага стагоддзя. М. Ермаловіч прыкладаў намаганні для выхавання і асветы грамадства і лічыў гэта місіяй беларускай інтэлігенцыі:

> Народ будзе дагэтуль сляпым, пакуль не будзе мець сваёй інтэлігенцыі, бо яна — вочы народа. Гэта ў першую чаргу справядліва для беларускай інтэлігенцыі[163].

Адначасна М. Ермаловіч застаўся ў межах традыцыі наракаць на прыгнёт, пракляты лёс і пакуты беларусаў, якіх ён лічыў «найбольш прыгнечанымі і нацыянальна адсталымі ў краіне» [СССР]. Разам з тым ён шанаваў мудрасць беларускага народа і яго блізкасць да зямлі. Такая сацыяльная арыентацыя, як падаецца, было ўспадкаваная ад Беларускай сацыялістычнай грамады і «Нашай Нівы». Акрамя таго, уважнае чытанне самвыдацкіх тэкстаў сведчыць і аб частковым уплыве савецкага гістарычнага дыскурсу на ўяўленні беларускай інтэлігенцыі[164].

Ермаловічавы заангажаванасць і адсутнасць прафесійнай гістарычнай падрыхтоўкі маглі даваць падставы для абвінавачвання яго гістарычных даследванняў, такіх, як «Па слядах аднаго міфа», у дылетанцтве. У «Гутарках» жа М. Ермаловіч, будучы чалавекам з глыбокімі ведамі, здаецца значна больш пераканаўчым, выступаючы са сваім бачаннем не як гісторык, а як прадстаўнік нацыянальнай інтэлігенцыі[165]. Больш таго, тонкая і дасціпная крытыка бюракратычнай сістэмы СССР і яе эканамічнай і палітычнай няўстойлівасці разам з глыбокім разуменнем клопатаў і патрэб народа зрабіла яго кароткія нарысы выражэннем ідэй і праблем значнай часткі грамадства.

У адрозненне ад узрастаючай папулярнасці Ермаловічавых кніг пасля перабудовы, «Гутаркі» прыцягнулі толькі нязначную ўвагу[166]. Поўны збор з’явіўся ў постсавецкай Беларусі толькі аднойчы, у 2007 годзе, у альманаху гістарыч-

[163] Ермаловіч М. Гутарка: Інтэлігенцыя — вочы народа. 1976. 5 сак. № 10 (17) // Яго чакала Беларусь / уклад. А. Белы, А. Валахановіч. С. 205.

[164] Разгледзьма, напрыклад, Купалаў верш «А хто там ідзе?» (1905–1907). Аплакванне «няшчаснага лёсу беларусаў» стала адною з галоўных тэм як дарэвалюцыйнай, так і савецкай беларускай літаратуры.

[165] М. Ермаловіч прызнаў гэта сам у сваім пасляслоўі да «Гутарак», напісаным у 1994 годзе. Гл.: Ермаловіч М. Пасляслоўе да «Гутарак» // Яго чакала Беларусь / уклад. А. Белы, А. Валахановіч. С. 242.

[166] «Гутаркі» былі часткова выдадзеныя ў часопісе «Зрок» (1994. № 9). М. Ермаловіч напісаў да іх кароткае пасляслоўе.

нага клуба «Спадчына», прысвячаным пасмяротнаму святкаванню 85-годдзя М. Ермаловіча[167].

#### 4.3.2. Самвыдацкія часопісы ў 1980-х гадах: «Люстра дзён»

У адрозненне ад адкрытасці «Мілавіцы», іншы перыядычны часопіс, «Люстра дзён», пісаўся і друкаваўся ва ўмовах строгай канспірацыі. Яго назва была даволі нетыповай для мовы савецкай беларускай літаратуры пачатку 1980-х. Хутчэй за ўсё, яна ёсць адсылкай да аднайменнага цыкла аповесцяў «Люстрадзён» (у адно слова) Максіма Гарэцкага. М. Гарэцкі распачаў цыкл у 1929 годзе, ужо зведаўшы жорсткую цэнзуру і заўважыўшы згортванне афіцыйнай палітыкі беларусізацыі. У 1928 годзе Галоўліт не ўхваліў выданне зборніка яго аповесцяў.

У новым цыкле М. Гарэцкі трапна высмейвае савецкую бюракратыю, цэнзуру і часы, якія іх спарадзілі[168]. Вядома ж, такое больш нельга было друкаваць у савецкай Беларусі ні ў канцы 1920-х, ні пасля. Падобным чынам, некалькі іншых твораў М. Гарэцкага, у тым ліку аповесць «Дзве душы», заставаліся пад забаронай нават падчас перабудовы[169]. У гэтым кантэксце спасылка на недазволеныя ў СССР творы М. Гарэцкага ўжо адносіла «Люстра дзён» да разраду падпольных выданняў[170].

Часопіс рыхтаваўся Вінцуком Вячоркам (нар. у 1961) і Сяргеем Сокалавым (пазней Сяргей Сокалаў-Воюш, нар. у 1959). Ён друкаваўся на машынцы ў Мінску, дзе служыў у войску трэці ўдзельнік выдавецкай групы Сяргей Дубавец (нар. у 1959). З-за канспірацыі яны пазначалі месцам выдання мястэчка Іўе на Гродзеншчыне. Дубавец, які ўваходзіў у рэдакцыю газеты мясцовага палка, на той час ужо набыў выдавецкі досвед у пытаннях тэхналогіі і зместу[171].

Усе тры аўтары хавалі свае асобы пад агульным імем «Беларуская талера-

---

[167] «Аб усім, што баліць». «Гутаркі» Міколы Ермаловіча» // Яго чакала Беларусь чатыры стагоддзі: зборнік матэрыялаў і дакументаў да 85-годдзя з дня нараджэння Міколы Ермаловіча. Успаміны, творы, фотаматэрыялы / Скрыжалі «Спадчыны» (Менск: б. в. (на правах рукапісу), 2007. № 5. С. 141–171.

[168] Голуб Т. Скарбы жыцця // Гарэцкі М. Выбраныя творы / рэд. Тэрэза Голуб і Радзім Гарэцкі. Мінск: Кнігазбор, 2009. С. 12.

[169] У савецкай Беларусі аповесць «Дзве душы» была ўпершыню выдадзеная ў 1990 годзе. Гл.: Гарэцкі М. Творы. Дзве душы: аповесць, апавяданні. Жартаўлівы Пісарэвіч: п'еса. Літаратурная крытыка і публіцыстыка. Лісты. Мінск: Мастацкая літаратура, 1990.

[170] Савецкія беларускія крытыкі згадвалі пра «Люстрадзён» М. Гарэцкага, не даючы падрабязнага разбору. Гл., напрыклад: Бугаёў Д. З вялікай творчай аддачай. Да 80-годдзя з дня нараджэння Максіма Гарэцкага // Ліс А., Саламевіч Я. Максім Гарэцкі. С. 137.

[171] Сяргей Дубавец // Тамковіч А. Інтэрв'ю. С. 34.

цыйная грамада». Вядома, што ў 1979–1980 гадах выйшла чатыры нумары. Два першыя нумары варта лічыць улёткамі, два апошнія — паўнавартасным часопісам. Захаваны асобнік «Люстра дзён», датаваны 1980 годам, адлюстроўвае развіццё і сталенне беларускага перыядычнага самвыдату[172]. Часопіс быў лепш арганізаваны і ідэалагічна вызначаны, чым «Мілавіца». У ім былі артыкулы пра гісторыю, геаграфію, палітыку, а таксама некаторыя літаратурныя практыкаванні. Нелегальнасць у гэтым плане не азначала поўнага адмаўлення сацыялізму: наадварот, аўтары падкрэслівалі супярэчнасць паміж «папярэднімі» ідэямі марксізму-ленінізму і сучасным станам рэчаў у Савецкім Саюзе і паўсядзённай рэчаіснасці савецкіх людзей:

> Рэальны савецкі сацыялізм занадта далёкі ад таго сацыялізму, які бачылі Маркс і Ленін. Нацыянальны ўціск, прафанацыя ідэй, усеагульны бюракратызм разьвейваюць ружовыя малюнкі[173].

Цяжка ацаніць, ці адлюстроўвае гэтая рэфармацыйная пазіцыя ў сацыялістычнай сістэме фактычныя перакананні аўтараў (праз некалькі гадоў, падчас дзейнасці «Майстроўні»[174], тая ж група дзеячаў паспрабуе арганізаваць гурток, дзе будуць абмяркоўвацца значна радыкальнейшыя палітычныя ідэі) або просты намер застацца на ўмеранай пазіцыі, каб пазбегнуць праследу. Такую пазіцыю можна патлумачыць і запозненым уплывам расійскіх дысідэнтаў. У сярэдзіне 1970-х некаторыя з іх па-ранейшаму лічылі, што праблемы савецкага грамадства былі выкліканыя «абыякавасцю і цынічным выкарыстаннем ідэалогіі»[175]. Праз некалькі гадоў ідэя перабудовы савецкага грамадства на ленінскіх прынцыпах стане лейтматывам гарбачоўскай перабудовы[176].

Што да нацыянальнай палітыкі СССР, тут у выданні выказваліся куды разчэйшыя погляды — якраз тады, калі партыя абвясціла аб «паспяховым» і «незваротным» вырашэнні праблемы нацыянальнасцяў у СССР[177]. У наступныя гады такая заклапочанасць нацыянальным пытаннем сярод беларускай інтэлігенцыі, як і ў іншых нацыянальных рэспубліках СССР, толькі ўзрастала. «Люстра дзён» падкрэсліла сваю пазіцыю ўжываннем беларускай «тарашкеві-

[172] «Люстра дзён». б. в., б. д. [1980]. URL: http://vytoki.net/?docs=00005721 (дата звароту: 31.01.2016).

[173] Алімпійскі М. Дачакаліся алімпіяды // Люстра дзён. 1980. С. 29.

[174] Падрабязней пра «Майстроўню» гл. у падраздзеле 3.5.1.

[175] Гл.: Сахаров А. «О письме Александра Солженицына «Вождям Советского Союза» С. 63–72.

[176] Як пераканаўча паказвае Р. Горват, такія падставовыя ідэі перабудовы, як галоснасць, першапачаткова саспелі ў асяроддзі дысідэнтаў. Гл.: Horvath R. The Legacy of Soviet Dissent. P. 50–80.

[177] Andropov Yu. V. Speeches and Writings. 2nd edn. Oxford: Pergamon Press, 1983. P. 5.

........................... 2 ...........................

# Зьмест

анІзавошта рэдакцыя адказнасьцІ не нясе



xxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxx

*Ілюстрацыя 15. Другая старонка «Люстра дзён» [лета ці восень 1980] са зместам нумара. Спосаб вырабу падобны да тыповага расійскага, напрыклад да «Тетради социалистической демократии», снежань 1965 года. www.vytoki.net. Асобнік знаходзіцца ва ўладанні А. Бяляцкага, перадрукаваны з дазволу А. Бяляцкага і выдаўца Сяргея Дубаўца.*

цы» — моўнага стандарту пачатку XX стагоддзя, забароненага пасля сталінскай культурнай рэвалюцыі і моўнай рэформы 1933 года.

Калі нонканфармісты 1970-х звярталіся да міжнароднай салідарнасці, ужываючы рускую мову, прадстаўнікі нацыянальнага руху 1980-х гадоў ужо страцілі ілюзію братэрства савецкіх народаў і настойвалі на неабходнасці аўтаномнага культурнага развіцця:

> Мы забываемся, што Савецкі Зьвязак — вольнае аб’яднаньне незалежных дзяржаваў. Выпрошваць дазволу на ўсё ў Масквы — мо хопіць прыніжэньняў, Беларусе?[178]

Нумар пачынаўся вітаннямі з тысячагоддзем беларускай дзяржаўнасці, якія суправаджаліся вершамі, што праслаўлялі яе старажытнае мінулае. Разрыў паміж нацыянальнымі характарамі і ладам жыцця рускіх і беларусаў пашыраўся ў публіцыстычным артыкуле пад назвай «Гісторыя і геаграфія», аўтар якога заяўляў аб любові беларусаў да работы і парадку нароўні з еўрапейцамі, адначасна проціпастаўляючы іх расійскім «алкагалізму» і «ляноце»[179].

Аднак падобныя спекуляцыі аб нацыянальным характары спалучаліся і з дакладна акрэсленымі тэарэтычнымі развагамі. Напрыклад, аўтары звязвалі вышэйшы ўзровень эканамічнага і культурнага развіцця такіх сацыялістычных краін, як Польшча ці Чэхаславакія, а таксама савецкія Літва і Эстонія, у параўнанні з Беларуссю з лепшай захаванасцю нацыянальных моў і традыцый. Маладых аўтараў займала таксама і пытанне геапалітычнай прыналежнасці Беларусі. На іх думку, нягледзячы на адносную запозненасць у нацыянальным развіцці, Беларусь несумненна належыць да Еўропы з-за мінулых культурных і гістарычных дасягненняў, а эканамічны рост і сацыяльная дэмакратызацыя магчымыя толькі шляхам набыцця беларускай дзяржавай рэальнай аўтаноміі.

---

[178] ‘Лер-Аткурэвіч Ф. Гісторыя і геаграфія // Люстра дзён. С. 16.

[179] Люстра дзён. С. 11–15.

## 4.4. ТАМВЫДАТ І ПАЗАЦЭНЗУРНЫЯ ВЫДАННІ ПА-ЗА МЕЖАМІ БССР

### 4.4.1. Ліст беларускага дыпламата: «Письмо русскому другу»

Гісторык і літаратуразнаўца Аляксей Каўка[180] напісаў гэты тэкст у 1976–1977 гадах і змог перадаць яго для ананімнай публікацыі на Захадзе, будучы супрацоўнікам пасольства СССР у Польшчы ў 1979–1982 гадах. У адрозненне ад яўнай апазіцыйнасці вышэйзгаданых аўтараў, А. Каўка займаў становішча інстытуцыйнага інтэлектуала, або, карыстаючыся тэрмінам Алека Навэ, «канструктыўнага дысідэнта»[181]. Як вынікае з тэксту, ён прытрымліваўся ідэі пастулальнага развіцця савецкага ладу і падзяляў яго асноўныя пастулаты. У адрозненне ад З. Пазьняка, ён спадзяваўся, што расійская інтэлігенцыя здольная разумець патрэбы і клопаты нярускіх народаў СССР. Таму для выказвання свайго гледзішча ён абраў рускую мову. Падобным чынам, адрасатам яго ліста стаў «рускі сябар». Яго кароткі гістарычны нарыс пра беларускае мінулае многа ў чым следаваў савецкаму бачанню беларускай гісторыі: адсталая і прыгнечаная ў дарэвалюцыйны перыяд (які доўжыўся чатырыста гадоў), пры савецкай уладзе Беларусь квітнела, хаця і не без праблемных момантаў.

Аўтар асвятляў моўную і культурную палітыку ў СССР, звяртаючы ўвагу на яе неадназначнасць. З аднаго боку, яна прывяла да дыскрымінацыі беларускай мовы і грэбавання ёю з боку большасці беларусаў. З іншага ж — даказвала, што беларускі народ і яго мова заслугоўваюць таго, каб заняць «сваё натуральнае гістарычнае месца сярод іншых народаў і ў чалавецтве»[182].

Гэты параўнальна прыхільны і, з сённяшняга гледзішча, ні ў якіх адносінах не рэвалюцыйны тэкст даводзілася перапраўляць на Захад, каб даць яму шырокую агалоску. Яго лёс прыкметна акрэслівае межы дазволенага і забароненага адносна нацыянальных пытанняў у БССР. Само сцвярджэнне каштоўнасці беларускай мовы магло выклікаць абвінавачанні ў нацыяналізме. Улічваючы аргумент, што ў БССР не было шырокай плыні самвыдату, антысавецкіх пратэстаў і, адпаведна, рэпрэсій з-за інтэнсіўных прафілактычных мер як беларускага КДБ, так і апарату КПБ, тонкі лёд нацыянальнай палітыкі У. Леніна заставаўся адзіным варыянтам для інтэлігенцыі ў яе барацьбе за беларускую мову[183].

Па выніках усесаюзнага перапісу 1970 года 62,1 адсотка мясцовага насель-

---

[180] Аляксей Каўка (нар. у 1937), беларускі савецкі гісторык і літаратуразнаўца. З 1991 года выдаваў у Маскве беларускамоўны штогадовік «Скарыніч». На жнівень 2019 года выдадзена адзінаццаць нумароў.

[181] Nove A. Glasnost in Action: Cultural Renaissance in Russia. Boston: Unwin Hyman, 1989. P. 159.

[182] Письмо русскому другу. С. 33.

[183] Гл., напрыклад, Zaprudnik J. Belarus: At a Crossroads. P. 108–109.

ніцтва БССР заявілі, што руская мова з'яўляецца для іх роднай ці другою[184]. Гэтыя вынікі былі шырока вядомыя і ўспрымаліся ўладамі як здавальняючыя, але служылі сігналам крызісу беларускай мовы для інтэлігенцыі, якая назірала ўстойлівую і хуткую інтэрнацыяналізацыю краіны і, такім чынам, страту культурнай і нацыянальнай адметнасці[185].

#### 4.4.2. Філасофскае даследаванне «Родная мова і маральна-эстэтычны прагрэс»

Праца «Родная мова і маральна-эстэтычны прагрэс» была першапачаткова напісаная Алегам Бембелем (нар. у 1939) у якасці кандыдацкай дысертацыі ў аспірантуры Інстытута філасофіі АН БССР. Кафедра гісторыі беларускай філасофіі была першай і адзінай у савецкай Беларусі, дзе стала магчымым вывучэнне беларускай філасофскай думкі. Дзякуючы намаганням такіх гісторыкаў філасофіі, як Сямён Падокшын (1931–2004), Альфрэд Майхровіч (1937–2004) і Уладзімір Конан (1934–2011) — калі назваць толькі некаторых, — з 1960-х гадоў кафедра стала месцам, дзе з'явіліся альтэрнатыўныя погляды на гісторыю беларускага мыслення. Там, на кафедры эстэтыкі, якую ўзначальваў У. Конан, стала магчымым вывучэнне суадносін паміж роднай мовай і маральным і эстэтычным развіццём грамадства.

Бембелева даследаванне ўключала вынікі апытання, якое аўтар правёў для ацэнкі распаўсюджвання і выкарыстання беларускай мовы. Цэнтральнай тэмай апытання сталі адносіны рэспандэнтаў да мовы: «Што мы думаем пра цябе, беларуская мова?..» — пытаўся аўтар у літаратараў, навукоўцаў, спартоўцаў, школьнікаў і работнікаў сферы абслугоўвання. Апытанне праводзілася ў 1979–1981 гадах, у той жа час была напісаная тэарэтычная частка з разважаннямі аўтара. Нягледзячы на ўхвальнае пасляслоўе да Бембелевай дысертацыі, якое напісаў Уладзімір Караткевіч (а магчыма, што і праз яго), афіцыйнае выданне ў БССР не было дазволена.

Праца А. Бембеля цікавая сваёй структурай — тэарэтычныя рэфлексіі пераможоўваюцца ў ёй з разважаннямі герояў і заўвагамі самога аўтара, цытатамі з літатурных твораў і, напрыканцы, каментарыямі У. Караткевіча[186].

Як і А. Каўка, аўтар зыходзіць з савецкай палітыкі ў дачыненні да нацыя-

[184] Mayo P. Review of Biryla, M., Suprun, A. eds., Pytanni bilihvizmu i ŭzaemadzeiannia moŭ', Minsk: Navuka i tekhnika, 1982 // The Journal of Byelorussian Studies. 1984. Vol. 5, no. 3–4. P. 71.

[185] Гл., напрыклад, зборнік артыкулаў, дзе навукоўцы высока ацэньваюць двухмоўную сітуацыю ў БССР: Пытанні білінгвізму і ўзаемадзеяння моў / пад. рэд. М. Бірылы, А. Супруна. Мінск: Навука і тэхніка, 1982.

[186] Гэта ж заўважае і лонданскі выдавец кнігі, гл. «Ад выдаўцоў» у: Бембель А. Родная мова і маральна-эстэтычны прагрэс. London: The Association of the Byelorussians of Great Britain, 1985.

нальнасцяў. Ён выпрабуе два асноўныя (і звязаныя паміж сабой) перакананні, што былі пашыраныя на той час у савецкім грамадстве, і імкнецца зразумець іх правамернасць у дачыненні да беларускай рэчаіснасці. Першае — гэта пастулат аб змяншэнні абшару распаўсюджвання нацыянальных (лакальных) моў у высокатэхналагічным грамадстве:

> Цяпер век тэхнікі, прагрэсу. Вядома, што патрэбна мова, якую б ведалі ўсе нацыянальнасці і народнасці. Такой мовай стала руская[187].

Другое датычыць добра вядомага тэзіса аб «зліцці нацыяў» і фармаванні «савецкага народа» як новай гістарычнай супольнасці[188]. Нягледзячы на тое, што надыход камунізму, абвешчаны М. Хрушчовым два дзесяцігоддзі перад гэтым, адкладваўся, зліццё моваў, як паказваюць адказы рэспандэнтаў, усё яшчэ ўспрымалася як магчымая і, больш за тое, дастаткова блізкая перспектыва[189].

У частцы, абазначанай як «аўтаінтэрв'ю», выкарыстоўваючы прыклады Я. Баршчэўскага і А. Пушкіна, аўтар разважае аб суадносінах нацыянальнай і інтэрнацыянальнай кампанентаў творчасці і імкнецца давесці, што першая не абавязкова павінна быць перашкодай для другой.

У сваіх пошуках аўтар неаб'ектыўны, ён пачынае з цытатаў беларускіх класікаў пра еднасць нацыі і мовы, пра мову як умову існавання народа і чалавека, ён задае тон і з прадвызначанай пазіцыяй падыходзіць да субяседніка. Па сутнасці, ён не ставіць пытанне, а імкнецца даказаць цэнтральнасць роднай мовы для этычнага і эстэтычнага развіцця чалавека і грамадства.

Сабраныя А. Бембелем адказы па-свойму цэнзураваныя: пазітыўных адказаў больш, чым негатыўных (што, хучэй за ўсё, звязана з выбарам рэспандэнтаў), а тыя, хто выказваецца крытычна ў адносінах да мовы, сумняваецца ў яе «сакральнасці», выстаўляюцца па меншай меры дрэнна адукаванымі мяшчанамі:

> Вот если ты за свою книгу получишь деньги и купишь мне шубу — тогда я буду идти с чувством собственного достоинства и говорить: да, беларуская мова — это действительно ценность!..[190]

І тым не менш і першыя, і другія каштоўныя ў сваёй «сённешнасці» (кары-

[187] Бембель А. Родная мова і маральна-эстэтычны прагрэс. Р. 73.
[188] Гэтая ідэя была агучана М. Хрушчовым на XXII з'ездзе КПСС 18 кастрычніка 1961 года. Гл.: Хрущёв Н. С. О программе Коммунистической Партии Советского Союза // XXII съезд Коммунистической партии Советского Союза, 17–31 октября 1961 года: стенографический отчёт. Москва: Политиздат, 1962. Т. 1. С. 153.
[189] Бембель А. Родная мова і маральна-эстэтычны прагрэс. С. 35 і далей.
[190] Там жа. С. 97.

стаючыся з выразу У. Караткевіча)[191]. А. Бембелю ўдалося схапіць беларускае грамадства (але найперш інтэлігенцыю) у апошнія гады брэжнеўскага застою, яго (грамадства) заклапочанасць станам беларускай мовы і, адначасова, яго пагарду да самога сябе.

У сярэдзіне 1980-х Юрый Туронак і Аляксей Каўка дапамаглі пераправіць кнігу на Захад[192]. Пасля яе выдання А. Бембеля выключылі з партыі і звольнілі з пасады на кафедры эстэтыкі і псіхалогіі Беларускай акадэміі навук, а саму кафедру расфарміравалі[193].

Хоць і нешматлікія па колькасці і абмежаваныя па абшару распаўсюджвання, непадцэнзурная выданні эпохі позняга сацыялізму ў БССР былі разнастайнымі па змесце і поглядах аўтараў. Аб'ядноўвае іх немагчымасць быць надрукаванымі да пачатку перабудовы і вострая пастаноўка пытанняў, нязгода з адным ці некалькімі аспектамі функцыянавання савецкага ладу. Негледзячы на іх непадобнасць, тэксты гэтыя пранізаныя агульнай ідэяй — у іх тым ці іншым чынам уздымаецца «беларускае пытанне» і выказваецца незадаволеннасць савецкай палітыкай у дачыненні да нацыянальнасцяў.

## 4.5. АФІЦЫЙНЫ ДРУК ЧАСОЎ ПЕРАБУДОВЫ

Па меры таго, як перабудова набірала абароты па ўсім Савецкім Саюзе, газеты і часопісы сталі як найважнейшай крыніцай актуальнай палітычнай інфармацыі, так і месцам для вострых спрэчак. Не менш важнай была і іх роля ў азнаямленні чытачоў з раней недаступнымі творамі недазволеных аўтараў.

А. Юрчак апісвае здзіўленне і радасць тыповага начытанага савецкага інтэлігента, які натыкаўся на ўспаміны былога вязня ГУЛАГа Льва Рагозіна, апублікаваныя ў часопісе «Юность», або на вершы расстралянага бальшавікамі паэта Мікалая Гумілёва, якія з'яўляліся на старонках «Огонька»[194].

На пярэдняй лініі перабудовы знаходзіліся і іншыя агульнасаюзныя газеты і часопісы — такія, як «Литературная газета», «Московские новости» або «Новый мир»[195]. Нягледзячы на попыт, які быў значна большы, чым прапанова, і вялікія чэргі перад кіёскамі з шыльдай «Белсоюзпечать», усе яны былі збольшага даступныя і ў савецкай Беларусі. Акрамя таго, прэса ў суседніх рэспубліках Прыбалтыкі рэагавала на прынесеныя перабудовай змены хутчэй і

[191] Бембель А. Родная мова і маральна-эстэтычны прагрэс. С. 223.
[192] Там жа.
[193] Конан У. Дасціпная паэтыка смеху. С. 4–5.
[194] Yurchak A. Everything was forever P. 2.
[195] Літаратурныя часопісы ў пошуках страчанага // Полымя. 2014. № 10. С. 136–137.

смялей, яе чытала і абмяркоўвала беларуская інтэлігенцыя. Больш таго, там ужо можна было абнародаваць меркаванні, якія пакуль былі занадта смелымі для беларускіх рэдакцый.

Напрыклад, артыкул Зянона Пазьняка, у якім ён раскрытыкаваў двухмоўе як прадукт савецкай бюракратыі, з’явіўся ў пачатку 1988 года ў эстонскай рускамоўнай «Радуге»[196]. Гэтым артыкулам працягвалася дыскусія, распачатая крыху раней эстонскім лінгвістам Маці Хінтам (Mati Hint, 1937–2019). Цікава, што адзін з найбольш уплывовых заходніх часопісаў па даследаванні нацыянальных пытанняў — Nationalities Papers — пераклаў і перадрукаваў і артыкул М. Хінта, і адказ З. Пазьняка ў тым жа годзе[197]: нацыянальне пытанне ў СССР стала выклікаць вялікую цікаўнасць на Захадзе.

Тэлеканалы заставаліся пад цэнтралізаваным кантролем партыі яшчэ даўжэй, чым друкаваныя СМІ. Школьная і ўніверсітэцкая асвета, таксама падпарадкаваная дзяржаўнай палітыцы БССР, не змагла выпрацаваць неадкладнага адказу на выклікі часу. Найхутчэй адлюстравалі і ўвабралі знешнія змены ў палітычным жыцці літаратурныя, гістарычныя і грамадска-палітычныя перыядычныя часопісы і газеты, якія былі друкаванымі органамі беларускай савецкай інтэлігенцыі.

Пачынаючы з XXVII з’езда партыі ў 1986 годзе, цэнзура і кантроль былі часткова абмежаваныя; гэта амаль імгненна паўплывала на паступовую змену зместу перыядычных выданняў. Літаратурна-гістарычныя штомесячнікі і штотыднёвікі былі менш абмежаваныя ў выбары тэкстаў ды інфармацыі, чым штодзённыя друкаваныя СМІ, якія падпарадкоўваліся непасрэдна ЦК КПБ. Да апошніх належалі «Звязда» і «Советская Белоруссия». Акрамя таго, пазіцыя і змест публікацый у той час значна залежалі ад палітычнай пазіцыі і асабістай мужнасці рэдакцыі. Як заўважыў Райнер Ліндер, культурна-гістарычныя часопісы дапамагалі ствараць пісьмовую гісторыю[198]. Хаця ён асабліва засяроджваўся на да- і постсавецкім перыядзе, у апошняе дзесяцігоддзе існавання СССР сродкі масавай інфармацыі былі не менш, а нават больш важнымі і ўплывовымі ў грамадстве.

Роля літаратурных часопісаў і газет, якія ў дадатак да «літаратурных» часта азначаліся як «сацыяльна-палітычныя», не мае зводзіцца толькі да папулярызацыі масавых літаратурных твораў савецкіх аўтараў. Як вынікае з азначэнняў, функцыя перыядычных выданняў заключалася ў фармаванні светапогляду чытачоў. Для камуністычнай партыі і гісторыя, і літаратура былі інструментамі распаўсюджвання ідэалогіі, і ўсё ж беларуская савецкая літаратура, як і літа-

[196] Позняк З. Двуязычие и бюрократизм // Радуга. 1988. № 4. С. 36–50.

[197] Гл.: Pozniak Z. Bilingualism and bureaucratism / transl. by T. E. Maris // Nationalities Papers. 1988. Vol. XVI, №. 2. P. 260–271.

[198] Lindner R. Historiker und Herrschaft. S. 24.

ратуры іншых савецкіх народаў, ніколі не абмяжоўвалася рамкамі ідэалогіі. Літаратурныя часопісы заўсёды пазіцыянавалі сябе адрозна ад прапагандысцкіх крыніц.

Калі журналісты звычайна праходзілі навучанне для распаўсюджвання палітыкі партыі, літаратары радзей займаліся ідэалогіяй і былі больш незалежныя ў сваіх поглядах. З паступовым надыходам перабудовы і галоснасці разыходжанне ў поглядах дзяржаўных друкаваных СМІ стала яшчэ больш яўным.

У адрозненне ад суседніх рэспублік, у савецкай Беларусі цэнзурныя абмежаванні былі прыкметна аслабленыя толькі к сярэдзіне 1988 года. У гэты час пачалі з'яўляцца смелыя, крытычныя і супярэчлівыя публікацыі. Першымі адрэагавалі на змены «ЛіМ», «Чырвоная змена» і друкаваны орган беларускага камсамола — «Знамя юности».

Пры рэдактарстве (1986–1990) паэта, публіцыста і перакладчыка Анатоля Вярцінскага (нар. у 1931) штотыднёвік «ЛіМ» хутка ператварыўся ў платформу, дзе прадстаўнікі інтэлігенцыі выказвалі свае клопаты, абменьваліся думкамі і абмяркоўвалі надзённыя пытанні[199].

Вядучая роля «ЛіМа» ў фармаванні альтэрнатыўнай інтэлектуальнай культуры стала відавочнай пасля 3 ліпеня 1988 года. У гэты дзень археолаг Яўген Шмыгалёў і гісторык мастацтва Зянон Пазьняк выпусцілі артыкул, які стаў першым афіцыйна апублікаваным знакам змен у савецкай Беларусі. Публікацыя пад назвай «Дарогай смерці» прадставіла высновы нядаўняй археалагічнай экспедыцыі ў Курапаты, месца масавых пахаванняў каля Мінскай кальцавой дарогі. Савецкія беларускія СМІ ўпершыню публічна абмяркоўвалі трагедыю масавых расстрэлаў падчас сталінскіх чыстак.

Сучаснікі пракаментавалі вядучую ролю «ЛіМа» наступным чынам:

> «ЛіМ» тады дэманстраваў нечуваны дэмакратызм і смеласць. «Тутэйшаўцы» атаясамлівалі гэта выключна са смеласцю і сумленнасцю рэдактара. Сам Вярцінскі казаў, што дэмакратызацыі галоўнага воргану СП [Саюза пісьменнікаў] спрыяюць найперш павевы часу, маўляў, яго заслугі як рэдактара тут няшмат[200].

---

[199] Наступнага факта будзе дастаткова, каб прадэманстраваць дваістасць палажэння беларускай савецкай інтэлігенцыі: А. Вярцінскі стварыў пляцоўку для крытычных публікацый і адначасна апублікаваў антыамерыканскую і прасавецкую справаздачу пра сваё падарожжа, якая ўтрымлівала ідэалагічна нагружаныя назіранні пра палітычнае і грамадскае жыццё ў ЗША. Гл.: Вярцінскі А. Нью-Ёркская сірэна (раздзелы з кнігі) // Полымя. 1985. № 7. С. 128–150; № 8. С. 191–204. Гэтыя падарожніцкія нататкі выйшлі і кнігай: Вярцінскі А. Нью-Ёркская сірэна. Мінск: Мастацкая літаратура, 1987.

[200] Аркуш А. Аскепкі вялікага малюнку. С. 60.

З 3 чэрвеня 1988 года 16-старонкавы штотыднёвік пастаянна даваў месца для меркаванняў, адрозных ад ідэй ЦК КПБ. Верным знакам аслаблення кантролю партыі былі пастаянныя крытычныя выпады яе прапагандысцкіх аддзелаў, якім падвяргаўся як «ЛіМ», так і маскоўскія «Огонёк» ды «Московские новости». Змену ролі «ЛіМа» для інтэлігенцыі засведчыў адзін з выпускаў «Навін БНФ» 1989 года:

> Цяжка была паверыць, што яшчэ нядаўна абрэвіятура «ЛіМ» мела народную расшыфроўку: «Лесть и месть». Сёння «ЛіМ» робіцца бібліяграфічнай рэдкасцю ледзь не адразу пасля паступлення ў продаж. Такі ўздым папулярнасці не выпадковы: з прыходам на пасаду галоўнага рэдактара Анатоля Вярцінскага газета загаварыла смела і незалежна на самыя балючыя тэмы, пакінула арыентавацца на высокапастаўленыя меркаванні, набыла свой твар[201].

«Полымя», наадварот, некаторы час трымалася кансерватыўнай лініі[202]. Тым не менш яно стала чуллівей рэагаваць на змены, якія адбыліся ў СССР у 1988 годзе, і яго наклад таксама пачаў расці. Часопіс адкрыў свае старонкі для паэзіі і прозы маладых аўтараў, у тым ліку і для ўдзельнікаў «Тутэйшых». У ім пачала з'яўляцца літаратура, якая зусім нядаўна была забароненая цэнзурай. Значна пашырыўся і абсяг гістарычных тэм, да якіх звярталася «Полымя». У 1988–1990 гадах у часопісе выйшлі гістарычныя нарысы М. Ермаловіча і ўспаміны былога вязня сталінскіх лагераў Сяргея Грахоўскага. Усяго трыма гадамі раней, рыхтуючы кнігу ўспамінаў пра вядомых беларускіх паэтаў і пісьменнікаў, Грахоўскі не мог уявіць сабе, што яго досвед лагерных выпрабаванняў стане здабыткам галоснасці[203]. 9 студзеня 1985 года ён напісаў у сваім дзённіку:

> Рукапіс сваёй пакалечанай будучай кнігі здаў. Назваў яе «Так і было»[204]. На жаль, многае было зусім не так. Каб расказаў, як яно было, кніга была б вартая ўвагі[205].

Абмеркаванні экалагічных праблем — у прыватнасці, наступстваў аварыі

[201] Яны вартыя даверу // Навіны Беларускага Народнага Фронту за перабудову «Адраджэньне». 1989. № 1. С. 5.
[202] Наклад часопіса «Полымя»: 12/1988 — 8 000; 12/1989 — 9 170; 12/1990: 10 000: 12/1991: 6 430.
[203] Грахоўскі С. Такія сінія снягі // Полымя. 1988. № 9; яго ж: Зона маўчання // Полымя. 1990. № 2
[204] Грахоўскі С. Так і было. Мінск: Мастацкая літаратура, 1986.
[205] Грахоўскі С. Дзённікі // Выбраныя творы Сяргея Грахоўскага / уклад. Т. Грахоўская і К. Цвірка. Мінск: Кнігазбор, 2007. С. 487.

на Чарнобыльскай АЭС — у асноўным публікаваліся ў «Полымі» ў раздзеле «З рэдакцыйнай пошты». У 1986 годзе пасаду галоўнага рэдактара «Полымя» заняў паэт Сяргей Законнікаў (нар. у 1946), для якога чарнобыльская тэма стала адною з галоўных: яна праходзіла і праз усю яго паэзію.

У 1988 годзе ў «Полымі» выйшла тэатральная п'еса Янкі Купалы «Тутэйшыя». Лёс Купалавай творчасці ў XX стагоддзі сведчыць аб неадназначнасці ўспрымання ўсёй «нетрадыцыйнай» беларускай літаратуры пры савецкай уладзе. Раней «Тутэйшыя» выдаваліся толькі аднойчы, у 1924 годзе, таксама ў «Полымі». Пазней яны забараняліся савецкай цэнзурай штонайменей чатыры разы — як для выдання, так і для пастаноўкі. П'еса выйшла зноў толькі ў верасні 1988 года, праз тры гады пасля пачатку перабудовы. Публікацыя суправаджалася ўступным артыкулам, які не даваў праўдзівых паясненняў што да затрымкі з перавыданнем Купалавага шэдэўра[206]. Больш таго, аўтар прадмовы да «Тутэйшых» Анатоль Сабалеўскі крыху скептычна ставіўся да таго, як Купала вывеў галоўных станоўчых герояў — Янку Здольніка, Аленку і Лявона Гарошку, бо яны не выяўлялі дастатковага рэвалюцыйнага запалу, а прымалі рэвалюцыю даволі пасіўна[207].

Сярод іншых перыядычных выданняў, якія змянілі культурны краявід канца 1980-х гадоў у Беларусі, была «Крыніца» (1988–2002), заснаваная як літаратурны штомесячнік для маладых пісьменнікаў і паэтаў. Галоўным рэдактарам часопіса быў прызначаны саракадвухгадовы паэт Уладзімір Някляеў (нар. у 1946), усё яшчэ дастаткова малады для пасады галоўнага рэдактара. Ва ўмовах існуючай цэнзуры і абмежаваных магчымасцяў публікацыі для пачынаючых аўтараў «Крыніца» ўяўляла сабою амаль адзіную легальную магчымасць публікаваць эксперыментальныя прозу і вершы. Акрамя таго, яна стала пастаяннай крыніцай перакладной заходняй літаратуры, якая яшчэ не была перакладзеная на рускую мову і была недаступная беларускаму чытачу.

Альтэрнатыўныя ідэі, гістарычныя факты і нацыянальныя міфы, якія выкрышталізаваліся ў 1970-х — пачатку 1980-х гадоў у самвыдаце, увайшлі ў публічны дыскурс з пачаткам перабудовы. Тэксты і часопісы, разгледжаныя ў гэтым раздзеле, паказваюць, што плынь ідэй пашырылася яшчэ да таго, як галоснасць стала афіцыйнай лініяй КПСС. Гэта паказвае хуткія пераўтварэнні светапогляду ў нонканфармісцкай інтэлектуальнай супольнасці — паміж тэкстамі, у якіх былі патрабаванні вярнуцца да сапраўдных асноў марксісцкай ідэалогіі, свабоднага развіцця і поўнага суверэнітэту Беларусі ў рамках СССР, і радыкальнай праграмай палітычнай эмансіпацыі прайшло ўсяго некалькі гадоў.

Больш таго, аўтарамі ў абодвух выпадках маглі быць адны і тыя ж людзі.

[206] Сабалеўскі А. Аб п'есе «Тутэйшыя» // Полымя. 1988. № 9. С. 13–18.
[207] Там жа. С. 16–17.

Аўтары самвыдацкіх публікацый не жылі ў адным і тым жа гістарычным часе, або, дакладней, успрымалі яго па-іншаму — як час разбурэння традыцыйнага сельскагаспадарчага ладу жыцця, экалагічнага крызісу, далейшага сацыяльнага заняволення асобы, альбо «банкруцтва ленінскіх ідэй».

# 5. ІНТЭЛІГЕНЦЫЯ І ВЫКЛІКІ СУЧАСНАСЦІ

## 5.1. АНТЫСІЯНІЗМ І АНТЫСЕМІТЫЗМ У СССР

***Прывыклі да думкі, што габрэі не вернуцца ніколі*[1].**

С. Алексіевіч

Антысемітызм у значнай ступені быў складнікам дыскурсаў сучаснасці[2]. Вынікам антысавецкага імпульсу, які развіўся ў асяроддзі інтэлігенцыі ў 1970–1980-х гадах, сталі спробы аднавіць мадэрную ідэю нацыянальнасці. Зыгмунт Баўман ды іншыя сцвярджаюць, што цяжкасці ў вызначэнні ўласнай (нацыянальнай) ідэнтычнасці непазбежна спараджаюць варожасць да «іншага»[3]. Габрэйская супольнасць якраз уяўляла сабою такога блізкага «іншага», з якім беларусы жылі побач. Яшчэ больш ускладнялі гэтыя абставіны афіцыйны антысіянізм і (неафіцыйны) антысемітызм савецкай дзяржавы. Нягледзячы на ўсеагульнае незадавальненне палітыкай савецкіх нацыянальнасцяў, інтэлігенцыя ў канчатковым выніку не магла вызваліцца ад гэтай палітыкі, якая заставалася складнікам савецкага ладу.

Іншадумства і самвыдат засяроджаныя не толькі на станоўчых імпульсах вызвалення ад абмежаванняў свабоды і аўтарытарызму. Ф. Кінд-Ковач і Дж. Лабаў адзначаюць, што дагэтуль часта ігнараваліся «тыя формы самвыдату, якія не спрыялі развіццю грамадзянскай супольнасці, разам з дэмакратычнай

[1] Алексіевіч С. Час сэканд-хэнд. Мінск: Логвінаў, Саюз беларускіх пісьменнікаў, 2013. За каментары да гэтай часткі я шчыра дзякую спадарыні Іне Герасімавай.

[2] Нядаўняя работа, якая пацвярджае дадзеную тэзу: Stoelzer M. Anti-Semitism and the Constitution of Sociology. Lincoln: University of Nebraska Press, 2014.

[3] Bauman Z. Liquid modernity. Cambridge: Polity Press, 2000. P. 91–99.

мадэллю, якую падтрымлівалі вядучыя дысідэнты»[4]. Такім чынам, неабходна вывучаць самвыдат ва ўсёй яго складанасці, уключаючы спрэчныя пытанні, правакацыйныя меркаванні ды памылковыя суджэнні.

Хоць адносіны да габрэйскага насельніцтва ніколі не былі цэнтральнай тэмай, яны часта былі бачнай часткай беларускага нацыятворчага дыскурсу. Асобы габрэйскага паходжання (або тыя, каго лічылі габрэямі), якія былі гатовыя прыняць удзел у нацыянальным руху, сутыкаліся з дыскрымінацыяй і выключэннем. Дзеячы беларускага паходжання не заўсёды ставіліся да такіх намераў станоўча. Габрэйская гісторыя шмат у чым была сцёртая не толькі з афіцыйнай савецкай версіі, але і з нацыянальнай гісторыі і міфалогіі, якія фармаваліся ў асноўным у апошнія гады існавання СССР. Адначасна антысемітызм не быў адзінай рэакцыяй інтэлігенцыі на «габрэйскае пытанне» ні ў самвыдаце, ні ў афіцыйных выданнях. Таму адносіны паміж габрэйскай і беларускай інтэлігенцыяй часта былі прадуктыўнымі і ўзаемаўзбагачальнымі. Больш таго, заслугоўвае ўвагі ўнёсак інтэлектуалаў габрэйскага паходжання ў развіццё беларускай мовы і літаратуры.

[4] Kind-Kovács F., Labov J. Samizdat and Tamizdat: Entangled Phenomena? P. 7.




*Ілюстрацыя 16. Дэманстрацыя ў Мінску, канец 1980-х гадоў. FSO 30–91 (Ovsishcher).*

Новыя нацыяналізмы ва Усходняй Еўропе можна паясніць (і часта паясняюць) як імкненне вярнуцца на шлях еўрапейскай сучаснасці. У той час як у Заходняй Еўропе нацыяналізм пераўтварыўся з ліберальнага і дэмакратычнага ў ірацыянальны і ксенафобскі дыскурс, у савецкіх рэспубліках адначаснае суіснаванне абедзвюх формаў нацыяналізму стала адчувальным пры ўзнікненні нацыянальных рухаў[5]. Аб’яднанні радыкальных правых экстрэмістаў з’явіліся адначасна са спробамі ўсходнееўрапейскай інтэлігенцыі следаваць ідэі нацыянальнай дзяржавы з яе дэмакратычна-ліберальнай асновай[6]. Аднак антысемітызм пранікаў і ў ідэі новых ліберальных інтэлектуальных эліт.

У 1967 годзе шасцідзённая арабска-ізраільская вайна натхніла габрэйскі рух за эміграцыю з СССР. У 1968–1973 гадах савецкія ўлады дазволілі міграцыю прасіяніснцкіх і рэлігійных груп габрэяў і адначасна паспрабавалі перашкодзіць выезду ўсіх іншых[7]. Адначасова, набывала сілу пратэставая дзейнасць, што было звязана з разгортваннем дысідэнцкага і праваабарончага руху па ўсім СССР. У той жа час з новай сілай разгарэлася антысіяніснцкая кампанія.

У 1974 годзе ў самвыдацкай брашуры «Положение в Белоруси» быў дадзены адказ на пераслед дысідэнтаў у СССР з націскам на менш вядомым становішчы ў БССР. Нягледзячы на агульнае імкненне да дэмакратыі і свабоднага развіцця ўсіх нацый (што ўжо разглядалася ў падраздзеле 4.2.2), брашура не свабодная ад падводных камянёў нацыяналізму і спроб этнічнага выключэння. Тагачаснае бачанне аўтарам беларускай нацыі адлюстроўвала перспектыву этнічнага нацыяналізму. Хаця тэкст утрымліваў крытыку савецкіх антысіянізму і антысемітызму, дэманструючы разуменне іх надуманай сутнасці, у ім адбілася і пэўная перадузятасць аўтара[8].

Спачатку аўтар (З. Пазьняк) з іроніяй піша пра намер беларускіх спецслужбаў пазбавіцца разам ад нацыяналістаў і сіяністаў:

> А хорошо бы пристегнуть к «националистам» ещё и «сионистов». Это волнительная мечта органов КГБ: уничтожить двух зайцев одним ударом сразу: обвинить националистов в «сионизме» и в сговоре с сионистами, а сионистов в национализме и сговоре с «националистами»[9].

На наступнай старонцы, тлумачачы доўгую гісторыю мірнага суіснавання

[5] Straus H. [et al.] Der Anti-Semitismus der Gegenwart. Frankfurt; New York: Campus Verlag, 1990. S. 13.

[6] Як, напрыклад, расійская «Памяць». Апісанне гл. у: Horvath R. The Legacy of Soviet Dissent. P. 150–184.

[7] Salitan Laurie P. Post-Zionist Emigration // Politics and Nationality in Contemporary Soviet-Jewish Emigration, 1968–89. London: Palgrave Macmillan, 1992. P. 45.

[8] Ракутович Г. Положение в Белоруси. С. 20.

[9] Там жа.

габрэяў і беларусаў, аўтар, аднак, падкрэслівае, што сапраўднымі гаспадарамі зямлі ёсць беларусы. Габрэйскае насельніцтва, наадварот, вызначанае як перасяленцы. Як сцвярджае аўтар, прычынай адсутнасці праследу габрэяў на беларускіх землях былі не ўзорныя паводзіны апошніх, а верацярпімы прававы характар Вялікага Княства Літоўскага, заснаванага на роўнай павазе да закону і рэлігіі[10]. Аднак замест удзячнасці за беларускую талерантнасць габрэі сталі апалагетамі камунізму, у выніку чаго апошні разбурае і габрэйскі, і беларускі народ[11].

Погляд на габрэяў як на галоўных прыхільнікаў камунізму, а значыць і на асоб, адказных за яго ўсталяванне на беларускіх тэрыторыях, быў укаранёны ў антысавецкіх нацыяналістычных дыскурсах. Пазьнякова сцвярджэнне перагукаецца з напісаным у 1950 годзе зваротам АУН да габрэйскага насельніцтва Украіны «Євреї — громадяни України». Нягледзячы на знешні намер устанавіць добрасуседскія адносіны паміж народамі і знайсці падтрымку ўкраінскага нацыянальнага руху сярод габрэяў, выданне не ўпусціла магчымасці нагадаць пра «сапраўдных гаспадароў» зямлі.

> Адже на наших землях живете, працюєте і розвиваєтеся[12], —

гаворыцца ва ўлётцы.

Патрабаванне ўдзячнасці за беларускую гасціннасць і абавязак падтрымліваць беларускую незалежнасць, агучаныя ў Пазьняковым «Положении в Белоруси» на піку брэжнеўскага застою, узніклі значна раней. Тут след вярнуцца назад, каб патлумачыць адносіны да габрэйскай спадчыны.

Некаторыя дзеячы беларускага адраджэння таксама звярталіся да габрэйскага насельніцтва з заклікамі да ўдзячнасці і адказнасці перад беларускім народам:

> Грамадзяне жыды, цяпер, калі мы перада днём адбудовы Беларускага Гаспадарства, жадаючы ад душы па-прыяцельску жыць з вамі, клічам вас ачухацца, г. зн. скончыць з гэтым вісеньнем у паветры і самаазначыцца ня толькі нацыянальна, чаму мы вельмі спагадаем, але і дзяржаўна. Прайшло пяць даўніх вякоў нашага суместнага жыцьця з вамі, і ваша грамадзянская павіннасьць сказаць усім нашым суседзям голасна і сьмела,

[10] Ракутович Г. Положение в Белоруси. С. 21.

[11] Там жа. С. 21–22.

[12] Улётка Украінскай паўстанцкай арміі «Євреї — громадяни України». 1950. С. 10 // Інформаційний портал Харківської правозахисної групи URL: http://khpg.org/index.php?id=1260257053 (дата звароту: 10.09.2018).

што вы любіце сваю бацькаўшчыну, а гэтай бацькаўшчынай прызнайце Беларусь[13].

З пачатку 1910-х гадоў беларуская інтэлігенцыя шукала падтрымкі ў польскай, літоўскай і ўкраінскай інтэлігенцыі ідэі федэрацыі — дастаткова моцнай, каб процістаяць Расійскай імперыі. Калі не толькі вызваленне ад Расіі, але і незалежнасць Беларусі сталі часткай палітычнага парадку дня, асабліва ў 1917–1919 гадах, была неабходная падтрымка грамадства. Габрэі, будучы другімі па колькасці ў «этнічных беларускіх межах», былі сур'ёзнай сілай у гэтым плане. Таму рабіліся спробы залучыць габрэйскіх дзеячаў да «беларускага пытання». Заблытаная палітычная рэчаіснасць перыяду з 1918 па 1922 год, калі розныя замежныя сілы часткова і цалкам кантралявалі беларускія землі і калі за тры гады было зроблена шэсць абвяшчэнняў незалежнасці, не магла пакінуць мясцовым інтэлектуальным элітам і палітычным дзеячам нічога, акрамя блытаніны[14]. Дзве габрэйскія палітычныя арганізацыі — Усеагульны габрэйскі рабочы бунд у Літве, Польшчы і Расіі (Бунд) і Паале Цыён — першапачаткова падтрымалі стварэнне Беларускай Народнай Рэспублікі. Аднак пазней прадстаўнікі абедзвюх арганізацый выказалі сумнеў у мэтазгоднасці ідэі беларускай незалежнасці і адмовіліся ад сваёй падтрымкі[15].

Спрэчкі пра арганізацыю рэферэндуму ў Сойме Другой Польскай рэспублікі 30 кастрычніка 1919 года і палеміку, якая адбывалася ў асяроддзі беларускай інтэлігенцыі вакол гэтых пытанняў, даюць добры прыклад падобных заяў. Рэферэндум, альбо плебісцыт, які ён тады называўся, быў прапанаваны польскімі нацыянальнымі дэмакратамі, «Endecja», і меў вырашыць будучыню Заходняй Беларусі[16]. Як Рада Беларускай Народнай Рэспублікі, так і Літоўская Тарыба выказалі сваю нязгоду з плебісцытам[17]. Плебісцыт крытыкаваўся ў прэсе многімі нацыяналістычнымі інтэлектуаламі. Падобным чынам, габрэяў вінавацілі і ў тым, што яны не пратэставалі супраць, а наадварот, падтрымлівалі рэферэндум. Красамоўным прыкладам служыць артыкул філолага,

---

[13] Станкевіч Я. Беларускія жыды ці жыды як грамадзяне Беларусі // Станкевіч Я. За родную мову і праўдзівы назоў. С. 30.

[14] Тут я спасылаюся на трэцюю частку аднайменнай кнігі П. Рудлінга. Гл.: Rudling P. Six Declarations of Statehood in Three Years. Origins of a New National Mythology // Rudling P. The Rise and Fall of Belarusian Nationalism. P. 66–122.

[15] Адным з тых, хто выказаў сумнеў, быў Мойша Гутман, член Сакратарыаата БНР ад габрэйскай меншасці. Ён бачыў беларускую незалежнасць толькі ў выглядзе федэрацыі з Расіяй. Гл.: Лившиц В. Так был ли Купала антисемитом // «Мастерская», 20 лістапада 2013 года. URL: http://club.berkovich-zametki.com/?p=8237 (дата звароту: 12.10.2016).

[16] Аб ролі нацыянальных дэмакратаў у вырашэнні «беларускага пытання» гл.: Rudling P. The Rise and Fall of Belarusian Nationalism. P. 101–102, 166–169.

[17] Rudling P. The Rise and Fall of Belarusian Nationalism. P. 108.

палітыка і эміgranцкага дзеяча Яна Станкевіча (1891–1976) у лістападаўскім нумары «Незалежнай Беларусі»[18]. Артыкул, апублікаваны як адказ на спрэчкі, утрымлівае зварот да беларускіх габрэяў:

> Чаго вы трубіце, аб чым крычыцё вы, жывучыя ў Беларусі і не прызнаючыя павіннасьці грамадзяніна; вы, ня толькі ня любячыя шчыра нашу Бацькаўшчыну, але адносячыся звысака, яшчэ гарэй чымся маскоўская бюракратыя да нашае дарагой нам, па-вашаму «хамскай» мовы?[19]

Падазронасць у адносінах да габрэяў, якія ўдзельнічаюць у «беларускай справе», праглядаецца і ў артыкуле Я. Станкевіча аб рэформе беларускага правапісу ў БССР у 1933 годзе. У ім ён падкрэслівае той факт, што сярод дваццаці васьмі пісьменнікаў, якія падтрымалі «варварскую русіфікацыйную рэформу беларускай мовы», як назваў яе Я. Станкевіч, дзевяць былі габрэямі[20].

Развагі наконт «габрэйскага пытання» можна знайсці ў самвыдацкім перыядычным выданні 1986 года «Бурачок»[21], што выпускаўся маладым пакаленнем інтэлігенцыі, якое імкнулася да незалежнай дэмакратычнай дзяржавы і абмяркоўвала, як прыцягнуць больш людзей да таго, што яны называлі «нацыянальным адраджэннем». У другім нумары «Бурачка» (пад назвай «Вітажэнец») разам з артыкуламі пра мову і палітычную барацьбу з’явіўся цэлы раздзел, у якім абмяркоўвалася «габрэйскае пытанне». Галоўная думка палягала ў тым, што габрэяў нельга дапускаць да ўдзелу ў беларускім нацыянальным руху, бо яны могуць дыскрэдытаваць яго і амаль напэўна зробяць гэта. Аўтары перыядычнага самвыдату сцвярджаюць:

> Мы абыякавыя да жыдоў, для нас не існуе ні іх, ні іхняй «праблемы»[22].

Артыкул у Энцыклапедыі беларускай гісторыі за аўтарствам вядомага гісторыка Міхаіла Біча, апублікаваны пасля абвяшчэння незалежнасці, непасрэдна не трапляе ў доследаваны перыяд, але выяўляе двaістасць, якая дапамагае зразумець пазіцыянаванне беларускай інтэлігенцыі адносна «габрэйскага пы-

[18] Станкевіч Я. Беларускія жыды ці жыды як грамадзяне Беларусі. С. 30. Першапачаткова апублікавана ў «Незалежнай Беларусі» (Вільня, 1919. № 14 (10 ліст.)).
[19] Там жа. С. 29.
[20] Ян Станкевіч [рэцэнзія] «Пісьменнікі БССР аб рэформе правапісу беларускай мовы» (Менск: Беларуская Акадэмія Навук, 1934), першапачаткова выйшаў у: Balticoslavica III, 1938. Цытуецца па: Станкевіч Я. За родную мову і праўдзівы назоў. С. 153–154.
[21] Таксама разглядалася ў падраздзеле 4.1.4.
[22] Жыдоўская праблема // Бурачок. 1987. № 2. С. 6.

тання». Артыкул складаецца з дзвюх частак. Першая здаецца перадрукам з ранейшага савецкага выдання, у ёй крыніцамі сіянізму абвяшчаюцца ў роўнай ступені рэакцыйны царызм і габрэйскі сіянізм. У другой частцы аўтар падрабязна спыняецца на антысемітызме апошніх сталінскіх гадоў і прыхаванай дыскрымінацыі габрэйскага насельніцтва падчас позняга сацыялізму, адначасна ўхваляючы сяброўства і ўзаемаразуменне беларусаў і габрэяў, якія ўсталяваліся ў апошнія (верагодна, познія 1980-я — пачатак 1990-х) гады. Абедзве часткі аб'ядноўвае падкрэсліванне цярпімасці і падтрымкі беларускага насельніцтва, што выражалася пратэстам рабочых супраць пагромаў у 1903–1906 гадах і наданнем прытулку габрэям падчас Халакосту[23].

Афіцыйныя погляды ў савецкай Беларусі прынамсі часткова супадалі з поглядамі антысавецкай эміграцыі: у абодвух выпадках у праявах антысеміцкіх настрояў на беларускіх землях вінаваціліся найперш расійскі імперыялізм і польскі нацыяналізм[24]. У той жа час часта звярталася ўвага на мірнае суіснаванне габрэяў і беларусаў, а таксама на цярпімасць апошніх[25]. Як пісаў пасляваенны эмігранцкі дзеяч Віктар Астроўскі:

> Адказнасьць за злачынствы, учыненыя супраць габрэяў на землях БССР, цалкам ляжыць на тых людзях, якія трымалі ў сваіх руках палітычную і адміністрацыйную ўладу[26].

У выпадку эміграцыі тое ж аднолькава датычыць і пасляваеннага савецкага антысемітызму — гэтыя погляды былі падхопленыя некаторымі нацыянальнымі інтэлектуаламі пасля перабудовы.

Мелі месца і процілеглыя прыклады. 3 кастрычніка 1987 года ў агульнасаюзным штотыднёвіку «Советская культура» група савецкіх беларускіх пісьменнікаў пратэставала супраць кампаніі цкавання вядомага мастака-мадэрніста Марка Шагала (1887–1985). У той час, калі ў музеі Пушкіна ў Маскве з вялікім поспехам экспанаваліся Шагалавы карціны, у БССР адмаўлялася якаянебудзь сувязь мастака з месцам яго нараджэння, Віцебскам, які ён працягваў маляваць на працягу многіх гадоў эміграцыі[27]. Асабліва старannымі ў цкаванні

[23] Біч М., Семянюк У. Антысемітызм // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: у 6 т. Мінск: БелЭН, 1993. Т. 1. С. 129–130.

[24] Ostrowski W. Anti-Semitism in Byelorussia and its Origin. London: Byelorussian Central Council, 1960. P. 18–37 і 38–60.

[25] Ibid. P. 66–68 etc. Гл. таксама: Віцьбіч Ю. Плыве з-пад святое гары Нёман. Мюнхен: Бацькаўшчына, 1959.

[26] Ostrowski W. Anti-Semitism in Byelorussia and its Origin. P. 15–16.

[27] Вялікая выстава твораў Шагала «Марк Шагал. К 100-летию со дня рождения художника» адкрылася ў 1987 годзе ў музеі Пушкіна ў Маскве і карысталася вялікай папулярнасцю ў наведнікаў. Пра ролю Віцебска ў Шагалавым мастацтве і жыцці гл.: Мартинович В. Родина. Марк Шагал в Витебске. Москва: Новое литературное

мастака былі аўтары перыядычнага выдання «Политический собеседник», новастворанага органа ЦК Кампартыі Беларусі, якія змагаўся з дэмакратычным рухам аж да распаду Савецкага Саюза ў 1991 годзе, і асабліва вядомы ў БССР і за яго межамі барэц з сіянізмам Уладзімір Бягун.

Ідэалам і мэтай новых нацыянальна свядомых інтэлектуалаў была нацыянальная дзяржава, заснаваная на дэмакратычных прынцыпах. На практыцы ж ідэя роўнасці ўсіх нацый і прававой дзяржавы часта не ахоплівала нацыянальных меншасцяў. У выпадку Беларусі самастойная праца навукоўцаў і інтэлектуалаў, нават нягледзячы на неспрыяльную дзяржаўную палітыку адносна беларускай мовы і гістарычнага мінулага, пашырыла межы афіцыйнай гістарыяграфіі. Адначасна стаўленне да гісторыі габрэйскай супольнасці мянялася вельмі павольна з абодвух бакоў барыкад. Занятая пытаннем уласнай нацыянальнай ідэнтычнасці, частка беларускай інтэлігенцыі лічыла за лепшае не заўважаць габрэйскага складніка беларускай гісторыі і часта з недаверам ставілася да габрэйскай супольнасці ў Беларусі.

## 5.2. ВЫКЛІКІ ЯДЗЕРНАГА ВЕКУ

***Паэт не мае права быць паэтам***
***цнатлівае і чыстае красы,***
***калі ў Айчыне загніваюць рэкі***
***і засыхаюць на вачох лясы.***

Анатоль Сыс. Паэт (зборнік «Агмень», 1988)

У канцы 1989 года ў інтэрв’ю газеце «Советская Эстония» адзін з лідараў БНФ, прафесар фізікі і матэматыкі Юрый Хадыка заявіў:

> Начнём с того, что до сих пор ни население Белоруссии, ни страны в целом полностью не осознаёт, какая страшная беда обрушилась на нашу республику[28].

Выбух на Чарнобыльскай АЭС імя Уладзіміра Леніна 26 красавіка 1986 года найбольш сур’ёзна закрануў землі савецкіх Беларусі і Украіны, а таксама Бранскую вобласць РСФСР разам з іх жыхарамі. Аднак агульнавя-

---

обозрение, 2017); Симанович Д. Витебск, Марк Шагал и тоталитарная система // Міжнародны кангрэс у абарону дэмакратыі і культуры «Посттаталітарнае грамадства: асоба і нацыя». Мінск, 1994. С. 196–197.

[28] Ходыко Ю. Это наша большая победа // Советская Эстония. 1989. 24 нояб. С. 2. OSA 30–85–12:72.

дома, што Беларусь панесла найбольш значныя страты земляў і насельніцтва. Функцыянеры КПБ падпарадкаваліся рашэнню маскоўскага кіраўніцтва аб затрымцы абвяшчэння сапраўдных памераў аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Як гэта часта здаралася раней, мясцовыя і цэнтральныя ўлады апраўдвалі затрымку неабходнасцю прадухілення панікі сярод насельніцтва. Яшчэ адным распаўсюджаным апраўданнем была недасведчанасць. «У той час ніхто нічога не ведаў», — сцвярджаў Мікалай Слюнькоў, які ў 1986 годзе быў Першым сакратаром КПБ[29].

Прыхоўванне любых звестак доўжылася з дня аварыі да нарады МАГАТЭ (Міжнароднага агенцтва па атамнай энергетыцы) па выніках аналізу пасляаварыйнага становішча, праведзенай 26–29 жніўня 1986 года, пасля чаго Савецкаму Саюзу давялося апублікаваць свае першыя паведамленні пра катастрофу[30]. Хаця, як зазначыў Д. Марплз, інфармаванне насельніцтва аб памерах і наступствах аварыі на Чарнобыльскай АЭС не стала прыярытэтам кампаніі галоснасці нават к 1988 году. Большасць звестак прасочвалася без дазволу ці заахвочвання ўладаў[31].

Лідар СССР і Генеральны сакратар Камуністычнай партыі СССР М. Гарбачоў пастфактум раскрыў стаўленне цэнтра да катастрофы на ўскраінах пры сваім першым наведванні забруджаных земляў Беларусі ў сакавіку 1991 года. Для М. Гарбачова, які змагаўся з цяжкім эканамічным крызісам у краіне і рызыкамі, звязанымі з яго палітыкай дэцэнтралізацыі, доўгатэрміновыя наступствы аварыі на Чарнобыльскай АЭС не здаваліся прыярытэтным пытаннем ні ў момант аварыі, ні пазней. Тым не менш ён разлічваў на Беларусь як на адну з апор Савецкага Саюза. Замест таго, каб пераглядзець свае ўзаемаадносіны са, здавалася б, антыперабудоўнымі камуністычнымі ўладамі ў Беларусі, ён дэманстраваў узаемную згоду па гэтым пытанні:

> С белорусами у меня всегда были прекрасные отношения. Я очень хочу, чтобы белорусский народ смог выбраться с наименьшими потерями из этой национальной беды из-за Чернобыля. Нас часто упрекают — и то, мол, мы проглядели, и это.
>
> Но мы с вами только сейчас познаём эту материю. Конечно же, ужасно

[29] Гл. рэдкае інтэрв’ю М. Слюнькова праз дваццаць гадоў пасля выбуху. Па іроніі лёсу, у той самы дзень, 26 красавіка 1986 годзе, быў 67-ы дзень нараджэння Слюнькова: Интервью двадцать лет спустя // «Контуры», АНТ. Апублікавана 28 красавіка 2013 года. URL: https://ont.by/news/0087775 (дата звароту: 08.01.2018).

[30] Marples D. The Social Impact of the Chernobyl Disaster. P. x. Гл. таксама: Summary Report on the post-Accident Review Meeting on the Chernobyl Accident. Vienna: IAEA Safety Series, 1986.

[31] Ibid. P. 126.

> получается, что народ находится, как говорят, в «эксперименте». Но мы использовали весь мировой опыт, который есть у МАГАТЭ, у японцев, у тех стран, которые имеют ядерные реакторы[32].

Партыйныя эліты савецкай Беларусі, верагодна, залежалі ад рашэнняў Масквы больш, чым усе іншыя ў еўрапейскай частцы СССР. Яны да канца падтрымлівалі вобраз БССР як узорнай сацыялістычнай рэспублікі, якая смела спаткала катастрофу і эфектыўна спраўлялася з ёю. Як заўсёды падкрэслівалі цэнтральныя ўлады, гэта выгадна адрознівала кіраўніцтва Беларусі ад «скардзячыхся ўкраінцаў»[33].

Большасць насельніцтва была праінфармаваная пра памеры ўздзеяння і доўгачасовыя наступствы ядзернай катастрофы толькі праз тры гады. Разуменне Чарнобыля як калектыўнай трагедыі ўвайшло ў грамадскі дыскурс толькі ў 1988 годзе. Далей, у верасні 1989 года, адбыўся першы «Чарнобыльскі шлях» — масавая акцыя смутку і пратэсту (гл. ілюстрацыю 17). К таму часу няздольнасць кіраўніцтва неадкладна прыняць неабходныя меры ў многіх выпадках прывяла да непапраўных страт. Толькі ў ліпені 1989 года Вярхоўны Савет БССР упершыню афіцыйна звярнуўся да праблемы Чарнобыля і абмеркаваў прапанаваную Дзяржаўную праграму па ліквідацыі наступстваў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС[34]. Па меры ўзмацнення пазацэнзурнага друку яго аўтары неадкладна пачалі пісаць аб шкодным уздзеянні радыяцыі на здароўе, падрабязна разглядаючы яго разам з іншымі праблемамі навакольнага асяроддзя ў рэспубліцы.

Алесь Адамовіч, ваенныя раманы якога, як і адмова падпісваць ліст супраць Ю. Даніэля і А. Сіняўскага ў «Литературной газете», ужо абмяркоўваліся вышэй, стаў вядомым грамадскім дзеячам у тым ліку ў сувязі са сваёю антыядзернай дзейнасцю. У 1966 годзе ён скончыў прэстыжныя «Вышэйшыя курсы сцэнарыстаў і кінарэжысёраў», што спрыяла яго поспеху як аўтара прозы, літаратуразнаўца і сцэнарыста. У 1967–1987 гадах А. Адамовіч быў навуковым супрацоўнікам і загадчыкам (у 1976–1983 гадах) сектара літаратурных узаемасувязяў у Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР; ён таксама стаў сябрам-карэспандэнтам АН БССР.

Адамовічава антыядзерная дзейнасць пачала развівацца ў пачатку 1980-х, на піку гонкі ўзбраенняў. Пагроза ядзернай вайны ніколі не была настолькі рэальнай з часоў кубінскага ракетнага крызісу 1962 года. Гэтая акалічнасць дае магчымасць параўнаць пазіцыю беларускага пісьменніка з пазіцыяй япон-

[32] Интервью с Михаилом Горбачёвым // Народная газета. 1991. 30 ліст. Цыт. па: Союз можно было сохранить / под ред. А. Т. Вебера [и др.]. С. 449.

[33] Адамовіч А. Курапаты, Хатынь, Чарнобыль // Адамовіч А. Выбраныя творы. С. 438. Упершыню надрукавана 15 ліпеня 1990 года ў «Литературной газете».

[34] Marples D. From Soviet rule. P. 45.

скага пісьменніка і грамадскага дзеяча Кэндзабура Оэ (нар. у 1935 годзе), які ў 1965 годзе апублікаваў калектыўную гісторыю ахвяр ядзернай катастрофы ў «Хірасімскіх нататках»[35]. А. Адамовіч падзяляў цвёрдую антыядзерную пазіцыю К. Оэ, што выдзяляла яго ад іншых беларускіх літаратараў і інтэлігенцыі наагул. Хоць папярэджанні аб надыходзячай катастрофе ўзнікалі ў беларускай паэзіі і раней, асабліва ў вершах Пімена Панчанкі і Уладзіміра Караткевіча[36].

Акрамя таго, А. Адамовіч ужо меў досвед працы з індывідуальнымі расповедамі аб агульным траўматычным мінулым і ператварэння іх у літаратуру — ці нават «звышлітаратуру», па яго ж уласнай фармулёўцы. Разам з суаўтарамі драматычнай ваеннай хронікі «Я з вогненнай вёскі…» (напісанай разам з Янкам Брылём і Уладзімірам Калеснікам) і «Блокадной книги» (з Даніілам Граніным) ён прысвяціў шмат гадоў збору сведчанняў відавочцаў з усёй Беларусі і з Ленінграда[37].

Аднак нарысаў пра калектыўную трагедыю чарнобыльскай кастастрофы А. Адамовіч не напісаў, ён не стаў яе непасрэдным наратарам. Нават калі б ён і хацеў гэта зрабіць, у яго было замала часу на асэнсаванне наступстваў катастрофы і апытанне сведкаў. Гэтую задачу пазней выканала Святлана Алексіевіч, якая запісала і пераказала звязаныя з аварыяй гісторыі ў кнізе «Чернобыльская молитва». Святлана Алексіевіч сцвярджае, што ўспадкавала гэты літаратурны жанр ад А. Адамовіча, які быў адным з вынаходнікаў жанра «паліфанічных твораў»[38].

У пачатку 1980-х гадоў, пасля ўзмацнення халоднай вайны, сусветная супольнасць найперш непакоілася аб магчымасці ядзернай вайны, і менш — аб выбуху на атамнай станцыі, якая не выкарыстоўвалася для ваенных мэтаў. У 1986 годзе А. Адамовіч паспрабаваў пралічыць магчымыя станоўчыя вынікі новага мыслення, уведзенага М. Гарбачовым, у зборніку «Прарыў», выпушчаным амаль адразу пасля чарнобыльскай катастрофы[39]. Як вынікае з тэксту, хаця

[35] Kenzaburo Oe. Hiroshima Notes. New York: Grove Press, 1995. Упершыню выдадзена на англійскай мове ў 1981 годзе. У СССР «Хірасімскія нататкі» былі ўпершыню выдадзены ўжо ў 1973 годзе і перавыдадзеныя пасля чарнобыльскай катастрофы, у 1987 годзе.

[36] У 1984 годзе пісьменнік і партыйны функцыянер (член ЦК КПБ) Эдуард Скобелеў (1935–2017) выдаў навукова-папулярны фантастычны твор, у якім апісваўся свет пасля ядзернай катастрофы. Гл.: Скобелев Э. Катастрофа. Мінск: Мастацкая літаратура, 1984.

[37] Адамовіч А., Брыль Я., Калеснік У. Я з вогненнай вёскі... Мінск: Мастацкая літаратура, 1975; Адамович А., Гранин Д. Блокадная книга. Москва: Советский писатель, 1979.

[38] Нобелеўскі камітэт таксама ўжывае выраз «паліфанічнае пісьмо» ў сваёй ацэнцы поспехаў Святланы Алексіевіч у літаратуры. «The Nobel Prize in Literature 2015». Афіцыйны сайт Нобелеўскай прэміі. URL: www.nobelprize.org/prizes/literature/2015/summary/ (дата звароту: 20.12.2018). Гл. таксама: Адамович А. Как быть гениальным // Адамович А. Отвоевались. С. 175–184.

[39] Міхаіл Гарбачоў абагульніў ідэі, на якіх засноўвалася перабудова: Горбачёв М.

ў А. Адамовіча і было адчуванне катастрафічнасці аварыі на ЧАЭС, нават ён не мог на той момант усвядоміць маштаб яе наступстваў. У гэтым тэксце ён засяродзіўся на небяспецы ядзернай зброі, адмаўляючы любую вайну:

> Калі вайсковая перамога ў цяперашнюю ядзерную эпоху немагчымая і з'яўляецца, наадварот, злачынствам супраць чалавечнасці, то лагічна разважаць, што найвышэйшы ўзровень патрыятызму, жаданне лепшага для свайго і для іншых народаў (нацяпер непадзельнае) павінны суправаджацца глыбокай агідай да вайны. Абурэнне не ворагам, а ўсім, што правакуе вайну ці варожасць, і кожным, хто гатовы развязаць яе[40].

Большасць савецкай інтэлігенцыі ўсвядоміла небяспеку дрэнна кантраляванага выкарыстання атамнай энергіі толькі пасля таго, як адбыўся выбух 1986 года. Як успамінаў А. Адамовіч, за два гады да Чарнобыля ён не змог пераканаць Васіля Быкава «зрабіць антыядзерныя заявы ў літаратуры»[41]. І В. Быкаў, і А. Адамовіч мелі тое, што Эдвард Саід называе прызваннем інтэлектуала: намер прадстаўляць тых, хто непрадстаўлены, змагацца ад імя «людзей, якія не маюць прадстаўнікоў і знаходзяцца ў неспрыяльных абставінах»[42]. В. Быкаў апісваў пакуты простых людзей падчас вайны, А. Адамовіч папярэджваў пра забытыя рэальныя і магчымыя ахвяры злоўжывання ядзернай энергетыкай.

А. Адамовіч працягваў сваю антыядзерную дзейнасць — як палітычную, так і літаратурную — пасля аварыі на Чарнобыльскай АЭС[43]. Пачынаючы з 1986 года і заканчваючы распадам СССР беларускія партыйныя эліты так і не здолелі прыняць належныя меры для зніжэння наступстваў аварыі.

Адамовічаў ліст Міхаілу Гарбачову[44], напісаны 1 чэрвеня 1986 года, стаў яркім прыкладам інтэлектуальнай рэакцыі на несправядлівасць і палітычную слепату мясцовых уладаў. У гэтым лісце А. Адамовіч звярнуў увагу М. Гарбачова на «катастрафічнае забруджванне» земляў Беларусі пасля чарнобыльскага выбуху. А. Адамовіч быў адным з нямногіх, хто парушыў літаральна забойчую цішыню вакол чарнобыльскай трагедыі. Ён прыцягнуў увагу да катастрофы, сапраўдны памер якое на той час не ўсведамляўся большасцю. Адначасна

---

Перестройка и новое мышление для нашей страны и для всего мира. Москва: Политиздат, 1988.

[40] Adamovich A. Problems with the New Way of Thinking // Breakthrough: Emerging New Thinking / A. Gromyko, M. Hellman, eds. New York: Walker and Company, 1989. P. 121.

[41] Ibid. P. 127.

[42] Said E. Representation of the Intellectual. P. xvii.

[43] «Отвоевались!»; «Апокалипсис по графику»: [Об аварии на Чернобыльской АЭС]. Мінск: Беларусь, 1992.

[44] Адамович А. Письмо Міхаилу Горбачёву // Адамовіч А. Выбраныя творы. С. 590–594, упершыню надрукавана ў часопісе «Крыніца» (1989. № 11).

магчымасць такога звароту інтэлектуала да дзяржаўных органаў з’явілася дзякуючы павароту да дэмакратычных зменаў у Савецкім Саюзе, што змяніла само становішча інтэлектуала. Мясцовыя партыйныя функцыянеры, якія схіляліся да рэакцыйнай групы Палітбюро на чале з Ягорам Лігачовым, усяляк імкнуліся прадухіліць зварот А. Адамовіча да цэнтра. У 1987 годзе ён быў вымушаны з’ехаць у Маскву, дзе стаў дырэктарам саюзнага Інстытута кінематаграфіі.

Стаўшы агульнавядомымі, праўдзівыя звесткі пра катастрофу на Чарнобыльскай АЭС, разам з новымі сведчаннямі гісторыкаў і археолагаў аб памерах сталінскіх чыстак у Беларусі ў 1937–1941 гадах, шакавалі і ўзрушылі грамадства. Нягледзячы на вобраз самай паслухмянай і ўзорнай рэспублікі, савецкая Беларусь павольна ступіла на шлях дэмакратычных пераўтварэнняў і палітычнай незалежнасці, якія нарэшце сталі рэальнасцю 25 жніўня 1991 года.




*Ілюстрацыя 17. Алесь Адамовіч (трэці справа) на першым «Чарнобыльскім шляху» 30 верасня 1989 года. З ласкі Наталлі Адамовіч.*

# 6. ЗАКЛЮЧЭННЕ

## 6.1. ПАДАГУЛЬНЕННЕ

Савецкая Беларусь, маючы славу палітычна і эканамічна забяспечанай рэспублікі, мела дастаткова ўмераны ўзровень іншадумства. Пасля радыкальных узрушэнняў першай паловы стагоддзя — дзвюх сусветных войнаў і сталінскіх рэпрэсій — пасляваенныя дзесяцігоддзі, і ў прыватнасці вывуча́ны перыяд, успрымаліся як мірныя і камфортныя. У параўнанні з пачаткам стагоддзя дабрабыт і ўзровень асветы выраслі ў геаметрычнай прагрэсіі. Беларусы былі пераможцамі фашызму, будавалі самыя вялікія грузавікі ў Савецкім Саюзе, ляталі ў космас і актыўна ўдзельнічалі ў сесіях Асамблеі ААН у Нью-Ёрку. Беларусь напружана працавала над забеспячэннем іншых рэспублік сельскагаспадарчай прадукцыяй, але і яе эканоміка імкліва расла за кошт інвестыцый з саюзнага бюджэту. Беларускі народ ужо не быў «цёмным», а наадварот — стаў паважаным чальцом «савецкай сям'і народаў». Агулам, ён меў добрую рэпутацыю за межамі рэспублікі. Мара аднаго з самых знакамітых беларускіх паэтаў, Янкі Купалы, збылася: краіна заняла «пачэснае» месца сярод іншых дзяржаў[1].

Здавалася, у беларусаў не было вялікіх прычын скардзіцца на савецкую ўладу. Аднак пры пільным даследаванні аказваецца, што такія прычыны ўсё ж былі.

Па-першае, пасля Другой сусветнай вайны прымусовая калектывізацыя, якую ўсходнія беларусы перажылі на пачатку 1930-х гадоў, прыйшла і ў Заходнюю Беларусь. Хаця к сярэдзіне 1960-х становішча крыху палепшылася, калектывізацыя вы́клікала збядненне сялянства, разбурэнне традыцыйнага ладу жыцця і заняпад сялянскай культуры з яе адметнымі мараллю і эстэтыкай. Уладзімір Караткевіч пасяшаўся ахапіць гэтую знікаючую культуру ў

[1] «Занімай, Беларусь маладая мая, свой пачэсны пасад між народамі», — пісаў Янка Купала ў вершы «Маладая Беларусь» у 1913 годзе.

сваім зборніку эсэ «Зямля пад белымі крыламі», выдадзеным у 1972 годзе. Адраджэнне гэтай культуры і фальклорных традыцый стала галоўнай мэтай нефармальных моладзевых аб'яднанняў, якія пачалі ўтварацца ў пачатку 1980-х. Ядро руху складалася з гараджан, якія раней не былі знаёмыя з сялянскай культурай.

Па-другое, незадавальненне савецкай моўнай і нацыянальнай палітыкай стала галоўным каменем спатыкнення паміж інтэлігенцыяй і ўладамі. Моўнае пытанне заставалася актуальным цягам усяго вывуча́нага перыяду. Імкненне да адраджэння беларускіх мовы і культуры звяло разам розныя групы інтэлектуалаў. Нават такія прывілеяваныя і ўзнагароджваныя ўладамі верныя камуністы, як Іван Шамякін ці Максім Танк, так ці іначай былі нязгодныя і супрацьстаялі выцісканню з публічнай сферы беларускай мовы і культуры. Урэшце, моўная сфера была тым полем, якое давала інтэлігенцыі заробак. К пачатку перабудовы ў БССР, як і ў іншых нерасійскіх савецкіх рэспубліках, нацыянальнае пытанне стала адным са слупоў іншадумства. Яно не страціла сваёй актуальнасці ні ў канцы 1980-х, ні ў наступныя дзесяцігоддзі. У той жа час, здаецца, яго важнасць ніколі не выходзіла за межы кола інтэлігенцыі дастаткова моцна, каб мабілізаваць значную частку насельніцтва. З 1980-х гадоў беларуская мова стала найважнейшай азнакай, якая дазваляла інтэлігенцыі паказаць сваю адрознасць як ад наменклатуры, так і ад насельніцтва. Першая ніколі не змагла дастаткова добра авалодаць мовай; апошняе ж змяніла яе на «трасянку» — своеасаблівае спалучэнне рускай і беларускай.

Па-трэцяе, ключавою кропкай разладу з савецкай уладай стаў пераслед рэлігіі. У гэтым моманце спалучаліся духовае і свецкае. Інтэлігенцыя абуралася і знішчэннем сакральнай архітэктуры, якое адбывалася падчас антырэлігійнай кампаніі Хрушчова ў 1960-я гады, і зносам старога горада ў Мінску ў 1970–1980-х гадах, лічачы іх агульным наступам на беларускую культуру. Пратэстанцкія супольнасці, хаця яны адмыслова не вывучаліся ў гэтым даследаванні, былі найбольш настойлівымі ў барацьбе за свабоду веравызнання. Рэлігійная вера стала галоўнай тэмай у інтэлектуальных дыскурсах у разгар перабудовы.

Нарэшце, стаўленне да ўлады СССР змяніў выбух на Чарнобыльскай АЭС, яго ўплыў на насельніцтва, тэрыторыю і эканоміку Беларусі. Адначасна ён прыцягнуў увагу да мясцовых экалагічных праблем, якія доўга замоўчваліся ў Савецкім Саюзе. Тым не менш паварот да экалагічнай свядомасці стаў прыкметны не раней за 1987–1988 гады. Раней такія тэмы абмяркоўваліся толькі некаторымі, і то зрэдку. Пратэсты Алеся Адамовіча супраць ядзернай энергетыкі ў пачатку 1980-х гадоў можна лічыць выключэннем. У цэлым у савецкай Беларусі ў эпоху Л. Брэжнева галасы незадаволенасці нагадвалі выспы ў моры канфармізму. Аднак у канцы 1980-х носьбіты гэтых галасоў былі пачутыя, і

больш за тое, яны аказаліся на чале пераўтварэнняў, якія закранулія як культуру, так і грамадства ў цэлым.

Вывучэнне паходжання, асветы і сямейнага становішча на аснове дадзеных сямідзесяці асоб (гл. табліцу 5 і дыяграмы) дазваляе атрымаць прыкладны сацыяльны партрэт інтэлектуалаў, ідэі якіх у той ці іншай ступені разглядаюцца ў гэтай кнізе. Дадзеныя аналізаваліся з выкарыстаннем праграмнага асяроддзя «R» для статыстычных вылічэнняў. Аналіз паказаў, што большасць інтэлігенцыі мела вышэйшую асвету (універсітэцкую або інстытуцкую). Большасць паходзіла з сялянскіх сем'яў; другую па велічыні групу складалі спадчынныя інтэлігенты. Апошнія ў асноўным належалі да пакалення інтэлігенцыі, якая вяла рэй у 1980-х гадах і прадстаўнікі якое нарадзіліся і/або выраслі ў гарадах.

Значнасць горада Мінска для інтэлігенцыі немагчыма пераацаніць: у Мінску была засяроджаная большая частка інтэлігенцыі. Крыху нечаканымі былі вынікі, якія датычаць паходжання інтэлігенцыі з Заходняй і Усходняй Беларусі. Землі сучаснай Беларусі былі падзеленыя на дзве часткі толькі паміж 1921 і 1939 гадамі, але ўплыў гэтага падзелу адчуваўся і ў пасляваенны час. На дыяграмах 2 і 3 відаць, што большасць інтэлектуалаў, якія вызначалі нонкафармісцкія дыскурсы ў савецкай Беларусі, паходзілі з Усходу, тады як, здавалася б, гэтага варта было чакаць з земляў, якія падпалі пад савецкую ўладу на 18 гадоў пазней. Відаць, жыхарам Заходняй Беларусі часта даводзілася даказваць сваю палітычную прыхільнасць, а перспектывы кар'еры для іх часта былі абмежаванымі.

Іншадумства і самвыдат засяроджваліся на такіх пытаннях, як гісторыя, мова, культура, экалогія і палітыка. Яны супярэчылі афіцыйнаму гледзішчу і ставілі пад сумнеў асновы савецкай сістэмы яшчэ да перабудовы. Але гэтая супольнасць была далёкая ад аднастайнасці. Пазіцыі прадстаўнікоў распасціраліся ад канструктыўнага (ці інстытуцыйнага) іншадумства, абмежаванага крытыкай савецкай культурнай палітыкі, да апанентаў сістэмы, адданых радыкальнай праграме культурнай, эканамічнай і палітычнай эмансіпацыі.

Гэта даследаванне дазваляе нам падзяліць беларускую інтэлігенцыю на чатыры ўмоўныя групы:

— беларуская савецкая творчая інтэлігенцыя (разгалінаваная на дзве групы): «канфармісты» і «нонканфармісты»;
— дысідэнты;
— нацыянальная інтэлігенцыя;
— пакаленне 1980-х гадоў.

Першая група, беларуская савецкая інтэлігенцыя, была самай мнагалюднай. Паводле агульнапрынятага ў СССР вызначэння, інтэлігенцыя была сацыяльнай групай, што складалася з добра адукаваных людзей, якія займаліся творчай інтэлектуальнай працай. Яна мела выступаць у якасці пасрэдніка паміж камуністычнай партыяй і насельніцтвам, падтрымліваючы асновы савецкай улады і карыстаючыся вынікаючымі з гэтага прывілеямі.

Адзін з самых вядомых і найбольш чытаных беларускіх савецкіх пісьменнікаў, кіраўнік выдавецтва «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя» Іван Шамякін апісаў гэтае месца інтэлігенцыі ў савецкай іерархіі ў інтэрв'ю 1985 года ў «Полымі» наступным чынам:

> Мы можам радавацца, што аўтарытэт савецкага пісьменніка высокі. Наша літаратура выказвае планы партыі, думкі, падзеі, мары народа. Партыя падтрымлівае наш аўтарытэт. Усё іншае залежыць ад нас саміх. Кожны чытач, застаючыся з кнігай, павінен адчуць, убачыць, што яго дарадца — пісьменнік — у вышэйшай ступені партыйны чалавек, перакананы і паслядоўны абаронца агульнанародных інтарэсаў, клапатлівы садоўнік чалавечых душ, захавальнік народных традыцый, чалавек, улюблёны ў свет, у людзей[2].

Інтэрв'ю было апублікавана напярэдадні перабудовы — у тым жа месяцы Міхаіл Гарбачоў быў абраны Генеральным сакратаром ЦК КПСС. Яно сведчыла, што гэтая група інтэлігенцыі па-ранейшаму знаходзілася пры ўладзе і не мела намеру здаваць сваіх пазіцый. Парадаксальна, але яе перабольшаная вернасць партыі аб'ядноўвалася з мэтай служыць беларускаму народу ў прыватнасці і чалавецтву наагул. Шчырыя ці не, але такія заявы падтрымлівалі ідэю інтэлігенцыі і яе місіі. Выходзілі перыёдыкі, пісаліся і выдаваліся па-беларуску літаратурныя творы. Больш таго, іх якасць часта была даволі высокай. У АН БССР дзейнічалі Інстытуты беларускай гісторыі і літаратуры, якія, аднак, падтрымлівалі савецкую ідэалогію і савецкую нацыянальную палітыку. Гэтую неадназначнасць беларускай савецкай інтэлігенцыі найлепш адлюстраваў пісьменнік пакалення 1980-х гадоў Ігар Бабкоў у сваім рамане «Хвілінка»:

> Яны сядзяць у сваіх часопісах і выдавецтвах і думаюць толькі пра тое, што на іх век хопіць. І дзеткі іх ужо пасканчалі расейскія школы з ангельскім ухілам. І дома яны ўжо даўно перайшлі на расейскую[3].

[2] Шамякін І., Скобелеў Э. Вопыт жыцця — вопыт літаратуры: дыялог // Полымя. 1985. № 3. С. 195.

[3] Бабкоў І. Хвілінка. Тры гісторыі. Мінск: Логвінаў, 2013. С. 191. Як аказалася, на «іх век» не хапіла. У сваім дзённіку І. Шамякін апісвае свае няшчасныя ўмовы жыцця на пачатку незалежнасці, асабліва ў 1991–1994 гады. Рэзка ўпалі наклады кніг; неда-

З аднаго боку, гэтая група правяла кадыфікацыю беларускай мовы і выдала найбольш кніг па-беларуску. Яна таксама пашырыла поле беларускай гісторыі і культуры. З іншага боку, мова кадыфікавалася такім чынам, каб спрыяць далейшаму зліццю нацый, а гістарыяграфія засяроджвалася толькі на тых тэмах, якія былі дапушчальныя для аддзела ідэалогіі і прапаганды Цэнтральнага камітэта КПСС.

Сярод гэтай групы інтэлігенцыі было даволі шмат людзей, якіх можна акрэсліць як нонканфармістаў. Некаторыя з іх — як, напрыклад, сябры афіцыйнага Саюза пісьменнікаў — трымаліся думкі, што савецкі пісьменнік ці гісторык павінен прымаць рэжым. Адначасна яны глыбока адчувалі недахопы савецкага ладу (у цэлым або ў асобных яго праявах) і лічылі, што маюць права яго крытыкаваць.

У сваім нарысе «Жить не по лжи», які выйшаў самвыдатам у 1974 годзе, вядомы дысідэнт і лаўрэат Нобелеўскай прэміі Аляксандр Салжаніцын звярнуўся да савецкай інтэлігенцыі, імкнучыся пераканаць яе ісці шляхам праўды. На думку А. Салжаніцына, гэта быў адзіны, самы просты і адначасна самы складаны спосаб дзейснага супраціву. Для многіх прадстаўнікоў беларускай інтэлігенцыі праўда была галоўным у іх жыцці і творах задоўга да таго, як гэта было выказана Салжаніцыным. Для тых, хто выхоўваўся на ідэях расійскіх дэмакратаў і расійскай літаратуры XIX стагоддзя, а таксама на беларускім адраджэнні пачатку XX стагоддзя і каму была прышчэпленая адказнасць за лепшы лёс роднага народа, супраціў, узброены праўдай, здаваўся натуральным выбарам.

Некаторыя з іх, напрыклад Васіль Быкаў і Уладзімір Караткевіч, увесь час змагаліся з савецкімі цэнзарамі за права выдання кніг, за якія яны цярпелі нападкі ў савецкай прэсе. І В. Быкаў, і У. Караткевіч уводзілі нетрадыцыйныя ўяўленні пра мінулае, якія натхнялі на пераасэнсаванне нацыянальнай ідэнтычнасці ў часы перабудовы. У той час як праўдзівыя ваенныя раманы В. Быкава служылі абвінавачаннем савецкай улады, У. Караткевіч ствараў магутную рамантычную міфалогію, якая падахвочвала савецкіх грамадзян зноўку ператварацца ў беларусаў[4]. Некаторыя, як Алесь Адамовіч або Мікалай Улашчык, былі вымушаныя перабрацца ў цэнтр — у Маскву, дзе можна было пазбегнуць большасці абмежаванняў і шырэй прасоўваць свае ідэі. Творы такіх аўтараў і навукоўцаў дазваляюць паставіць пад сумнеў тэзу аб згодніцтве беларускай савецкай інтэлігенцыі, бо ў многіх выпадках пазіцыя першых была заўважнай і пакідала яўныя азнакі культурнага супраціву, які ўзнік у межах савецкай сістэмы.

---

хоп паперы абмежаваў перавыданні яго твораў, ганарары і зберажэнні з’ела інфляцыя. Гл.: Шамякін І. Роздум. С. 233–499.

[4] Гл., напрыклад, інтэрв’ю былых удзельнікаў «Майстроўні», якія часта спасылаюцца на У. Караткевіча як аўтара, які звярнуў іх памкненні на беларускую культуру: Дубавец С. «Майстроўня».

Да другой групы належалі дысідэнты «агульнадэмакратычнай плыні», як яе вызначаў Міхась Чарняўскі. Яны перажылі радыкальны разрыў з савецкай сістэмай, і яе ўдзельнікі зазвычай займалі маргінальнае становішча ў грамадстве. Яна нагадвала расійскі дысідэнцкі рух і дэманстравала высокую ступень прывязанасці да расійскай культуры. Хоць гэтая маргінальная група і не была ў цэнтры ўвагі гэтай кнігі, яна паскарала разняволенне беларускай савецкай інтэлігенцыі і падкрэслівала разнастайнасць пратэставых культур у Беларусі.

Ключавая постаць, якую тут варта згадаць, — легендарны і ў нечым міфічны мінскі інтэлектуал Кім Хадзееў. У 1949 годзе, хучэй за ўсё за вольныя выказванні ў дачыненні да савецкай культуры, ён быў выключаны з філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Хадзееў быў зняволены, прайшоў праз сістэму ГУЛАГ і вярнуўся ў Мінск у сярэдзіне 1950-х. З тых часоў ён збіраў вакол сябе кола іншадумцаў. Маючы вельмі шырокія веды, К. Хадзееў вёў цалкам «асацыяльнае», выражаючыся савецкай мовай, жыццё, і тым не меней натхняў многіх маладых людзей, заклікаючы іх думаць і дзейнічаць свабодна[5].

Трэцяя група — «старая нацыянальная інтэлігенцыя», творы і ідэалы якое былі глыбока ўкаранёныя ў ідэалогіі «нацыянальнага Адраджэння» пачатку стагоддзя. Як правіла, гэтыя асобы не належалі ні да якіх афіцыйных установаў. Некаторыя, як Ларыса Геніюш, перажылі сталінскія канцлагеры; іншыя, як, напрыклад, Мікола Ермаловіч, пазбеглі назірання з-за стану здароўя або, як Зоська Верас, жылі ў іншых дзяржавах і, такім чынам, маглі працягваць сваю дзейнасць. Іх было нямнога, і з-за свайго грамадскага становішча аўтсайдараў яны маглі перапісвацца з эміграцкай інтэлігенцыяй, валодалі і дзяліліся ведамі — таксама ў выглядзе кніг ды іншых крыніц, якія на той час былі недаступныя. Такім чынам, нягледзячы на пагрозу праследу, дом Ларысы Геніюш стаў месцам сустрэч інтэлігенцыі: савецкія ўлады адсочвалі яе гасцей і лісты. Мікола Ермаловіч пайшоў на пенсію ў 36 гадоў з-за сур'ёзных праблем са здароўем; ён прысвяціў сваё жыццё альтэрнатыўным канцэпцыям беларускай гісторыі.

Чацвёртая група інтэлігенцыі можа быць названая пакаленнем 1980-х гадоў, або, паводле самаідэнтыфікацыі, пакаленнем «Тутэйшых»[6]. Гэтая група

[5] На жаль, захавалася вельмі мала пісьмовых доказаў, якія маглі б дапамагчы нам праліць святло на дзейнасць К. Хадзеева і аддзяліць факты ад выдумак. Невыпадкова ўсе звесткі пра Хадзеева былі атрыманыя з успамінаў ці нават мастацкіх твораў. Гл., напрыклад, раман Уладзіміра Някляева «Аўтамат з газіроўкай з сіропам і без: Менскі раман» (Менск: Паперус, 2012), дзе апісваецца інтэлектуальны супраціў 1960-х гадоў: гісторыя нонканфармісцкай моладзі, уплеценая ў геаграфію горада Мінска. Раскрываюцца ў ім і спробы КДБ праследаваць антысавецкую групоўку на чале з дысідэнтам Кімам Хадзеевым (выведзеным тут пад імем Кіма Сысоя або Палкоўніка).

[6] Марк Андрычык выкарыстоўвае гэтае азначэнне («пакаленне васьмідзясятых») адносна падобнай з'явы ва ўкраінскім грамадстве: Andryczyk M. New Images of the

сабралася ў канцы 1970-х — пачатку 1980-х гадоў, у самы разгар брэжнеўскага застою. Улічваючы яе памкненні да культуры ды інтэлектуальнай традыцыі Захаду, да яе ўдзельнікаў больш прыдатным можа быць тэрмін «інтэлектуалы». Яны сцвярджалі сваю пераемнасць з часткай нонканфармісцкай інтэлігенцыі і старою нацыянальнай інтэлігенцыяй, але рашуча заяўлялі сваё процістаянне астатнім групам.

Беларускі самвыдат, будучы неаднастайным, не абмяжоўваўся выключна сферамі мовы і культуры. Ён ахопліваў шырэйшае кола тэм, уключаючы палітычныя дэманстрацыі, экалагічны крызіс, сацыяльную крытыку, альтэрнатыўныя гістарычныя ўяўленні, а таксама пазацэнзурныя паэтычныя і літаратурныя спробы. Ф. Кінд-Ковач і Дж. Лабаў указваюць на ролю альтэрнатыўнай культуры і вытворчасці самвыдату для стварэння супольнасці[7]. Падпольнае выдаўніцтва і альтэрнатыўныя ідэі ў савецкай Беларусі, нягледзячы на іх адносны дэфіцыт, дазволілі распрацаваць альтэрнатыўныя культурныя і палітычныя праграмы, падрыхтаваўшы глебу для інтэлектуальных абмеркаванняў і росквіту вальнадумства падчас і пасля перабудовы. Падобным чынам, гэта дало першы досвед арганізаванай выдавецкай дзейнасці, што аблегчыла легальны друк перыядычных выданняў пасля абвяшчэння незалежнасці Беларусі. У сувязі з гэтым відавочная дваістая прырода мяжы, апісаная Эдвардам Кейсі: ток ідэй праз мяжу робіць яе пранікальнай і пераўтварае яе ў памежжа[8]. Інтэлектуальныя і культурныя праекты пераадольвалі абмежаванні фізічнага руху, якія накладваліся дзяржаўнай мяжою.

У гэтым даследаванні разглядаюцца агульныя і спецыфічныя рысы іншадумства ў асяроддзі нацыянальна арыентаванай інтэлігенцыі ў БССР і аналізуюцца асноўныя перыядычныя і неперыядычныя самвыдаты. Прадстаўленне ўсіх формаў супраціву і іншадумства ў БССР не ўваходзіла ў задачы кнігі — гэтая мэта можа быць дасягнутая ў будучых даследаваннях.

Сярод іншага, было немагчыма падрабязней спыніцца на дзейнасці Міхаіла Кукабакі, гісторыя жыцця якога не адпавядае стандартнаму разуменню інтэлігенцыі; аднак яго публікацыі і барацьба за свабоду былі глыбока інтэлектуальнымі і, несумненна, заслугоўваюць большай увагі[9]. Даследуючы

---

Intellectual in Post-Soviet Ukrainian Literature // Ukraine on Its Meandering Path Between East and West / A. N. Lushnycki, M. Riabchuk, eds. Bern: Peter Lang, 2009. P. 183–200.

[7] Kind-Kovács F., Labov J. Samizdat and Tamizdat: An Entangled Phenomena? P. 8.

[8] Casey E. Border versus Boundary at La Frontera // Environment and Planing D: Society and Space. 2011. № 29. P. 385–386.

[9] Асабісты фонд Міхаіла Кукабакі захоўваецца ў Архіве гісторыі іншадумства ў СССР (1953–1987) Маскоўскага таварыства «Мемарыял» у Маскве. Гл. «М. Кукабака» на старонцы «Мемарыялу»: URL: http://www.memo.ru/d/225.html (дата звароту: 20.11.2016).

самвыдат і культурны супраціў у савецкай Беларусі, я заўважыла, што эмігранцкія і савецкія беларускія інтэлектуалы не былі цалком адарванымі адны ад другіх, як магло б падацца з увагі на халодную вайну. Перапіска і ўспаміны пісьменнікаў-эмігрантаў паказваюць, што яны былі вельмі добра знаёмыя з тым, што публікавалася ў савецкай Беларусі, і часта давалі хуткія адказы ў прэсе. Савецкія друкаваныя выданні былі даступныя ў вядучых бібліятэках Захаду — такіх, як Нью-Ёркская грамадская бібліятэка. Матэрыялы пра БССР былі яшчэ больш дасяжныя для тых, хто працаваў у Інстытуце вывучэння СССР і на такіх радыёстанцыях, як Радыё «Свабода». Савецкія беларускія пісьменнікі, у сваю чаргу, атрымлівалі інфармацыю праз крытычныя публікацыі ў савецкай прэсе і часам былі вымушаныя ўдзельнічаць у пераследзе сваіх замежных землякоў. Акрамя таго, у 1956 годзе ў Беластоку была заснаваная газета «Ніва», і беларуская супольнасць у Польшчы стала своеасаблівым перавалачным пунктам, праз які можна было атрымліваць публікацыі з абодвух бакоў мяжы. Такі абмен ідэямі быў акрэслены тут толькі павярхоўна, але, безумоўна, заслугоўвае асобнага даследавання.

Яшчэ адзін аспект, які мне не ўдалося разгледзець падрабязна, — гендарнае пытанне. Напрыклад, было б цікава запытацца, ці паўтараліся ў самвыдатах і нонканфармісцкіх публікацыях гендарныя ўяўленні, характэрныя для савецкай сістэмы. Маё даследаванне, падсумаванае ў табліцы 5, дае важкія падставы лічыць, што культурнае іншадумства ў савецкай Беларусі мела пераважна «нежаночы твар»[10]. Жанчыны былі мала прадстаўленыя ў асяроддзі беларускай творчай інтэлігенцыі позняга савецкага перыяду. Такім чынам, іх канкрэтная роля і ўплыў на беларускую культуру чакаюць больш падрабязнага даследавання.

## 6.2. ПЕРСПЕКТЫВА: ПАЗАЦЭНЗУРНЫ ДРУК І ІНТЭЛІГЕНЦЫЯ ПАСЛЯ 1988 ГОДА

Самвыдат канца 1980-х і пачатку 1990-х і нешматлікія смелыя публікацыі ў афіцыйных СМІ змяніліся рознымі незалежнымі газетамі ды інтэлектуальнымі часопісамі. Значна змяніўся змест афіцыйных выданняў. 26 студзеня 1990 года быў прыняты Закон «Аб мовах у БССР»[11]. Закон вызначаў беларускую мову як

[10] Тут я спасылаюся на назву кнігі Святланы Алексіевіч «У войны не женское лицо» (Мінск: Мастацкая літаратура, 1985). С. Алексіевіч пазычыла яе ў Алеся Адамовіча, які выкарыстаў гэтыя словы ў якасці эпіграфа да свайго рамана «Сыновья уходят в бой», што ўпершыню выйшаў у 1963 годзе. Я дзякую прафесару М. Ніндорфу за ідэю ўжыць дадзены выраз разам з адсылкай у дачыненні да інтэлігенцыі ў савецкай Беларусі.

[11] Асабліва спрыяў гэтаму тагачасны кіраўнік Таварыства беларускай мо-

адзіную дзяржаўную мову рэспублікі, азначыўшы сабою круты паварот у дзяржаўнай культурнай палітыцы. Пасля першых свабодных парламенцкіх выбараў у сакавіку і траўні 1990 года ў Вярхоўным Савеце БССР дванаццатага склікання, які праз год будзе перайменаваны ў Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, сфармавалася ўплывовая, хай і невялікая (каля 50 з 347 абраных дэпутатаў) парламенцкая апазіцыя. Большасць апазіцыйнага дэмакратычнага клуба складалі вядомыя інтэлектуалы. Апазіцыя выступала за суверэнітэт Рэспублікі Беларусь, які абапіраўся б на дэмакратычныя прынцыпы і грамадзянскія свабоды, уключаючы свабоду прэсы і слова. Пасля правальнага путчу ў Маскве, на нечарговай пятай сесіі 25 жніўня 1991 года Вярхоўны Савет БССР канчаткова зацвердзіў суверэнітэт Рэспублікі Беларусь. Аднак Савет міністраў, ачольваны былым другім сакратаром Мінскага гаркама КПБ і старшынёй Дзяржплана БССР Вячаславам Кебічам (1936–2020), заставаўся даволі кансерватыўным. Нават у самыя «дэмакратычныя» 1991–1994 гады ён часта ўмешваўся ў змест дзяржаўных перыядычных выданняў. Спробы ўсталяваць кантроль над прэсай аднавіліся напярэдадні першых прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі, у 1993 і пачатку 1994 года.

Прэзідэнцкія выбары 1994 года прывялі да паступовага ўсталявання аўтарытарнага рэжыму. Пасля рэферэндуму 1995 года, парламенцкага крызісу 1996 года і масавых пратэстаў вясною таго ж года адносіны паміж інтэлігенцыяй, з аднаго боку, і ўладамі і народам, з іншага, значна пагоршыліся.

Развеялася неабходнасць інтэлектуальнай падтрымкі, і была агучаная горкая праўда: «Народ нас кінуў, і мы сапраўды абсалютна яму не патрэбны»[12]. Яшчэ адным песімістычным вынікам стала аднаўленне дзяржаўных цэнзуры і кантролю ў афіцыйных СМІ. Апошняе адбывалася даволі паступова, але ўсё ж нечакана для інтэлектуалаў. У красавіку 2002 года дзяржава ўключыла «ЛіМ», трыбуну інтэлігенцыі, а таксама іншыя вядучыя інтэлектуальныя перыядычныя выданні ў склад выдавецкага холдынга «Літаратура і мастацтва»[13]. Рэдакцыі газеты «ЛіМ» ды часопісаў «Крыніца», «Полымя», «Нёман» і «Маладосць» былі аб'яднаныя і падпарадкаваныя ўладам.

Пасля кароткага перыяду маўчання і разгубленасці інтэлектуалы апынуліся перад выбарам: выйсці на поле адкрытай палітычнай барацьбы, схавацца ў «вежы слановай косці» або падпарадкавацца наяўнай уладзе. Пасля напру-

---

вы Ніл Гілевіч. Гл. Закон Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі «Аб мовах у Беларускай ССР». Прыняты на чатырнаццатай сесіі Вярхоўнага Савета БССР 11-га склікання, 26 студзеня 1990 года (Мінск: Беларусь, 1990).

[12] Выказванне прыпісваецца Валянціну Акудовічу. Гл.: Чернявская Ю. Нужна ли Беларуси интеллигенция? Рассуждают Светлана Алексиевич и Валентин Акудович // TUT.by, 4 кастрычніка 2010 года. URL: http://news.tut.by/society/198688.html (дата звароту: 17.04.2015).

[13] У лістападзе 2012 года холдынг быў рэарганізаваны ў выдавецтва «Звязда».

жанага палітычнага супрацьстаяння З. Пазьняк эміграваў, А. Бяляцкі заснаваў праваабарончую арганізацыю «Вясна», а іншыя, падобна да былога ўдзельніка «Тутэйшых» Алеся Бадака, пачалі супрацоўнічаць з праўладнымі выдавецтвамі і перыядычнымі выданнямі.

Адначасна з'явіліся розныя інтэлектуальныя ініцыятывы, створаныя інтэлектуаламі і дзеля інтэлектуалаў. Сярод іх былі «Наша Ніва» (1991), «Фрагмэнты» (1996) і «Архэ» (1998).

Месячнік «Наша Ніва» пад рэдактарствам С. Дубаўца ў 1991–2000 гадах стаў вядучай інтэлектуальнай газетай. Як узгадвае адзін з сучаснікаў:

> Гэта быў 1997-ы, газета была разумная, чыталася з цяжкасцю, але адарвацца было немагчыма[14].

Пазіцыя «Нашай Нівы» і яе рэдактараў адлюстроўвае своеасаблівую складанасць інтэлектуальных заняткаў на стыку эпох. З аднаго боку, гэты значны інтэлектуальны праект заставаўся ў дыялогу з іншымі культурамі і падтрымліваў ідэю сусветнай інтэлектуальнай узаемасувязі. З іншага ж, ім наўрад ці ўдалося пазбегнуць падводных камянёў нацыяналізму.

Хаця яна і застаецца аўтарытарнай, дзяржава ў сённяшняй Беларусі ўжо не ў стане падтрымліваць устойлівасць межаў паміж дазволеным і забароненым і падаўляць любыя праявы іншадумства. З канцом савецкай эпохі і ўкараненнем новых сродкаў масавай інфармацыі ды інфармацыйных тэхналогій усё больш і больш інтэлектуалаў знаходзяць свой голас і пляцоўкі для выказванняў. Ізаляцыя, якая пераследавала савецкую беларускую інтэлігенцыю, не пагражае сучаснаму постсавецкаму інтэлектуалу, бо сувязь са знешнім светам ужо не настолькі лёгка перарваць.

---

[14] Сямён Печанко // Тамковіч А. Інтэрв'ю. С. 112.

# ДАДАТКІ

## Дадатак 1. Табліцы

**Табліца 1. Публікацыі беларускіх аўтараў у часопісе «Новый мир» у 1965–1972 гадах**

| **Год, месяц** | **Аўтар** | **Публікацыя** | **Жанр** | **Тэма** |
|---|---|---|---|---|
| **1965** | | | | |
| Чэрвень | Петрусь Бровка | *«Стихи этого года»*.<br>Перакладзена з беларускай Якавам Хелемскім | Паэзія | Беларуская мова і культура |
| Верасень | Пимен Панченко | *«Из лирики»*.<br>Перакладзена з беларускай Якавам Хелемскім | Паэзія | Беларуская мова і культура |
| Лістапад | Алексей Пысин | «Солдатам». Стихи.<br>Перакладзена з беларускай Навумам Кіслікам | Паэзія | Другая сусветная вайна |
| **1966** | | | | |
| Студзень | Василь Быков | *«Мёртвым не больно»*.<br>Перакладзена з беларускай Міхаілам Гарбачовым | Проза | Другая сусветная вайна |
| Люты | Аркадий Кулешов[1] | *«Монолог»*. Стихи.<br>Пераклад з беларускай | Паэзія | Дэсталінізацыя |
| Люты | Василь Быков | *«Мёртвым не больно»* [Часть II].<br>Перакладзена з беларускай Міхаілам Гарбачовым | Проза | Другая сусветная вайна |
| Лістапад | Юлий Таубин | *«Стихи тридцатых годов»*.<br>Перакладзена Якавам Хелемскім і Навумам Кіслікам, з каментаром Аркадзя Куляшова | Паэзія | Дэсталінізацыя |
| **1967** | | | | |
| Чэрвень | Анатоль Вертинский, Аркадий Кулешов, Пимен Панченко | *«Из стихов белорусских поэтов»* | Паэзія | Лірыка |
| Кастрычнік | Аркадий Кулешов | *Из стиха «На передовой»*, стихи.<br>Перакладзена Якавам Хелемскім | Паэзія | Сацыялістычнае будаўніцтва |
| Лістапад | Пимен Панченко | *«Два стихотворения»*.<br>Перакладзена Навумам Кіслікам, Б. Слуцкім | Паэзія | Сацыялістычнае будаўніцтва |

[1] Аркадзь Куляшоў быў сябрам рэдкалегіі «Нового мира» да сваёй раптоўнай смерці ў 1978 годзе.

Працяг табліцы 1

| **Год, месяц** | **Аўтар** | **Публікацыя** | **Жанр** | **Тэма** |
|---|---|---|---|---|
| **1967** | | | | |
| Лістапад | Максим Танк | *«Листки календаря»*[2].<br>Перакладзена С. Грыгор'евай | Дзённік | Жыццё ў Заходняй Беларусі |
| Снежань | Вячеслав Адамчик | *«Кароль Небожа»*, рассказ.<br>Перакладзена Навумам Кіслікам | Проза | Жыццё ў Заходняй Беларусі |
| **1968** | | | | |
| Красавік | Янка Брыль | *«Из записных книжек»*.<br>Перакладзена Дзмітрыем Кавалёвым | Успаміны | Беларускія мова і культура |
| Травень | Василь Быков | *«Атака с ходу»*. Повесть.<br>Перакладзена аўтарам | Проза | Другая сусветная вайна |
| Травень | Наум Кислик | *«Два стихотворения»* | Паэзія | Лірыка |
| Чэрвень | Петрусь Бровка | *«Из лирики». Стихи.*<br>Перакладзена Якавам Хелемскім | Паэзія | Сацыялістычнае будаўніцтва |
| Снежань | Максим Танк | *«Из новых стихотворений»*.<br>Перакладзена Якавам Хелемскім | Паэзія | Лірыка |
| Снежань | Анатоль Вертинский | «Чудак человек». Стихотворение.<br>Перакладзена Якавам Хелемскім | Паэзія | Лірыка |
| **1969** | | | | |
| Сакавік | Василь Быков | *«Круглянский мост»*. Повесть.<br>Перакладзена аўтарам | Проза | Другая сусветная вайна |
| Кастрычнік | Максим Танк | *«Из новых стихотворений»*.<br>Перакладзена з беларускай Якавам Хелемскім | Паэзія | Лірыка |
| Кастрычнік | Григорий Берёзкин | Рецензия на «Годы тревог и мужества. Максим Танк. «Листки календаря» (дневниковые записи). «Советский писатель», Москва, 1969.<br>Перакладзена С. Грыгор'евай і Якавам Хелемскім | Рэцэнзія | Жыццё ў Заходняй Беларусі |
| **1970**[3] | | | | |
| Люты | Максим Танк | *«Две весны»*. Стихотворения.<br>Перакладзена Якавам Хелемскім | Паэзія | Сацыялістычнае будаўніцтва |

[2] М. Танк пісаў свой дзённік у 1935–1939 гадах, будучы сябрам КПЗБ.

[3] У лютым 1970 года на пасаду галоўнага рэдактара часопіса быў прызначаны В. А. Касалапаў.

Заканчэнне табліцы 1

| **Год, месяц** | **Аўтар** | **Публікацыя** | **Жанр** | **Тэма** |
|---|---|---|---|---|
| Травень | Геннадий Буравкин | *«Хатынский снег»*.<br>Перакладзена Грыгорыем Курэневым | Паэзія | Другая сусветная вайна |
| Травень | Василь Быков | *«Сотников»*. Повесть | Проза | Другая сусветная вайна |
| Ліпень | Аркадий Кулешов | *«Далеко до океана»*.<br>Перакладзена з беларускай Навумам Кіслікам | Паэзія | Сацыялістычнае будаўніцтва |
| Верасень | Максим Танк | *«Новые стихи»*.<br>Перакладзена з беларускай Якавам Хелемскім | Паэзія | Сацыялістычнае будаўніцтва |
| Лістапад | Пимен Панченко | *«Мои наставники»*, стихи.<br>Перакладзена з беларускай Якавам Хелемскім | Паэзія | Сацыялістычнае будаўніцтва |
| **1971** | | | | |
| Травень | Петрусь Бровка | *«Последний лист»*, стихи.<br>Перакладзена з беларускай Якавам Хелемскім | Паэзія | Лірыка |
| Ліпень | Иван Пташников | *«Тартак»*, повесть.<br>Перакладзена з беларускай М. Гарбачовым | Проза | Другая сусветная вайна |
| Кастрычнік | В. Пуцко | Георгий Штыхов, Захаренко П.[?] «*Древние сокровища Белоруссии*» | Рэцэнзія | Беларускія мова і культура |
| **1972** | | | | |
| Студзень | Василь Быков | *«Обелиск»*, повесть.<br>Перакладзена з беларускай Галінай Курэневай | Проза | Другая сусветная вайна |
| Травень | Наум Кислик | *«Пристань»*, стихи [напісана па-руску] | Паэзія | Сацыялістычнае будаўніцтва |
| Ліпень | Янка Купала | *«Стихотворения»*.<br>Перакладзена з беларускай Навумам Кіслікам[4] | Паэзія | Беларускія мова і культура |
| Жнівень | Петрусь Бровка | *«Как молнии наши дни», стихи.*<br>Перакладзена з беларускай Валянцінам Карчагіным | Паэзія | Лірыка |
| Верасень | Виктор Козько | *«Високосный год»* [напісана па-руску] | Проза | Другая сусветная вайна |
| Верасень | Максим Танк | *«Партизанская школа»*, стихотворение.<br>Перакладзена Якавам Хелемскім | Паэзія | Другая сусветная вайна |
| Кастрычнік | Виктор Козько | *«Високосный год»* [напісана па-руску] | Проза | Другая сусветная вайна |

[4] Апублікавана з нагоды Купалавага 90-годдзя. Надрукаваныя паэмы былі ўпершыню перакладзеныя на рускую мову.

**Табліца 2: Самвыдацкая перыёдыка, выдаваная ў БССР у 1968–1988 гадах[5]**

| Год | Назва | Аўтар/ы[6] | Месца | Тэма/ы | Мова/ы | Тып, колькасць асобнікаў | Месца захоўвання |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1963–1964 | *«Падснежнік»*[7] | Мікола Ермаловіч | Маладзечна | | Беларуская | Рукапісны, 4 выпускі | Адсутнічае ў даступных крыніцах |
| 1971–1974 | *«Блакітны ліхтар»* | Вінцэсь Мудроў, Валеры Шлыкаў, Анатоль Рыбікаў, Уладзімір Арлоў, Генадзь Кулажанка | Наваполацк | Беларуская літаратура | Беларуская | Рукапісны, 15 выпускаў, кожны ў адным асобніку | Канфіскаваны КДБ у 1974 годзе, вядомы па ўспамінах выдаўцоў |
| 1974–1976 | *«Мілавіца»* | Уладзімір Арлоў, Генадзь Кулажанка, Эдвард Зайкоўскі, Сяргей Кавалёў | Мінск | Літаратура, грамадства, экалогія | Беларуская | Сем выпускаў[8], друкаваны на машынцы, з малюнкамі | Адзін выпуск захаваўся ў асабістым архіве Уладзіміра Арлова |
| 1975–1976 | *«Гутаркі»* | Сымон Беларус [Мікола Ермаловіч] (аўтар), Яўген Кулік (распаўсюднік) | Маладзечна, Мінск | Літаратура, беларускія мова і культура, нацыянальная ідэнтычнасць, інтэлігенцыя, грамадства і палітыка, грамадскія праблемы | Беларуская | 53 выпускі, кожны па 1–5 старонак, напісаны ад рукі і памножаны на друкавальнай машынцы | Найпаўнейшы збор — у БДАМЛМ. Ф. 444. В. 1. № 108. Мікола Ермаловіч |
| 1979–1980 | *«Люстра дзён»* | «Беларуская талерацыйная грамада» [Валянцін Вячорка, Сяргей Сокалаў, Сяргей Дубавец] | Іўе (Мінск) | Грамадства і палітыка, беларускія мова і культура | Беларуская | Чатыры выпускі (1–2 і 3–4), друкаваныя на машынцы | Асабісты архіў Алеся Бяляцкага. Копія: МГА. Захавалася два выпускі |

[5] За выключэннем пераважна рэлігійнай літаратуры, а таксама самвыдатаў, прысвячаных тэме эміграцыі габрэяў з СССР.

[6] У большасці выпадкаў аўтарамі і выдаўцамі былі адны і тыя ж асобы.

[7] Дзярновіч А. Дэмакратычная апазіцыя ў Беларусі. URL: http://www.slounik.org/153828.html (дата звароту: 13.04.2017).

[8] Дзярновіч А. Дэмакратычная апазіцыя ў Беларусі; «Мілавіца» (апісанне метададзеных зробленае МНА). URL: www.vytoki.net; Андросік Л., Лаўрык Ю. Пазацэнзурны перыя*ды*чны друк.

Працяг табліцы 2

| **Год** | **Назва** | **Аўтар/ы** | **Месца** | **Тэма/ы** | **Мова/ы** | **Тып, колькасць асобнікаў** | **Месца захоўвання** |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1981 | *«Арцель* № 61*»* | А. Кавалёў | Гомель | Студэнцкае жыццё, грамадства (алкагольная залежнасць сярод студэнтаў, нізкія стандарты жыцця ў СССР) | Беларуская | Адзін выпуск, першапачаткова ў двух асобніках | МНА. F. 1/21. A 88 |
| 1982–1983 | *«Містыка»*[9] | Студэнты Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы Віктар Варанец, Юры Камягін | Гродна | Рознае | Беларуская | Друкаваны на машынцы. Чатыры выпускі з тэкстамі на рускай, беларускай і польскай мовах | |
| 1983 (1986)[10]–2014 | *«Идиот»* | Вячеслав Новиков | Віцебск | Літаратура, гумар, грамадства і палітыка (пасля 1986 года) | Руская | Першыя два выпускі былі надрукаваныя на машынцы.<br>Наклад: 30–50 асобнікаў | http://idiot.vitebsk.net |
| 1984 | *«Набойні*[11]*. Альманах вайсковае творчасці»*[12] | Сяргей Астраўцоў, Сяргей Дубавец | Слонім | Крытыка савецкага войска, літаратура | Беларуская | | |

[9] Там жа.

[10] З 1986 года выдаваўся і распаўсюджваўся ў Віцебску (раней — у Маскве).

[11] Дзярновіч А. Дэмакратычная апазіцыя ў Беларусі; электронныя лісты Сяргея Астраўцова аўтарцы 21 снежня 2018 года; 16 студзеня 2019 года (2), 17 студзеня 2019 года; «Непадцэнзурная Гародня. 1983–2018: Альманах “Набойні”» // Гродзенская медыяпрастора. URL: https://www.youtube.com/watch?v=MYPoS-JMGd4&feature=youtu.be (дата звароту: 19.12.2018).

[12] Назва ўяўляе сабою гульню слоў, могучы быць прачытанаю як «на бойні».

Працяг табліцы 2

| **Год** | **Назва** | **Аўтар/ы** | **Месца** | **Тэма/ы** | **Мова/ы** | **Тып, колькасць асобнікаў** | **Месца захоўвання** |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1986 | *«Бурачок»* | Алесь Бяляцкі, Сяргей Дубавец, Віктар Івашкевіч, Яўген Івашкевіч | Мінск | Палітычны актывізм, беларуская мова і культура, габрэйскае пытанне | Беларуская | Два выпускі, надрукаваныя на машынцы. У Мінску выпадковым чынам распаўсюджвалася многа асобнікаў | www.vytoki.net |
| 1987–1989 | *«Ратуша»*[13] | Клуб «Талака», Алесь Суша | | | | Перыядычная насценная газета [рукапісная?] | |
| 1988–1990 | *«Белорусская трибуна»* | Незалежны інфармацыйны цэнтр БНФ «Адраджэнне», Николай Федорович | Мінск | Палітыка, экалогія | | 1988, 4 снежня — № 1, 1988, 11 снежня — № 2, 1988, 18 снежня — № 3, 1988, 25 снежня — № 4. Выдаваўся па-руску, у 1989 — штотыднёва. Друкаваны на машынцы, з 1989 — друкаваны | FSO 01-053, Z.4 BE, FS 84 |
| 1988–1989[14] | «Беларуская трыбуна»[15] | Зміцер Емяльянаў, Наталля Аладзьева, Сяржук Няхамес, Людміла Емяльянава | Мінск | Палітыка, культура і гісторыя | | Друкаваны. Перыядычнасць: раз на дзесяць дзён. Наклад: 10 000 асобнікаў[16] | FSO 01-053, Z.4 BE, Gs. 160 |

---

[13] Дзярновіч А. Дэмакратычная апазіцыя ў Беларусі.

[14] Першы выпуск выйшаў 4 снежня 1988 года.

[15] «Беларуская трыбуна» была бюлетэнем Незалежнага інфармацыйнага цэнтра Беларускага Народнага Фронту за перабудову «Адраджэнне». першы выпуск з’явіўся на беларускай і рускай мовах.

[16] Паводле справаздачы RFE/RL «Независимая пресса Белоруссии» // OSA 300-85-12: 250.

Працяг табліцы 2

| Год | Назва | Аўтар/ы | Месца | Тэма/ы | Мова/ы | Тып, колькасць асобнікаў | Месца захоўвання |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1988 | *«Гражданин»* | Политклуб «Современник» | Мінск | Палітычная асвета | | Друкаваны на машынцы | Асабісты архіў Алеся Бяляцкага, www.vytoki.net |
| 1988–1989 | *«Кантроль. Бюлетэнь таварыства маладых літаратараў “Тутэйшыя”»* | Таварыства маладых літаратараў «Тутэйшыя» | Мінск | Культура, літаратура, палітыка | | Друкаваны. 1988 — № 1, 1989, студзень — № 2. Рускамоўная версія, перакладаная А. Губскай, распаўсюджвалася ў выглядзе самвыдацкіх асобнікаў, надрукаваных на машынцы | FSO, 01-053, Z.4 BE, Gs. 88<br>www.vytoki.net |
| 1988, лістапад | *«Навіны Беларускага Народнага Фронту за перабудову “Адраджэнне”»*[17] | Арганізацыйны камітэт БНФ, Алесь Суша, Алена Радкевіч | Мінск | Палітыка і дэмакратыя | | 1988 — № 1 (на рускай і беларускай), 1988 — № 2 (на беларускай). Друкаваны ад 30 000 да 40 000 асобнікаў[18] | www.vytoki.net |
| 1988 | *«Парсуна»*[19] | Міхась Скобла, Славамір Адамовіч, А. Калюта, А. Гуцаў, А. Дзялендзік | | Літаратура | | Адзін выпуск, друкаваны на машынцы | |

[17] Выходзіў на беларускай і рускай мовах.

[18] Паводле справаздачы RFE/RL «Независимая пресса Белоруссии» // OSA 300-85-12: 250.

[19] Дзярновіч А. Дэмакратычная апазіцыя ў Беларусі.

Працяг табліцы 2

| Год | Назва | Аўтар/ы | Месца | Тэма/ы | Мова/ы | Тып, колькасць асобнікаў | Месца захоўвання |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1988–2005 | *«Студэнцкая думка»* | [Спачатку, у 1988 годзе] — студэнцкае аб'яднанне Беларускага тэхналагічнага ўніверсітэта «Світанак». Ігар Міхно, Зміцер Вайцяховіч, Алесь Гуркоў, Ганна Барвенава, Алена Губская (пераклад на рускую) ды іншыя | Мінск | Студэнцкае жыццё, палітыка і культура, беларуская мова | | Друкаваны на машынцы (пазней — друкаваны). Першы выпуск з'явіўся ў лістападзе-снежні 1988 года. Распаўсюджваўся самвыдатам і ў рускім перакладзе | FSO, f. 01-053, Z.4, BE, Gs 87, Gs. 161 |
| 1988–1989 | *«Спрут* (*Советская мафия в действительности*)» | Лук'яновіч | Брэст | Працідзеянне карупцыі | | 1988 — № 1, 1989 — № 1–2. Друкаваны на машынцы | МНА |
| 1988 | *«Вера. Беларускі каталіцкі часопіс»* | Зянон Пазьняк, Наталля Клініцкая, Алесь Бяляцкі | Смаленск[20], Менск, Варшава | Каталіцызм | | 1988 — 1. 200 асобнікаў. 100 асобнікаў распаўсюджваліся ў Беластоку, 100 — у Беларусі | МНА, F.1/11, справа B 31<br><br>www.vytoki.net |

[20] Паводле www.vytoki.net, Смаленск не быў сапраўдным месцам выдання, а ўжываўся для канспірацыі.

Заканчэнне табліцы 2

| **Год** | **Назва** | **Аўтар/ы** | **Месца** | **Тэма/ы** | **Мова/ы** | **Тып, колькасць асобнікаў** | **Месца захоўвання** |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1989[21] | *«Супольнасць»* | А[леся] Сёмуха, Г[энік] Лойка, К[араліна] Мацкевіч, В. Андрэеў | Мінск, вул. Ангарская, 10/2, кв.79 | Моладзевы рух, культура, грамадства, палітыка, экалогія | | 1989, 14–15 студзеня, — № 1, 1989, 25 сакавіка — № 2, 1989, красавік–травень — № 3, 1989, чэрвень–ліпень — № 4, 1989, кастрычнік–лістапад — № 5. Друкаваны на машынцы | FSO, f. 01 – 053, Z. 4, BE, Gs. 156 |
| 1989 | *«Кантакт»* | Выдаўцы «Кантакта» | | Палітыка і грамадства, культура | | 1989 — № 1, падрыхтаваны ў снежні 1988 года | FSO, f. 01-053, Z.4, BE, Gs 158 |
| 1989 | *«Весткі Адраджэння»*. Штомесячны паказальнік літаратуры | Бібліяграфічная і інфармацыйная служба Канфедэрацыі беларускіх суполак.<br><br>А[леся] Сёмуха, Караліна Мацкевіч, Н. Матвеенка, Я. Мятлеўскі | | Літаратура | | 1989, студзень — № 1, 1989 — № 2 | |



[21] У гэтую табліцу ўключаныя і перыядычныя выданні, заснаваныя ў першыя два месяцы 1989 года, бо яны рыхтаваліся ў апошнія месяцы 1988 года і адлюстроўваюць палітычныя спрэчкі ды нефармальнае выдавецтва, характэрныя для таго часу.

